# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

12

(733) СНЕЖАНЬ, 2014

Выдаецца з 1953 года



www.maladost.lim.by

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск

## У НУМАРЫ:

*«Прыйдзі, Новы Годзе, і не крыўдзі мяне нэндзай-бядою так, як папярэднія старыя... І прынясі мне добрыя памысныя варункі жыцця дзеля працы маёй на карысць людзям праз навуку, праз прыгожыя словы і прыгожыя творы мастацтва!»*

*Такія пажаданні самому сабе на новы 1933 год выказваў мастак Язэп Драздовіч. На працягу гэтага і чатырох наступных год ён занатоўваў у дзённіку свае думкі, разважанні і падзеі, што з ім адбываліся.*

*Дзённікавыя запісы Я. Драздовіча раней друкаваліся ў «Маладосці» (1991, № 5—11; 1992, № 1—2), у арыгінале ж яны захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі (Ф. 2, адз. зах. 33).*

# Калякаляднае

**Ці каштавалі вы хоць раз у жыцці на Каляды куццю?
Я з сорамам адкажу: не.
А гэта ж абавязковая рытуальная страва —
каша з тоўчаных ячменных крупаў,
што гатавалася да Раства Хрыстовага,
Новага года і Вадохрышча.**

***А хто падкладае пад абрус сена — напамін пра тое, што Ісус адразу пасля нараджэння быў пакладзены на сена ў яслях? Хто пераапранаецца ў «казу», «мядзведзя» ці «кабылку», бярэ кій з зоркай і ходзіць з сябрамі па хатах калядаваць — спяваць песні, збіраць пачастункі на Шчадрэц? Мала хто прытрымліваецца традыцый на зімовыя святы, хоць яны доўгія гады перадаваліся беларусамі з пакалення ў пакаленне. Так, ёсць людзі, якія вараць куццю і калядуюць, аднак пераважная большасць адзначае Раства і Новы год іначай.***

## Анжэла ГАЙДУКЕВІЧ,
*выхавацель у дзіцячым садку:*

— Наша сям'я любіць Раство Хрыстова, бо гэта свята добрае, светлае. Мы гатуем індзейку, курыныя адбіўныя, запечаную бульбу і розныя салаты. Дорым родным і блізкім падарункі, запрашаем сяброў у госці або самі да іх ідзём. Тэлефануем знаёмым і віншуем, зычым усяго самага-самага. Калі добрае надвор'е, ходзім катацца з горкі, ляпіць снежную бабу. Калі ёсць паблізу калядны канцэрт, то ідзём на канцэрт.

Прыклад Анжэлы Гайдукевіч не ўзорны, аднак цяпер большасць беларусаў адзначае Каляды прыблізна так, як яе сям'я. Заўважана, што хоць людзі і не прытрымліваюцца традыцыйных абрадаў, яны стараюцца ладзіць вясёлыя святы і быць у гэтыя дні дастаткова шчодрымі і добразычлівымі.

Ці ёсць штосьці станоўчае ў тым, што святкаванне Калядаў так змянілася апошнім часам? Ці ўсё ж адыход ад традыцый нясе негатыў? Меркаваннямі дзеляцца спецыялісты.

*Анастасія ГЛУШКО,*
*мастак, сябра Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, кіраўнік фальклорнага гурта «Горынь»:*

— Станоўчага я не бачу. Губляючы традыцыі, народ губляе сваю адметнасць. Нам цяжка прыйшлося за савецкім часам, калі амаль усе каштоўнасці змарнаваліся, шлях перадачы ведаў пра лад жыцця быў знішчаны, мудрасць дзядоў пачалі ўспрымаць як нешта неактуальна-састарэлае, затое напрыдумлялі новых, адарваных ад спрадвечных, традыцый, якія праіснавалі не даўжэй за чалавечае жыццё. Старажытны калядны звычай на вялікія святы — абыход двароў з пажаданнямі дабрабыту і плоднасці: «Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць, а дзе не бывае, там жыта ўлягае», яднае людзей. На мой погляд, гэта лепш, чым «схавацца ў норку» і ціхенька паесці са сваякамі.

*Юрый ШАРАПА,*
*рэжысёр народных свят:*

— У некаторых невялікіх населеных пунктах Беларусі яшчэ ладзяцца Каляды, як раней. Але гэтая плынь у заняпадзе. Сёння святочная культура Беларусі робіцца аднабаковай, святы губляюць сваю першапачатковую сакральнасць. Народ перастае разумець, навошта выконваць тыя ці іншыя абрады. Мала хто ведае, што адбываецца падчас свята і з якой мэтай. Атрымліваецца, што мы страчваем свае асаблівасці. Ідзе глабалізацыя, і ці не з’есць яна нас як адметную народнасць?

*Кацярына ВАРЫВОНЧЫК,*
*псіхолаг:*

— У наш час можна сустрэць маладых людзей, якія падрабязна ведаюць факты з гісторыі іншых дзяржаў, дасканала валодаюць замежнымі мовамі, а сваю гісторыю ведаюць вельмі слаба і абыякава ставяцца да беларускіх традыцый і свят. Гэта прыводзіць да страты паразумення паміж пакаленнямі і негатыўна адбіваецца на сацыяльных сувязях — павялічвае адасобленасць кожнага чалавека, яго замкнёнасць. З іншага боку, развіццё грамадства не спыняецца і вядзе да ўзнікнення новых традыцый. Яны будуць суадносіцца з духам часу і праз шматлікія стагоддзі захоўвацца традыцыямі для наступных пакаленняў, што і будзе з’яўляцца праяўленнем нацыянальнай унікальнасці. Што да традыцыі святкавання Калядаў, то яна была амаль згублена з 1930-х. Цяпер святкаванне Раства Хрыстовага пачынае адраджацца ў сучаснай інтэрпрэтацыі. Гэта дапамагае выклікаць у новага пакалення эмацыйны водгук і зацікаўленасць. Увогуле, ад традыцый адысці немагчыма. На тое яны і традыцыі, каб іх прытрымлівацца і перадаваць. Мы ж ведаем пра іх, нават калі і не выконваем, ці не так?

Відавочна, што народныя святы з абрадамі вельмі важныя для грамадства. Яны яднаюць нас, «апранаючы» ў адметны, унікальны строй, які робіць беларусаў непаўторнымі ў свеце. Што будзе з нашай гісторыяй далей, залежыць ад нас. На гэтыя Каляды я абавязкова згатую куццю і пайду шчадраваць з сябрамі!



***Запісала Ганна ШЫБУТ***

Святлана СІТНІК

# Пераднавагодняя пераналада



Кажуць, што людзі маюць два вялікія страхі: страх смерці і страх жыцця. Цалкам згодная, бо істотных змен у жыцці мы баімся не менш, чым глабальных катастроф. Хутчэй за ўсё, менавіта таму і адкладаем метадычна — да панядзелка, да Новага года. Наш страх невядомасці «рэкамендуе» нам гэтак рабіць, і мы ідзём за яго рэкамендацыямі, усё жыццё знаходзячыся ў звыклым рэжыме спадзявання, чакання новых падзей, якія, як Дзед Мароз у мяшку, прынясуць нам свае падарункі: прынца (каралеўну), шчасце, радасць, тонкі стан, шыкоўныя біцэпсы... Але дні мінаюць. Мінаюць аднолькавымі, аднастайнымі, шэрымі і сумнымі. Не, канешне, ты не здаешся ім у палон, і, каб адчуць смак жыцця, запраўляеш пельмені вострым маянэзам, густа прысыпаеш іх хімічнай прыправай. Каб запоўніць дні эмоцыямі, уключаеш серыял, каб забіць яго інфармацыяй — навіны. І як быццам бы ўсё нічога.

Але вось ты задумваешся: гэта што — усё? Гэта ўсё, дзеля чаго я ў гэтым свеце жыву? Гэта ўсё, што свет дае мне? Малавата будзе!

Дарэчы, для тых, хто любіць абвінавачваць свет ці асобныя яго элементы (мужчын, жанчын, бацькоў, дзяржаву) у тым, што ён з-за іх аказаўся абдзеленым, у мяне ёсць свежая гісторыя з жыцця.

Мая прыяцелька, прапрацоўваючы са мной свае няўдачы з мужчынамі, пахвалілася між справы «поспехам»: «Я стаяла ў аптэцы за лекамі. Перада мной стаяў та-а-акі мужчына… Аптэкарка ніяк не магла знайсці неабходны яму прэпарат, з-за гэтага я нервавалася, але ён некалькі разоў паварочваўся да мяне і так загадкава пазіраў...»

— І гэта ўсё? Гэта ўсё, што ты ўзяла сабе з той сітуацыі? — абурылася я.

Вось тады да прыяцелькі дайшло, што свет даваў ёй усе магчымасці для пачатку новых адносін, якіх яна так прагнула: і адпаведную сітуацыю, і час, і шыкоўнага мужчыну. І толькі яна не прыняла гэтых падарункаў свету. Сама абмежавалася маленькімі знакамі ўвагі з давескам — нерваваннем у чарзе.

Выснова простая: перш чым скардзіцца на жыццё некаму, паскардзіцца трэба жыццю — на сябе!

«І гэта ўсё?...» Задаць сабе такое пытанне — значыць перакуліць дагары нагамі і свет, і сваю пазіцыю ў дачыненні да адказнасці за падзеі свайго жыцця: цяпер яе, адказнасць, не свет нясе, а ты! Уласнай персонай. А ў каго адказнасць, той і гаспадар жыцця! Ужо не свет прымае рашэнні — што прапанаваць табе ў якасці ілюзій і рэальных падзей, а ты вырашаеш, колькі чаго табе браць, а ад чаго варта проста адмовіцца. Гэты новы ўзровень мыслення і новы этап у жыцці надыходзіць тады, калі мы да такога гатовы. Гэта ўзровень мыслення чараўніка, творцы рэальнасці.

# Тут падымаецца Феб, тут пачынаецца год



З надыходам яго зусім не верыцца, што сёння той самы дзень, з незлічонымі падрыхтоўкамі, стрэламі салюту і шампанскага, ёлачнымі іголкамі, водарам мандарынаў і чаканнем моманту, калі стрэлка дасягне запаветных 00.00. Новы год — не апошняе, а першае свята ў каляндарным цыкле. І адно з улюбёных калі не ўсіх, то большасці зямлян.

Тлумачэнне святкавання Новага года 1 студзеня прыводзіцца ў паэме рымскага паэта Публія Авідзія Назона «Фасты», дзе ён звяртаецца да Януса — двухаблічнага боства, які даў сваё імя месяцу студзеню. Паэт пытаецца, чаму год пачынаецца ў холад, а не вясной, на што бог адказвае: «Сонцаварот — гэта дзень і апошні для сонца, і першы: тут падымаецца Феб, тут пачынаецца год».

Гісторыя свята ў кожнай краіне свая. У Германіі людзі за хвіліну да поўначы ўстаюць на крэслы, ложкі, канапы, а ў апошнія секунды саскокваюць з іх, як бы ўступаючы са старага года ў новы. У Мадрыдзе ў апошнюю хвіліну старога года з’ядаюць 12 вінаградзін — яны сімвалізуюць жыццё кожнага месяца новага года. У Грэцыі выліваюць з хаты ўсю ваду, каб на наступны дзень запоўніць пасудзіны вадой Святога Васіля.

У нас існаваў цікавы рытуал, які, як лічылася, садзейнічаў дабрабыту і ўзаемаразуменню. За 15 хвілін да заканчэння старога года сям’я ўсаджвалася за святочны стол, каб падзякаваць мінуламу году і пакінуць у ім свае праблемы. Старэйшы член сям’і браў невялікую гліняную пасудзіну, напалову напоўненую вадой, і ставіў яе на сярэдзіну стала. Кожны прысутны працягваў левую руку і роўна хвіліну трымаў яе над гэтай пасудзінай, у думках аддаючы вадзе хваробы, страты, зайздрасць, неўраджай — усё тое, што яго не задавальняла. Калі ў сям’і расло немаўля, то дарослы саджаў яго да сябе на калені, браў маленькую ручку ў сваю руку і трымаў над вадой абедзве. Роўна праз хвіліну вада з рытуальнага посуду вылівалася ў акно. А як надыходзіла поўнач, посуд той зноў напаўняўся вадою (ужо да краёў) і зноў ставіўся на стол. Цяпер прысутныя трымалі над посудам свае правыя рукі і прагаворвалі пра сябе пажаданні дабра, здароўя, поспехаў, удачы, дабрабыту. Праз хвіліну рытуальную чашу пускалі «па сонцы» і кожны выпіваў сваю долю пажадання. Мо і вы так зробіце...

* * *

«Зюзя на дварэ — куцця на стале». Беларусы ўяўлялі сабе Зюзю нізкарослым, сівым, доўгабародым, босым, без шапкі, з жалезнай булавой. Верылі, што большую частку зімы Зюзя праводзіць у лесе, але час ад часу наведваецца ў вёскі, прыносячы туды моцны мароз. Разззлаваўшыся, Зюзя б’е булавой аб пень — тады пачынаюцца трэскучыя маразы. На Каляды яму пакідалі частку куцці, каб не быў такім лютым. А часцей гаспадар кідаў за акно першую лыжку кашы, прыгаворваючы: «Мароз, хадзі куццю есці».

* * *

Пачатак новага года — гэта пачатак новага жыцця, у якім будзе магчымасць пазбегнуць памылак і няўдач. Таму за навагоднім сталом у коле блізкіх людзей гучаць старажытныя, як і сама традыцыя сустракаць Новы год, пажаданні: узяць з сабой самае светлае, самае добрае.

З Новым годам!

*Караліна ГУБАРЭВІЧ*

*Віктар ЛОЎГАЧ*




Гісторыю гэту і сёння памятаюць у Лукашах, хаця мінула больш за пяцьдзясят з гакам гадоў. Здарылася яна адразу пасля вайны. Гэтулькі тады развялося ваўкоў, што ні з хаты выйсці, ні жывёлу з двара выгнаць.

Вось і вырашылі ў піліпаўку, калі гэтыя драпежнікі збіраюцца ў зграі, зрабіць аблаву. А на ўсю вёску толькі ў дзеда Піліпа і захавалася дубальтоўка. Таму яго, адзінага стралка, паставілі каля воўчага лаза, а астатнія вяскоўцы, прыхапіўшы вёдры, патэльні і сякеры, павінны былі ўчыніць грукат на ўвесь лес.

І лес сапраўды грукатаў. Праўда, стрэлаў не чулася. Раптам нехта з першых загоншчыкаў, хто дайшоў да Піліпа, кінуўся насустрач астатнім з крыкам:

— Людцы, заела, заела!

І па лесе панеслася:

— Воўчая зграя Піліпа заела, заела!

Суседзі дзеда кінуліся ў вёску да старой Аўдоцці:

— Ой, горачка, горачка! Ваўкі твайго Піліпа заелі!

Запраглі калгаснага каня ў сані і паімчаліся ў лес на воўчы лаз, каб прывезці хоць тое, што пакінулі ваўкі ад дзеда Піліпа.

Галосіць Аўдоцця. Павесіў нос старшыня калгаса: «Такога цесляра, такога пячніка не стала».

А вось і лаз, а вось ідзед Піліп. Цэлы, жывы. Толькі дубальтоўку аберуч трымае ды трасе яе:

— Я гэта кляц, кляц, а байкі заела. Толькі і бачыў васьмярых шэрых. Эх, падвяло мяне ружжо!..

І калі сёння ў Лукашах хтосьці пачынае маніць, яму абавязкова нагадваюць:

— Што, заела? Як зграя ваўкоў Піліпа на аблаве?..



# *Шаноўныя чытачы!*

Хто з вас не ведае часопіс сатыры і гумару «Вожык»? Які, бадай, знаёмы кожнаму беларусу. Каму ж не да спадобы смешны жарт, трапны афарызм, дасціпны анекдот!.. «Вожык» — старэйшае і адзінае ў рэспубліцы дзяржаўнае выданне ў галіне сатыры і гумару, якое чытаюць усе: як кажуць, і піянеры, і пенсіянеры. Далучайцеся і вы!

Рэдакцыя часопіса сардэчна віншуе вас з Калядамі і Новым годам, жадае, каб у наступным годзе было больш нагод для радаснага настрою, часцей гучаў у вашых дамах і кватэрах смех, каб цуды здараліся ў вашым жыцці не толькі на Новы год і лёс як мага часцей дарыў вам прыемныя і неспадзяваныя падарункі!

***Жадаем часцей усміхацца. А «Вожык» вам заўсёды ў гэтым дапаможа!***




***Галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія ЗАРЭЦКАЯ***

# Пішы жыццё, якім яно ёсць



***Івану Чыгрынаву сёлета было б 80. Прапануем некалькі згадак пра яго ад сябра Дзмітрыя Бугаёва, крытыка і педагога. Гэта і згадкі, і маленькія ўрокі для маладых асоб.***

**ЗГАДКА-ЎРОК № 1**

— Было многа спекуляцыі, звязанай з Чыгрынавым. Ён напісаў апавяданне… «Маці» — здаецца, так яно называлася. А спекуляцыі былі якія? Там, маўляў, камуністаў вешаюць, а Іван Чыгрынаў піша пра маці здрадніка. Дык ён што на гэта адказаў? Што не пра здрадніка ён пісаў, а пра тое, што якім бы сын ні быў, ён для маці ўсё роўна — сын. Яна ж не праграмавала яго на тое, каб стаў здраднікам. Не спекулюй і пішы пра глыбіннае, а не паверхневае.

**ЗГАДКІ-ЎРОКІ №№ 2 і 3**

— Пішы жыццё, якім яно ёсць, не прыхарошвай яго, пад кан'юнктуру часу не падганяй. Праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці — вось што можна ўзяць у творчасці Чыгрынава сучаснай моладзі, якая ідзе ў літаратуру, спрабуе ў ёй свае сілы. Яшчэ — дабрыню і спагадлівасць. Быў час, калі мы з ім ляжалі ў лечкамісіі, але ў розных палатах. Я тады быў пасля інфаркту. Чыгрынаў заходзіў да мяне па некалькі разоў на дзень. Выгляд у мяне быў паніклы. Дык ён кажа: «А што ты хныкаеш? Хныкаць нельга, трэба бадзёра трымацца. Ты думаеш, я здаравейшы за цябе? А я ж не хныкаю». Я тады не паверыў, што ён больш хворы, чым я. Падумаў, што гэта ён пад мяне падладжваецца. Але час паказаў, што Чыгрынаў сапраўды быў здароўем вельмі слабы. У росквіце таленту, толькі выйшаўшы на свае перспектыўныя раманы, пісаўшы з размахам і хутка, здароўя амаль што не меў. Але трымаўся бадзёра, мужна, не стогнучы, не енчучы, не плачучы. Уменне не вешаць нос у самай складанай сітуацыі, як мне падаецца, ад Чыгрынава можна браць на ўзбраенне не толькі сучаснай моладзі, але і кожнаму чалавеку ўвогуле. Гэта адзін з галоўных урокаў яго жыцця.

**ЗГАДКА-ЎРОК № 4**

— Як у яго пісаліся кнігі, якая атмасфера была патрэбная, каб ствараць, пра гэта ў яго ніхто ніколі не дапытваўся. Калі прыйдзе настрой, тады і піша чалавек. А як настрою няма, дык няма. Гэта як птушку шчасця злавіць. Ляціць над табою — хапай, а можа ж і міма праляцець.

**ЗГАДКА-ЎРОК № 5**

— Быў такі Зазыба — дык гэта, напэўна, Майсей Сяднёў быў. Не заўсёды пра тое гаварылася, але на самай справе было так. Ён быў тады ў загоне, таму пра гэта не ўзгадвалі. Адным словам, Чыгрынаў блізкі быў да рэчаіснасці. І вось Зазыбу свайго ён з Сяднёва спісаў. Яны землякі, сябравалі некалі. Калі Сяднёва абвінавацілі ў здрадніцтве, пра яго гаварыць немагчыма было. Вось так. Астатніх прататыпаў шукайце самі. Чытайце яго і звярайце з тым, што было ў рэчаіснасці, і так устанаўлівайце. А яшчэ чытайце мае артыкулы.

*Запісала*
***Наста САЛДАЦЕНКА***

# Чалавек з ініцыяламі Багдановіча



***Перад пачаткам гутаркі ён папярэдзіў: «У мяне два рэжымы: маўклівы і гаварлівы. Не ведаю, у якім вы засталі мяне сёння». Нам падаецца, што незалежна ад рэжыму, субяседнік — чалавек надзвычай цікавы. Міхась БАРАНОЎСКІ — асоба, глыбіня якой чытаецца ў шматкроп'ях паміж сказамі...***

**— Фішка вашага гурта ў тым, што вы ствараеце праграмы па творах класікаў літаратуры. Ці ёсць аналагі такога падыходу ў беларускай музыцы?**

— Безумоўна. Першай у галаву прыходзіць праграма па Караткевічу «Скрыпка дрыгвы» — калектыўная праца Вольскага, Кулінковіча, Вайцюшкевіча. Вольскі рабіў альбом «Белая яблыня грому» на творы шэрага аўтараў. Некалькі праектаў ёсць у Вайцюшкевіча: на словы польскага паэта Рафала Ваячка, а таксама Генадзя Бураўкіна. У бардаўскім асяродку на гэта таксама звярталі ўвагу: Раман Яраш і Андрэй Касцень зрабілі праграму «Купала / Караткевіч». Калі пашукаць, знойдуцца іншыя прыклады.

**— Выходзіць, з'ява не новая. Ці сведчыць гэта пра тое, што беларуская літаратура добра кладзецца на музыку?**

— Прынамсі, гэта этап, які кожная літаратура павінна прайсці. Пакуль сказаць, што беларускія паэты цалкам асэнсаваныя, нельга, таму ёсць што рабіць. Калі нават «Ляпіс Трубяцкі» з купалаўскага «Не быць скотам» здолеў зрабіць хіт, значыць, дзялянка сапраўды нераспрацаваная. На музыку ж можна пакласці хоць верлібр, была б цікавасць і імкненне раскрыць тэму. Мне ў гэтай працы падабаецца адсутнасць планамернасці і кан'юнктуры. Праграма «Леаніды» прыпала на юбілей Караткевіча, але за год да таго, як пачалі ствараўца песні, я нават не ведаў, што ён вершы пісаў. Я адкрыў Караткевіча не толькі як празаіка, але як «свайго» паэта. Гэта было настолькі моцнае ўздзеянне, таму з'явілася музычная праграма. Што датычыцца праграмы на словы Багдановіча, гэта для мяне было дзіва. Час ад часу я падступаўся, каб нешта напісаць, і тут раптам яно з'явілася само, амаль без аніякіх высілкаў і намаганняў. Як падсумаванне маіх ведаў пра гэтага чалавека і яго жыццёва-творчы шлях, барацьбу з цемрай і смерцю. Маё ж першае азарэнне — Караткевічам — з'ява не ўнікальная. Шмат хто прыходзіў да беларускасці праз яго, рамантычнага і моцнага, здольнага ўзрушыць і паказаць, што свет напоўнены не толькі банальнымі сюжэтамі, у ім ёсць месца маладому чалавеку. Пры вывучэнні беларускай літаратуры ў школе мне гэтага не хапала. Добра, што ў рукі трапіла кніга «Быў. Ёсць. Буду», якая падштурхнула да больш глыбокага знаёмства са спадчынай творцы…

**— А якія творы на якія пытанні далі адказ?**

— Дзве паэмы — «Плошча Маякоўскага» і «Грубае і ласкавае», змешчаныя ў рамане «Нельга забыць». Я да той пары не ведаў, што беларуская паэзія можа быць настолькі эмацыйнай. Мне падабалася чытаць Танка, Багдановіча, Купалу, але там не было надрыву, гіпербалізаванай эмацыйнасці, якой часам нестае чалавеку, асабліва ў юнацкім узросце. У Караткевіча гэта знайшлося, і нават з лішкам, хапіла, каб рушыць далей і паспрабаваць аформіць ягоныя творы ўласным мастацкім рашэннем.

**— Вы працуеце ў філіяле музея Багдановіча «Беларуская хатка». Распавядзіце пра вашую працу. Як вы тут апынуліся?**

— Доўгі час пасля войска я не мог знайсці працу. Праз месяцы тры ці чатыры пабачыў вакансію і ўладкаваўся ў музей. Праз пэўны час працэс захапіў. Праца ў экскурсійна-масавым аддзеле — гэта чытанне лекцый, правядзенне экскурсій па экспазіцыі, арганізацыя мерапрыемстваў, якім я прысвяціў даволі шмат часу. Цяпер я загадчык філіяла, які стаў на капітальны рамонт, таму сённяшнія абавязкі даволі цьмяныя: сачыць за ўнутраным парадкам, чытаць выязныя лекцыі…

**— А як у вас складваюцца стасункі з Багдановічам?**

— Калі Караткевіч адкрыўся мне ў адзін момант, быццам хваля раптоўна накрыла, то Багдановіча я спасцігаў паступова, па драбніцах: з кожным вершам, з кожным фактам біяграфіі… З аднаго боку, гэта звязана з музейнай дзейнасцю, а з другога — зацікаўленасцю асабістай, бо не хацелася руціны ў працы, хацелася знайсці нешта блізкае для сябе. А Багдановіч для гэтага ідэальная асоба: яго можна адкрываць бясконца, знаходзіць розныя фарбы… Пэўныя фарбы і думкі адлюстраваліся ў праграме «Mertvets».

**— Чым абумоўлены выбар вершаў для праграмы «Mertvets»? Бо вы выкарысталі, скажам так, непапулярную частку багдановічаўскай спадчыны.**

— Я не магу адказаць, як з'явілася праграма па Багдановічу, і не магу адказаць, чаму гэтыя вершы ўзятыя. Менавіта на іх адгукнулася нешта ўнутры. Гэта і ёсць драбніцы, якія адкрывалі Багдановіча наноў. Быў Багдановіч з падручніка, хрэстаматыі, быў Багдановіч, якога я мусіў раскрываць на лекцыях і падчас экскурсій, у школе вывучаецца «лірычны» ды «патрыятычны» Багдановіч… Мой Багдановіч адкрыўся праз вершы, якія адразу ў вочы не кідаюцца. Але гэта моцныя творы, бо прахадных у яго не было, як ні дзіўна для такога маладога чалавека. Праграму «Mertvets» мы збіраемся паказваць адзін-два разы на год. Увогуле, разынкай нашага гурта з'яўляецца «рэпертуарнасць»: у нас, як у тэатра, ёсць праграмы, да якіх мы перыядычна вяртаемся і паказваем іх у той канцэпцыі, у якой яны першапачаткова задумваліся.

**— Ці ёсць у вас задумы іншых праграм па літаратурных творах?**

— Гатовага варыянту, каб ужо заўтра ўзяцца за стварэнне мастацкай праграмы, няма. Ёсць асобы, якія могуць тэарэтычна на гэта натхніць. Загадваць наперад не хочацца — раптам не атрымаецца. У нас намецілася наступная заканамернасць: праграмы на вершы класікаў чаргуюцца з праграмамі на ўласныя творы.

**— Рэдка хто з беларусаў мае развітае з дзяцінства пачуццё самасвядомасці, нам наканавана шукаць яго цягам жыцця. Як вы адкрывалі ў сабе беларуса?**

— «Адкрыць у сабе беларуса» — даволі трапнае азначэнне. Ва ўсіх землякоў ёсць нацыянальны складнік, які праяўляецца ў мадэлях паводзін і структурах маўлення. Бо нават калі людзі размаўляюць па-руску, яны выкарыстоўваюць нашы спосабы пабудовы думкі. Неабходны штуршок, каб адкрыць сябе наноў як беларуса, адчуць сілу мовы. Неаднаразова заўважалася, што калі чалавек пачынае нешта ствараць на родным падмурку, то дасягае вялікіх поспехаў. Ідэальны прыклад — Багдановіч. Чалавек, які амаль усё жыццё пражыў у Расіі, па-беларуску пісаў геніяльныя вершы, а па-руску — проста добрыя. Родная мова настолькі памножыла паэтычную жарсць, што нават першыя

## Тэма беларускасці часта правакуе на пафас. Але ж быць беларусам — нармальны стан кожнага

беларускамоўныя творы Багдановіча маюць вялікую мастацкую вартасць.

**— У вас таксама ёсць рускамоўныя творы. Ствараць па-руску і па-беларуску — гэта розныя рэчы?**

— Большасць маіх рускамоўных вершаў і песень створаны вельмі даўно. Цяпер няма патрэбы ў рускамоўных сродках афармлення думак, бо, як выявілася, беларускае слова мне падыходзіць лепш: яно дакладней перадае пачуцці, што віруюць унутры. Мне заўсёды падабалася літаратура, але ў школе пашанцавала менавіта з настаўнікамі рускай мовы і літаратуры. Таму спачатку я адкрыў глыбу рускай класікі. Дастаеўскага, якога вельмі люблю, Ясеніна, Маякоўскага, блокаўскае «Дванаццаць»… Пушкіна, Лермантава. У іх творах я знаходзіў тое, пра што пісаў напачатку: вольнасць, эмацыйнасць. Потым адбылося адкрыццё беларускай літаратуры: аказалася, і ў нас ёсць творцы, якія ўзнімаюць цікавыя пытанні на высокім эстэтычным, эмацыйным і інтэлектуальным узроўні. У асноўным я цікаўлюся сучаснай прозай і паэзіяй, але знаёмлюся і са спадчынай. Люблю Сыса: больш «электрычную» паэзію ўявіць цяжка.

**— Ці звязана ваша адкрыццё ўласнай беларускасці з пошукам жыццёвага паклікання?**

— Гэта, бадай, самае складанае пытанне. Тэма беларускасці часта правакуе на пафас. Але ж быць беларусам — нармальны стан кожнага. Чэх адчувае сябе чэхам, паляк — палякам, а беларус — беларусам. Таму, калі адкрыццё для сябе Беларусі звязваецца з нейкім пафасам, я гэтага не разумею. Хоць ёсць, вядома, кайф у гэтым адкрыцці, знаходжанні свайго «беларускага» я. Наконт паклікання, я лічу, ранавата казаць. Але беларуская мова дакладна паказала мне іншы, нашмат цікавейшы шлях творчасці, пэўным чынам змяніла мяне самога.

**— Па адукацыі вы гісторык. Наколькі глыбокая вашая зацікаўленасць гісторыяй? Чаму вырашылі вывучаць яе?**

— Як большасць абітурыентаў, я не ведаў, чаго хачу. Таму пайшоў туды, дзе ўступныя іспыты больш-менш адпавядалі інтарэсам. Гісторыя — вельмі цікавы прадмет, а калі цябе нешта цікавіць, то ты хочаш ведаць як мага болей. Але калі хочаш спраўдзіцца як навуковец, атрымліваецца наадварот: мусіш выбраць адну нейкую галіну і яе распрацоўваць. Ад навукі мяне адштурхнуў дыктат над тым, як ты мусіш афармляць сваю думку, бо ў студэнцтве заўважыў за сабой схільнасць да публіцыстыкі, да інтэрпрэтацыі, а не да вывучэння фактаў. Як музейны супрацоўнік я магу афармляць працы і ў публіцыстычным ключы, і ў навуковым, таму тут я пачуваю сябе больш разняволена.

**— Хочацца задаць пытанне, звязанае з тэмай нумара. Як вы святкуеце Каляды?**

— Як чалавек «савецкі», не святкую амаль ніяк. Якімі рацыяналістамі людзі б ні былі, у жыцці кожнага застаецца месца для маленькага цуду: ці нараджэнне асобы, якая зменіць свет, ці пераход ад цемры да святла. Я займаюся творчасцю, і часам у мяне ўзнікаюць думкі: «навошта я гэта раблю» і «што мяне штурхае». Мацней за ўсё гэта адчуваецца менавіта на Каляды, Раство…

**— Які аспект вам бліжэй: хрысціянскі ці паганскі?**

— Ісус Хрыстос мною ўспрымаецца як асоба фенаменальных маральна-этычных якасцей. Я гляджу на Яго менавіта як на чалавека, бо тады Ягоны подзвіг падаецца яшчэ больш маштабным. Калі думаю пра Яго як пра Бога, шмат што спрашчаецца. Багоў было шмат. А паспрабуй знайсці такога, як Хрыстос, сярод жывых людзей…

***Гутарылі Наста САЛДАЦЕНКА і Тома САРАЧЫНСКАЯ***

P. S. У студзеньскім нумары «М» чытайце вершы Міхася Бараноўскага, у тым ліку і пра Каляды.

*Айцец ЯЎСТАФІЙ*
*(ХАЛІМАНКОЎ)*



# VIII*

Зноў гартаю свае ўрыўкі, шматкі былога жыцця — быццам хтосьці рассыпаў пачак старых зжаўцелых фотакартак — вабных, чароўных, п'янлівых; яны, нібы добрае віно, настаяліся ў маёй памяці, і цяпер сваёй шчырасцю нанова закруцілі, заваражылі… Come on!

Hey! Mr. Tambourine Man, play a song for me, I'm not sleepy and there is no place I'm going to…[1]

Зноў пачынаю пісаць з пачуццём, быццам гэта не чарговы бессэнсоўны набор літар і слоў, а якая-небудзь перадсмяротная запіска. З некаторага часу, а менавіта з таго, калі я пачаў пісаць, прыжылася ў вантроб'і маім устойлівая манія пераследу. І праследвальнік — мой талент.

Я чую ягоны голас: «Дадому! Ты загуляў у лепшых славянскіх традыцыях. А пачыналася ўсё выдатна: цябе любяць, цябе паважаюць, церпяць твае капрызы... Табе шмат даруюць. Але ж! Рана ці позна да цябе пачынаюць даходзіць першыя весткі з рэальнасці, якую ты так упарта ігнараваў. Весткі гэтыя — сумневы ва ўсім; ёсць сумненне нават у самой прыродзе сумнення, таму што я ўжо ні ў чым не знаходжу сэнсу. Там, звонку, па-за сценамі твайго свята, жывуць нармальныя людзі, якія толькі і чакаюць, каб накінуцца на цябе і задушыць сваёй нармальнасцю — паспрабуй толькі выйдзі да іх, пакажыся... На жаль, кола сціскаецца: даходзіць усё больш благіх вестак з таго, нармальнага, свету. Яны руйнуюць твае дні і ночы, даводзячы думкі і пачуцці да знямогі, да поўнага "безграшоўя". Вось у чым уся справа: ад іх можна адкупіцца толькі грашыма, але... усё менш і менш з табой застаецца людзей, якія падзяляюць тваё свята. Надыдзе той дзень, калі ўсё скончыцца і давядзецца выйсці з гэтага цудоўнага палаца, гэтага тэатра, дзе ты так выдатна разыгрываў усіх. І галоўнае — самога сябе.

Трэба выходзіць і здавацца. Набліжаецца канец. Па сутнасці, самае галоўнае — годна сысці. Сёння цябе вынесуць з палаца напаўжывога, а заўтра там разыграюць яшчэ адну п'есу, яшчэ адзін лёс. Будуць новыя героі, новыя гледачы...

Здаецца, ты дайшоў да жабрацтва, і жыццё тваё ператварылася ў адзін бестэрміновы пазыковы "поліс". Па-сапраўднаму важна толькі адно: адгадаць, калі за табой прыйдуць. Як яны будуць выглядаць, тыя наёмныя забойцы? Але ж хіба гэта так важна... Памерці — ці не значыць гэта асляпіць сябе настолькі, каб убачыць усё па-іншаму? Нездарма сляпыя людзі выглядаюць такімі мудрымі.

Дазволь, дружа, і мне перад смерцю яшчэ раз усё пракруціць, перажыць…»

---

* *Апошні запіс*

[1] Словы са знакамітай песні Боба Дзілана «Містэр з тамбурынам» (Пераклад: «Хэй, Містар з тамбурынам! Сыграй мне песеньку, бо я не магу заснуць і няма мне куды сысці…»).

О, гэтыя жоўтыя, высмаглыя старонкі!.. Кніга, жахлівая сваёй шчырасцю. З усіх раней прачытаных мною кніг гэта засталася апошняй — усё сваё жыццё я адрэдагаваў настолькі, што з прапанаванай часам і абставінамі анталогіі набрана было на абзац. Дый што такое было маё жыццё — прытон разнастайных сумненняў і перакананняў, дурной радасці і падробленага смутку, самазваных геніяў і прарокаў — усіх, каго я стварыў, каб потым пакутаваць з імі. Калі пераварочваў апошнюю старонку эпілога, думаў — не перажыву. Але сталася так, што каханне, якое я цягаў за спінай у торбе, даўно пераспела, пратухла...

Так я блукаў па свеце, непрыкаяны. Часам падарожжа маё абрывалася: раптам ўвап'ецца кляшчом, заб'е ў сэрцы струмень глыбокага смутку, і тады ў душы маёй пачыналі біцца — люта і глуха — грымоты вялікай журбы: «Праўда, праўда гэта, — шаптала яна, — адкрыць таямніцу, якая помсціць табе потым усё жыццё. Здаецца, ты і бачыш нешта, але ўсе кажуць, што ты з'явіўся на гэты свет слепанароджаным».

І што ты на гэта скажаш? Губляешся ў ненаедным людскім маскарадзе, шукаеш родныя душы, і калі знойдзеш, бяжыш зноў у нікуды, адхрышчваешся... выкідваеш белы сцяг, у які цябе загорнуць потым, як у саван, і, пляснуўшы пячаткай, — «паэт», — адправяць у самае сэрца Поўні. Там ты доўга будзеш драць неба, зрываючы ў кроў лініі лёсу на далонях, будзеш выць і патрабаваць справядлівага суда, аж покуль не ўспомніш: у мінулым жыцці ты сарваў голас... У мінулым жыцці ты быў вершнікам на чале Дзікага палявання караля Стаха, вершнікам, які гойсаў па прасторах краіны «Мроя» і галасіў пранізлівымі словамі вечнай Кнігі:

Воззри Господи яко печален есмь,
и чрево мое смутися во мне.
И превратися сердце мое яко горкости исполнися!..[1]

Але ўсе рабілі выгляд, што цябе не чуваць, ты скакаў і скакаў, аж покуль не надакучыў «усяму народу» і… цябе, пстрыкнуўшы, збілі і паклалі ў карабок з пад дзедаўскага тытуня «Віленскі кірмаш». Дзе табе і месца… Калі-нікалі ты браў адтуль шматок тытунёвага натхнення і выклікаў з нябыту аднаго за адным выцвілых духаў Поўні, пачыналася Камедыя Дэль Артэ, галоўную ролю ў якой па-ранейшаму выконваў твой стары знаёмы кат — твой талент:

«Дружа, уяві сабе, колькі разоў, калі мне здавалася, што я стаю на парозе нейкага новага дзіўнага адкрыцця… кожны раз прыходзіў ён, мой "чорны чалавек". Прыходзіў, каб замовіць новы верш, прыходзіў і стаяў на парозе: чакаў ад мяне адказу. Я адчуваў сябе ідыётам, адчуваў, што ўжо даўно бессаромна займаю ў гэтым жыцці нечае месца. І мне ўсё гэта ўрэшце надакучыла.

Але потым я заўважыў, што "чорны чалавек" — гэта я сам, і што стаю я не на парозе, а перад люстэркам, і што ўсё гэтае "дэжавю" паўтараецца зноў і зноў… Канца гэтаму, здаецца, не будзе!.. Я б хацеў заснуць вечным сном, супакоіцца, альбо, нарэшце, пагрузіцца ў непралазны гушчар жыцця. Толькі штосьці зноў выплёўвае мяне, нібы корак, на паверхню. Рысы майго твару паступова растаюць — я магу лічыць сябе кім заўгодна. Аддайце ж мне маё права жыць ці памерці!..»

I'm branded on my feet,
I have no one to meet
And the ancient empty street's too dead for dreaming[2].

Урэшце прыходзіць яна, і становіцца зразумела, што ўсё зусім не так, як ты гэта сабе ўяўляў... Я не памятаю яе імя, але гэта ўжо і не трэба. Яна ўкладвае мяне на дно старой лодкі і адпраўляе ў бясконцае падарожжа, нібы мерцвяка з аднайменнага фільма Джармуша.

І ў той жа час я іншы, нованароджаны, стаю на беразе, сачу за лодкай, пакуль тая не знікае на гарызонце — а з ёй знікае ў нябыт маё мінулае жыццё. І гэта пачатак канца — пачатак жаданай свабоды ад самога сябе.

[1] Урыўкі з біблійнай кнігі «ПЛАЧЬ ЕРЕМИИ» (пераклад Францыска Скарыны, выдадзена ў Празе ў 1519 г.).

[2] Боб Дзілан, «Mr Tambourine Man». Пераклад: «Мне наканавана стаяць тут на нагах, бо няма з кім сустракацца, бо гэтая старажытная і пустая вуліца прынесла смерць усім маім марам… »

*Павел СІМ*

# З ПАЛОНУ ІСНУЮЧЫХ НОРМ



***Павел Сім нарадзіўся 6 красавіка 1980 года ў Жодзіне. Скончыў гістфак БДПУ імя Танка і факультэт германістыкі Універсітэта Дуйсбург-Эссэн у Германіі. Супрацоўнік пасольства Германіі ў Беларусі. Любіць падарожнічаць, капацца ў мінулым і фатаграфаваць.***

## БЯЗДОННЕ ДЗЯЦІНСТВА

Бяздонне ўспамінаў
Са свету дзяцінства:
Бязмежная радасць,
З прыродай адзінства,
Задумак фантаны,
З падручнага цацкі.
Нібы апантаны,
Ствараеш сам казку.
Дзяцінства бяздонне,
Бясконцасць імгненняў…
І пульсам на скронях
Крыніца натхнення.

## КЛАСІКА ШТОДНЯ

Вам давялося чуць Моцарта
У выкананні музыкаў,
З боку якіх несла воцатам
Сідру, што пілі ў пазыку?

Як параход трубы пыхалі,
Вецер гартаў партытуры,
Арфы не пелі, а рыкалі
Нізкім мажорам панурым.

Бюсты са сцен усміхаліся,
Хлопалі ўсе грамадзяне —
Класіка ім спадабалася.
Тут жа сядзяць не сяляне!

Ці то піяна, ці фортэ?
Незразумела ні чорта!

## З ПАЛОНУ ІСНУЮЧЫХ НОРМ

Здараецца так: не патрэбныя больш
Прывычныя формы існавання,
Аджыўшыя думкі, здаецца, шчэ горш,
Чым поўныя здзеку пытанні.

Атручаны пыл ад пажарышча дзён,
Якое стварылі гадзіны,
Спрабуе вярнуць у разбіты палон
Ідэі, што ўзвіцца павінны.

А думкі імкнуцца ўзляцець да нябёс
І выбухнуць, скрыўшы свяціла,
Каб светам заліць мне прадказаны лёс
І план існавання нямілы.

Імкніцеся ж ў неба, ідэі мае!
Ірвіцеся ж з сэрца, жаданні!
Цяпер мне ўсё роўна, як нехта жыве,
І мне невядомы хістанні!

## РЭЧКА З ДЗЯЦІНСТВА

Тыя ж самыя сцежкі ля рэчкі,
Тыя ж клёны, бярозы ды ліпы.
Я дзяцінства збіраю па рэштках
Даўніх дзён, што калісьці я выпіў.

А рачулка бяжыць так імкліва,
І вярба ўсё глядзіцца ў крынічку,
Кожны дзень быў такім асаблівым
І згараў, быццам яркая знічка.

## СЭРЦАМ ДА СЭРЦА

Абдымі нечакана — адчую цяпло.
Усміхніся вачыма — адчую пяшчоту.
Столькі часу і столькі імгненняў
прайшло,
Не аднойчы скідалі сады пазалоту.

У вачах мітуслівы агеньчык гарыць,
Як тады, у той міг, што звязаў
нашы лёсы.
Маё сэрца агеньчык той змог
распаліць —
І яно заспявала надрыўна і ўзнёсла.

Песню вецер разнёс па бясконцых
шляхах,
На якіх мы шукалі сябе, сваё шчасце.
Толькі бліскі мігцяць у гуллівых вачах,
Толькі сэрца імкнецца да сэрца
прыпасці…



*Арына ГАРДЗЕЙ*

# ПАСЛУШНІЦА



***Арына Гардзей нарадзілася 5 верасня 1995 года ў Мінску. Вучыцца ў Юрыдычным каледжы БДУ. Марыць сабраць вялікую хатнюю бібліятэку і трапіць у Саюз пісьменнікаў, таму што «мы тэж не яцы-тацы, а цваняцы», як кажуць палякі, і «не нагою смаркаемся», як кажам мы. Захапляецца літаратурай, вандраваннямі па Беларусі і фатаграфіяй.***

## I

Стаяла сляпучае і душнае лета. Асфальтавы хрыбет праспекта стушоўваўся да размыта-шэрага колеру пад цяжарам аўтамабіляў, што спыняліся на трыццаць секунд, каб прапусціць знясіленых ад спякоты пешаходаў. Усё наўкола ў гэты дзень струменіла гарачыню: абяцалі моцны дождж. Але яго чакалі толькі ўвечары, а зараз усе спяшаліся па сваіх справах…

Ніна стаяла каля акна на першым паверсе аднаго са шматлікіх «універсальных магазінаў», які быў капілярам у гандлёвай сістэме горада. Яна сачыла за жыццём звонку. Зрэнкі глыбока пасаджаных сіняватых вачэй пашыраліся ад лютасці, што рабілася яшчэ больш магутнай у зайздрасці. Здавалася, ад злосці кудысьці знікала заўсёдная чырвань на светлай скуры. Прага да свабоды ў той момант была настолькі моцнай, што хацелася выйсці куды заўгодна, толькі каб на імгненне адчуць на сабе подых свежага паветра. Яе белае адзенне здавалася ненавісным гарнітурам з белай кашуляй, дзе каўнер сціскаў горла. Ніна нібыта не памятала, дзеля чаго знаходзілася ў памяшканні.

Здарылася так, што дзяўчына не паспела заўважыць, як мінуў *той* час, і як яна, Ніна, па падгаворванні маці апынулася спачатку ў манастыры, а потым — у доўгім белым убранні паміж першым і другім паверхам невялікага дзяржаўнага магазіна. Побач з ёю была белая скарбонка з прарэзам уверсе — для збору ахвяраванняў на будаўніцтва манастыра, пра які ніхто ніколі не чуў. Дзяўчына ўжо даўно шкадавала, што ахінула сябе ў амаль манаскае адзенне і з адчужаным выглядам збірала штодзённыя мізэрныя міласці.

Кожны дзень паўтараўся бязлітасна: вывучаная да апошняга блока мармуру пляцоўка падлогі, белыя парэнчы, патрэсканае ад часу рыззё пафарбаваных вокнаў, і дваццаць пяць квадратаў на стол. Адрозніваліся толькі людзі: нагружаныя задаволенымі (і не вельмі) дзецьмі, вялікімі і маленькімі торбамі, капрызнымі закаханымі, сваімі і чужымі палюбоўнікамі і палюбоўніцамі, гадзінамі, якія не даспалі ды, бадай, ненадакучлівасцю жыцця.

Змянялася ўсё, але толькі не Ніна.

«Сёння ўвечары зноў будзе холадна, — думалася ёй. — Навошта радавацца чарговаму вадаспаду, калі ўсё маё жыццё і без гэтага вечны дождж?» Такія разважанні наведвалі Ніну кожны дзень, наведвалі бестактоўна, расштурхоўваючы думкі, выбудаваныя малітвай за шмат гадоў. І ўжо немагчыма было спакойна глядзець на пакорлівыя твары тых, хто прыносіў грошы: «У наступны раз, калі да мяне толькі наблізіцца чарговы спачуваючы, я шпурну гэтую кардонку яму ўслед, — думка прабівалася скрозь словы, вывучаныя на памяць, — і выйду адсюль, ніхто мне не перашкодзіць!» Затым набліжалася, як правіла, жанчына неакрэсленага ўзросту, і, спалохаўшыся самой сябе, Ніна прамаўляла блаславенне, перахрышчваючы паветра за яшчэ адным страчаным шансам штосьці даказаць.

…Неяк у дзяцінстве яна папрасіла ляльку, такую ж, якую ўбачыла ў дзяўчынкі на вуліцы. «Зараз жа малі ў Госпада даравання за сваю зайздрасць, — шыпеў адказ, — яна загубіць цябе!» Яе маці была занадта рэлігійным чалавекам: пасля здрады мужа, уся вера перанеслася не ў адзіную дачку, а ў бліжэйшы прыход. Жыццё Ніны падзялілася на чужыя павучанні, парафіяльную службу, і цяпер — паслушэнства. Пра пострыг нельга было думаць, пакуль не споўніцца трыццаць год, і сваю прагу да міласці Боскай даводзілася наталяць зборам ахвяраванняў з блаславлення ігуменні.

— Дзе ў вас аддзел з газетамі і часопісамі? — хрыплаваты мужчынскі голас разбіў шклянку думак Ніны.

— Друкаванае… Ідзіце ўперад, да канца залы.

Высокі мужчына падышоў бліжэй, яго залацістыя вочы зацікаўлена паглядалі ў скарбонку:

— На што збіраеце? М-м, манастыр… Ведаеце, а я вось ніколі не бачыў манашак у крамах. А такіх, як вы, не бачыў зусім.

— Я паслушніца, і гэта — маё паслушэнства. Прабачце, якіх «такіх»? — пацікавілася Ніна.

— Такіх прыгожых, — адказаў голас ужо недзе далёка.

Да закрыцця крамы заставалася яшчэ некалькі гадзін. Тое, што адбылося, было незвычайным і дзіўным. «Як быць, калі такія словы чуеш у свой адрас упершыню? Малітоўнік, малітоўнік… Дзе ж ён? Ніхто больш сюды не прыйдзе, а калі і не так, то не на мяне глядзець!»

Час да закрыцця прайшоў у малітвах, якія супакоілі Ніну. У яе атрымалася забыцца на гэтую дзіўнасць, але забыцца на сваё жыццё, якое паўстала так ярка ў сваёй цемры, было немагчыма. Нехта цярплівы, хто чакаў на сіняватым крэсле жонку з крамы, заўважыў, што маладая сінявокая манашка чытае адну і тую ж старонку ўжо даўно. Ён прыбраў пасівелую пасму з нізкага лба, сціснуў вузлаватыя пальцы на старой трасціне, па звычцы прыжмурыў вочы за рагавымі акулярамі, і, усміхнуўшыся, убачыў усіх дэманаў, якія ўжо пачыналі перамагаць зарокі, калісьці дадзеныя апантанай маці, а галоўнае — сабе.

У малітоўніку расплываліся словы. Але яны былі вывучанымі на памяць — Ніна паўтарала іх міжволі. Адчаканіўшы перадапошні выраз, дзяўчына адчула, як на яе калені хтосьці паклаў нешта лёгкае. Загарнуўшы малітоўнік, яна ўбачыла тры буйныя пунсовыя ружы, а вышэй — залацістыя вочы, што неадрыўна глядзелі на яе:

— Прыбярыце зараз жа! Навошта, навошта вы гэта зрабілі?

— Я так і не знайшоў патрэбнага *мне*. Але знайшоў тое, што патрэбна *вам*, — гучна адказаў сілуэт ля самага выхада.

## II

Самым складаным для Ніны аказаўся першы этап знаходжання ў манастыры, дзе яе і яшчэ некалькі дзяўчат клікалі «трудніцамі». Тады даводзілася цяжка і штодзённа працаваць, мала есці, на вячэрнюю трапезу даядаючы тое, што засталося ад дзённай. Нельга было забыцца на першае лета: пякучае сонца, доўгая адзежа, збалелая спіна, цяжкая рыдлёўка і сонечны ўдар, што зваліў з ног на некалькі дзён. Пасля першай медыцынскай дапамогі стала зразумела, што да хвароб тут ставяцца са своеасаблівай філасофіяй: «На ўсё Божая літасць». У той момант Ніне нагадалі, што яна можа свабодна пакінуць манастыр, калі зразумее, што лепш быць годнай праваслаўнай, чым манахіняй, якая не жадае аддаваць сябе службе Богу. Але пакідаць гэтае месца дзяўчына не збіралася: маці не прыняла б яе. Ніна мала што ведала пра жыццё, знаходзячыся пад апекаю маці.

Калі дазволілі перайсці да паслушэнства, дзяўчына была дастаткова загартаваная, маўклівая і пакорлівая. Карцела дачакацца трыццацігоддзя, калі можна будзе пастрыгчыся ў манахіні. Ніну не палохалі зарокі, пасля якіх яна павінна будзе не пакідаць манастыр і манаства, слухацца ігуменню і старэйшых сясцёр, захоўваць беднату ў жыцці, а цноту — у сабе. Маладая жанчына правяла час у паслушанстве і не магла дачакацца гэтага таінства.

Але і ў дарозе, высланай абрусам, часам адчуваюцца шурпатасці. Ніну пачалі адольваць сумневы ў правільнасці абранага шляху. Калі яна бачыла сваіх аднагодкаў — прыгожых, свабодных, — мімаволі хацелася плакаць. У манастыры раілі больш працаваць і маліцца. Пасля шматлікіх споведзей і пакаянняў маладой паслушніцы стала здавацца, што гэта зусім не дапамагае. Пры адной з рэдкіх сустрэч з маці яна спытала:

— Мама, можа, мне паспрабаваць прыехаць да цябе як-небудзь?

— Навошта гэта? — маршчыністы твар недаверліва скрывіўся.

— Ведаеш, некаторыя сёстры ездзяць дадому на невялікі «адпачынак», і я падумала, што…

— Будзе лепш неадрыўна служыць Богу ў манастыры! — адрэзала старая.

— Так, мама, я і хацела менавіта гэта сказаць… — апусціўшы галаву і стрымліваючы слёзы, ціха адказала Ніна.

Стала зразумела, што ані дапамогі, ані парады ад адзінага блізкага і роднага чалавека яна не дачакаецца. Калі надышоў час, дзяўчына выклянчыла ў ігуменні паслушэнства ў выглядзе збору ахвяраванняў. Менавіта так яна апынулася ў невялікай краме, дзе і пабачыла, якой жадае быць.

Міналі дні, тыдні, адзін аднаго змянялі цяжкія, цёмныя месяцы. Ніна была б рада сысці, але духоўны лад і чыстыя намеры сталі сэнсам жыцця. Ды і не было ніводнай душы звонку, да якой яна магла б звярнуцца.

І менавіта ў гэты момант у яе жыццё раптам увайшоў гэты невядомы аматар друкаванай прадукцыі. «Чаму цяпер? Пане, літасцівы Ойча наш, выратуй і захавай мяне, грэшную, — малілася Ніна. — Нашто гэты чалавек з’явіўся ў маім жыцці? Дазволь мне служыць Табе ўсёй душою, усім сэрцам!» А далей замест малітвы — толькі пытанні.

## III

Сонца спала на мяккіх хмарных пярынах, запоўніўшы сабою добра знаёмую пляцоўку паміж першым і другім паверхам крамы. Белыя зашмальцаваныя парэнчы набылі другое жыццё пад сонечным святлом. З акна былі бачныя аўтамабілі, якія

перасоўваліся, нібы сытыя жучкі. Спяшаліся кудысьці людзі, толькі пачынаючы неўласцівую такой спакойнай раніцы мітусню. І шум радыёпрыёмнікаў з першага паверха быў такі падобны да шуму прыбоя…

Тое ж самае бачыла Ніна, прытуліўшыся да акна на пустой пляцоўцы. У грудзях шчымела нейкае пачуццё, якое абавязкова бывае ў такое надвор'е, калі цябе перапаўняе радасць ад таго, што ты жывеш, бачыш, прадчуваеш штосьці добрае і вельмі-вельмі важнае, што абавязкова чакае цябе за вуглом патрэбнага часу. І калі так баішся чагосьці не паспець.

У гэты дзень яна чакала яшчэ і кагосьці. Цеплілася надзея, што яна яшчэ можа пабачыць Яго зноў. Хацелася разгледзець і запомніць астатнія рысы, а не толькі залацістыя вочы, якія глядзелі наўпрост на яе. Дзяўчыну вабіла тое, чаму можна даць адну назву, але вызначыць адзіную сутнаць сярод мільёнаў меркаванняў — ніколі.

Дзень прайшоў катом на мяккіх лапках, саступіўшы месца шумнаму вечару. Ніну даўно пакінула радаснае чаканне. Халоднымі рукамі да горла пацягнулася рэчаіснасць. Тыя кветкі яна выкінула ў сметніцу каля ўвахода ў манастыр, а новых чакаць ужо і не выпадае. Дзяўчына зноў была гатова кідаць скарбонку ва ўсіх тых, хто ёй не падабаўся. Але, адчуўшы невымоўны сорам за свае думкі, Ніна каторы раз за дзень адкрыла малітоўнік і пачала шаптаць знаёмыя словы.

Праца амаль скончылася. Злосць на ўсё вакол перапаўняла паслушніцу. Хвалі страху за свае думкі накатвалі ўсё часцей. Ніна вырашыла прачытаць апошнюю малітву і адправіцца ў манастыр. Ціхі голас дзяўчыны хутчэй шапацеў апошнім лісцем восені, кветкамі, якія вянуць на зялёным полі, чым настойліва прасіў: «*Господи, повсюду всем дающий жизнь и дыхание, и непрестанно чрез служение тварей доказывающий любовь Свою ко всем людям. Соделай в том и меня подобным образу Твоему, чтобы и я неутомимо, Тебя ради и по Твоему примеру, любил благороднейшее создание Твое — ближнего моего, и поступал с ним…*»

— «*…как любовь того требует, чрез Иисуса Христа, Господа нашего*», — працягнуў знаёмы хрыплаваты голас.

— *Аминь*, — збянтэжана скончыла малітву Ніна. — Не чакала ўбачыць вас зноў.

— І тое, што я ведаю словы, таксама не чакалі, — засмяяўся мужчына.

— Калі за многа дзён звыкаешся з пэўным парадкам, то натуральна, што ўмяшальніцтва будзе нечаканым, — чамусьці пакрыўдзілася Ніна, — вам зноў патрэбны аддзел з газетамі? Усё яшчэ не знайшлі таго, што патрэбна *вам*?

— Не, — шырока ўсміхнуўся мужчына, — знайшоў тое, што патрэбна *нам.*

— І што гэта? — Ніна прыкусіла губу, каб выпадкова не ўсміхнуцца.

— Я знайшоў вас, а вы — мяне. Усё проста! Дарэчы, маё імя — Вацлаў.

— Нязвыклае імя. Я — Ніна, — усміхнулася дзяўчына.

— Гэта вашае імя ў манастве? — насцярожана спытаў Вацлаў.

— Не, гэта імя, дадзенае мне ў звычайным жыцці. А змяняецца яно пасля пострыгу ў манахіні, мне да яго яшчэ доўга, — паведаміла Ніна.

Зачараваная дзяўчына адказвала скрозь вясёлкавую смугу. Ёй падавалася, што пляцоўка заліта святлом, і самая яркая яго крыніца — рудаваты Вацлаў. Высокая постаць у пашараваных штанах і светлай кашулі здавалася б даўгалыгай, калі б не лёгкасць рухаў. Твар з прамым носам у вяснушках быў адзначаны дзвюма ямачкамі па баках, якія не знікалі ад нязменнай усмешкі. А залацістыя вочы здаваліся маленькімі агеньчыкамі, якія не змагла загасіць халодная вада вачэй Ніны.

— Ведаеш, нічога, калі я на «ты»? — спытаў Вацлаў, — ты адкуль?

— Я жыву ў В…м манастыры, лічуся паслушніцай…

Мужчына разглядаў твар дзяўчыны і не мог ад яго адарвацца: сіняватыя вочы з прыгожым разрэзам, белы авал твару з лёгкай чырванню, падобны да таго, які часта малююць на абразах, і акуратны маленькі ды кірпаты нос. А яшчэ доўгае адзенне, якое даставала да падлогі.

— Я буду прыходзіць да цябе ўвесь час, а калі пажадаеш — не буду пакідаць.

— Добра, — апусціла бушуючы акіян вачэй дзяўчына, — ты толькі заўтра абавязкова прыходзь…

## IV

На адной з тэрас летняга кафэ з першай цемрай запаліліся ліхтары. Уся жыўнасць, якая мела крылы, ляцела на гэты электрычны агеньчык і білася аб шкло, так і не дасягнуўшы спакуслівай мэты. Ім толькі і заставалася, што кружыцца.

— Нін, мы з табою як гэтыя матылькі, — прамовіў Вацлаў, седзячы насупраць каханай, — мы шчаслівыя, але ўпотай, толькі напалову, ці не так?

— Няўжо нам дрэнна? — спытала Ніна. — Бог сваёй літасцю паслаў нам адно аднаго, трэба вынесці годна ўсе выпрабаванні.

— Выпрабаванні? У цябе паўсюль суцэльныя выпрабаванні! Ты пра што-небудзь яшчэ думаць можаш?! — раззлаваўся Вацлаў.

— Не смей так казаць!

— А вось і асмелюся!

— Нельга!

— Ніна, сыходзь з манастыра, заставайся са мной, — нечакана вырвалася ў Вацлава.

— Што? Якая гадзіна ўжо? Мне трэба ісці! — яна рэзка паднялася з-за стала і выбегла, пакінуўшы мужчыну аднаго.

Наступныя дні і ночы паслушэнства і службы прайшлі ў такіх кіданнях, якіх у Ніны не было яшчэ ніколі. З аднаго боку, стаяла ўсё яе жыццё і чысціня; з другога — Вацлаў, яго каханне, у якім не было сумневаў. Але сыход да яго азначаў канец знаходжання ў манастыры, чаго так хацелася і не хацелася адначасова. А жыццё тым часам патрабавала свайго з сілаю нечаканаю і страшнай.

Ніна правяла некалькі начэй у малітвах і вырашыла пакінуць служэнне. Толькі перад гэтым хацелася пагаварыць з маці, паспрабаваць спытаць яе парады. Гэта быў важны крок, пра які самы родны чалавек павінен ведаць. «Мама сама была такая, яна мяне зразумее, абавязкова зразумее», — супакойвала сябе дзяўчына.

Распавёўшы ў манастыры, што едзе адведаць маці, Ніна ўзяла невялікі «адпачынак» працягласцю ў некалькі дзён. Ногі неслі дадому самі, радаснае чаканне сустрэчы перапаўняла душу. Было ясна, што маці можа сустрэць холадна, але дзяўчына адганяла такія думкі. Як жа думаць пра кепскае, калі наўкола ўсё так добра!

Знаёмы будынак патанаў у зеляніне, якая буйна разраслася за апошнія некалькі гадоў. Усё вакол было родным і цёплым, да горла камяком падступілі слёзы. Ніна адчыніла дзверы пад'езда і паднялася па лесвіцы на трэці паверх. Усё было знаёмым аж да драпінкі на кнопцы званка, якую яна націснула.

Пачуліся цяжкія крокі, далей — невялікая паўза, відавочна, дзяўчыну разглядалі ў дзвярное вочка. Нарэшце дзверы, якія заспявалі рыпучую песню, адчыніла жанчына гадоў шасцідзесяці. Падчас некалькіх маўклівых секунд Ніна паспела разгледзець маці: «Як жа яна пастарэла», — пранеслася ў галаве.

Жаночая постаць, якая стаяла каля прыадчыненых дзвярэй, не выглядала на свае сорак дзевяць гадоў. Даўно пасівелыя валасы былі сцягнуты ў тугі вузел. У цёмным водбліску бра глыбока пасаджаныя сіняватыя вочы падаваліся патухлымі вугольчыкамі. Сілуэт нібыта схіліўся ад цяжару пражытага, а некалі прыгожы твар зараз праразала мноства маршчын.

— Вітаю, мама. Я прыехала, хацела пабачыць цябе…

— Я бачу, — працадзіла старая.

— Можа, упусціш мяне?

— Толькі ненадоўга, бо я спяшаюся на службу, — дзверы зноў заспявалі, прапусціўшы Ніну ў цёмны калідор.

З той пары, калі дзяўчына адправілася працаваць у манастыр, у кватэры нібыта спыніўся час. У маці Ніны, Вольгі, так і не атрымалася ўладкаваць сваё асабістае жыццё ў адсутнасць дачкі. Яе, нягледзячы на вонкавае падабенства, жанчына вытрываць не магла: характар як у бацькі, аж да слоў-паразітаў, ад якіх Вольга спрабавала адвучыць сваю дачку. І таму, калі пасля шматлікіх гадоў мэтанакіраванай псіхалагічнай работы Ніна заявіла, што жадае прысвяціць сябе служэнню Усявышняму, першая ўздыхнула з палёгкай.

— Дык што цябе да мяне прывяло? — адразу ж пачала размову Вольга.

— Мне трэба пагаварыць з табою. Справа не церпіць адкладу…

— Цудоўна, бо я спяшаюся. Працягвай.

— Я вырашыла пакінуць манастыр, — вочы маці акругліліся і ашклянелі, — таму што сустрэла чалавека, мы кахаем адно аднаго.

Рэакцыя Вольгі не прымусіла сябе чакаць. Выплюхваючы ўсю нянавісць, якая збіралася ў душы амаль палову жыцця, яна заверашчала:

— Пакінуць?! Загразнуць у мірскім жыцці?! Аддаць сябе на разарванне смяротным грахам?! Ва ўсім ты падобная да свайго шалудзівага бацькі! Калі хочаш пакінуць служэнне — пакінь, але ведай, што дачкі ў такім выпадку ў мяне няма і ніколі не было! А цяпер сыходзь з *майго* дому прэч, і ніколі, чуеш, ніколі не з'яўляйся тут! — скончыла гаворку маці, выпхнуўшы дачку з кватэры.

Калі б Ніна надумала дзе-небудзь утапіцца, то зрабіць гэта можна было, не вешаючы камень на шыю, — настолькі было цяжка. Выціраючы слёзы, дзяўчына пайшла па адным вядомым ёй адрасе — туды, дзе жыў Вацлаў.

Калоцячы ў дзверы так, быццам бы за ёй абвясцілі пагоню, Ніна адразу ж упала на рукі мужчыне, які са здзіўленнем адкрыў дзверы.

— Я толькі хацела быць з табою, — захлыналася ад слёз дзяўчына, — маці ледзь не пракляла мяне… Як жа мне быць?

— Супакойся, Ніnulька, — сказаў Вацлаў, мацней абдымаючы Ніну, — заставайся тут, а потым мы ўсё абавязкова вырашым!

І раптам са старога акна з патрэскаым ад часу шклом абрынуўся віхар ліхтарнага святла, які змяшаўся з водарам квітнеючых ліп і вострай на пах цемрай. Дзверы мякка зачыніліся…

З таго вечара мінулі тыдні. Спалохаўшыся таго, што адбылося, Ніна збегла ў манастыр, атрымаўшы папярэджанне за нягодныя паводзіны. Яна нічога не паведамляла Вацлаву пра сябе. Не хацелася нікога бачыць і чуць. Падобна манахінісхімніцы, Ніна перастала размаўляць з сёстрамі, праводзячы час у паслушэнствах ды малітвах.

На споведзях дзяўчына распавядала далёка не ўсё. Даўняй размовы з маці, потым — у царкве, а далей — выпадкова перанятых ведаў Ніне хапіла, каб зра-

зумець, што манаства закрыта для яе назаўсёды: яна чакае дзіця. Неабходна было вырашаць штосьці.

«Пане літасцівы, прабач і выратуй мяне, грэшную, — зноў усплывала ў памяці блытаніна з забытых слоў, — прабач мне за абраны шлях і выратуй  душу. Я загладжу сваю віну перад табою, абавязкова загладжу…» На гэтых словах Ніна заснула, і новы дзень пачаў задзірліва наступаць на пяткі сумнай ночы.

**V**

Матухну Афанасію, ігуменню В…га манастыра, заўсёды адрознівала ад астатніх асаблівая сардэчнасць. Часам «благочинные» занадта чапляліся да выгляду сясцёр, і даводзілася настаўляць на сапраўдны шлях нават службовых асоб. Але і яны, атрымліваючы заслужаныя навучанні, шчыра любілі тую, якая не толькі звалася матухнай: Афанасія ёю была.

— …Матухна Афанасія, я хачу пакінуць манастыр, — пасля доўгай размовы з ігуменняй тлумачыла Ніна, — я стану годнай недухоўнай і буду шанаваць імя Хрыста да смяротнай гадзіны сваёй…

— Ніна, ты паслушніца, і можаш сысці тады, калі зразумееш, што Бог накіраваў цябе на правільны шлях па-за нашымі сценамі. Не абавязкова прысвячаць сябе манаству, калі ведаеш, што тваё прызначэнне не тут. Адпускаючы, я не сумняваюся ў табе, бо ведаю, хто ты ёсць.

— Дзякуй, матухна Афанасія… — апусціла вочы дзяўчына.

— У гэтым няма нічога благога, паднімі вочы. «*Благословляю тебя и благодарю во славу Божию*», — усміхнулася ігуменя.

Далей Ніна паехала да Вацлава. Яна ведала, што яе там чакаюць, што спадзяюцца на вяртанне. Наўкола тым часам даўно звялі кветкі, і дарогі ў дварах ненадоўга выслаў дыван памаранцава-чырвонага лісця з лёгкай кропелькай зялёнага колеру ў жылках. Сонца свяціла ярчэй і стала халаднейшым: яго промні даставалі толькі да злёгку нагрэтых дахаў. Утульныя скрыжаванні былі ў паўцені, і там вецер накідваў на мінакоў лёгкі шаль: тады хтосьці скрозь мітусню заўважыў, што стала як быццам бы цяплей.

І менавіта на такое скрыжаванне выходзілі вокны кватэры, з якіх Ніна і Вацлаў глядзелі на шумную вуліцу, якая не цішэла нават уначы. У тую кватэру шчаслівы муж прынёс сваю жонку пасля вяселля і вянчання, на якім настаяла Ніна. Сваякоў не было, а пра маці яна намагалася не думаць. Маладыя жылі шчасцем, чакаючы цуд, якім заўсёды з’яўляецца дзіця ў вачах бацькоў.

Першыя халады як заўсёды нечакана ўварваліся ў горад. Цяпло сямейнага агменю не атрымалася схаваць ад спусташальнай зімы. Ніна зноў пачала дакараць сябе за слабую веру, вінаваціць за адыход ад яе. Цяпер зусім мала часу яна праводзіла ў царкве за духоўнай літаратурай, якую ў запале сварак Вацлаў пагражаў спаліць. Дзяўчына сама не заўважыла, як у галаве ўзнікла дакучлівая ідэя, што дом і муж сталі невыносным грахом. Свабода, якую яна так чакала, дзеля якой столькі прайшла, аказалася зусім не той. Замест хвілін малітваў стаянне на каленах пераўтварылася ў гадзіны.

— Ніна, можа, табе трэба адпачыць? — спрабаваў размаўляць з ёю Вацлаў, — зрабі перапынак, Усявышні чуе ад цябе занадта шмат, а спакой будзе карысны для дзіцяці.

— Ты яшчэ і блюзнерыш! А ці гэта не ёсць спакой?! — адказаў яму падвышаны тон жонкі.

— Гэта ўсё твая маці: нават не маючы з табой цяпер зносін, яна паспела вельмі моцна нашкодзіць табе, — сарваўся мужчына, — ты жывеш як фанатык, азірніся ўжо! Я цярплю гэта толькі дзеля нашага дзіцяці!

— Што? — істэрычна адклікнулася з кута Ніна, — Вацак, дарагі, не слухай мяне! Прабач, я зусім заблыталася…

— Эх, прыгажуня мая… Хадзем, хоць паясі…

Але і рэдкія адлігі толькі сцвярджалі тое, што надышлі халады. На Ніну ўсё часцей находзілі прыступы ліхаманкавай рэлігійнасці. Яна зноў пачала маліцца гадзінамі, робячы перапынкі толькі таму, што недзе ўнутры жыў страх: з дзіцём можа штосьці здарыцца. Потым і гэта перастала яе хваляваць. Вацлаў так і застаўся ў адзіноце разам з утрапёнай жонкай.

Лёгкай хадой па размяклай зямлі прыйшла вясна, удыхнуўшы жыццё ва ўсё навакол. Кветкі прабівалі сабе шлях да сонца, у зялёную крапінку афарбаваліся дрэвы, а трапяткія галіны нашэптвалі гімн вясне, які паўтараўся ўжо шмат стагоддзяў. Ніна яшчэ магла чуць яго паміж сваімі трызненнямі. Нават далёкі ад рэлігіі Вацлаў спрабаваў штосьці растлумачыць жонцы, якая зусім страціла сябе, і вінавайціла ўсіх ў паняверцы і нядбайнасці:

— Так, і хай я ад рэлігіі далёкі, — адказваў муж, — але я дапамагаю табе, жыву сумленна і працую не за нябесную ўзнагароду, а проста так. І раблю гэта таму, што кахаю цябе і люблю ўсіх, хто гэтага варты і не.

— Нічога ты не разумееш! — адмахвалася Ніна, у душы разумеючы, што яе Вацлаў ведае куды больш, чым яна думае…

Вясна замацавалася канчаткова, і часам нават здавалася, што паветра прапахла асаблівым летнім пахам. Ніне стала лягчэй, да таго ж набліжалася пара родаў. У доме нарэшце запанаваў лад і парадак. Схуднелая Ніна расквітнела. Але адны душэўныя пакуты змяніліся іншымі: «Што будзе, калі Усявышні пакарае мяне за мае грахі, за нанесеныя мною крыўды», — не выходзіла з яе галавы. А далей зноў толькі пытанні.

Увечары наступнага дня ў Ніны адышлі воды. Выкліканая медыцынская дапамога чамусьці не спяшалася. Закусваючы вусны, Ніна бялела ад болю.

— Вось бачыш, пакаранне ўжо пачалося… бывай, Вацак, бывай, каханы мой…

— Нічога сабе трызненні! Кінь, дурніца, усё будзе добра! — супакойваў і сябе, і жонку Вацлаў, — зараз прыедуць, ты толькі трывай, мая каханая, мая прыгажуня…

Быццам пацвярджаючы яго словы, раздаўся званок. Ніну забралі, Вацлаў паехаў следам. Бальнічны пах, мітусня, цёмны калідор і цвёрдая лава ў прыёмным аддзяленні. У напружаным чаканні прайшла гадзіна, яшчэ адна, і мужчына сам не заўважыў, як заснуў.

— Шаноўны, прачынайцеся, — хтосьці трос яго за плячо, — прачынайцеся!

— Што?! — рэзка падскочыў Вацлаў.

— Вашае прозвішча? — дапытваўся твар у акулярах.

— Вяршынскі, а што? Як мая жонка, Ніна Вяршынская? Яна паступіла сюды ўночы! Як яна, доктар?

— Калі вы Вяршынскі, то віншую, у вас нарадзілася дачка…

— Як? Не можа быць! Дзякуй вам, як жа я вас люблю, — Вацлаў падняўся з лавы і моцна абняў доктара.

— Але вашая жонка, Вяршынскі, як бы гэта вам сказаць… — збянтэжыўся чалавек у халаце, — роды былі доўгія, цяжкія…

— Што? З ёю ўсё добра? Адказвайце! Адказвайце мне, — і Вацлаў схапіў доктара за каўнер.

— Вашая жонка, кхм-кхм, яна памерла.

— Як памерла? — Вацлаў адпусціў халат.

Штосьці ўнутры абарвалася і паляцела ў цемру. Мужчына споўз па сцяне на халодныя пліты падлогі, невідушчыя вочы ўтаропіліся ў рашэцістае акно: за ім вецер кружыў сонечнае святло, якое трапятала скрозь трафарэты з лісця…

* * *

Дзень быў спякотны. Ленавалася рухацца і лётаць усё жывое. Толькі навальнічныя хмары спаборнічалі з маланкай: хто хутчэй дасягне вока чалавека. Нягледзячы на непагадзь, у парку было шматлюдна. Дзеці, амаль ні на што не звяртаючы ўвагі, бегалі сюды-туды, упрошваючы бацькоў схадзіць на адзін, а можа і не адзін са шматлікіх атракцыёнаў.

— Ніна, Нінулька, пойдзем дадому, хутка будзе моцны дождж, — угаворваў мужчына, хапаючы маленькую дзяўчынку на рукі.

— Та-а-атачка, сёння ж мой дзень нараджэння! — вызвалілася яна.

— А дома маленькую прыгажуню чакаюць падарункі, — усміхаўся бацька, — не паспяшаешся — не атрымаеш!

— …Там будзе матуля?

— Не, сонейка, мама далёка-далёка, — Вацлаў зноў узяў дачку на рукі, — але яна цябе бачыць і вельмі-вельмі любіць, ясачка мая…

Пайшоў дробны і халаднаваты дождж. Калі б вы хаваліся пад дрэвам ля ўвахода ў парк, то, напэўна, змаглі б заўважыць, як грузна ішлі перапоўненыя аўтобусы, як зіхацелі «рогамі» тралейбусы, а афарбаваныя ярка-зялёным шаты дрэў станавіліся брамаю для тых, каму трэба прайсці. І абавязкова заўважылі б мужчыну, які бяжыць да метро з маленькай сінявокай дзяўчынкай на руках, смех якой вецер яшчэ доўга калыхаў на апусцелым праспекце…

*У мінулы Новы год адмовіўся ад аліўе. Сёлета паспрабую не есці мандарынак — трэба ж вызначыць, ад чаго мне так дрэнна 1 студзеня!*



Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

# МАСТЫ Ў РЭЧАІСНАСЦЬ




***Зміцер Захарэвіч нарадзіўся 20 сакавіка 1980 года ў Мінску. Скончыў гістфак БДУ, праходзіў вайсковую службу ў органах пагранічнай службы, што разам з цікавасцю да вайсковай гісторыі паспрыяла з'яўленню немалой колькасці адпаведных твораў.***

* * *

Спыніўся.
Доўга
Запальніца ў кішэні
Не давалася пальцам.
Нарэшце.
Палю.
Рушу.
Лятарня
гуліверавы
цень мой
На незасланую
шпурнула
зямлю.

Прысады.
Каштанаў
узбуялая
іжыца
Скубе бакі ветру
нішчымным
галлём.

Да заўтрашняй
раніцы,
можа,
суцішыцца.

Поўня
блішчыць
юбілейным рублём.

Знаёмцы.
Вітаюся.
Цягнуць далоні.
— …Гэтак і злева.
Ведаю.
Чуў.

З усімі здараецца.
Дзякуй,
не сёння.
Ёсць чым заняцца,
дый
не хачу.

Па-над
забудовай
спрахлай
эпохі

Стодам
сучасны
грувасціцца
гмах.

Золь
прагна зглынае
скрозь прыцемак
крокі.

Хочацца свята,
а свята
няма.

На вокнах
гірлянды,
мандарыны —
пад елкамі.

Варожыць
жыхарства
на большы
ўмалот.

Бесчасоўе
нязменную
ставіць
кружэлку нам.

Снежань
без снегу,
без новага —
год.

## НАВАЛЬНІЦА

Усю ноч і ліло, і гуло
Неба, хворае на навальніцу,
Біла ў трасцы наводмах у шкло
Перунамі і граду драбніцай.

І абпальваў вантробы мароз
Ад пранізлівых ветру напеваў,
Калі перад уладнаю скрозь
Стан згіналі пакорліва дрэвы.

Струмяні пакрысе развінаў
Дождж ў сваёй несвядомае злосці —
Не падацца ў засвет давідна
Па зіхоткім вясёлкавым мосце.

Пакідаючы шнары між хмар,
Далягляд асляплялі маланкі,
Выскаляліся кпліва у твар
Да прышэсця збаўлення уранку.

І разгразлых абапал шляхоў,
Каб хвароба на час адступіла,
Закіпала вада ручаёў,
Нібы кроў ва узорчатых жылах…

## ГУЛЬНЯ СЛОВАМІ НА ПЛЯЖЫ

Хвілі хвалі
Зухвалыя хваляць,
Але марыць мора
Што зморыцца морак
Гарачыні —
Яна,
Бы з гарна,
Гарэзіць з гары.
Загарай — не згары!
Бо спёка,
Як пёкам[1]

У пекле,
Пекных
І мажных мажа
На пляцы пляжа.

[1] Пёк — густое вязкае рэчыва чорнага колеру, якое застаецца пасля перагонкі дзёгцю альбо смалы.

* * *

Ча́ры Нарачы.
А як нарачы
Пару́ па начы,
Калі па́рай
Курэе туман,
Бы па-над грогу чарай?..

## ВЯСНОВЫЯ НАТАТКІ

* * *

А вясны зноў амаль не было —
Не пачуў капяжоў, як належыць,
Ледзьве ўгрэла — й кучомкі далоў
Ад Сафіі да Белае Вежы.

* * *

Прыбылі незаўважна здалёк
Птушкі зноў грамадой мітуслівай,
Прамяняўшы на сціплы раёк
Свой містычны, загадкавы вырай.

* * *

Мне не хочацца ехаць назад
У апрыкры да моташы стронцый
Стуль, дзе цнотаю квецені сад
Асляпляе паўдзённае сонца.

* * *

Нас няма. Мы спачылі, сышлі
ў небыццё,
Гадаванцы бязлітасных зграяў.
Адзінота і змрок. Толькі ветру выццё
Набажэнствы па нас адпраўляе.

Безаглядна зрабіўшы з-за бруствера
крок,
Пад агнём пагарджалі хіліцца.
Набрынялых дымамі баёвых дарог,
Нас не выбіць з займаных пазіцый.

Нас не знойдзе паштар на адрэсах
жывых,
Без нас зладзяць сяброўкі вяселлі,
Праз бяссонныя ночы ў кватэрах
пустых
Нашы маткі заўчасна ссівелі.

Сёння ў нас, хто у землях абпаленых
спрах,
Гной на донцах вачніцаў чарнее,
На знявечаных, дужых калісьці грудзях
Чарвякі бестурботна тлусцеюць.

Нам, спазнаўшым прыўкрасы краінаў
чужых,
Малы скутак з жаўнерскага лёсу:
Папялішчы, нянавісць, дзірван
і крыжы —
Гэта ўсё, што для нас засталося…

* * *

Завітала такая ж самотная,
Стрэсла непагадзь з крылаў плашча,
Разагнала нікчэмныя клопаты,
Дакрануўшыся ледзь да пляча.

Покуль з ёй дапівалі «el clasico»
Бы шкаляр, пакрысе разумеў:
Зоркі ў небе — адбіткі абцасікаў,
Што на памяць пакінула мне.

Хто паслаў на зямлю нашу грэшную
Гэты вабны, гарэзлівы цуд?
Дзе шукаеце шчасця, няўцешныя,
Як яно ўсміхаецца тут?

І ў зіхценне вачэй прываротнае
Немагчыма мне не зазірнуць,
Каб ў яе пацалунках з пяшчотаю
Ды ў абдымках на час патануць.

А калі раніцой промні ленныя
Ў рэчаіснасць наводзяць масты,
Вышыванка яе на фатэлі мне
Размалёўвае восені стынь.

**ЛІСТАПАДАЎСКАЕ…**

Зноў цябе чакаю на сустрэчу,
Стан твой выглядаючы здаля,
Дзе лятарні прыцемак нявечаць,
Што спавіў прысады спакваля.

І да гэтай вечаровай стыні,
Быццам у смугу маіх відзеж,
Прыйдзеш ты аднойчы і абдымеш,
Усміхнешся, ў лета павядзеш.

Рушым у яго садоў альковы
Пад напеў жалейны жаўрукоў,
Ні пра што занятыя размовай
Паўз ушчэнт азызлых мінакоў.

А за тым, як безадмоўна восень
Нам запаліць проскуркаў агні,
Месяц будзе цікаваць зайздросна
Са сваёй апрыкрай вышыні.









*Ян ДАЛЁКІ*

# ГОДНЫ АДКАЗ



***Ян Далёкі (Максім Хітрыкаў) нарадзіўся 19 жніўня 1991 года ў Мінску. Вучыцца ў магістратуры на геаграфічным факультэце БДУ. У вольны час аддае перавагу пісанню, чытанню, шпацырам і паездкам па гістарычных мясцінах і цікавых аб'ектах прыроды.***

— Увогуле, тое, што вас чакае, магчыма апісаць парай тысяч слоў, — прамовіў Першы даследчык Хат Кай, прызначаны куратарам новай групы Д 712, заканчваючы сваё чатырохгадзіннае выступленне. — У каго-небудзь ёсць пытанні?

Сямёра маладых даследчыкаў, залічаных пасля ўніверсітэта, жэстамі паказалі, што пытанняў яны не маюць.

— Тады да сустрэчы праз тры тыдні на вашым першым заданні! — вымавіў Хат Кай.

Навукоўцы развіталіся са сваім куратарам і выйшлі з залы. Чацвёра з іх — Ян, Нерым, Дат і Кін — ішлі наперадзе і жвава размаўлялі, абмяркоўваючы новае месца працы і магчымае заданне для іх першай экспедыцыі. Але трое іншых — Іту, Юц і Нойм — крочылі моўчкі і няспешна, быццам знаходзіліся ў задуменні.

Хат Кай заўважыў гэта і паклікаў тых, хто адстаў, назад. Ян, Нерым, Кін і Дат паабяцалі сваім новым сябрам і калегам, што пачакаюць іх на выхадзе з корпуса. Тыя кіўнулі ў адказ і накіраваліся ў залу пасяджэнняў.

— Прабачце маю цікаўнасць, — сказаў Першы даследчык, зачыняючы за юнакамі дзверы, — але чаму вы такія самотныя, задуменныя? Залічэнне ў Інстытут, якое адбылося пасля доўгай вучобы ва ўніверсітэтах — павінна быць адным з самых радасных дзён у вашым жыцці!

— Спадар Хат Кай, мы разумеем гэта… — прамовіў Нойм.

— Прашу, не клічце мяне спадаром і не звяртайцеся на «вы», кажыце Хат Кай, ці проста Хат.

— Добра.

— Дык што за праблема?

— Да сённяшняга сходу, — пачаў Юц, — мы разы чатыры сустракаліся ўсёй групай, знаёміліся.

— А нядаўна мы трое, — працягнуў Нойм, паказваючы на сабе і сяброў, — даведаліся, што хутка пасля сустрэчы з табою, Хат, у нас адбудуцца сустрэчы выпускнікоў.

— І ў чым праблема? — са здзіўленнем спытаў Хат Кай. — Няўжо гэта робіць вас такімі самотнымі?

— Так, гэта і робіць… — уздыхнуў Іту. — Разумееш, мы, калі вучыліся, былі аб'ектамі насмешак і здзекаў для ўсіх, акрамя настаўнікаў. Я і Нойм — ва ўніверсітэтах, Юц — у школе.

— І прычынай для гэтага было тое, што мы не такія, як большасць, — сказаў Юц.

— Растлумачце, калі ласка, — папрасіў Хат Кай.

— Я з Велета, — пачаў Юц. — А сярод насельнікаў Зямлі склаўся стэрэатып пра велетыян як пра людзей з ваяўнічым характарам. Па праўдзе кажучы, так яно і ёсць, але я да большасці не адношуся…

— Гэта так, — умяшаўся Нойм, — Юц адразу падаўся ўсім спакойным і разважлівым, міралюбівым. Тое, што ён з Велета, здзівіла ўсіх.

— Вось так, — працягнуў Юц, — і праз гэтыя рысы характару з мяне як толькі не здзекаваліся ў школе… Нават цяпер узгадваць брыдка і страшна.

— І гэтак жа з намі, — сказаў Іту. — Я з К'ялну-імі, а яе жыхары славяцца нястрыманасцю і хітрасцю…

— Але такога сумленнага і ціхага яшчэ пашукаць трэба, — прамовіў Юц.

— У школе не так шмат звярталі на тое ўвагі, бо маладыя к'ялну-ім'яне звычайна больш сумленныя за дарослых, але ва ўніверсітэце, Цэнтральным Стэімскім, дзе я атрымліваў першую ступень вышэйшай адукацыі, гэта стала праблемай. Усе мае аднагрупнікі і аднакурснікі чакалі ад мяне паскудных учынкаў, а, заўважыўшы, што я на гэта не здольны, сталі чыніць іх мне, спаганяючы ўсю сваю злосць за ўсіх к'ялну-ім'ян-падманшчыкаў ды іншых гадаў…

— А я з Надвіі, — пачаў свой аповед Нойм. — І ўсім, напэўна, знаёмы стэрэатып «шалёнага надвіяніна». Лічыцца, што на маёй Радзіме ўсе павінны быць маньякамі. Сярод надвіян шмат выдатных спецыялістаў па фізіцы і біялогіі, але яны маньякі…

— Нават Дат і Кін прызналіся, што яны большыя маньякі, чым Нойм, — умяшаўся Іту.

— І праз гэта ў мяне, як і ў Іту, былі праблемы ва ўніверсітэце, толькі на першай ступені я вучыўся на Аанбары. Як толькі з мяне не смяяліся… Нават у пачатковай школе да мяне ставіліся куды больш абыякава!

— І цяпер, ведаючы, што хутка адбудуцца сустрэчы выпускнікоў, гэтая думка наводзіць такую самоту, што перакрывае радасць ад залічэння сюды… — падагульніў Юц.

Хат Кай, выслухаўшы траіх даследчыкаў, некаторы час стаяў у задуменні.

— Я супраць помсты, — пачаў ён, — але лічу, што ў тых выпадках, калі табе нешта робяць без нагоды, плаціць трэба тым жа. А тое, што ты нечым адрозніваешся ад іншых — не прычына. Таму вам трэба адплаціць сваім старым «сябрам» той жа манетай, якой яны «плацілі» вам.

Нойм, Іту і Юц з неразуменнем зірнулі на Хат Кая.

— Ведаеце, мне даводзілася сутыкацца з вашай праблемай… Я ўжо гаварыў, што такім стаў праз няўдалы эксперымент над самім сабой. Я землянін з падлёднай палярнай станцыі «Дняпро». Раней быў здыхлікам, слабым і замкнёным. З мяне здзекаваліся і ў школе, і ва ўніверсітэтах. Але мара паступіць на працу ў Інстытут, жаданне зрабіць самога сабе лепшым, прывялі мяне да эксперыментаў, вынік якіх вы бачыце самі…

Пасля майго пераўтварэння мінула сто дваццаць гадоў, і мае былыя аднакласнікі і аднагрупнікі арганізавалі сустрэчу выпускнікоў. Я, прызнаюся, быў вельмі здзіўлены, калі атрымаў запрашэнне.

А цяпер уявіце сабе твары маіх былых таварышаў, калі на сустрэчу выпускнікоў прыйшло ГЭТА (Хат Кай паказаў на сабе) і сказала, што ЯНО іх «стары сябра» Мірах Трывеж, паказала дзесяць дыпломаў дактароў навук і пасведчанне Першага даследчыка Інстытута Планеталогіі, пасля чаго за паўцэнтнера чыстага срэбра набыло дзве цыстэрны (кожная ў тону вагой) выдатнага бярозавіка і, развітаўшыся з усімі, панела іх на сабе.

Ад пачутага ў маладых даследчыкаў адвіслі сківіцы.

— Таму я дапамагу вам арганізаваць сустрэчы з былымі «таварышамі», — падагульніў Хат Кай.

Юц, Іту і Нойм, пачуўшы гэта, ускочылі:

— Што???

— Так, — пацвердзіў Хат Кай. — Я дапамагу вам. Калі вашыя аднагрупнікі і аднакласнікі жадалі пабачыць у вас прадстаўнікоў большасці — яны іх убачаць і атрымаюць нават болей, чым чакалі…

Трое даследчыкаў у адказ на пачутае толькі лыпалі вачыма.

— Нават не ведаю, што і рабіць, — прамовіў Юц, які першым змог вярнуць сабе здольнасць размаўляць, — здзіўляцца, дзякаваць ці што…

— Нічога не трэба, — перапыніў Хат Кай. — Я толькі хачу, каб яны атрымалі ўрок і зразумелі, што не ўсё павінна быць такім, як яны ўяўляюць.

— Іту, ты ведаў, што Стэім, планета на якой ты вучыўся, — першая калонія цывілізацыі адной з папярэдніх хваляў, якая стварыла на планеце цэласнае штучнае асяроддзе?

— Так, я ведаю. Сам бываў на руінах гарадоў той цывілізацыі. У адным з іх кантрольных пунктаў, які яшчэ знаходзіўся у працоўным стане.

— А ты ведаў, што ў сярэднім дзевяноста сем працэнтаў усіх комплексаў яшчэ працаздольныя і што адшуканы не ўсе пункты? Вядома, насельнікі стварылі сетку, але няшмат хто ведае сістэму, згодна з якой гэтая сетка будавалася. Так, яе базісам з'яўляліся роўнабаковыя трохкутнікі, але яны дзяліліся на чатыры групы па памерах, накладаліся адзін на адзін, і кожная больш дробная група трохкутнікаў размяшчалася пад вуглом у дваццаць градусаў да папярэдняй.

Іту, пачуўшы гэта, дастаў камп'ютар з кішэні, правёў разлікі і выгукнуў:

— Нічога сабе! Атрымліваецца, я ўсе дваццаць гадоў вучобы жыў побач з кантрольным пунктам!

— Значыць, задача спрашчаецца… — прамовіў Хат Кай. — Ты казаў, што твае аднакурснікі рабілі табе паскудствы і ганебствы. Што ж, з дапамогай пункта ты ім зможаш паказаць сапраўднага к'ялну-ім'яніна. А для таго, каб усё прайшло паспяхова, я табе дам два аднаразовыя тэлепарцёры ды кіберанійскі модуль магчымасцей…

Іту прысеў ад пачутага, а двое іншых даследчыкаў усклікнулі:

— Модуль магчымасцей?

— Так, я маю некалькі, — пацвердзіў Хат Кай.

— Дык ён жа пяцьсот дваццаць мільёнаў каштуе! Як два малыя зоркалёты!

— Ведаю, я маю грошы.

— Ясна…

— А што да цябе, Нойм, калі трэба паказаць сябе маньякам, то трэба ўсяго адна рэч, але знайсці яе куды цяжэй, чым нават модуль магчымасцей. Ды, на тваё шчасце, яна ў мяне ёсць. І завецца яна стыржнейскай настойкай.

Ад пачутага ў Нойма вочы сталі памерам з талерку.

— Яна выклікае парушэнні электраправоднасці нейронаў, а гэта стварае сапраўдныя дзівосы. Гэта настоечка выбівае ўсялякую здольнасць разважаць цвяроза

і паводзіць сабе прыстойна, але разам з тым падымае ўзровень інтэлекту і надае невымерную фізічную моц. Вежу знясеш — і не заўважыш! На суткі станеш сапраўдным маньякам, якія толькі нараджаліся на Надвіі і ўсёй Галактыцы Віра.

А астатняе, Нойм, ты зробіш ужо сам…

Юц падняў палец, быццам збіраўся нешта сказаць, але Хат Кай апярэдзіў яго.

— А табе, Юц, я дам «Набор Джэгернаўта»…

Юц здзівіўся.

— Ведаю, — працягваў Хат Кай, — ужыванне «Набору» абмежавана, але не на Велеце. Цябе з ім прапусцяць на родную планету. А перад тым, як аддаць яго табе, я павядзьмару над ім крышку — для большага эфекту…

Іту, Нойм і Юц не ведалі, што і гаварыць.

— Дзякуй! — радасна прамовілі яны.

— А вось гэтага не трэба! — сказаў той і спыніў даследчыкаў. — Я толькі хачу, каб вы адказалі сваім былым «таварышам». Зладзьце ім такое, каб яны не забылі гэтага ніколі. Дайце ім годны адказ за ўсё!

Юнакі ўсміхнуліся, развіталіся з Хат Каем і выйшлі з залы. Цяпер яны змогуць спакойна пагутарыць са сваімі новымі сябрамі, бо праблема сустрэч выпускнікоў іх больш не турбавала.

## ЮЦ

Велізарны пасажырскі зоркалёт развярнуўся, каб ушчыміцца ў адведзены для яго ўчастак пляцоўкі, выпусціў апоры і няўдала плюхнуўся на касмадром. Усіх пасажыраў страсянула, яны вылаяліся, але хутка сціхлі: чаго чакаць ад эканом-класа трэцяй ступені і карабля, які працуе пяць тысячагоддзяў. Праз хвіліну ці каля таго рухавікі спынілі. Пасажыры падняліся, гужам рушылі да выхада. Там яны атрымалі паклажу і накіраваліся прэч з зоркалёта. Звонку ўсе разбегліся хто куды, шукаючы калідоры з меншай чаргой, не звяртаючы ўвагу на робатаў, што мітусіліся па наваколлі, і дробны раздражняльны дождж.

На выхадзе з карабля затрымаўся толькі адзін пасажыр — Юц Аўраніс, цяпер ужо супрацоўнік Даследчага Інстытута Планеталогіі Аб'яднання, які спыніў хаду, каб зірнуць на табло тэрмінала. Яно абвяшчала: «Вітаем на Велеце! Вітаем у горадзе Кшэйціс! Адчувайце сабе як дома!» «Хай я і нарадзіўся тут, — падумаў Юц, — але ці дом гэта для мяне цяпер? Што ж, убачым…»

Чарга рухалася няспешна, і вось пасля гадзіны часу і сарака чалавек Юц наблізіўся да будкі кантролю, паклаў скрыні ў адзін прыбор для сканавання, а сам стаў у другі. Праз некалькі секунд прасвечвання заверашчаў сігнал.

— З вамі ўсё ў парадку, але з вашым багажом… — пачаў робат-аператар.

— Ведаю, ведаю. «Набор Джэгернаўта», — перапыніў яго Юц.

— Вы разумееце, што прывезлі? — спытаў робат.

— Разумею, і да таго ж ведаю, што сюды, на Велет, яго можна законна прывозіць пры наяўнасці суправаджальнага ліста. Пункт 126 Мытнага кодэкса Велета!

— Добра. Тады прад'явіце ліст!

— Вось ён і астатнія дакументы, — прамовіў Юц.

Робат прыняў дакументы і спытаў:

— Навошта вам гэтая рэч?

— З нядаўняга часу я захапіўся гісторыяй барацьбы з джурамі і пачаў збіраць прадметы, якія маюць да яе дачыненне. Гэты набор — найкаштоўнейшы ў маёй калекцыі! Я адваліў за яго шэсцьсот пяцьдзясят тысяч мер!

— Хвіліну… Ён жа мадыфікаваны!

— Так, мадыфікаваны. Спецыяльнае ўдасканаленне для барацьбы з джурскім «армаваным дэсантам»!

— Што ж… Відаць, вы кажаце праўду. З правіламі карыстання азнаёмлены?

— Толькі іх у палёце і чытаў.

— Тады ўсё добра. Пачакайце…

Прайшло некалькі хвілін афармлення, пасля робат вярнуў Юцу дакументы і дазволіў забраць багаж. Хлопец накіраваўся да стаянкі таксі.

Спачатку даследчык вырашыў пабачыць родных. Упершыню за тры гады Юц спыніўся перад варотамі роднай хаты. Дзверы хутка адчыніліся, і на ганак выйшлі бацькі. Даследчык усміхнуўся і абняў іх.

На вуліцы марасіў дождж, таму яны ўвайшлі ў хату. Пасля вітання бацькі амаль адразу ж павялі сына ў сталовую, доўга гутарылі, бо за тры гады адбылося шмат падзей.

Але а шостай гадзіне Юц з засмучэннем паведаміў, што яго чакаюць справы, таму ён павінен ісці.

Хлопец накіраваўся да сваёй хаты. Ягоны дом, які ён называў «пячорай», стаяў на процілеглым баку горада, ля самай мяжы. За тры гады адсутнасці гаспадара, дом сапраўды стаў падобны да пячоры, але гэта было папраўна. Адаслаўшы таксі, Юц узяўся за навядзенне парадку. Пара гадзін працы — і ўсё было як перад адбыццём. Засталася толькі адно — падрыхтавацца да заўтрашняй падзеі.

Сустрэча выпускнікоў адначасова напружвала і палохала Юца. Ісці, каб пабачыць тых, хто цябе ганьбіў усе гады навучання. На такое наўрад ці хто пагадзіўся б.

Суткі перад мерапрыемствам Юц правёў у падрыхтоўцы: запуск прылады, ін’екцыя, хаванне актыватара, адпачынак, крыху медытацыі, адпрацоўка магчымых размоў.

Пераапрануўшыся, Юц выклікаў таксі і накіраваўся да Гарадскога фестывальнага комплексу, у якім і прызначалася правядзенне сустрэчы.

Велічны будынак, некалі культурны цэнтр усяго наваколля, сёння паступова страчваў свой статус, таму адміністрацыя і пайшла на пашырэнне паслуг. Арэнда памяшканняў для правядзення цырымоній і мерапрыемстваў была адной з самых папулярных. Юц зглытнуў камяк у горле і рушыў у сярэдзіну. Дзверы адчыніліся, і даследчык патрапіў на ажыўленае свята.

Ён не паспеў агледзецца, як да яго падышлі.

— О! Каго мы бачым! Юц Аўраніс! Колькі год мінула, а ты не змяніўся! — выклікнуў хлопец магутнага целаскладу, самы заўважны з кампаніі.

— І табе прывітанне, Мейз Тоніс! — прамовіў Юц, — Вец, Ала, Мары, Страг, рады вас бачыць.

— Вітаем, вітаем, — адказалі былыя аднакласнікі.

— Цябе вельмі даўно не было, — сказаў Страг. — Шукаў, дзе атрымаць вышэйшую ступень?

— Вы ж ведаеце, якая гэта праблема знайсці адносна танны ўнівер! — адказаў Юц.

— Знайшоў?

— Знайшоў вельмі далёка адсюль. Як і працу.

— Ты цяпер рэдкі госць на роднай планеце? — спытала Ала.

— На жаль, так.

— Слухайце, чаго мы стаім тут? — запытаўся Вец. — Давайце далучымся да астатніх!

Да здзіўлення Юца, які за час вучобы стаў яшчэ больш атыпічным велетыянінам, былыя аднакласнікі сустрэлі яго на дзіва спакойна, відаць, сталенне сапраўды мяняе кожнага.

— Прабачце, але з вамі я магу правесці толькі гэты вечар! — адказаў Юц, пачуўшы, што сустрэча будзе расцягнута на тры дні. — Праца не дазваляе!

— А кім ты ўладкаваўся? — пацікавілася Мары.

— У Інстытут Планеталогіі, даследчыкам у перадавую групу, — адказаў Юц.

Некалькі чалавек папярхнуліся напоямі.

— Ты? У Інстытут? — здзівіліся прысутныя.

— Там жа трэба дзве вышэйшыя ступені! Адна стандартная, другая — іхняга ўнівера!

— Так. Сорак год вучобы. І вы яшчэ забылі пра жорсткую падрыхтоўку, — адказваў Юц. — Таму вопыт працы ў мяне — усяго пара месяцаў!

— Ты да гэтага заўсёды быў схільны, — сказалі некаторыя.

— А куды канкрэтна ты ўладкаваўся? — пацікавіўся адзін з былых аднакласнікаў даследчыка, Тал.

— Аддзел даследвання незвычайных з’яў.

— І чым там займаюцца? — запыталіся дзяўчаты.

— Напрыклад, вы вырашылі пачаць засвойваць планету, зрабілі на ёй лагер ля яе ўзбярэжжа. Планета не мае месяцаў, іншыя касмічныя целы ад яе далёка. Вы леглі спаць, а ноччу падняўся прыліў метраў дваццаць вышынёй. І пакінуў вас без лагера. Ці, напрыклад, штосьці ці нехта разламаў вашыя склады, хаця ў паселішчы вы былі адны, а самі склады былі пад аховай шматслойнага поля. Вось такія задачы, для якіх звыклае тлумачэнне адсутнічае, мы і вырашаем.

— Цікава…

— Згодны.

— А на заданні ты ўжо адпраўляўся? — спыталі Вец і Мейз.

— Пакуль што было толькі адно. Планета Ксіжжэйхээн-Тграцці. Новая калонія. Прыкметна прыгожымі аблокамі ля вяршынь гор. Там была праблема з дахамі для дамоў каланістаў — яны знікалі! Гэта планета тыпу «Каўміэн», але на ёй адсутнічалі мінералы кгалсціваірытавай групы, якія звычайна і выкарыстоўваюцца для вырабу дахавых матэрыялаў. Дакладней, яны ёсць, але залягаюць вельмі глыбока. Мы прыбылі, пачалі вывучаць. І апынулася, што дахі дамоў «з’ядалі» тыя вясёлкавыя аблокі! Яны — гэта скапленне мікробаў, якія жывіліся кгалсціваірытамі. Таму на планеце іх і не мелася. Гэтыя мікробы «драмалі» ўвесь час, пакуль не прыйшлі каланісты. А калі прыйшлі, сталі драмаць толькі днём, а ноччу ласавацца. Давялося каланістам ужываць менш якасныя матэрыялы…

— Ух ты… Сапраўды, ты знашоў добрую працу! — прамовілі некаторыя.

— За выключэннем таго, што на гэтай працы ты можаш пазбавіцца галавы, то так, — адказаў Юц.

— А колькі плацяць? — з усмешкай запытаў Мейз.

— У нашым аддзеле аплата па экспедыцыях. У залежнасці ад задання — ад трыццаці да двухсот тысяч мер.

На гэты раз папярхнулася большасць.

— Колькі? — перапыталі ўсе разам.

— Ад трыццаці да двухсот тысяч мер, — паўтарыў Юц.

— Гэта значыць… — пачалі некаторыя.

— Ёсць магчымасць атрымаць да палутара-двух мільёнаў мер за год.

— Э…

— А цяпер прабачце, мне трэба аблегчыць сваю жаласную долю, — нечакана прамовіў Юц і накіраваўся ў калідор з прыбіральнямі.

Праз некаторы час адтуль пачуўся яго гучны крык.

— Што значыць «яшчэ пачакай»? Ты там ужо цэлы галактычны год сядзіш! Выходзь! Нічога талковага з цябе ўсё роўна не выйдзе, а ў мяне гідраўдар можа здарыцца! А прыбіраць давядзецца табе!

А пакуль Юц адсутнічаў, яго былыя аднакласнікі, раззлаваныя тым фактам, што Аўраніс, гэтая нікчэмнасць, цяпер зарабляе больш за іх усіх, успомнілі мінулае і вырашылі насаліць таварышу. Але цяпер яны былі дарослымі людзьмі, да біцця апускацца не стануць — яны прыдумаюць нешта больш эфектыўнае і зневажальнае…

Хутка вярнуўся Юц.

— Добрае выступленне! — пахвалілі некаторыя хлопцы ягоны маналог ля прыбіральні.

— Уплыў нашага куратара, — адказаў Юц. — Вельмі каларытны персанаж! Любімы яго выраз: «Я цынік, троль і мізаіснанамен[1], і гэта добра!» Не здзіўляйцеся. А, дарэчы, што ўсё пра мяне гамонім, хацелася б паслухаць і пра вас.

Таварышы Юца сціпла адказалі даследчыку. Аказалася, што ўсе аднакласнікі працавалі ў сферы абслугоўвання: салдатамі ды службоўцамі Гвардыі Велета, тэхнікамі, эканамістамі і юрыстамі. Толькі Тал быў выключэннем — геолаг-пашукавік. Сям'я была ў адзінак. Большасці хацелася пабыць вольнымі як мага даўжэй.

— Што ж, — прамовіў Юц, пачуўшы адказы, — памятаючы вас падчас школы, чамусьці я не здзіўлены. Давайце весяліцца!

Пачалася вечарынка.

Неўзабаве да кампаніі паднеслі яшчэ адну, пазачарговую, порцыю напояў. Народ здзівіўся, асабліва Юц, але прынялі дарунак. Аднакласнікі прапанавалі таварышу адзін з самых дарагіх кактэйляў. Юц зірнуў на сваіх таварышаў, але ўзяў напой.

Такі жэст увагі адразу выклікаў у даследчыка падазронасць. Бо яго аднакласнікі папрасілі павароў намяшаць невядомай гадасці, каб таго, хто яе вып'е, званітавала, а неўзабаве б ён зваліўся без пачуццяў. Юц, які пасля адказаў сваіх таварышаў даведаўся, што нават Ала, Вец і Мейз, тыя, хто сталі начальнікамі і атрымалі стаж у пятнаццаць год, зарабляюць за год максімум мільён дзвесце, адразу раскусіў «хітры план» і падрыхтаваўся да дзеяння.

Незаўважна для астатніх ён крануўся актыватара нанітаў, а затым выпіў кактэйль. Аднакласнікі з усмешкай і хітрым прыжмурваннем глядзелі на яго, Юц усміхнуўся ў адказ, і…

Раптам яго ўсяго пакарабачыла. Ён скрывіўся, ускрыкнуў і зваліўся на падлогу, дзе яго пачало выгінаць яшчэ мацней. Таварышы даследчыка, напалоханыя такой нечаканай рэакцыяй, не маглі зрушыцца. Юц курчыўся і крычаў ад болю — яго пазваночнік з гучным трэскам выгнула дугой, суставы пачалі выгінацца ў розныя бакі. Пасля некалькіх секунд агоніі ён рэзка тузануўся і застыў у жудаснай позе, толькі час ад часу лёгка ўздрыгваў. А затым пачалося самае страшнае — усё цела Юца пачало набухаць. З гучным трэскам, бурчаннем кожная частка арганізма стала расці. За паўхвіліны звычайны чалавек ператварыўся ў шафу велічынёй у тры з паловай метры і шырынёю ў паўтара.

Напалоханыя госці адступілі назад, але толькі яны зрабілі першыя крокі, як Юц прыйшоў у сябе. Ён падняўся і павярнуўся да сваіх былых аднакласнікаў.

[1] Мізаіснанамен (*грэч.*) — той, хто ненавідзіць усіх разумных істот без выключэння.

— Вы хацелі бачыць мяне такім жа, як і вы, — прароў ён. — Што ж, атрымлівайце палепшаную версію!

І з рыкам кінуўся да таварышаў. Тыя разбегліся хто куды, але пакінуць будынак не паспелі, бо Юц шпурнуў крэсла ў блок датчыкаў назірання, разбіў яго ўшчэнт, ад гэтага заклініла апрацоўчы цэнтр, і зачыніліся ўсе выхады з будынка.

Госці фестывальнага комплексу апынулася ў бязвыхадным становішчы, але не ўсе, бо некаторыя багацеі мелі персанальныя тэлепарцёры, дзякуючы ім пашчасціла сысці, а вось тыя, хто тэлепарцёраў не меў, трапілі ў пастку.

Юц не надаў аніякага значэння змяншэнню колькасці людзей. Трэба скарыстацца тым, што ёсць. І ён пачаў ганяцца за былымі школьнымі таварышамі.

Спачатку ён схапіў чацвярых бугаёў з паралельнага класа, якія рэгулярна выкарыстоўвалі яго як баксёрскую грушу. Яны ўжо трыццаць пяць год працавалі ахоўнікамі, але патрэбнай хуткасці рэакцыі так і не набылі. Таму Юцу было няцяжка падхапіць іх усіх за імгненне і заціснуць у падпашшы. Трымаючы крыўдзіцеляў, даследчык (лепей з гэтага моманту ўжываць слова «джэгернаўт») падышоў да аднаго са сталоў і сцягнуў абрус даўжынёй пад пяцьдзясят метраў. Шматлікія стравы вывернуліся на падлогу. Закруціў крыўдзіцеляў у абрус і зрабіў з іх рулет. Для надзейнасці закінуў іх на люстру.

Затым ён пачаў ганяцца за астатнімі. Неўзабаве перад джэгернаўтам сабралася значная група людзей. Але вось што цікава: некаторым Юц дазваляў адскочыць убок, збегчы, а некаторых спецыяльна ўтрымліваў сярод натоўпу, які бесперапынна гарлапаніў. Праз пару хвілін адбор групы быў скончаны і Юц заціснуў іх у прадуктовую каморку на кухні.

Уцекачы разбегліся па кутках і падрыхтаваліся сустрэць прабацькоў, але джэгернаўт нечакана спыніўся на ўваходзе ў каморку. На тварах адбілася здзіўленне і неразуменне. Юц, не звяртаючы на гэта ўвагі, правёў поглядам па памяшканні, нібыта пералічваючы ўсіх, а затым перакруціў замок на дзвярах, адбіў ручкі і зачыніў дзверы. Пасля разбурыў адну са сцен і пагнуў усе трубы, што вялі да каморкі: вентыляцыю, вадаправод, каналізацыю… Цяпер па ім нават дзіця пралезці не змагло б. Пры гэтым Юц захаваў магчымасць доступу да камунікацый — каб усе запёртыя маглі правесці ў каморцы час з найменшымі пазбаўленнямі. Для іх гэта гучала б добра, калі б не адно «але»: на кухні фестывальнага комплексу прадуктовыя каморкі былі спецыялізаваныя, а Юц загнаў крыўдзіцеляў у тую, у якой захоўваліся кукуруза і бабовыя.

Затым джэгернаўт з рыкам вярнуўся ў залу, прабіў сцяну і панёсся буяніць па горадзе, пакінуўшы людзей у фестывальным комплексе ў глыбокім здзіўленні.

Надышла чарга тых, хто тэлепартаваўся з месца здарэння. Юц не хваляваўся ці здолее знайсці ўцекачоў. Гэта Велет, а тут з першых дзён чалавеку пачынаюць прышчапляць прынцыпы яго народа. Галоўны з іх — велетыянін можа адступіць, але ніколі не ўцячэ. Хаця фестывальны комплекс і пакінула шмат народу, планету яны не кінуць ніколі. Таму Юц зможа ажыццявіць свой план. Патрэбен усяго толькі час на тое, каб знайсці ўцекачоў.

Неўзабаве ён знайшоў месца, куды тэлепартавалася адна з груп уцекачоў — вялікае памесце на ўскраіне горада. Гэта быў дом Алы. Сярод групы знаходзіліся адны дзяўчаты, таму Юц вырашыў дзейнічаць далікатна.

Напалоханыя і здзіўленыя, яны гучна гаварылі пра тое, што здарылася ў фестывальным комплексе. Раптам праз адну са сцен гасцінай прабіўся Юц. Дзяўчаты ўскрыкнулі і выхапілі прылады самаабароны ды адкрылі шквальны агонь. За хвіліну страляніны, пакуль не скончылася энергія, яны зрашэцілі Юца і тую частку гасці-

най, што знаходзілася за ім. Але джэгернаўт, ледзь не ператвораны ў фарш, застаўся стаяць на нагах. Больш за тое, ён атросся, прачысціў горла, сплюнуўшы некалькі зубоў, і прамовіў:

— Дамы, навошта вы так? Я не збіраўся чыніць вам шкоды. Я проста хацеў адчыніць вам свой унутраны свет і прапанаваць сэрца!

Затым Юц зрабіў тое, пра што казаў. Літаральна.

Хаця велетыянкі і праходзілі шмат курсаў па аказанні медыцынскай дапамогі, шмат чаго бачылі, але відовішча, калі Юц сваімі ж рукамі ўскрыў сабе грудзіну, а потым дастаў сэрца, якое яшчэ білася, і на выцягнутай руцэ «прапанаваў» яго… Велетыянкі зваліліся долу.

Мэта была дасягнута. Юц уздыхнуў з палёгкай, пачакаў, пакуль аднаўлялася цела, пасля чаго, спустошыўшы лядоўню, рушыў далей.

Недзе праз паўгадзіны ён знайшоў другую групу ўцекачоў. Яны замацаваліся ў офісным цэнтры на процілеглай ускраіне горада. За невялікі час у іх атрымалася ператварыць будынак у крэпасць (варта адначыць, што гэта было не складана: ва ўсіх будынках на Велеце мелася ўсё неабходнае абсталяванне). Уся прастора вакол асвятлялася моцнымі ліхтарамі, «салдаты» форта напружана чакалі, калі ж з'явіцца вораг. Здавалася, яны былі гатовыя даць адпор любому, але да таго, што сапраўды адбылося, не былі падрыхтаваны.

Адбылося наступнае. Вартаўнікі меркавалі, што ашалелы джэгернаўт будзе несціся, як цягнік па зямлі. А той раптоўна выскачыў з цемры недзе на ўзроўні дванаццатага паверха і, рассякаючы паветра, прызямліўся перад уваходам у будынак, і хутка ўварваўся ўнутр. Вартаўнікі не паспелі актывізаваць унутраную ізаляцыю, запусціць абаронную сістэму. Пакуль яны былі ў стане шоку, Юц выламаў з металічнай апоры вялікі шмат металу і запусціў яго ў камп'ютарны цэнтр будынка. Сістэма адмовіла і выбухнула. У выніку ўсіх замуравала ўнутры — на гэты раз па-сапраўднаму, бо разам з усімі засланкамі падняліся абаронныя шчыты, у тым ліку і супраць-тэлепартацыйныя (вялікае вынаходніцтва нешматлікіх велетыянскіх вучоных, пра якое некалькі год таму гаманіла ўсё Аб'яднанне). Юц пачаў вышукванне. Тых, хто не быў з ім у адным класе, разагнаў па каморах, невялікіх цёмных памяшканнях, дзе і зачыніў. Аднакласнікаў загнаў у атрыўм будынка, дзе злавіў і пачаў імі жангліраваць. Неўзабаве, калі ў тых не засталося нічога ў страўніках, адпусціў, пасля чаго рушыў да наступнай групы. Яна складалася пераважна са службоўцаў Гвардыі Велета, і была добра ўзброена. Юц, ведаючы пра гэта, вырашыў трапіць унутр на вялікай хуткасці. Але яму гэта не ўдалося, і ён быў вымушаны рэціравацца, пакуль яго не зрашэцілі. Гэта прымусіла даследчыка змяніць тактыку: ён узяў з бліжэйшага склада пліту нікагатаніта (надзвычай трывалага мінерала), каб адбіваць стрэлы, і рушыў з ёй да казармы. На гэты раз ён амаль дайшоў да цэнтральнага ўвахода, але шквальны агонь разбіў пліту, і джэгернаўт зноў быў вымушаны ўцячы, атрымаўшы падчас сыходу некалькі энергаразрадаў у спіну. Выкарыстанне пліты палепшыла вынік, але мэта дасягнута не была, таму Юц падкарэкціраваў план дзеянняў. На гэты раз ён узяў у якасці шчыта вялікі грузавік з металічнымі дэталямі, і рушыў на казарму. На гэты раз ён дасягнуў яе без цяжкасцей. З галоўнага ўвахода без перадыху стралялі, таму Юц вымушаны быў пранікаць унутр іншым шляхам — праз акно. Палічыўшы, што некалькі секунд стрэлаў яму не пашкодзяць, ён адкінуў грузавік, але толькі пачаў караскацца па сцяне, яго зноў адкінулі (дакладней, ён адляцеў ад казармы на процілеглы канец горада на ракетным снарадзе, які пусцілі ў яго).

Апрытомнеўшы на дне варонкі, Юц раззлаваўся, вылез з ямы і, гыркаючы, накіраваўся да казармы. Але па дарозе ён зазірнуў у Гарадскі фестывальны

комплекс. Там ён напужаў да страты прытомнасці відавочцаў і, галоўнае, паліцэйскіх. Напалохаць вартавых парадку было неабходна, бо яны мелі персанальныя генератары абарончых палёў. Толькі з іх дапамогай можна дакладна пераадолець лівень энергаразрадаў і патрапіць унутр казармы. Таму Юц зняў з абамлелых паліцэйскіх некалькі прылад, змайстраваў з іх адну, актывізаваў і накіраваўся да аддзялення Гвардыі. Неўзабаве ён зноў быў ля казармы. Вайскоўцы адкрылі па ім агонь, але на гэты раз даследчык быў надзейна абаронены. За той час, пакуль ён ішоў, гвардзейцы сцягнулі ўсе сілы і сродкі бою ў цэнтральны хол. І калі ён увайшоў унутр, на яго суцэльным струменем абрынуліся энергаразрады. Такая страляніна выклікала абурэнні ў абарончым полі, але джэгернаўту значнай шкоды нанесці не магла. Юц спыніўся і вырашыў даць вайскоўцам магчымасць цалкам разрадзіць свае гарматы. Але ажыццявіць задуму не атрымалася: генератар абарончага поля паведаміў, што запасы энергіі на зыходзе. Надышоў час дзейнічаць, і Юц пачаў прасоўвацца. Пакуль ахоўная сістэма не адключылася канчаткова, джэгернаўт змог паламаць галоўныя гарматы і гарматы сярэдняга звяна, стварыўшы сабе прастору для бяспечнай дзейнасці. Адзінай зброяй, якой хлапец валодаў на той час, быў ён сам, таму адразу перайшоў да рукапашнай. Гвардзейцы, працягваючы паліць, пачалі адступаць, а іх колькасць паступова скарачалася: Юц адпраўляў салдат у накаўт аднаго за адным. Джэгернаўт можа адным ударам кулака знесці апорную калону хмарачоса. Таму Юц біўся з гвардзейцамі пстрычкамі, чаго было больш чым дастаткова. Варта сказаць, што адзін напампаваны нанітамі джэгернаўт замяняе полк, а калі ён раз'юшаны — то і цэлы батальён. У казарме на той момант людзей было не больш, чым дзве невялікія роты. Джэгернаўт накіраваўся ў спальныя блокі, набраў падушак і стаў імі кідацца: а нават самая мяккая падушка, кінутая джэгернаўтам, набывае моц снарада, таму зразумела, што яны адпраўлялі байцоў Гвардыі ў накаўт лепей за пстрычкі. Праз тры хвіліны ўсе гвардзейцы былі ў адключцы, а некаторыя з іх пасапвалі на тых самых падушках. Адквітаўшыся з гэтай групай, Юц рушыў да чарговай.

Яе «ядром» стаў Вец. Ад далёкіх продкаў яму дастаўся ў спадчыну ўмацаваны бункер. Уцекачы схаваліся ў ім. Юц спыніўся, пачухаў патыліцу і, калі ідэі прыйшлі, усміхнуўся і падрыхтаваўся да нападу. Спачатку ён закідаў каменнем цэнтральны ўваход у бункер, чым сапсаваў усе прылады назірання і гарматы. Затым расчысціў дарогу і цяжкія металічныя дзверы, якія вялі ўглыб. Гэтымі дзвярыма ён потым прыкрываўся як шчытом, калі прасоўваўся далей. Зона гармат была пройдзена хутка, усе былі разбіты ці выдраны са сцен, але дзверы-шчыты былі знішчаныя дарэшты. Следам ішла зона перашкоджанняў. Юц прайшоў яе хутка, як і належыць сапраўднаму джэгернаўту — не спыняючыся ні перад чым: ні перад рухомым лабірытнам, у якім можна расціснуць танк, камерамі холаду і спякоты, сцяной маланак, камерамі падманных гіперпраекцый. Пасля ён выйшаў да блокаў, дзе размяшчаліся людзі. Іх было два: «знешні» — адносна не вялікі, які выконваў ролю пярэдняга пакоя, і «ўнутраны», у ім было ўладкавана асноўнае месцазнаходжанне народу. Сярод «групы Веца» апынулася некалькі вайскоўцаў, яны пажадалі сустрэць джэгернаўта ў «знешнім» блоку са зброяй у руках. Вец іх просьбу выканаў, але сам ісці не адважыўся. Разам з астатнімі пачаў майстраваць пасткі перад уваходамі ў блокі.

Юц падышоў да ўвахода ў «знешні» блок і магутным ударам выбіў дзверы. Яны праляцелі скрозь першы пакой і палову суседняга, знічшыўся большасць пастак. Вартаўнікі, убачыўшы гэта, здзівіліся, ашалелі і пачалі страляць па ворагу. Але зброя, якая мелася ў Веца, была не той, што мелі гвардзейцы, таму джэгернаўту гэта не рабіла перашкоды, і ён пачаў забаўляцца: лупцаваць і мутузіць вартаўнікоў. Хутка высветлілася, што сцены бункера, нягледзячы на трываласць, выдатна

прапускалі гукі, таму Юц вырашыў скарыстацца гэтым для запалохання тых, хто быў у пакоях. У выніку, людзі чулі дзікія крыкі і лямант, нібыта з камер катавання, палохаліся, пачыналі панікаваць і станавіліся непрыдатнымі для супраціву, спрашчаючы джэгернаўту задачу. Тут варта сказаць, што Юц дасягаў эфекту самымі звычайнымі «балявымі прыёмамі сярэдняй школы»: выцягваннем трусоў з портак, прыкладаннем ручніка ці іншага шмата тканіны да спіны, вырываннем валасоў з носа і гэтак далей. Але прыёмы былі крыху ўзмоцненыя здольнасцямі джэгернаўта, пасля чаго ён дзеля надзейнасці пстрычкай адпраўляў чалавека ў накаўт. Але і гэта мела каласальны эфект, бо калі Юц увайшоў ва «ўнутраны» блок, то знайшоў нерухомыя целы тых, хто быў там. Вец і кампанія напалохаліся настолькі, што знепрытомнелі. Юц раззлаваўся: гэтыя нядобрыя людзі пазбавілі яго магчымасці пазабавіцца! Уздыхнуўшы, даследчык рушыў на паверхню, прыхапіўшы з сабою адну з лядоўняў, каб падласавацца па дарозе.

Наступная група была апошняй і самай сур'ёзнай. У яе ўваходзілі Мейз, Мары, Страг і кампанія, што змясціліся ў асабняку Мейза. Яны не мелі баявых сродкаў, як гвардзейцы, і такой абароны, як у Веца, але падрыхтаваліся да «сустрэчы» лепш за ўсіх. Юц атрымаў нават болей, чым пры штурме казармы. Джэгернаўт увайшоў у асабняк, не сустрэўшы перашкод, але як толькі ён пераступіў парог, усё змянілася: Мейз, Мары, Страг і кампанія нашпігавалі асабняк пасткамі — нельга было прайсці і дзесяці метраў, каб не напароцца на штонебудзь. За тыя паўтары гадзіны, што Юцц правёў у будынку, вышукваючы ўцекачоў, ён раз дваццаць правальваўся ў калодзежы і вентыляцыйныя шахты: прыкладна столькі ж разоў яго катапультавала з дома ў сад, які зарос калючымі кустамі; разоў трыццаць ён трапляў пад абстрэл, разоў сорак яго біла токам, а колькі разоў яго спрабавалі аглушыць — падліку не паддаецца. Пры штурме дома ён зноў палятаў на ракеце, прычым тройчы. Але кожны раз вяртаўся. Багацце пастак раззлавала Юца, таму з салдатамі гэтай цытадэлі ён паступаў больш жорстка, чым з папярэднімі: калі джэгернаўту трапляўся хто-небудзь у момант, калі яго біла токам, выпадковы відавочца быў наступнай ахвярай электрашоку; шэраг небарак Юц выкарыстаў як анучы, працёршы імі ў месцах, дзе пыл маглі не праціраць гадамі; шэраг закінуў у калючыя кусты; трэці шэраг ахвяр стаў прыладамі для жангліравання. А з адной невялікай групы Юцу вогуле зрабіў набор для гульні ў гарадкі. Але гэта быў толькі першы этап, на другой стадыі ён заварочваў усіх у коканы з падручных матэрыялаў і клаў атрыманыя пакункі з былымі таварышамі ў цяжкадаступныя месцы.

Але з цягам часу высветлілася: запас трываласці джэгернаўта быў большым за колькасць пастак. Урэшце засталіся неўпакаванымі толькі Мейз, Мары і Страг, а з усяго, што магло дапамагчы супраць раззлаванага Юца, толькі адна электрамагнітная бомба і адна ракета. Даследчык хутка знайшоў іх і ўжо быў гатовы накінуцца на крыўдзіцеляў, як Мейз выпусціў у ягоны бок ракету. Снарад упёрся джэгернаўту ў жывот і вынес яго на вуліцу. Страг, Мары і Мейз выйгралі, атрымалі некаторы час і схаваліся ў патаемным месцы, глыбокі склеп убаку ад асабняка, каб абмеркаваць далейшыя дзеянні: засталася толькі адна бомба, але ўзлятаць у паветра разам з ёй не вельмі хацелася.

— Бомба можа быць адзіным нашым шанцам! — крычаў Мейз. — Мы пераспрабавалі ўсё, што мелася, і нічога не дамагліся! Гэта апошняе і самае магутнае, што ў мяне засталося. Ці бомба, ці згуба!

— Я не хачу знаходзіцца бліжэй чым за кудг ад гэтай штукі ў той час, калі яна ірване! — крычала Мары.

— Я таксама не хачу гэтага! — дадаваў Страг. — Мы мусім прыдумаць іншы шлях!

— І што ты прапаноўваеш? — злаваўся Мейз.

— Я не ведаю! Але мы не павінны быць у момант выбуху побач з гэтай пачварай?

— Можа, яго загнаць у шахту? — прамовіла Мары.

— Хутчэй ён нас туды загоніць! — адказаў Мейз.

— Пачакай, гэта правільны кірунак! — сказаў Страг.

— У сэнсе?

— Калі мы і загонім пачвару ў шахту, яна выскачыць адтуль хутчэй, чым мы кінем бомбу, але можна аглушыць яго. Вы памятаеце, гэта спрацавала. У нас будзе час на тое, каб сысці з бункера!

— Значыць, аглушыць, а потым падарваць?

— Так!

— Давайце!

І ў гэты момант, прабіўшы сцяну, у бункер уварваўся Юц і прамовіў:

— Я не згодны! — і кінуўся на былых таварышаў.

Джэгернаўт без цяжкасцей схапіў Страга і раўнуў на яго ва ўвесь голас. Дзікі рык здзьмуў усю фарбу з валасоў хлопца, паказаўшы напалоханым сябрам сівізну, якая была ў яго ўжо некалькі год, і прымусіў яго змякнуць. Мары таксама знепрытомнела, але з-за паху марынаванага часнаку. Джэгернаўт акуратна зрабіў з іх рулеты і схаваў у бліжэйшых кустах на паверхні. Потым ён вярнуўся за апошнім уцекачом — Мейзам. Той схаваўся ў патаемны бункер. Мейз больш за ўсіх здзекаваўся з Юца ў школе, таму для яго было прызапашана самае суровае: джэгернаўт падышоў да цяжкіх дзвярэй, прыхінуўся да іх ніжняй часткай спіны, паднатужыўся і… Дзверы прагнуліся і неўзабаве іх выбіла. А само памяшканне запоўнілася смуродам, ад якога Мейз знепрытомнеў у тое ж імгненне. Рабіць з яго рулет не стаў, пакінуў былога таварыша ў новаўтвораным газавым радовішчы.

Адказ быў дадзены, і Юцу больш не трэба было аблічча джэгернаўта. Ён сышоў у бліжэйшы лес і там прымусіў свой арганізм пазбавіцца ад нанітаў. Прыняўшы натуральны выгляд, Юц атросся, забег да Мейза за цэлай адзежай і вярнуўся ў свой дом. Хутка сабраўся і рушыў да бліжэйшай станцыі тэлепартацыі, а адтуль перанёсся ў Ондас, горад на процілеглым баку планеты, з якога праз партал пакінуў Велет. Калі паліцэйскія пачалі разглядаць наступствы начных беспарадкаў у казарме, офісах і асабняках, Юц быў ужо за дзве галактыкі ад планеты.

**ІТУ**

Механізмы партала прыйшлі ў рух, транслятары заззялі, аднекуль з глыбінь пачуўся гуд, выбліск асвяціў атрыўм вакзала Цэнтральнага Стэімскага Універсітэта. За дзвюма металічнымі палосамі-абмежавальнікамі ўзнялася шэрая завеса, і з яе пачалі выходзіць падарожнікі. Іх было няшмат, але з кожным новым злучэннем колькасць пасажыраў павялічвалася. Ва Універсітэце арганізоўвалася сустрэча выпускнікоў, таму мільёны былых яго навучэнцаў сцякаліся сюды. Да грандыёзнага мерапрыемства было яшчэ чатыры дні, але народу сабралася ўжо шмат: усе хацелі ўспомніць мясціны, дзе прайшла маладосць. Такія наведвальнікі адразу пасля прыбыцця, ужо на вакзеле, пачыналі аглядацца і фатаграфаваць, успамінаючы, як яны рабілі гэта тады, калі з'явіліся тут упершыню. Першыя прыбылыя апошняга злучэння выключэннем не былі. За імі выйшлі іншыя пасажыры, супрацоўнікі Універсітэта

ці жыхары кварталаў, што былі непадалёк. Апошнім выйшаў яшчэ адзін былы навучэнец — даірт, высокі, моцны, але зацюканы і затузаны да неверагоднасці. Ён нярэдка ўздрыгваў і ўвесь час азіраўся па баках: не хацеў, каб былыя аднакурснікі заўважылі яго, бо дасталі за дваццаць гадоў вучобы, а тыя, як на зло, апынуліся сярод групы адпраўкі. Але прыгледзеўшыся, даірт заўважыў, што яны захоплены вакзалам і ўспамінамі, скарыстаўшыся гэтым, ён прашмыгнуў паўз іх і стаў у чаргу для рэгістрацыі.

Там ён, калі прыйшла яго чарга, напужаў сваім знешнім выглядам робата, што ў таго ледзь не самаліквідаваліся праграмы. Але той неяк здолеў аформіць рэгістрацыю на пасажыра, даследчыка Інстытута Планеталогіі Аб’яднання Іту Яўкмаэ, быццам нічога і не было. Калі працэдура была скончана, даірт падзякаваў робату і звярнуўся з просьбай:

— Будзьце так ласкавы, падкажыце, дзе тут станцыя тэлепартацыі. Я забыўся за доўгі час…

— Памяшканне тэўдас, гэты паверх, — адказаў робат.

— Дзякую, — адказаў Іту і рушыў да станцыі.

Заплаціўшы паўсотні мер, ён уціснуўся ў адведзеную кабіну. Выбліск — і Іту быў ужо на процілеглым ад вакзала баку Універсітэта, які раскінуўся на плошчы невялікай краіны. Станцыя, на якую ён прыбыў, знаходзілася сярод жылых кварталаў універсітэцкіх работнікаў.

У гэтых краях было шмат танных гасцініц, што падчас навучальнага года засялялі студэнты, якім не хапіла месца ў інтэрнатах, але цяпер у Стэімскім былі кароткія вакацыі. Калісьці кіраўніцтва Універсітэта прыняло рашэнне аб правядзенні двухтрох тыднёвых вакацый падчас семестраў для таго, каб даць студэнтам магчымасць аднавіцца для новых дасягненняў у вучобе. Таму вольных месцаў было дастаткова. Іту спыніўся ў адной з такіх гасцініц — «Гекіхтуме», што стаяла ў цішы Трэцяга Горнага Парка. У нумары ён змог перавесці дух. Пасля такога напружанага падарожжа было цяжка супакоіцца, але ў яго атрымалася прывесці сябе ў больш-менш нармальны стан усяго за паўгадзіны.

За тры дні баўлення часу ў культурна-забаўляльных цэнтрах наваколля, шпацырах па парку і адсыпанні даследчык набраўся сіл і маральна падрыхтаваўся. І вось, калі надышоў дзень перад мерапрыемствам, Іту пачаў дзейнічаць.

Калі яшчэ не падняліся Сонцы, навуковец разам з валізкай неабходных прылад рушыў у парк. Валізка была вялікая і цяжкая, але на яе і на даследчыка ў гасцініцы не звярнулі ніякай увагі.

Галоўнай часткай паклажы быў кіберанійскі модуль магчымасцей — груваcткая і цяжкая рэч, але якая, калі перавесці яе ў матэрыяльны стан, з любым тэрміналам магла рабіць цуды. Вялізка была цяжкая. Таму ў Іту нямала часу пайшло на тое, каб схавацца ў парку. Калі зацішнае месца было абрана, навуковец разам з паклажай спусціўся туды, дастаў аднаразовы тэлепарцёр і задаў каардынаты. Грымнуў здушаны выбух, і даследчык з валізкай растварыўся ў выбліску святла.

Праз імгненне ён знайшоў сябе ў велізарнай цьмяна асветленай зале — схінасціхейскім кантрольным пункце. Побач з ім была валізка.

У сярэдзіне залы стаяў галоўны тэрмінал — спецыяльнае крэсла з нейрасувяззю. З дапамогай яго можна было ажыццяўляць кантроль над наваколлем і нават усёй планетай. Магчыма, сетка, створаная больш за шэсцьдзесят мільёнаў год таму, яшчэ працуе: святло ў зале — добрая прыкмета. Да таго ж энергіі ў назапашвальніках было шмат — светлавая пляма індыкатара паказвала, што яе хопіць яшчэ на некалькі дзясяткаў мільёнаў год.

Агледзеўшыся, Іту ўсміхнуўся і прыняўся за ажыццяўленне плана адказу былым аднакурснікам.

Падрыхтоўка абсталявання складалася ў далучэнні модуля магчымасцей да кантрольнай панэлі. Павядзьмарыўшы крыху над перахаднікамі і спецыяльным блокам праграм, Іту зрабіў тое, што хацеў. Модуль магчымасцей быў паспяхова інтаграваны ў сістэму.

Іту няспешна апусціўся і зажмурыўся. Працэс запуску прылады пачаўся. І даірт быў вымушаны ад гэтага адразу расплюшчыць вочы, бо яна пачала фізічнае ўз'яднанне. А дасягалася яно прамым кантактам з арганізмам — пратыканнем яго спіцамі. Для схінасціхаў гэта была зручная і надзейная схема, а паколькі яны мелі грубыя тканкі цела, то боль не быў моцным. Але праз некалькі секунд боль знік, і Іту адключыўся.

Калі ён апрытомнеў, то зразумеў, што знаходзіцца на падлозе залы. Ад відовішча самога сябе яму стала нядобра. Хутка ўсё было зроблена, і высветлілася, што модуль магчымасцей сапраўды працуе выдатна: даследчык набыў здольнасць да тэлепартацыі, тэлекінетычнага кантроля рэчыва і, што самае важнае, неверагодную хуткасць і якасць думак — «звышрозум у мініацюры». Пры тым ён быў цвёрдай галаграмай.

«Ну што ж, усё працуе, можна пачынаць!» — падумаў Іту.

Першым у спісе быў аднагрупнік Гхіфу. Ён вылучаўся абыякавым характарам, таму звычайна на Іту ён не звяртаў ніякай увагі. Але калі ўся група збіралася напаскудзіць даследчыку, то ён далучаўся «за кампанію». Для яго быў падрыхтаваны самы лёгкі жарт.

У той дзень Гхіфу вырашыў падрамантаваць дах свайго дома — ён жыў на Стэіме — таму пасля сняданка без прамаруджанняў прыняўся за задуманае. Гхіфу заўжды вельмі засяроджваўся на працы, таму звярнуў увагу на дзіўны шум толькі тады, калі скончыў працу. І калі глянуў, то самлеў: крыніцай гуку быў Іту, але ён быў паўпразрыстым, нібыта прывід, і трымаўся на даху толькі на адным локці, кулаком гэтай жа рукі падпіраў галаву. Гхіфу ашалелым поглядам глядзеў на свайго былога аднагрупніка, а Іту, ад таго, што нарэшце на яго звярнулі ўвагу, шчыра ўсміхнуўся і выклікнуў:

— Здароў, сябра!

Гхіфу напужаўся, не ўтрымаўся і зваліўся.

Трэба сказаць, што дом Гхіфу стаяў сярод старога, са шчыльнымі зараснікамі, але прыгожага сада. Але яму хацелася каб крыху святла трапляла ў хату, таму некалькі дрэў ён ссек. Засталіся пні, але гаспадару іх убраць ніяк не даходзілі рукі. Адзіным, што ён сабе набіў пры падзенні, стаў сіняк на спіне. Але пні былі вельмі трухлявыя, а Гхіфу падаў з трох метраў, таму глыбока ўвайшоў у трухляціну і затрымаўся ў ёй. Іту зірнуў на свайго здзіўленага таварыша, усміхнуўся і растварыўся ў паветры.

Праз імгненне ён матэрыялізаваўся на адным з кірмашоў, на процілеглым ад Цэнтральнага Універсітэта краі планеты. На гэтым кірмашы прыгандлёўваў адзін былы аднагрупнік — Наз. Гандляванне было яго падпрацоўкай падчас вучобы, але цяпер стала асноўнай працай, і веды, атрыманыя за час вучобы, Наз ужо амаль усе згубіў. Іту хутка знайшоў прылавак сябра, яны павіталіся, пачалі гутарыць. Калі размова зайшла пра працу, Іту са здзіўленнем агледзеўся вакол, затрымаўся позіркам на змесціве прылаўка Наза і са здзіўленнем спытаў былога аднагрупніка:

— Слухай, а чаго тут сёння так мала народу? Што ты ўвогуле прадаеш?

— Народу мала, бо сёння па кірмашы ходзіць інспекцыйная камісія, правярае якасць тавараў і наяўнасць дакументаў. А што тычыцца другога пытання — дык я «пераключыўся» са звычайнай ежы на прысмакі, далікатэсы.

— Цяпер зразумела.

— Слухай, можаш мне дапамагчы? — нечакана спытаў Наз.

— Як?

— Калі прыйдзе камісія, я дам табе на пробу некалькі страў. І ты меркаваннем незалежнага спажыўца пацвердзіш якасць маіх прысмакаў!

— Што ж, я не спяшаюся, дапамагу, — адказаў Іту.

Неўзабаве да прылаўка Наза падышлі правяральныя. Калі яны яшчэ толькі з’явіліся ў полі зроку, Іту пачаў здымаць пробы. Са здзіўленнем ён адзначыў для сябе, што ўсе прапанаваныя далікатэсы сапраўды былі смачнымі, хаця далёка не ўсе яны былі вядомы. Калі камісія была побач, Іту, дажоўваючы апошнюю порцыю, жэстамі паказаў ім і Назу, што прысмакі выдатныя. Затым ён, ведаючы, што праверкі заўсёды справа працяглая, падзякаваў, развітаўся з усімі і пакрочыў да выхада. Правяральшчыкі ўзяліся за дакуметацыю Наза. Але толькі яны пачалі гартаць накладныя…

Адзін з інспектараў краем вока заўважыў, што сябра Наза, які адышоў ад прылаўка, схапіўся за жывот, яго пачало хістаць з бока ў бок. Іту не ўтрымаўся і зваліўся, пасля чаго яго званітавала. Усё, што ён з’еў, было на зямлі сярод брыдкай сіне-чорнай масы. Гэта не так моцна напужала бы правяральшчыкаў, калі б не адна абставіна: у даіртаў кроў акурат сіне-чорнага колеру, і медыкі, што ўваходзілі ў склад камісіі, гэта ведалі (кроў была выдатнай імітацыяй). Але, да ўсеагульнага здзіўлення, ахвяра пасля «прыступу» хутка паднялася і пабегла прэч — да шпіталя. Камісія дала велічэзны штраф за няякасную ежу і забараніла займацца гандлем.

Іту ж накіраваўся да наступнай мэты. Ёй быў чарговы таварыш даследчыка — Ненэўмда, які адрозніваўся сваёй нястрыманасцю. Ведаючы, што раздражніць былога калегу вельмі проста, Іту склаў надзейны план, які адразу ж прывёў у выкананне: ён зрабіў некалькі галаграфічных дублікатаў самога сябе, «падправіў» кожнаму з іх знешнасць, і разам з новаўтворанай кампаніяй тэлепартаваўся на набярэжную аднаго з курортных гарадоў, дзе ў той час Ненэўмд шукаў сабе сонечныя акуляры. У той дзень на набярэжнай было шмат народу, але Іту гэта было толькі на руку, бо вывесці таварыша з сябе атрымаецца за лічаныя секунды...

Ненэўмд, праціскваючыся скрозь натоўп, ні з таго ні з сяго атрымаў па карку. Ён, здзіўлены, азірнуўся, каб знайсці жартаўніка, але нікога не заўважыў. І ў гэты момант яму далі яшчэ раз па карку. Ненэўмд пачаў злавацца. Ён павярнуўся, але, як і ў першы раз, нікога не ўбачыў. Ён пачаў парыкваць, як нехта зноў стукнуў яму па патыліцы. Цяпер Ненэўмд раззлаваўся па-сапраўднаму, лаючыся, стаў азірацца навакол, прыглядацца да кожнага. Мінакі, баючыся, абыходзілі яго, але Ненэўмд працягваў раз за разам атрымліваць па карку. За паўхвіліны яго раззлаванасць перайшла ў лютасць. Ён быў гатовы парваць на шматкі любога, хто наблізіцца. Гледзячы на гэта, Іту вырашыў, што надышоў час. Ён незаўважна наблізіўся да Ненэўмда і чарговы раз даў яму па карку, але на гэты раз даследчык даў сябе заўважыць. Ненэўмд, убачыўшы жартаўніка, кінуўся на таварыша, але Іту растварыўся ў натоўпе. Хлопец ад гэтага быў гатовы выбухнуць, але раптам адчуў, што яго клічуць. Гэта быў Іту. Ён, усміхаючыся, стаяў, абапёршыся на агароджу набярэжнай. Ненэўмд кінуўся на даследчыка. У тры скокі ён быў перад Іту, але той стаяў абсалютна спакойны. Ненэўмд, шалеючы ад гэтага яшчэ болей, скочыў і падрыхтаваўся ўчапіцца ў Іту, але праляцеў скрозь галаграму і з крыкам упаў у мора з дзесяціметровай вышыні —

набярэжныя на Стэіме рабілі высокімі. Іту, гледзячы на агаломшанага як ніколі ў жыцці Ненэўмда, усміхнуўся і тэлепартаваўся прэч.

Пасля гэтага Іту вырашыў, што пара прыняцца за працілеглы пол.

Неўзабаве ён перанёсся з аднаго натоўпу ў іншы — на Стэімскую эканамічную канферэнцыю. Там, наколькі ведаў, будзе адна з яго былых аднагрупніц, Івімі, і ёй павінны даць новую высокую пасаду. Даследчык паспеў з'явіцца перад яе выступленнем.

Івімі стаяла перад уваходам на сцэну, хвалявалася. Нечакана яе твар змяніўся — яна ўбачыла Іту сярод гасцей. Начальнік Івімі, заўважыўшы рэзкую змену, падышоў да яе і пацікавіўся. Івімі адказала, што ў натоўпе заўважыла свайго былога аднагрупніка Іту. Начальнік, пачуўшы гэта, спачатку таксама здзівіўся, а потым нечакана прапанаваў даць яму слова, каб той «замацаваў», што Івімі самы годны кандыдат на пасаду. Даследчык падышоў да тых, хто яго клікаў, павітаўся і спытаў для чаго патрэбны. Івімі расказала пра прапанову свайго начальніка. Іту ў адказ усміхнуўся і сказаў, што не падвядзе. Івімі, уздыхнуўшы, рушыла на сцэну.

Выступала яна добра, але недахопы мелі месца: было відавочна, што Івімі хвалюецца. Яе эмацыянальнасць, часам залішняя, сапсавала агульную карціну, але не так значна, як магло бы быць.

Калі яна скончыла, на сцэну падняўся начальнік і сказаў, што дае слова былому аднакурсніку Івімі. Іту падняўся на сцэну, пакланіўся і пачаў:

— Я знаёмы з Івімі ўжо даўно, хаця пасля сканчэння ўніверсітэта мы не бачыліся доўгі час. Сёння, сустрэўшы яе зноў, я магу шчыра сказаць, што Івімі за гэтыя гады амаль не змянілася — засталася такой жа энергічнай, камунікабельнай, працавітай, здольнай, засяроджанай… ашчаднай. Яна валодае ўсімі рысамі выдатнага эканаміста. З гэтым нельга не згадзіцца. Таму, прызначаючы Івімі на гэтую пасаду, вы атрымаеце добрага, а галоўнае, таленавітага кіраўніка!

З залы пачулася некалькі пытанняў: «А ў чым яшчэ яна таленавітая?»

— Івімі вам не распавядала? — здзівіўся Іту. — Яна майстар па арганізацыі самых розных мерапрыемстваў. На курсе яна была галоўным сцэнарыстам. Дый увогуле ў яе выдатныя здольнасці да літаратуры! Івімі піша выданыя вершы!

Усе здзівіліся, але больш за ўсіх — сама Івімі.

— Калі вам цікава, — працягнуў Іту, — знайдзіце яе старонку ў сетцы.

Хлопец, які быў адказны за правядзенне прэзентацый, зацікавіўся і перайшоў на названы адрас. На экране за пляцоўкай сцэны ўзнікла нэт-старонка з вершамі. Іх пачалі чытаць і…

Івімі падчас вучобы была яркім прадстаўніком субкультуры, але, паступіўшы на працу ў прэстыжную кампанію, гэта прыйшлося ўтойваць. Але яна не забывалася на мінулыя захапленні, і падчас «пакут душэўных цяжкіх» для супакою прымалася за вершаскладанне на сваёй старонцы ў сетцы субкультуры. Пасля Івімі прымала порцыю седатыўных сродкаў і супакойвалася канчаткова. А вершы заставаліся. Цяпер прадстаўнікі кампаніі, у якой яна працавала, маглі атрымліваць асалоду ад цудоўных узораў вершаў суіцыдальнага зместу. Гэта рэзка змяніла твары ўсіх, хто быў у зале, асабліва — Івімі. Іту глянуў на іх усіх, усміхнуўся і сказаў:

— А цяпер прабачце, мне час бегчы!

Пасля чаго саскочыў са сцэны і знік.

Затым Іту ўзяўся за другі «эксперымент». Ён адразу ж абраў кандыдатаў: сяброўкі Ахаві і Тэена. Яны належалі да розных родаў, але іх характары былі надзвычай падобныя, а самай заўважнай рысай была неверагодная ўвага да ўласнай знешнасці. Сяброўкі маглі гадзінамі наводзіць прыгажосць, а для яе надзейнага падтрымання

рабілі мікрааперацыі — да трох разоў за месяц. Нягледзячы на гэта, яны выглядалі на дзіва прывабна, але іх знаёмых рэгулярныя карэкціроўкі аблічча раздражнялі. А Іту Тэена і Ахаві раздражнялі болей за ўсіх, бо жартаваць вучыліся менавіта з яго, але за дваццаць год вучобы так і не навучыліся.

У той дзень Ахаві і Тэена прыйшлі ў цэнтр хірургіі на мікрааперацыі, зрабілі і аплацілі заказы, сталі чакаць. Падчас чакання Іту заявіўся ў цэнтр апрацоўкі заказаў і сваім абліччам прывіда перапалохаў усіх. Калі ўсе з крыкамі ўцяклі, Іту падышоў да галоўнага тэрмінала і пачаў шукаць заказ Ахаві і Тэены. Знайшоўшы яго і прагледзеўшы, ён падумаў: «Хм, колькі год прайшло, яны робяць гэтыя свае аперацыі, а на значныя эксперыменты не адважваюцца! Непарадак! Трэба выправіць! Дапамагу ім!» І, прыпамінаючы нормы прыгажосці для іх родаў, Іту павядзьмарыў крыху над заказам дзяўчын: з модулем магчымасцей доступ адчыняўся да ўсіх, нават самых абароненых камп'ютараў. Калі неабходнае было зроблена, даследчык тэлепартаваўся з памяшкання, а сяброўкі пайшлі на аперацыі…

Пасля гэтага Іту вырашыў «пабачыцца» з астатнімі дзяўчатамі са сваёй групы, даведаўшыся, што яны амаль ўсе сабраліся ў адным месцы — кафэ «Кеа'нту», папулярным месцы сярод студэнтаў. Яны не моцна вычварыліся ў сваіх жартах і здзеках, таму даследчык вырашыў адказаць ім узаемнасцю. Дзяўчаты сядзелі, размеркаваўшыся па зале, весела гаманілі і няспешна спажывалі дарагія стравы, калі ў кафэ ўвайшоў Іту, павітаўся з усімі і ўрачыста ўручыў вялікі прыгожы букет кветак, пасля чаго, спаслаўшыся на занятасць, сказаў, што вымушаны ісці. Дзяўчыны, уздыхнуўшы, з лёгкай самотай развіталіся, Іту пакланіўся і хутка схаваўся сярод навакольных кварталаў. «У чым жа падвох?» — спытаеце вы. А падвох у тым, што Іту гэты букет кветак не набыў, а сам нарваў у ахоўнай секцыі дэндрарыя ўніверсітэцкага батанічнага сада. У ім было больш за дваццаць відаў кветак, самых розных і прыгожых, але ядром кампазіцыі быў кендытоіх. Гэта расліна ўнікальная тым, што з'яўляецца адной з нешматлікіх кветак, якая здольна выклікаць алергію ва ўсіх разумных відаў: неўзабаве ва ўсіх наведвальнікаў кафэ яна і пачалася. Плачучы, дрыжучы, енчачы, кашляючы, губляючы прытомнасць, дзяўчаты праклiналі свайго аднагрупніка ўсімі вядомымі спосабамі. Пакутвалі яны хвілін пятнаццаць, пакуль не выбралі ўвесь кендытоіх з букета.

Тым часам даследчык набліжаўся да групы, якая была яго галоўнай мэтай: да шасцярых хлопцаў-спартсменаў, для якіх Іту хіба што баксёрскай грушай не быў. Калі ён прыбыў на Стэім, то дакладна ведаў, што зробіць толькі з гэтай шасцёркай, таму што прадказаць іх занятак было вельмі проста: яны гралі ў любімую гульню, вядомую пад назвай зэйды. Але сярод нашчадкаў зямлян яна вядомая як рымбол. Сутнасць гульні ў наступным: дзве каманды (колькасць удзельнікаў вызначаецца традыцыямі планеты), выкарыстоўваючы ўсе канечнасці, у тым ліку хвасты і галовы, спрабуюць перакінуць мяч скрозь кальцо, адно на абедзве каманды, якое рухаецца па полі. Каб патрапіць у кальцо і атрымаць ачко, дазваляецца выкарыстоўваць самыя розныя хітрасці і выкруты. Абмежаванні ёсць хіба што на магчымыя траўмы і пашкоджанні: сярэднія і цяжкія пад забаронай, а лёгкія дазволеныя ў неабмежаваных колькасцях падчас матча. Правілы не складаныя, але прыватных выпадкаў маецца шмат: так, напрыклад, калі ігрок кінуў мяч, а той патрапіў у саперніка, адскочыў ад яго і патрапіў у кальцо, то ачко залічваецца таму, хто кідаў. Іту любіў гуляць у рымбол, але такія аднагрупнікі адбівалі ўсялякае жаданне. Аднак даследчык быў гатовы выступіць супраць таварышаў у вырашальным матчы. Цяпер ён прыйшоў у спартыўны комплекс, знайшоў патрэбную залу і кінуў выклік былым аднагрупнікам. Тыя, убачыўшы і пачуўшы Іту, усміхнуліся, але, дзеля цікаўнасці, згадзіліся.

Яны аб'ядналіся ў адну каманду, а разам з даследчыкам выступілі тыя, хто чакаў сваёй чаргі.

Робат-суддзя даў сігнал, і гульня пачалася. Шасцёра былых таварышаў даследчыка адразу перайшлі ў наступ, але вельмі хутка сітуацыя змянілася: па-першае, Іту рыхтаваўся, трэніраваўся, вучыў правілы і шукаў спосабы нанесці як мага большую шкоду, застаючыся пры гэтым у межах, па-другое, ў той момант Іту быў субматэрыяльнай праекцыяй, значыць, мацнейшым за сябе звычайнага, і болю не адчуваў. Гэта дапамагло яму даць годны адказ былым таварышам за ўсё нядобрае, што яны рабілі яму ва ўніверсітэце, і заадно пазабавіць сябе. Але таварышам было не да забаў — іх былы сябра гуляў, як звер, валіў слэм лепш за прафесіяналаў і ставіў сапернікам сінякі. За частку матча даследчык адбіў мячом крыўдзіцелям усё, што можна і што нельга: пасля сканчэння гульні двое не маглі адкрыць рот, у аднаго заплылі вочы, двое засталіся без грэбняў на галовах і шыях, а адзін быў сагнуты напалову праз адбіты жывот; ва ўсіх ад ранак палалі спіны. Пры гэтым робат-суддзя не знайшоў ніводнага парушэння правіл з боку Іту. Калі так адбылося ў першы раз, то былыя аднагрупнікі неверагодна раззлаваліся, але з атрыманнем новых удараў пра гэта паступова забылі. Пасля гульні сябры Іту распаўзліся па распранальнях, а даследчык разам з таварышамі па камандзе, якія бесперапынна смяяліся, пакінуў спартыўны комплекс.

Затым Іту пайшоў пабачыць другую кампанію жартаўнікоў. Яны рэгулярна практыкаваліся ў розыгрышах з даследчыкам. Калі ён знайшоў гэтую групу, яна была ў нацыянальным парку «Негё», сярод насельніцтва вядомага як «Ямы з шыпамі». Веселуны аглядалі чарговы правал з вострымі камянямі, калі Іту з'явіўся ля іх. Яны павіталіся і далей пайшлі разам, жвава гамонячы і апавядаючы байкі пра жыццё пасля ўнівера. Так прайшло паўгадзіны, пасля чаго сябры вырашылі ўспомніць мінулае і пажартаваць з Іту. Агароджы былі палявымі: у выглядзе суцэльнай сцяны, празрыстымі і вельмі надзейнымі. Можна было стаяць на самым краі правала і не хвалявацца, але нагод для жартаў гэта давала нямала магчымасцей. Веселуны вырашылі незаўважна наблізіцца да Іту і пхнуць яго на сцяну. Яны, хіхікаючы, падкраліся і з усёй сілы штурхнулі даследчыка. Той спатыкнуўся, хрыпла ўздыхнуў, зваліўся на сцяну і прайшоў скрозь яе. Іту праляцеў паўсотні метраў, пасля чаго быў працяты велізарным шыпом. Ён нават закрычаць па-сапраўднаму не паспеў. «Жартаўнікі» з жахам глядзелі ўніз, на камяні, якія пакрыліся сіне-чорнай вадкасцю. Наведвальнікі з крыкамі адскочылі ад агароджаў. Экстраныя службы ўжо спяшаліся на ліквідацыю здарэння, калі пачалося нешта дзіўнае і жудаснае: працяты Іту нечакана ўзняўся і зірнуў на сваіх таварышаў, якія яшчэ стаялі на ўскрайку ямы. «Мярцвяк» вырашыў вярнуцца ў свет жывых і з хрыпамі пачаў злазіць з шыпа, перабірацца на сцяну ямы, усе відавочцы з лямантам кінуліся наўцёкі. Гучней за ўсіх крычалі таварышы. Экстраныя службы, якія не бачылі, што адбылося, былі здзіўлены такой рэакцыі відавочцаў, таму як мага хутчэй рушылі да месца здарэння. Калі яны прыбылі, то знайшлі толькі шып, вышмараваны штучнай крывёй даіртаў са складаў грыму. Веселуноў жа, якія вырашылі пажартаваць, знайшлі праз нейкі час на высокім дрэве. Выглядалі яны заўчасна састарэлымі.

Наступнымі былі чатыры былыя таварышы даследчыка, для кожнага з якіх быў падрыхтаваны індывідуальны падыход. Не тое што яны больш за ўсіх здзекаваліся з Іту, але іх звычкі і характары мелі шэраг рысаў, з-за якіх траціць сілы і час на аднаго было больш чым апраўдана.

Першым з гэтай групы стаў былы аднагрупнік К'яднел. Ён быў заўзятым геймерам, таму нямала часу праводзіў за гульнямі. Сярод усіх жанраў ён аддаваў перавагу

стратэгіям, мэтай якіх было стварэнне і накіроўванне цывілізацый. У той час, калі Іту дзейнічаў, ён сядзеў за гульнёй, дзе трэба было развіць планету ад з'яўлення цывілізацыі да ўсегалактычнай супольнасці. Месцам дзеяння была віртуальная галактыка пераходнай формы, названая Нэм'да. Таму даследчык вярнуўся на пункт кантролю і запусціў модуль магчымасцей на ўсю моц. Зарэгістраваўшыся на сайце, хлопец хутка давёў узровень «сваёй» планеты да часу міжзорных пералётаў, на якім на дадзены момант быў К'яднел. Даследчык змог атрымаць планету ў ста дванаццаці светлавых гадах ад саперніка, бліжэй за ўсіх астатніх, і стаў дзейнічаць сумленна. Гульня пачалася…

Спачатку даследчыя караблі К'яднела сталі знаходзіць на планетах пярэдняга па вярчэнні сектара рэшты караблёў іншай цывілізацыі, а зрэдку — сляды гаспадарчай дзейнасці. Ён пакідаў на такіх планетах пасланні, але адказу так і не дачакаўся. Таму пакідаў гэтыя планеты за сабой. Праз некаторы час даследчыя караблі сталі бясследна знікаць. Так працягвалася даволі доўга — за гэты час знікла васямнаццаць караблёў, лепшыя экіпажы і вучоныя з імі. А потым была знойдзена прычына знікненняў, дакладней — след гэтай самай прычыны. Дзевятнаццатая экспедыцыя скончыла скачкі з планетай, вакол якой круціўся спадарожнік-маяк — знак іншай цывілізацыі. Але на планеце нічога штучнага не было. Зацікаўленыя экспедыцыянеры вырашылі перадаць пасланне. Хутка яны атрымалі адказ, які разабраць не змаглі, пасля чаго зніклі. К'яднел зразумеў, што суседзі міралюбствам не адрозніваюцца, таму вырашыў адказаць тым жа: на ўсе адшуканыя ў пярэднім сектары планеты былі адпраўлены караблі з біялагічнай зброяй — вірусам, які закранаў толькі разумных істот і забіваў іх. На працяглы час напады спыніліся. К'яднел уздыхнуў з палёгкай і вырашыў больш не лезці ў пярэдні сектар, развівацца ўбок астатніх. Віртуальная дзяржава хлопца расла і ўзмацнялася, калоніі пачалі паўставаць. Прычына была невыразная, мэты невядомыя. Але заканчваліся паўстанні аднолькава: кіраўнікоў ад метраполіі і вайскоўцаў праганялі прэч з планеты і зачынялі ім уваход. К'яднел у адказ накіроўваў сілы на прыгнечанне паўстанняў, але калі зоркалёты прыбывалі, то знаходзілі толькі выпаленыя паселішчы і ніводнага ацалелага. А пасля сёмай згубы калоніі выбух грымнуў у самой метраполіі, ператварыўшы вялікі востраў у папялішча. На месцы выбуху былі знойдзены рэшткі металу з надпісамі, якія былі знойдзеныя на спадарожніку цывілізацыі з пярэдняга сектара… К'яднел раззлаваўся і загадаў пачаць мабілізацыю. У кароткі тэрмін была створана новая серыя караблёў, моцнае і вялікае войска, абвешчана вайна. Караблі рушылі ў пярэдні сектар. Хутка з'явіліся зоркалёты саперніка і пачаліся бойкі. Але К'яднелу не давялося выйграць ніводнай. Спачатку так атрымлівалася, бо ён пачаў наступленне шырокім фронтам, а вораг біў там, дзе было менш караблёў. Затым юнак засяродзіў сваю армію, але і гэта не дало вынікаў: вораг вывучыў караблі, што засталіся на калоніях, і таму біў трапна. Караблі ж непрыяцеля захапіць не атрымлівалася. Урэшце ад арміі К'яднела не засталося нічога, яго калоніі былі ачышчаны ад жыхароў як і папярэднія, што паўставалі, а планета-метраполія была пераўтворана ў пояс астэроідаў.

У К'яднела пасля відовішча выбуху яго планеты ашклянелі вочы і скрывіўся твар: ён пяць месяцаў развіваў свой свет, пяць месяцаў працаваў над ім, і вось яго не стала! Ён быў у роспачы і раззлаваны, не ведаў, што рабіць і як быць. І ў гэты самы момант да яго прыйшло паведамленне: «З табой было прыемна гуляць!» і подпіс. К'яднел зароў.

Іту ведаў, што для таварыша згуба напрацовак у гульне стане цяжкім ударам, і меў рацыю: рэакцыя К'яднела была менш эмацыянальнай, нават калі ад яго сышла дзяўчына. Таму даследчык быў задаволены. А пакуль яго былы аднагрупнік шалеў,

Іту перадаў сваю і захопленую прасторы іншаму ўдзельніку гульні, з якім паспеў заключыць дамоўленасць. А К'яднел у лютасці разбіў свой тэрмінал.

Далей Іту перайшоў да другога свайго аднагрупніка-геймера, Відэ, які аддаваў перавагу жанру шутэраў, і да таго ж любіў жахі. Дзеля любімай гульні Відэ не шкадаваў грошай, нават набыў прыладу для няпоўнага пагружэння ў віртуальнасць, каб кіраваць сваім персанажам. Іту пачаў па адпрацаванай схеме: зарэгістраваўся, набыў аватара і, крыху «пракачаўшы» свайго персанажа, далей рушыў да Відэ. Той у дадзены момант сядзеў у засадзе і чакаў нападу монстраў. Іту ціха падышоў да яго, Відэ адчуў крокі ззаду і хутка пусціў у таго, хто набліжаўся, чаргу стрэлаў. Верагодны саапернік зваліўся на зямлю, і Відэ з жахам убачыў, што ён застрэліў аватара свайго былога аднагрупніка. Ён закрычаў і стаў бедаваць пра зробленае і пра тое, што пазбавіў сябе рэдкага у гэтай гульні шанца на перамогу. Відэ бедаваў гучна і доўга. І гэта прымусіла Іту зноў пачуць яго голас. І застрэлены аватар ажыў! Але не для таго, каб дапамагаць былому таварышу, а наадварот. Іту стаў адным з монстраў гульні. Гэта быў першы выпадак, калі ўдзельнік станавіўся пачварай за ўсю сямідзесяцігадовую гісторыю гульні. Іту стаў на ногі і адразу ж кінуўся на Відэ. Той не адразу асэнсаваў, але паспеў кінуцца наўцёкі перад тым, як сківіцы Іту самкнуліся на месцы, дзе за секунду да таго была яго шыя, а кулак монстра праляцеў там, дзе было тулава Відэ. Тут варта сказаць, што прылада няпоўнага пагружэння ў віртуальнасць дазваляе адчуваць боль — не такі, якім бы ён быў сапраўды, але даваў добрае ўражанне, што сківіцы і кулакі ў к'ялну-ім'ян — гэта грозная зброя: сэяніты пры жаданні, могуць перакусіць металічны кабель сярэдняй таўшчыні, а кулакі… Асаблівасць анатоміі сэянітаў такая, што іх далонь складаецца ўсяго з трох касцей: цэнтральнай Т-падобнай формы, асновы, і двух малых, якія забяспечваюць большую рухомасць чатырох сіметрычна размешчаных адносна асновы пальцаў. Прычым, гэтая аснова мае выступ, знешне падобны да шыпа. Ён нерухомы, таму, калі сэяніты сціскаюць кулакі, шып тырчыць як кароткі нож, і ён здольны нанесці значную шкоду. Таму зразумела, чаму Відэ хацеў збегчы як мага хутчэй ад мерцвяка Іту. Ён забыў пра засаду, напад монстраў і бег, каб выратавацца ад аднагрупніка-зомбі. Ён ратаваўся доўга, больш за гадзіну. Атрымаў за гэты час адрэналіну болей, чым за ўвесь папярэдні час гульні і, заадно, некалькі ўдараў і адзін укус у руку. А даследчык у гэтую гадзіну забаўляўся, ганяючы Відэ. Хаця жах надаў таварышу сіл, але выратавацца не ўдалося: пасля доўгага праследвання Іту дагнаў Відэ, кулакамі ператварыў яго ў адбіўную, а потым разадраў моцнымі сківіцамі. Калі сапернік быў выведзены з гульні, Іту падняўся, прыняў нармальны выгляд і пакінуў віртуальнасць. А Відэ праз удары і ўкусы атрымаў балявы шок і правёў у нерухомым стане некалькі гадзін.

Наступнай ахвярай павінен быў стаць Оўхем, аднагрупнік, які стаў гісторыкам. Спецыялізацыяй яго была гісторыя гадзіннікаў да засваення космасу — найстарыя і найдапатопныя гадзіннікі. Але вывучаць іх было неабходна і вельмі цікава. З такой працай Оўхем стаў вялікім прыхільнікам стыля, таму хату сваю пабудаваў у класічных традыцыях: невялікі дом з дрэва, з мінімумам неабходных для жыцця прыладаў і з выгодамі ў двары — клімат рэгіёна Стэіма, дзе ён жыў, дазваляў гэта. Выгоды сталі ключавым элементам у плане адказу за здзекі.

Оўхем у той дзень адпачываў дома. Было даволі спякотна, і таму ён вырашыў, што неабходна астудзіцца ў душы: узяў лазневыя прылады і накіраваўся ў душавую кабінку, што стаяла на двары, і пачаў сваю справу. А падарунак ад Іту ўжо чакаў яго…

На ўсіх планетах усе сэнтыенты, калі не было чаго рабіць, балаваліся злучэннем тэхналогій далёкага мінулага і сучаснасці. Спецыяльна для таварыша Іту падрых-

таваў такі прыбор — гібрыд пераўтваральніка рэчыва, гасільніка гуку і рэактыўнага рухавіка, які быў замацаваны пад душавой кабінкай.

Калі скарыстаная вада сцякала ў трубу, яна трапляла не ў гарадскую каналізацыю, а ў рэактар пераўтваральніка. З яго выходзіла паліва найвысокай якасці для рухавіка, згашальнік рабіў яго працу неадчувальнай. А звычка Оўхема спяваць і танчыць у душы зрабіла ўсё неабходнае.

Оўхем скончыў першы нумар і ўжо сабраўся пачаць другі, як адчуў, што напор вады рэзка зменшыўся, кабінка неяк ненатуральна задрыжала, а знадворку данёсся дзіўны свіст і грукат. Ён выключыў душ, падышоў да невялікага акенца і самлеў: перад ім быў квартал, дзе ён жыў. І квартал быў знізу. Оўхем закрычаў, але ніхто яго не пачуў.

Іту таксама яго не пачуў. Ён толькі правёў рэактыўную душавую кабінку позіркам, пакуль яна не знікла з поля зроку сярод высокіх дрэў бліжэйшага парку. Раздаўся гучны шмяк — ракета дасягнула канцавога пункта маршруту — помніка прыроды, якім быў кратар вялікага гразевага вулкана.

Апошнім застаўся Кео Ім-Ак-Ціу, адзіны з групы, у якой вучыўся Іту, хто стаў знакамітым: Кео быў пісьменнікам, які спецыялізаваўся на прыгодніцкіх раманах і аповесцях. Ён быў таленавітым пісьменнікам, бо нават самыя прыдзірлівыя крытыкі з цяжкасцю знаходзілі да чаго прычапіцца. Яго творы выдаваліся мільённымі тыражамі, а чыталі іх мільярды. Але Кео меў адзін недахоп, які, калі стаў знакамітасцю, стаў хаваць: ён не быў прыхільнікам ідэй сэнтыентызму. А такі факт не спрыяе, каб цябе друкавалі. Іту пра гэтую рысу былога таварыша памятаў добра, і цяпер, калі Кео прысутнічаў на прэс-канферэнцыі, вырашыў распавесці свету пра погляды свайго аднакурсніка.

Але была адна праблема: канферэнцыя была закрытай, і патрапіць на яе (тым больш задаць пытанне) звычайны разявака не мог. Іту вырашыў праблему наступным чынам: знайшоў невялікую групу журналістаў, пазнаёміўся з імі, прадставіўся былым аднакурснікам Кео, пасля чаго журналісты захацелі працягнуць размову. Іту выказаў прапанову, што ў кафэ пагутарыць было б лепей. Журналісты пагадзіліся. Неўзабаве Іту прапанаваў новым сябрам выпіць за свой рахунак. Тыя, зразумела, пагадзіліся. Хутка ім прынеслі напоі, яны выпілі і… Тут трэба сказаць, што папярэдне даследчык дамовіўся з уладальнікам кафэ. Таму журналістам далі адзін цудоўны напой, ад якога любы сэнтыент губляў прытомнасць за пару хвілін. Калі журналісты захраплі, Іту аддаў уладальніку тысячу мер, а сам перацягнуў целы новых сяброў у іх транспарт. Затым ён нарабіў дублікатаў па колькаці журналістаў, надаў ім іх аблічча і ўручыў пропускі на канферэнцыю. Замаскіраваныя дублікаты Іту рушылі на канферэнцыю.

Яна між тым ужо пачалася. Кео сядзеў за высокім сталом і актыўна адказваў на самыя розныя пытанні, быў ветлівым з кожным. Але вось прыйшлі стаўленікі Іту, і ўсё змянілася. Але не адразу: дублікаты пачакалі крыху, растварыліся ў натоўпе, а ўжо пасля пачалі задаваць пытанні тым ці іншым бокам звязаныя з тэмай сэнтыентызму, напрыклад:

— Нярэдка час дзеяння ў вашых творах — гэта перыяд існавання Сузор’я і станаўленне мек’найскага руху. Гэта таму, што дадзеная тэма была вашай спецыялізацыяй, калі вы вучыліся на гістарычным факультэце?

— Што вы думаеце пра паўстанне ў Дзяржаве Нхіэ?

— Крытыкі не раз узгадвалі, што героі вашага «Скірмальскага цыкла» паводзяць сабе даволі жорстка. Растлумачце, калі ласка, чаму вы намалявалі іх такімі?

І гэтак далей. З кожным новым пытаннем ветлівасць сыходзіла, з'яўлялася раздражнёнасць, незадаволенасць, здавалася, што яшчэ два-тры пытанні — і ён выбухне. Так і атрымалася.

— Як вы ўвогуле ставіцеся да сэнтыентызму?

— Як я да яго стаўлюся? — ускіпеў Кео. — Ён мяне раздражняе, бо карысці ад яго ноль! Так, ён прапануе рашэнні і яны часам працуюць, але для таго, каб яны спрацавалі, сродкаў і сіл трэба ў разы болей, чым пры выкарыстанні спосабаў, якія маюць адступленні! А яшчэ больш гэты набор ідэй мяне раздражняе таму, што дае права на існаванне так званых «індывідаў», якія пасля сябе пакідаюць толькі смецце і падобных да сябе нашчадкаў! І такіх мільёны! Вось чаму! Задаволеныя?

— Мы? — спыталі ліпавыя журналісты разам. — Задаволены. Дарэчы, ваш таварыш Іту перадаваў вам прывітанне!

І ўся кампанія растварылася ў паветры. Літаральна праз секунду пасля гэтага ў залу ўвайшлі сапраўдныя журналісты, вельмі нецвярозыя і пакамячаныя з выгляду.

А пра інцыдэнт гэты, на шчасце Кео, хутка забылі. Хаця продажы яго кніг усё роўна знізіліся на трыццаць працэнтаў.

Надышла чарга апошняй кампаніі. Іту зрэдку станавіўся іх ахвярай, але кожным разам старэў з выгляду год на пяцьдзясят. Цяпер, маючы магчымасці, Іту вырашыў адыграцца за ўсе гады.

На Стэіме захавалася нямала наземных дарог і колавага транспарту. Перажытак далёкага мінулага прыцягваў натоўпы турыстаў. Кожны год больш за мільярд гасцей з іншых планет вырашалі пракаціцца па шашы, якой сто пяцьдзясят тысяч год. «Жартаўнікі» былі вялікімі аматарамі такіх паездак, і кожны раз, калі прыбывалі на Стэім, іх здзяйснялі. Цяпер усе пяцёра імчаліся па аўтастрадзе. Гэтая акалічнасць і падказала, што лепей зрабіць. Іту, высачыўшы дакладна біялагічныя сігнатуры «жартаўнікоў», тэлепартаваў свой субматэрыяльны вобраз да іх у машыну.

Апісаць здзіўленне прысутных немагчыма. Але Іту гэтага было мала, і ён працягнуў:

— Добры дзень! Рады вас бачыць! Гляджу, вы катаецеся, ці не жадаеце пракаціцца па-сапраўднаму, з ветрыкам?

Аслупянелыя таварышы даследчыка адказу не далі. Іту пералез на месца кіроўцы і сказаў:

— А цяпер пачнём весяліцца!

І ўціснуў педаль у падлогу.

Машына ўдвая перавысіла ліміт хуткасці і пабіла ўсе рэкорды стрытрэйсінгу. Несучыся на вялікай хуткасці ў Іту выдатна атрымлівалася пазбягаць сутыкненняў і лавіраваць між іншымі машынамі — модуль магчымасцей рабіў сваю справу. Пры гэтым даследчык рабіў усё магчымае, каб у яго таварышаў кроў стыла ў жылах: наўмысна нёсся на грузавікі ці апоры мастоў і пазбягаў сутыкнення ў апошні момант, на разваротах і паваротах толькі дадаваў хуткасці, праносіўся пад і над вялікімі машынамі і найнізкімі мастамі, якія трэба было аб'язджаць, перабіраўся на аўтастрады ніжэйшых узроўняў, прабіваючы агароджы і пікіруючы на патрэбную паласу. Павазіўшы аднагрупнікаў з паўгадзіны, пакуль дарогі не скончыліся, Іту спыніўся. Яго былыя таварышы так і не змаглі за ўвесь час паездкі яму хоць штосьці зрабіць, каб спыніцца. У выніку яны выглядалі на ўсе сто. Калі паездка скончылася, навуковец зірнуў на акамянелыя твары аднагрупнікаў і прамовіў:

— Гэта было выдатна, а цяпер, прабачце, мне пара! — і знік.

На наступны дзень таварышы даследчыка прыбылі ў пазначанае месца. Пакамечаныя, хмурныя, пабітыя, састарэлыя. Калі сабраліся ўсе, то без слоў зразумелі,

што адбылося. Некалькі хвілін яны сядзелі, зыркаючы, енчачы, уздыхаючы, уздрыгваючы. І раптам з'явіўся Іту.

— Вітаю, сябры! — прамовіў ён. — Рады бачыць вашы твары! Гляджу, вы ўсе сабраліся. Што ж, забаўляйцеся, адпачывайце! На жаль, я не магу быць з вамі, трэба бегчы — справы клічуць. Да пабачэння!

І да таго, як яго дасягнулі рукі ўгневаных былых таварышаў, даследчык растварыўся ў паветры.

Праз гадзіну Іту ўжо не было на Сэтары.

## НОЙМ

Вечарэла, але было яшчэ даволі светла. Гіперпланер спыніўся ля аднаго са шматлікіх карпусоў кампуса, падобных адзін да аднаго. Дзверы транспарта адчыніліся, і з іх выйшаў невысокі ор, замест левай рукі якога быў тэхнабіярычны пратэз. Пасля доўгага падарожжа выгляд у яго быў стомлены, а напружанасць адчувалася за метры. Але, нягледзячы на гэта, ён імкнуўся захоўваць ветлы выгляд: з лёгкай і шчырай усмешкай падзякаваў робату-таксісту, забраў свой багаж і развітаўся. Той кіўнуў у адказ і, зачыніўшы дзверы свайго гіперпланера, рушыў прэч з тэрыторыі Аанбарскага Універсітэта. Ор правёў яго поглядам, а потым зірнуў на будынак перад сабой і падумаў: «Здароў, інтэрнат! Дваццаць год прайшло, а ты не змяніўся: нават маляр пэндзалем не прайшоўся…»

Ён уздыхнуў і накіраваўся ўнутр.

— Вітаем у інтэрнаце хетвакмал Аанбарскага Універсітэта! — выклікнуў робатвахцёр, убачыўшы ў дзвярах ора. — Чым я магу вам дапамагчы?

— Добры дзень, тут яшчэ захавалася аддзяленне для гасцей? — пацікавіўся ор.

— Так! Пастанову Кіраўніцтва Універсітэта яшчэ ніхто не адмяняў, — адказаў робат.

— Месцы ёсць?

— Так. Увесь адведзены для гэтага паверх свабодны!

— Што ж, тады я хацеў бы спыніцца ў вас на пару дзён.

— Добра. Які пакой будзеце браць?

— Аднамесны і папрасцей, але падалей ад лесвіц і ліфтаў.

— Зразумела. Магу прапанаваць вам пакой нумар семдзесят на дваццаць першым паверсе.

— Выдатна. Колькі з мяне?

— Трыццаць восем мер за адзін дзень.

Ор адлічыў дзевяноста мер.

— Добра, — прамовіў робат. — Цяпер рэгістрацыя. Разумею, гэта нудна, але неабходна.

— Ведаю, што нікуды не дзенуся…

— Тады пачнём. Імя і пасада на дадзены час?

— Нойм Сэнгат, даследчык з перадавой групы Д 712, Інстытут Планеталогіі Аб'яднання, Аддзел даследвання незвычайных з'яў.

— Мэта прыбыцця?

— Сустрэча выпускнікоў.

— Тая, што пазначана на заўтра?

— Так.

— Тады дазвольце мне пажадаць вам прыемнага баўлення часу!

— Дзякуй, я сам на гэта спадзяюся… А каб справа пайшла хутчэй, вось вам картка былога студэнта!

— Дзякуй! — адказаў робат, уставіў картку ў тэрмінал. — Засталося толькі адно пытанне: які ў вас багаж?

— А, тыповей няма куды: адзежа, абутак, электронныя прылады, у тым ліку для пратэза, і некаторая колькасць ежы і напояў.

— Што ж, пытанняў больш няма. Вось ваш ключ, прыемнага дня!

— Дзякуй, — адказаў Нойм, узяў картку-ключ і накіраваўся да ліфта.

Менш чым праз хвіліну ён быў у пакоі. Памяшканне — каля дванаццаці квадратных метраў — абстаўлена было болей чым сціпла, але пры гэтым меўся выдатны камп'ютарны тэрмінал.

Да сустрэчы было яшчэ больш за суткі. За гэтыя трыццаць гадзін Нойм адаспаўся, паблукаў па садах, што былі паўсюдна на тэрыторыі кампуса (але не сустрэў нікога са сваіх аднакурснікаў), пабіў некалькі ўласных рэкордаў у відэагульнях, пачытаў любімую «Анталогію Антыўтопій» і перакінуўся парай слоў з сучаснымі студыёзусамі і робатам-вахцёрам. Навучэнцы Аанбара казалі, што прадметы тут цікавыя, але патрабаванні неймаверныя. Робат-вахцёр быў здзіўлены: сустрэча выпускнікоў адбудзецца ў бліжэйшыя гадзіны, а Нойм быў адзіным, хто спыніўся ў гэтым інтэрнаце. Астатнія выпускнікі аддалі перавагу асобным гасцявым карпусам, кожны з якіх заняў асобны курс.

Але гэта яму было толькі на руку — ніхто не ўбачыць, ШТО ён падрыхтаваў для сустрэчы… За пару гадзін да пачатку сустрэчы ён уставіў ампулу з стыржнейскай настойкай у адсек у пратэзе, спалучыў з уласнай сістэмай кровазвароту і падрыхтаваўся даць сігнал на выпуск змесціва ў любы момант.

Калі асноўная падрыхтоўка была скончана, Нойм пераапрануўся і пакрочыў да гасцявога корпуса, які занялі яго аднакурснікі.

Некалькі хвілін хады — і ён на месцы. Нойм бясшумна адчыніў дзверы, незаўважна пракраўся ўнутр, агледзеўся, заўважыўшы кампанію сваіх былых калегаў, павольна рушыў да яе.

Тым часам таварышы даследчыка ўзялі па куфлю, забаўнік-актывіст прамовіў урачысты тост, і народ толькі сабраўся асушыць кубкі, як Нойм, які ўшчыльную, але незаўважна, наблізіўся да іх і весела выклікнуў:

— Здарова ўсім!

Ад нечаканасці некаторыя выпусцілі куфлі з рук, большасць папярхнулася.

— Сэнгат, гад! Ты нас напужаў! Але мы ўсё роўна рады цябе бачыць! — прамовілі таварышы даследчыка.

— Прабачце, але за апошні час я набыў схільнасць да нечаканасцей, — адказаў Нойм.

— Што ж, ты пачынаеш вучыцца жартаваць! Гэта выдатна, — прамовілі некаторыя хлопцы.

— Месца працы выклікае прыхільнасць.

— А кім ты ўладкаваўся?

— Нізавошта не здагадаецеся!

— Главой лабараторый праграмавання ці распрацоўкі? Першым Майстрам? Настаўнікам у іншы ўнівер? — рушылі следам меркаванні.

— Даследчыкам-тэхнікам у перадавую групу ў Інстытуце Планеталогіі!

— Што? Быць не можа!

— Там жа свая другая ступень вышэйшай адукацыі! І там па планеталогіі стольсі ўсяго! — здзівіліся некаторыя.

— Так. Было нялёгка, але я адолеў усе курсы! І цяпер ведаў па планеталогіі ў мяне болей, чым ва ўсіх у гэтай зале! — адказаў Нойм.

— Ну ты і монстр!

— Пачакай! Гэта ж яшчэ дваццаць год вучобы! Атрымліваецца, у цябе ніякага стажу няма!

— Чаму, ёсць! Паўтара месяца! — пахваліўся даследчык.

Таварышы Нойма дзівіліся.

— Раскажыце мне, як тут справы ідуць, і, заадно, як справы ў вас? — спытаў Нойм.

Былыя аднакурснікі даследчыка сказалі, што за час, які прайшоў з іх выпуску, самымі значнымі падзеямі ва ўніверсітэцкім жыцці сталі адкрыццё двух новых лабараторных карпусоў і змена ў кіраўніцтве. А пра саміх сябе сказалі, што ўсе з працай — большасць уладкаваліся праграмістамі, распрацоўшчыкамі ці, на благі канец, майстрамі-рамонтнікамі; таксама некалькі дзяўчат крыху змянілі профіль і сталі эканамістамі, а двое самых разумных хлопцаў з групы настаўнічаюць тут, у Аанбары — праца падабаецца, вольнага часу хапае, на прыватных франтах усё яшчэ лепей. Карацей, амаль ідылія.

Нойм шчыра парадаваўся за сваіх былых калег-студэнтаў, затым чамусьці спыніўся, агледзеўся і прамовіў:

— Чаму я не ўсіх бачу?

— Дык некаторыя яшчэ рыхтуюцца! Ці ўжо крыху адпачыць пайшлі.

— Зразумела...

Пасля размова працягнулася. У самы яе разгар даследчык нечакана звярнуўся да Эйкха, забаўніка-актывіста і некалі старасты групы:

— Эйкх, сябра, можна цябе на хвіліну?

— Так, — адказаў той і падышоў да таварыша. — Што трэба?

Нойм сарваў з левай рукі пальчатку і ў твар Эйкха накіраваўся выпраменьвальнік убудаванай у пратэз даследчыка гарматы.

Былы староста нават напужацца не паспеў. Іншыя аднагрупнікі навукойца, убачыўшы гармату, накінуліся на яго:

— Што ты робіш?!

— Ціха! — крыкнуў Нойм. — Гэта вас не датычыць. У мяне да яго пытанне!

І павярнуўся да Эйкха.

— Што ты хочаш? — дрыготкім голасам спытаў ён.

— Грошай.

— Якіх грошай?

— Тых што браў! Тры тысячы мер маіх накапленняў! Вяртай іх, а не тое ўсіх тут зрашачу! — крыкнуў даследчык з шалёным тварам.

Напужаны Эйкх адразу ж дастаў з кішэні грошы і адлічыў патрэбную суму. Нойм узяў яе і сказаў:

— Добра, можаш быць вольны, — а затым, зірнуўшы на твары таварышаў, дадаў: — А як яшчэ прапануеце выбіць з яго доўг?

— Нойм, што здарылася з тваёй рукой? — здзіўляліся былыя аднакурснікі даследчыка, гледзячы на пратэз.

— У мек'найскую армію хацеў запісацца? — пакеплівала пара хлопцаў.

— Спрабаваў — не ўзялі. Мала металу, сказалі, — адказаў Нойм. — А так, сапраўды, гэта мне яшчэ на першым курсе адхапіла. Няшчасны выпадак.

— Ясна…

— Тады чаму ты ўзяў тэхнабіёрыку? Гэта ж мінулыя тысячагоддзі! Мог бы спакойна набыць сабе такую ж руку, як і была! — прамовілі некаторыя.

— Ведаю, але гэтая самая «састарэлая тэхнабіёрыка» ўсё яшчэ па магчымасцям пераўзыходзіць новаадноўленыя, — адказаў Нойм. — А функцыянальнасць я шаную.

— А гэта была сапраўды гармата? — ціха спытала адна дзяўчына.

— Часткова. Гэта шматфункцыянальны выпраменьвальнік. Асноўнае яго прызначэнне — рамонт і дапаможнік пры геалагічных і шэрагу іншых даследванняў. А так яна можа выкарыстоўвацца як гармата, — сказаў Нойм і накіраваў лязо выпраменьвальніка на адзін з фантанаў у цэнтры залы. Праз імгненне непрыгожую кампазіцыю на яго вяршыні разнесла на дробныя кавалкі.

— Ух ты! — выклікнулі відавочцы.

— Мой фантан! — залемантаваў камендант кампуса.

— Ты пачынаеш больш паходзіць да надвіяніна, Нойм! — сказалі некалькі.

— Вы яшчэ не бачылі мяне пасля прыёму лекаў! — адказаў той.

— У сэнсе? — здзівіліся хлопцы.

І даследчык крутнуў металічнае кальцо на пратэзе. Настойка імгнення патрапіла ў яго крывацёк, і пачала ўплываць: Нойм ненатуральна скрывіўся, уціснуў галаву ў плечы, твар перасекла ўсмешка — шырокая, шчырая, але ідыёцкая. Зрэнкі вачэй сталі змяняцца ў памерах: то звужаліся, то пашыраліся. У тыя секунды многія на ўласнае здзіўленне адзначылі для сябе, што ў ораў бялкі вачэй ядавітага жоўтазялёнага колеру. Пасля ўсяго гэтага яго перасмыкнула, а шаленаваты выраз застыў на яго твары.

— Нойм, з табою ўсё ў парадку? Як ты сабе адчуваеш? — спыталі занепакоеныя таварышы.

— Як у тым анекдоце, — прамовіў Нойм. — Пачаў піць ладайрыдам, адрубіўся, а калі прачнуўся, да таго ж жанчынай, тыдзень выпаў з памяці!

— Што гэта за лекі такія?! — выклікнула пара дзяўчын.

— Ведаеце, падчас таго інцыдэнта, які пазбавіў мяне рукі, я таксама разбіў хрыбетнік…

— Што?

— Так! Збіралі як канструктар! — сказаў Нойм. — Два месяцы валяўся ў шпіталі, але мяне паставілі на ногі! Толькі адно «але»: косці ў парадку, а вось нервы… Карацей, для іх поўнага аднаўлення мне і патрэбны гэтыя вясёлыя лекі. Раз на месяц — і так трыццаць год запар.

— Трыццаць год?

— Так. Поўная замена хрыбетніка разарыла б мяне, а так я толькі аддаваў траціну стыпендыі дванаццаць гадоў…

— Што? — выклікнулі былыя аднагрупнікі Нойма. — Трацiна стыпендыі за дванаццаць гадоў?

— Нават самае простае аднаўленне хрыбетніка каштуе паўмільёна! — выклікнуў хлопец, які цяміў у медыцыне. — І гэта табе каштавала трэцяй часткі стыпендыі?

— У Інстытуце і ягоным універы плацяць вельмі добра: за выдатную вучобу стыпендыя ў восем-дзесяць тысяч, а за заданні… У залежнасці ад цяжкасці — да двухсот пяцідзесяці тысяч. І гэта за адно! А за спецзаданні ад Урада, доўгія, складаныя, кажуць, могуць даць і да трох мільёнаў!

Пасля гэтых слоў спачуванне і здзіўленне былых аднагрупнікаў даследчыка змяніліся на зайздрасць і злосць — пра такія даходы большасць магла толькі марыць, дый не на ўсіх высокіх пасадах атрымлівалі такія сумы. Нойм, бачачы гэта, вырашыў змяніць тэму размовы:

— Вы казалі, што Кіг і Нуме згулялі вяселле? Што ж, тады мае віншаванні, найлепшыя пажаданні, — прамовіў даследчык і схапіў вялікі кубак з бліжэйшага стала. — А з тостам, як кажуць, буду просты: каб усё!

І залпам выпіў яго.

— Э, Нойм, гэта было для гатнэяў, шэнадзітавы раствор, — ціха сказала адна дзяўчына.

— Праўда? — здзівіўся хлопец, затым рассмакаваў і, змяніўшыся ў твары, сплюнуў усё тое, што выпіў, зрабіўшы палову страў на стале непрыдатнымі для ўжывання, пасля чаго працягнуў: — Прабачце. Тост не атрымаўся, але адсвяткуем па-іншаму!

На тварах гасцей адбілася неразуменне. Нойм узяў вялікі кубак, падобны формай да рога, насыпаў у яго розных прысмакаў, пераважна мінеральнага паходжання, пільна разглядаючы кожны інгрэдыент, а затым, узяўшы порцыю фламбэ, павярнуўся да ўсіх, і сказаў:

— Запалім гэту вечарыну!

І кінуў шматок фламбэ ў рог.

З кубка вырваўся моцны струмень полымя. Госці разбегліся хто куды. А Нойм, смеючыся, стаў вадзіць паласою агня з боку ў бок. Сам таго не ведаючы, ён накіраваў свой агнямёт на камп'ютарны тэрмінал будынка. Назіральнік, які сядзеў у ім, адчуўшы, што апора пачынае палаць, з крыкамі збег адтуль прэч, а абсталяванне было засмажана, ад чаго канчаткова сапсавалася. Але перад адключэннем тэрмінал уключыў аварыйны пад'ём абарончага шчыта на дваццаць гадзін, вывеў са строю дзверы ў холе будынка, які выконваў ролю святочнай залы, пазбавіў сувязі з цэнтральным кантрольным пунктам кампуса. Нойм загнаў усіх у пастку, чым спрасціў сабе задачу.

Некаторы час напалоханыя госці насіліся па зале з крыкамі, лаяліся, але потым былі вымушаны спыніцца, бо Нойм забраўся на сцэну і гучным гарканнем у мікрафон прымусіў усіх уздрыгнуць.

— Я чагосьці не разумею… Народ, мы ж весяліцца сабраліся, так? Калі так, то чаму я не бачу ўсмешак на вашых тварах? Вам сумна? Што ж, тады я паспрабую вас павесяліць… Станцаваць? Не, з маёй спінай гэта не справа… Тады я вам распавяду гісторыю. На Сэтары некалькі год таму ў адным квартале пачалі будаваць хмарачосы. Для гэтага трэба знесці шэраг старых будынкаў. Адзін з іх у двары-калодзежы выглядаў як гаспадарчае збудаванне, але ім ніхто не карыстаўся. Вырашылі знесці яго… Падагналі стандартную тэхніку для разбурэння будынкаў, сталі валіць. Гадзіну валілі, а адзінае, чаго дамагліся — знялі фарбу і тынкоўку. Тады вырашылі паступіць інакш: падагналі «цяжкую артылерыю», набдыфкміт — гібрыд танка і бульдозера, калі хто не ведае. Зноў сталі валіць. Набдыфкміт упёрся ў сцяну, і… Роўна праз трыццаць дзве секунды яго рухавік выйшаў са строю. Будаўнікі раззлаваліся, і вырашылі выкарыстаць прамянёвыя інструменты. Пачалі валіць, але дасягнулі толькі таго, што планетолагі называюць «пустынным загарам»: камяні, якія складалі дом, знадворку пакрыліся хрумсткай скарынкай. Будаўнікі раз'юшыліся і пайшлі ў міністэрства архітэктуры. Там ім выдалі дазвол на ўжыванне анігілятыўных снарадаў. Атрымаўшы дазвол, будаўнікі накупілі «цацак» і вярнуліся. Разагналі ўсіх на дзесяць кудгаў вакол, звалілі бомбы ля пабудовы, падпалілі... Калі пыл рассеяўся, апынулася, што на тры кудга вакол ніводнага цэлага шкла не засталося, дваццаць будаўнічых комплексаў былі разбіты, сем хмарачосаў пайшлі расколінамі. А хаціна — засталася стаяць. Толькі абліцавальныя камяні адваліліся. А пад імі быў знойдзены надпіс: «Гэты склад быў пабудаваны брыгадай Наўмалкартэў трэста Ндзіс, і будаваўся дрэнна, за што ўсёй брыгадзе напалову скарацілі заробак на чаты-

ры гады»… Вам і цяпер нявесела? Што ж, тады… Калі вы самі не хочаце ўсміхацца, тады я сам намалюю ўсмешкі на вашых тварах!

І пасля гэтых слоў Нойм дастаў з кішэняў па тузіну нажэй.

Былыя аднакурснікі ўскрыкнулі і разбегліся, а ён, гледзячы на іх мітусню, кінуў нажы ў датчыкі пажару. Прылады пашкодзіліся, таму сістэма назірання і кантроля вырашыла, што ўвесь хол у агні, і дала каманду на тушэнне. Неўзабаве залу завалакло смугой, стала цёмна, напалоханыя госці разгубіліся, а Нойм сышоў са сцэны і пачаў шукаць індывідуальны падыход да кожнага.

Блукаючы сярод смугі, ён рэдка сустракаўся з наведвальнікамі вечарыны, бо хол быў вялікі, але калі знаходзіў кагосьці, то ахвяры было ўжо не выратавацца. На першых трох Нойм паспрабаваў наступную схему: калі заўважаў патэнцыяльны аб’ект для жарту, то прымаў выгляд нармальнага ора, падыходзіў да ахвяры, прасіў прабачэння і ў знак пагаднення працягваў руку. Ахвяра яму верыла, паціскала руку. І ў гэты момант яе біла токам — нямоцна, але дастакова для таго, каб страціць прытомнасць і часткова падсмажыцца. Схема працавала добра, але хутка яна надакучыла даследчыку. Нойм выдумаў новы план: пачаў нечакана з’яўляцца ля ахвяр. Тыя пужаліся, але хутка забываліся на жах, бо даследчык загаворваў іх за імгненні, лапочучы не горш за звышхуткасны перадатчык на самыя розныя тэмы, пачынаючы ад здароў’я суразмоўцы і канчаючы экзістэнцыяльнай сутнасцю быцця. У выніку ў суразмоўцы блыталіся не толькі думкі, але і словы. Калі ахвяра даходзіла да патрэбнай кандыцыі, Нойм пераставаў лапатаць, усміхаўся суразмоўцу і паляпваў таварыша па спіне левай рукой. Пасля гэтага суразмоўца расплываўся ў шырокай усмешцы і падаў на падлогу, атрымаўшы сумесі транквілізатараў і гармонаў шчасця. Але і гэтая схема хутка надакучыла Нойму, да таго ж яму захацелася паздзекавацца не з аднаго, а з групы. Неўзабаве ён знайшоў кампанію, падышоў да іх, павітаўся, пакланіўся і спытаў:

— Паважанае спадарства, як вы ставіцеся да бодзі-арту? — і дастаў з кішэняў набор нажэй.

Паважанае спадарства, не адышло ад папярэдніх выхадак, пачуўшы такое пытанне, пабачыўшы нажы, адразу ж знепрытомнела і звалілася на падлогу. Навукоўца такая рэакцыя расчаравала, і ён засмуткаваў. Пахадзіўшы па зале, ён натыкнуўся на амаль не крануты стол з прысмакамі. Жарты прымусілі яго прагаладацца, таму ён накінуўся на ежу. Атрыманне «паліва» надало арганізму Нойма моцы і прымусіла яго цяміць хутчэй. Неўзабаве ў даследчыка з’явілася ідэя: пасля сняданку ён узяў з вялікай міскі некалькі кавалкаў халадца, пакруціў іх, разгледзеў, а потым кінуў у бліжэйшы цень. Халадзец гучна плюхнуўся. Праз секунду адтуль прыляцеў хрумсткі піражок. Хлопец ухіліўся ад снараду, і выпечка трапіла у другі цень. Той запусціў у адказ бярэмя салату, але не зусім у той бок, адкуль прыляцеў піражок. У выніку сумесь гародніны трапіла ў трэці цень, які вырашыў адказаць… Карацей, Нойм пачаў самы маштабны і цікавы бой. Баталіі працягваліся амаль акадэмічную гадзіну. Прыкладна траціне ўдалося сысці, але большасць палягла на месцы бою, пабітыя шматамі смажаніны, порцыямі салату ці іншага гарніру. На той момант смуга часткова рассеялася, таму Нойм вылез са свайго ўкрыцця, якое ён зрабіў са сталоў і крэслаў. Апынуўшыся ў калідоры, ён атросся, прывёў сябе ў больш-менш прымальны выгляд і рушыў следам за ўцекачамі.

Тыя не змаглі прабіцца скрозь дзверы і вокны, таму рушылі ў адзінае месца, здольнае забяспечыць хоць нейкую бяспеку, — дах інтэрната. Нойм здагадаўся пра гэта, але, ведаючы, што не ўсе прысутнічалі на свяце ў холе, вырашыў нанесці ім персанальны візіт.

Старанна прыслухоўваючыся да гукаў за дзвярыма на другім паверсе, ён знайшоў там два пакоі, якія не пуставалі. З аднаго даносілася характэрнае пасапванне. Было зразумела, што ён спіць неспакойна — напэўна, сніцца кашмар. Нойм вырашыў гэтым скарыстацца. Ён пракраўся ў іншыя пакоі, які займала творчая асоба. Там хапала ўсякага барахла, але сярод яго было некалькі рэчаў, якія Нойму падыходзілі: набор фарбаў і вялікае бутафорскае мачэтэ. Для большага эфекту даследчык абмазаў мачэтэ, твар, рукі і адзежу фарбамі, нібыта пад плямы крыві розных істот.

Уявіце сітуацыю: вы спіце і бачыце, як за вамі гоніцца натоўп маньякаў. Вы дрыжыце і крычыце. І раптам недзе «звонку» раздаецца дзікі грукат і трэск. Вы прачынаецеся і бачыце маньяка з вашага кашмару! Не дзіўна, што небарака страшэнна напалохаўся. Ён кінуўся на ўцёкі, але забыўся, што дзверы зачынены. Урэзаўся ў іх і страціў прытомнасць. Мэта была дасягнута.

У другім пакоі былі дзве дзяўчыны. Прыслухаўшыся да іх размовы, Нойм высветліў, што яны былі з Мяшчары і гатавалі свой фірменны капусны салат, каб выклікаць уражанне ў гасцей. Яны не ведалі пра тое, што адбылося ўнізе.

Дзяўчаты актыўна і гучна абмяркоўвалі, колькі запраўкі пакласці ў гарнір, як нешта глуха, але моцна стукнулася ў дзверы. Яны выгнуліся, вываліліся разам з вушаком. Перад вачыма дзяўчат паўстаў Нойм, перапэцканы крывёй, з мачэтэ ў руцэ, і прамовіў:

— Каму нашатковаць капусты?

Дзяўчаты закрычалі і кінуліся наўцёкі праз акно. На гэты раз напалохаўся Нойм: ён не чакаў такой рэакцыі, але, згадаўшы, што гэта толькі другі паверх, супакоіўся.

На трэцім паверсе ён знайшоў толькі адзін заняты пакой. Па гуках было зразумела, што там ідзе нейкая азартная гульня. На Аанбары яны былі пад забаронай. Каменданты інтэрнатаў у выпадку выяўлення факта правядзення азартнай гульні, выклікалі паліцыю. Тая прыбывала хутка і выпісвала штраф, ад велічыні якога вочы станавіліся квадратнымі. Нойм пра гэта памятаў і вырашыў нагадаць тым, хто забыў. Ён пашукаў у пакоях і знайшоў калекцыю відэа пра паліцыю. Нойм сеў за бліжэйшы тэрмінал вылучаць патрэбныя галасавыя дарожкі.

Папераджальны сігнал і зычны рык афіцэра паліцыі зрабілі цуд: за секунды гульня і ўсё, што было з ёй звязана, знікла ў невядомым кірунку, а ўдзельнікі пачалі праходзіць скрозь сцены і вокны. Калі Нойм увайшоў у пакой, то знайшоў пустое памяшканне з некалькімі дзюрамі ў неналежных месцах.

На чацвёртым таксама занятым быў толькі адзін пакой. Адтуль даносіліся гукі, характэрныя для спальні маладых. Камендант інтэрната мог заплюшчыць вочы на азартныя гульні, але на гэтую справу злаваўся моцна. Ён усміхнуўся, крыху пракашляўся і голасам каменданта прамовіў: «Што вы тут робіце?» Эфект быў каласальны: спачатку ў пакоі рэзка стала ціха, а потым узняўся шоргат, грукат, трэск, шамаценне. Па шуме можна было меркаваць, што нехта залез у шафу, а нехта прайшоў скрозь сцяну ці нават дзве. Палохаць далей Нойм не стаў, рушыў на пяты паверх.

На ім быў хтосьці ў двух пакоях. У адным з іх нехта спаў: з памяшкання даносіўся гучны мужчынскі храп. Але гучаў ён неяк дзіўна. Нойм паспрабаваў узгадаць, дзе ён мог чуць падобнае, да яго дайшло: у адным са старых фільмаў быў эпізод, дзе адзін з персанажаў спаў у спецыяльным шлеме — прыладзе, якая дазваляла знаходзіцца ў царстве Марфея ў надзейнай цемры і цішыні. Гук дыхання і храпу быў абсалютна ідэнтычны. Частка шлема была выраблена з цвёрдага рэчыва — гэтая акалічнасць стала нагодай для розыгрышаў, таму Нойм дзейнічаў па па сцэнарыі, праверaным гадамі.

Весялун-даследчык пракраўся ў пакой, перасунуў стол так, каб яго край быў над храпуном, дастаў з кішэні камунікатар і ўключыў запіс, які куратар Хат Кай выка-

рыстоўвае як будзільнік. Пачуўшы дзікі лямант, хлопец ускочыў, сустрэўшыся са сталом. Шлем абараніў хлопца ад шышак і іншых траўм, але адключку забяспечыў сур'ёзную. Справа была зроблена, Нойм адкаціў стол на месца і выйшаў з пакоя.

У другім пакоі праходзіў кінасеанс. Глядзелі фільм жахаў. Хвіліну Нойм прыслухоўваўся і высветліў, што гэта «Узняцце Гітэі» — фільм пра тое, што адбылося, калі б паўстанне штучнага інтэлекту на аднайменнай планеце не атрымалася задушыць поўнасцю. Нойм узяў праектар «цвёрдых галаграм» і загрузіў у яго вобраз робата.

Гледачы сядзелі перад экранам тэрмінала, пільна назіралі за тым, як орды робатаў са страшэнных зоркалётаў спускаліся на планету і раздзіралі яе жыхароў, як раптам нешта моцна стукнула ў дзверы. Неўзабаве яны выпалі і перад спалоханымі гледачамі паўстаў гітэянскі баявы робат. Вочы гледачоў акругліліся, твары змяніліся. Некалькі секунд стаяла цішыня, а потым людзі з лямантам кінуліся хто куды. З пятага паверха скакаць было не вельмі зручна, таму напалоханыя аддалі перавагу праходу скрозь сцены. Нехта з перапуду збіў само страшыдла і панёсся з крыкамі па калідоры. Па Нойму крыху патапталіся, але ён быў задаволены: чарговы поспех!

І далей падобным чынам яшчэ пятнаццаць паверхаў.

За той час, пакуль Нойм гарэзаваў па пакоях інтэрната, уцекачы, што збеглі ад яго з залы прыёмаў, стаміліся баяцца і чакалі, калі ён з'явіцца. Праз некаторы час Нойм паказаўся на даху і звярнуўся да сваіх таварышаў:

— А вось і вы! Прайшло дзве гадзіны і трынаццаць хвілін, а вы ўсё яшчэ невясёлыя. За гэты час можна было б хаця крыху пазабавіцца! А вы такія сур'ёзныя. Што ж, тады дазвольце мне…

Але яму не далі скончыць. Тыя, хто ўцёк з залы, ужо дасягнулі новай стадыі жаху: калі ўсё яшчэ страшна, але можна ісці на самае жудаснае з каменным тварам. Яны рушылі на Нойма. Ён адразу ж пасур'ёзнеў, пачаў адступаць.

— Народ, што з вамі? — занепакоена спытаў ён. — Вы чаго? Калі што, прабачце, я не хацеў! Праўда!

Але яго не слухалі. Былыя калегі павольна наступалі і рыхтаваліся скінуць яго ці парваць. Яго прыціснулі да краю даха. Натоўп працягваў набліжацца, падыходзіў ушчыльную. Нойм інстынктыўна стаў адхіляцца ад іх і не ўтрымаўся. Ён паляцеў уніз, прыхапіўшы дваіх з натоўпу.

Нойм са «здабычай» зваліўся на выступ, прызямліўся на ногі і пакаціўся ўніз, трымаючы «закладнікаў». Натоўп на даху асалапеў, у «здабычы» ад жаху ашклянелі вочы, а даследчык, вылучыўшы момант, развярнуўся, бо ехаў спінай наперад.

Так яны праехалі дванаццаць паверхаў, а потым заўважылі, што крыху ніжэй на іх шляху адчынены вокны. Нойм падхапіў таварышаў і закінуў у гэтыя вокны, пасля чаго скончыў паездку ў кустах.

Натоўп яшчэ некаторы час глядзеў уніз на кусты, а потым перавёў пагляды на лесвіцу, з якой даносіўся гучны тупат. Неўзабаве перад імі зноў паўстаў Нойм. На гэты раз ён быў раззлаваны. А раззлаваны маньяк вельмі небяспечны. Уцекачы зразумелі гэта і сталі адступаць. Надвіянін рушыў на іх, актывізаваўшы выпраменьвальнік-гармату свайго пратэза, прыгаворваючы:

— Дарма вы так зрабілі, дарма!

Неўзабаве ўцекачы былі прыціснуты да краю. Але Нойм не збіраўся скідваць ці рваць іх — ён задумаў іншае: прыпёр натоўп да таго краю, дзе быў зімовы сад і над ім празрысты дах. Калі ўцекачы апынуліся на празрыстым участку, ён зірнуў на іх, схаваў выпраменьвальнік і прамовіў:

— А цяпер павесялімся! — і падскочыў.

Па перакрыцці пайшлі расколіны, і ўцекачы разам з пераследнікам зваліліся ў зімовы сад: даследчык — у сажалку, а яго былыя калегі — на калекцыю аанбарскіх калючак.

Лямант узняўся на ўвесь кампус — калючкі пранікалі неглыбока, але боль выклікалі моцны. У Нойма ад крыкаў заклала вушы.

Абарончае поле, якое стала пасткай, знялі толькі праз тры гадзіны, «закладнікі» былі вызвалены. А Нойм сышоў праз камунікацыйныя тунэлі ахоўнай сістэмы. Па тунэлях ён пракраўся да інтэрната, у якім спыніўся, пазбавіўся ад настойкі ў крыві і хуценька з’ехаў. Неўзабаве Нойм пакінуў планету. Годны адказ быў дадзены.

**КАНЕЦ**

Пасля ўсяго, што адбылося, пазбегнуць наступстваў не ўяўлялася магчымым. На Юца, Іту і Нойма падалі ў суд. Згодна з артыкуламі, па якіх іх абвінавачвалі — нанясенне шкоды здароўю, псіхіцы і псаванне маёмасці — ім павінны былі выпісаць штраф. Але ў тых маштабах, у якіх яны дзейнічалі, згодна з законам, можна было б пазбавіцца свайго цела на некалькі дзясяткаў год і пасяліцца ў нематэрыяльным свеце-калоніі.

Але калі праводзілі следства, высветлілася, што даследчыкі мелі важкую нагоду так зрабіць: працяглыя здзекі тых, хто стаў цяпер іх ахвярамі. Былыя аднакласнікі і аднакурснікі Юца, Нойма і Іту з неахвотай пацвердзілі гэта, што змяніла ход справы. Прысуд даследчыкам усё роўна вынеслі, але змякчальныя акалічнасці выклікалі неабходнасць у іншым пакаранні. Суд пагадзіўся выпісаць штрафы. Праўда, значнай велічыні: сто восемдзесят сем мільёнаў Юцу, сто семдзесят пяць Нойму і сто шэсцьдзесят восем Іту.

Для яго выплаты даследчыкі павінны былі пяць соцень год працаваць дарам, але выбавіў куратар: ён прадаў частку сваіх зоркалётаў і перадаў ім грошы. Іту, Нойм і Юц выплацілі штраф і з чыстым сумленнем вярнуліся ў Інстытут. Даследчыкі былі вельмі ўдзячныя Хат Каю, а той адказваў, што дзеля таго, каб яны засвойвалі ўрокі, яму сродкаў не шкада, пасля чаго папрасіў больш «не рассыпацца ў падзяках».

Кіраўніцтва горада Кшэйціс, Аанбарскі Універсітэт і планета Стэім атрымалі сродкі і хутка ліквідавалі пашкоджанні. Былыя таварышы даследчыкаў таксама атрымалі грошы для таго, каб аднавіцца, але добра засвоілі: калі нехта вылучаецца сярод астатніх, гэта не нагода здзекавацца. А Юца, Нойма і Іту яны больш на сустрэчы выпускнікоў не запрашалі.

*Напярэдадні Новага года.*
*— Добры дзень, Міша!*
*— Добры, Мікалай Канстанцінавіч...*
*— Адгадай загадку: не п’е, не курыць — на Новы год дзяжурыць!*
*— Э-э-э... Гэта вы на што намякаеце?*



*Йоханна ЛІ*

# СВЕТ КВІТНЕЮЧЫХ КАШТАНАЎ




***Йоханна Лі нарадзілася 1 лютага 1962 года ў вёсцы Кавака Брагінскага раёна. Скончыла мастацкае вучылішча. Жыве і працуе ў Мінску. Упершыню наважылася друкаваць вершы. Цікавіцца жывапісам Паўночнага Адраджэння і беларускім фальклорам.***

**А ТЫ Ў МЯНЕ НАЗАЎЖДЫ...**

У дзіцячым садку пад кустом шыпшыны
Курчавы хлопчык казаў дзяўчыне:
Ты ў мяне назаўжды, разумееш?
А яна ў адказ яму: што ты мелеш?
Ветразі траўня надзьмутыя ўяўна
Нібыта шапталі ёй: Рана... Рана...

На школьнай алеі пад покрывам клёну
Дзявоцкаму хлопец аддаўся палону.
Ты ў мяне назаўжды, разумееш?
Яна абуралася: як ты смееш?
Імчаўся жніўнем крылаты Пегас
І чулася з неба: Не час... Не час...

У двары інстытуцкім пад буйною калінай
Юнак давяраў — давяраўся дзяўчыне.
Ты ў мяне назаўжды, разумееш?
Яна дзівілася: ты ў гэта верыш?
Бярозы на ўзгорку спявалі пра жаль
І ў спеве гучала: Амаль... Амаль...

У парку асеннім з адцвіўшай ажынай
Мужчына ссівелы стаяў ля жанчыны.
Ты ў мяне назаўжды, разумееш?
Яна казала, што кубак не склеіш
Лісце ляцела, клён ўвесь пажоўк
І вецер разносіў: Ужо... Ужо...

У сутонні пакоя пад шалем з паркалю
Са здымкам мужчыны сядзела старая:
Ты ў мяне назаўжды, разумееш?
Толькі часоў мінулых не вернеш…
І громам грымела з нябёс пагрозна
Рэхам даносячы: Позна... Позна.

## КАНАТАХОДЦА

Па канату ў цыркавых нябёсах
Хлопчык робіць ціхі першы крок.
У чаканні вырашэння лёсу
Гледачы ўзіраюцца здалёк.

Працінаюць позіркам прастору
І свідруюць-круцяць ў цішыні
Смелага маленькага акцёра,
Што ідзе у зорнай вышыні.

Па-над ім свяцільні і ліхтарні
Пракладаюць шлях, нібы ўначы
Грымнуць барабаны і літаўры,
Схамянуцца сэрцы у жанчын.

Над вузенькай і дрыготкай стужкай
Ён ляціць, забыўшыся на страх,
Бы з паветра вытканая птушка,
Што здзяйсняе цуды на вачах.

І не бачна ўнізе і не чутна,
Як адчайна страх у скроні б’е.
Нечаканы крок — і лёс магутны
Стужку шляху ледзь не абарве.

## МЫ

Гэта мы ўзгаданыя ва ўсіх легендах пра каханне,
Гэта мы — белая дама і чорны манах.
Гэта пра нашу гісторыю мараць купальскім світаннем,
І ў замку Гальшанскім наш пахаваны прах.
Нас апяваў з табой Нестар — былы летапісец,
На вулках старой Гародні блукаем прывідамі мы,
Заўважныя кожнаму ўночы, каго напаткае месяц,
Выходзім, нібыта з палацу — са срэбнай ад свету сцяны,
Нідзе не знайшоўшы спакою.
Мы княжыч літоўскі і панна,
Спавітыя між сабою,
Узятыя ў кайданы.
Аб нас складае паданні
Кожны, хто прагне кахання,
І нашу журбу адвячоркам
Разносяць з касцёла званы...

* * *

Жыву, а час сабе мінае,
Жыццё сплывае ў ціхі дым,
Я веру, што пакуль кахаеш,
Ты застаешся маладым.

Кахаю, веру, што кахаю,
Мінае дзень, і ўслед за ім
Мне новы дзень не выпадае,
Бо я ўвесь час жыву адным.

У ім свет квітнеючых каштанаў,
Ігрушаў дзікіх спелы пах…
І ты адной мяне частуеш,
Каб запаветны зведаць смак.

З таго імгнення час — адвечны,
А на заходзе і світанні
Нам з першым і апошнім промнем
З'яўляецца выра...каханне!




Новы год патрэбны дзецям для казкі, няўдачнікам — у якасці кропкі адліку новай надзеі і астатнім — для весялосці.

Ішхан ГЕВАРГЯН
(расійскі бізнесмен)

Калі вы не любіце Новы год, то з верагоднасцю ў 80 працэнтаў вы — мандарын.



*Вольга КАРАТКЕВІЧ*

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



***Вольга Караткевіч нарадзілася 1 кастрычніка 1966 года ў Камсамольску-на-Амуры. Сярод прафесійных інтарэсаў — гарманічнае развіццё, асобасны рост, узаемаадносіны дарослых і дзяцей, бізнес-адукацыя. Аўтарка шматлікіх кніг і тройчы маці. Жыццёвае крэда — «Дарогу адолее той, хто ідзе!»***

## ВАРОНА І БЕЛЫ КОЛЕР

«Чаго скрывіліся? Сама ведаю: нічога добрага вы не скажаце! Так! Я, Варона, сцягнула гэтую скрыначку. Ну і што! Паспрабуй тут стрымацца! Сядзяць пад дрэвам два разумнікі і тыркаюць па клетачках нейкімі цацкамі. Збоку паглядзець — смешна! Сядзяць, патыліцы паціраюць, крэхчуць. І часу на гэта не шкадуюць!

А я ж, пакуль яны з той скрыначкай гулялі, столькі спраў зрабіла! На памыйніцы была? — Была! Раз! Дарэчы, там сёння нічога цікавага няма! Каля крамы пачаставалася, вох і пашэнціла мне! — Два! Вяроўку сцягнула, мне таксама яна патрэбная! — Тры! На балконе кавалачак сала з’ела, а што, няхай не вісіць, дзе не трэба! — Чатыры! А гэтыя ўсё сядзяць! Дзіўна, дарослыя, а паводзяць сябе, як маленькія дзеці. Дык дзеці і то, мабыць, разумнейшыя. У тых хоць цацкі рознакаляровыя, ёсць на што паглядзець. А ў гэтых?! Толькі два колеры: чорны і белы. Але вось цікава: чаму той, хто чорны бок выбраў — павінен толькі чорнымі гуляць?

Не крывіцеся! Гэтыя два разумнікі самы вінаватыя! Склалі свае цацкі ў скрыначку і сышлі! А скрыначка засталася… Я так разумею: калі што засталося без нагляду, то гэта ўжо непатрэбна. Інакш, навошта б пакідалі? Не ведаю, як вы, а я, напрыклад, свае рэчы хаваю ад чужых вачэй як мага далей! Гэта ж маё! Навошта, каб хтосьці бачыў маю ўласную маёмасць?

Не крывіцеся! Хіба тое, што без нагляду, нельга зрабіць сваім? Асабліва, калі вельмі цікавае! А-а-а, маўчыце… Вось, вось! Напэўна, шмат хто ўзяў бы — толькі дай магчымасць. Так? Але вы пра гэта не кажаце, сароміцеся. А вось я кажу!

Зараз расстаўлю гэтыя цацкі і пачну гуляць. Чорныя, белыя… Але ўсё ж такі, калі я чорны колер маю, дык чаму ўсе мае хады павінны быць чорнымі? А раптам я ў душы лебедзь белая? Як убачу іх у небе, дык, здаецца, крыламі б узмахнула і — за імі. А што? Ляціш, з вышыні на ўсё паглядаеш… Вольнае паветра! Прыгажосць!

Кажуць, таму, хто белы колер мае, цяжкавата прыходзіцца… Яно так. Калі часам запэцкаешся, адразу бачна.

Мне лягчэй. А яшчэ кажуць: не могуць яны, лебедзі, адзін без аднаго. Вернасць нейкая ў іх… Можа, і так. Напэўна, белае да белага цягнецца. Мы, вароны, таксама, ледзь што — адразу да кучы! І мы, вядома, лятаем! Толькі лебедзі — вышэй… Я неяк чула: іх там, на гэткай вышыні, каханне трымае… Прыгожа гучыць, як казка. Але, відаць, не кожны на гэта здольны. Бо лебедзяў на свеце няшмат, а нас, варон, вунь колькі! Нічога, што высокага палёту няма, усё адно: жывём! Часам вельмі добра жывём!

Штосьці я не пра тое. Ну вось, усе цацачкі на дошчачцы ў парадачку стаяць. Пачну я! Як там у гэтых разумнікаў было? Адзін крок, другі… А што, калі я з белага боку пачну? Так… І вось так… Не… Цяжкавата белымі… Са сваімі лягчэй! Сапраўды зручней. Свой колер — ён і ёсць свой. Ужо прызвычаілася. А можа, калі мне пёры пачысціць, я б святлейшая стала?

Ведаеце, аднойчы крумкача бачыла… Белага! Адкуль ён, не ведаю… Але зусім белы! Я ў яго запыталася, чаму ён такі. Усміхнуўся… Кажа: “Я раней таксама чорны быў”… Вось і я думаю, калі мне памыцца, можа, белай зраблюся? Хаця б трошкі… Калі чорнай кучай ляціш, яно добра, разам мы — сіла, але ж, калі сам-насам застанешся — цяжкавата толькі чорны колер на сабе бачыць… Я тады ў белага крумкача спытала, што трэба зрабіць, каб такім стаць? Ведаеце, што ён мне адказаў? Душу трэба памыць, тады і пасвятлееш… Не! Не зразумела гэтага… Як яе памыеш? Чым? Ды і дзе тая душа? Кажуць, душа баліць… Часам забаліць недзе вось тут, зашчыміць, быццам хтосьці прыціснуў. Можа, тут яна? Чаму баліць? Ды як яе памыеш? Не, нешта гэта занадта складана… Трэба жыць прасцей! Заўтра сцягну тую бялюткую хустачку, што на трэцім паверсе вісіць, прыкрыюся. А калі сваіх убачу, дык здыму і пад крыло схаваю, і зноў — свая. А таго белага крумкача чорныя сваім так і не прызналі, хаця і не кранулі — баяліся. Незвычайны ён… Але дужы… Вельмі дужы… Мне б так… Але навошта? Гэта ж цяжка заўсёды белым быць… Сваіх пакідаць не хочацца, ды і боязна неяк. Не, няхай лепей хустачка будзе.

Чорныя, белыя… Ніякага выбару! Усяго толькі два колеры! Альбо ты такі, альбо другі. На жаль, сярэдзіны няма! Вось гульня! І хто яе прыдумаў? Напэўна, не дурнем быў: столькі разумнікаў над гэтай дошчачкай галовы ламаюць? Цікава, пра што яны думаюць? Можа, хто з іх дужэйшы: чорныя ці белыя? Ці, можа, дзе душу памыць?

Хто дужэйшы: чорныя альбо белыя… Па-рознаму бывае. Колькі ж разоў сама бачыла! Але, ведаеце, калі белыя дужэйшыя, мне заўсёды радасна, дарма, што сама чорная.



*Малюнак **В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.***

Я ў тыя хвіліны адразу лебедзяў згадваю. Ляцяць яны высока-высока… Э-э-х… Нічога. Я вось гэтую дошчачку схаваю, каб тыя разумнікі яе не забралі… Няхай не пакідаюць без нагляду. А мне таксама трэба… Можа, і я калі-небудзь белымі згуляю…»

## КОТ І ВОЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ

«Зноў гэтыя паскуднікі прыбягалі! Цьфу! Гідота! Маленькія, калматыя, лапкі крывенькія, поўсць скамячаная. І ўсё туды ж! Я ім спачатку спрабаваў растлумачыць: не чапайце — гэта ўсё маё! Пакуль з адным разбіраўся, другі з-пад самага носа сцягнуў смачны кавалачак… М-м-да, што не кажыце, выхаванне. Калі яго няма, дык нічым не заменіш. А якое ў гэтых выхаванне! Адкуль? Адным словам, басота… Да таго ж, мяне абразілі, я потым адказаў ім, але кавалачка таго шкада… Неблагі кавалачак быў… Мабыць, гаспадыня нечая памылілася, ды не туды яго…

Што вы на мяне пазіраеце? Прыгожы? Сам ведаю, што прыгожы… Я Кот пародзісты. Самі ж бачыце. Спінка, вушкі. Ну і гэтак далей. М-м-да… Высакароднасць, ведаеце, паўсюль бачная.

Здзівіліся, чаго я тут? Сам не разумею, як тут апынуўся… Не, не! Я не шкадую! Вядома, пах не надта прыемны. Парфумы на памыйніцы няма, але ж затое — свабода! Што хачу, тое і раблю!

Вось кажуць, прыгожае жыццё… А якое яно прыгожае? Вы ведаеце? Па мне, няхай на памыйніцы, але каб ніякіх абавязкаў не мець! Вось гэта прыгажосць. Так, так! Нікому, ніколі, ні ў чым не хачу быць павінным. І маё, прабачце, не чапайце! Бо яго я сам здабыў! А дзе і як, гэта мая справа!

Жывеш і ведаеш, што гэтая частка прасторы і тое, што ў ёй — належыць толькі табе. Няхай нават з не надта прыемным пахам… Асалода! Хачу, з’ем вунь тое, што збоку вісіць, хачу не… Мая справа і ўсё тут! А можа, пачакаю, калі яшчэ нешта смачнае сюды трапіць. А гэтых паскуднікаў я больш не пушчу! Што мне да таго, што яны малыя і есці хочуць? Гэта іх праблемы. Кожны сам па сабе!

А ўвогуле, выхаванасць ніколі не перашкодзіць. Вунь учора нейкая кабета з торбай ішла. А я побач, вось вам: паглядзіце — прыгажун! Спінку выгнуў, замуркатаў! Вочы прыжмурыў, а сам паглядаю, што яна з крамы нясе. Божухна! Каўбаска! Як я стараўся! Не дарма, кажу я вам! Не дарма…

Мне той кавалачак, які гэтыя паскуднікі сцягнулі, не патрэбны, бо ўчарашняя каўбаска пад той скрыняй засталася, але гэта маё! Таму, выбачайце, даражэнькія, не дам! Вось толькі з вераб’ямі б яшчэ разабрацца. Таксама паскуднікі! Ніколі не запытаюцца… Паспрабуй злаві, калі іх шмат. Адно толькі засталося: хаваю далей.

Я на гэтай памыйніцы ўжо даўно жыву, таму, перш чым штосьці ўзяць — спытайце дазволу. Можа, і прэзентую… Не, што не кажыце, а вольнае жыццё — гэта асалода… І як я толькі раней цярпеў? Туды нельга, сюды таксама. А тут усё, што захочаш, можна! Хачу спяваю, хачу маўчу. Каго хачу запрашаю ў госці. Толькі, калі ласка, вось сюды нельга і туды таксама… Без дазволу нічога не кранайце! Праўда, апошнім часам нешта наведвальнікаў паменшала… Яно, вядома, у кожнага сваіх спраў хапае… М-м-да…

Уначы дрэнна спаць стаў. Усё думкі, думкі. Ведаеце, што мне ў маёй гаспадыні падабалася? Не здагадаецеся ніколі! Не-не, не здагадаецеся… Ведаць, калі ў яе баляць ногі! Мы, каты, гэта не проста адчуваем, а лекарскія здольнасці ў гэтай хваробе маем! Так! І я таксама маю. Дык вось, я ведаю, што ў яе ногі баляць і моцна баляць, але не іду! Чакаю. Пакуль сама пакліча. Дачакаюся… Як пачую: “Кіці,

кіці...", дык толькі тады падыду павольна і сяду ёй на калені. Падрапаю кіпцямі, памуркачу, ведаю, што ёй лягчэй. А мне ж таксама добра, бо гэткая цеплыня агорне, што нават засынаю часам. А гаспадыня мая, уявіце сабе, не варухнецца, будзе сядзець на месцы, чакаць, пакуль я не прачнуся. Даўно я ад яе сышоў… Неяк бачыў: ходзіць па вуліцы, шукае… "Кіці, кіці…", — кліча. Напэўна, ногі зноў баляць… Я, можа, і не сышоў бы адтуль, каб мне дазволілі жыць так, як я хачу…

Не, вы толькі паглядзіце! Зноў драбнота махнатая цягнецца! Божухна! Якія ж яны худыя! Можа, ім сваю каўбасу аддаць?»

## ПАЦУК І ХВОСТ

«Я вось пра што часта думаю: патрэбна мне, Пацуку, святло, ці не? На сонца выйсці ці тут застацца?

Бачыце, Матыль паляцеў! Нічога сабе… Прыгожы! Рознакаляровы, лёгкі… Прывітанне! Не пачуў. Вядома, высока… Добра яму… Крылцы танюткія. Да святла паляцеў, да сонца…

Але кожнаму сваё. Чаму? Я так разумею: калі ты яркі, цябе адразу бачна. Так? Так. А калі ты шэры, можна штосьці-небудзь зрабіць ціхенька і знікнуць. Ніхто цябе і не заўважыць! Вось толькі хвост часам замінае. Учора залез у скрыню з мукой, схаваўся. Заўважылі! Хвост звонку застаўся! Здраднік! Ледзь уцёк… Зірнуць на яго гідка… Дарма, што свой. Нават поўсці на ім няма. Хаця б танюткі быў, як у мышы, тады яшчэ цярпець можна… Дык не! Тоўсты і вялікі! Гэта ж сапраўдны здзек, а не хвост! Бачыце, ён жа ў тры разы даўжэйшы за мяне! Каб хто купіў, я бы прадаў! Скажаце, здурнеў? Можа, і так… Можа, і здурнеў… Але часам ад уласнай шэрасці на сценку лезці хочацца. А што? Некаторыя мае браты гэтак і робяць… Але досыць пра гэта…

Я вось чаму пра святло думаю: мне сон сёння прысніўся! Сам пра сябе сон бачыў! Во як у жыцці бывае! Рознакаляровы сон… Думаеце, калі шэры, дык і сны шэрыя павінны быць? Не-е… Я ў гэтым сне ледзь сябе пазнаў! Цуд! Не горшы за Матыля! У палосачку, нібы тыгр, толькі палосачкі гэтыя рознакаляровыя, быццам вясёлка. Ажно сэрца зайшлося ад уласнай прыгажосці. Азірнуўся — хваста няма! Знік! Тут прылятае да мяне Матыль і кажа: "Ты не пацук! Ты сапраўдны Матыль!" Як пачуў я гэтыя словы, так лёгка зрабілася… Узмахнуў лапкамі раз-другі і — паляцеў! Узняўся ўслед за Матылём вышэй за аблокі. Назад вяртацца не хочацца: гэтак добра там, наверсе, без хваста.

Доўга мы лягалі, а як на зямлю селі, азірнуўся: зноў хвост са мною — тлусты, цяжкі, шэры… Я Матылю кажу: "Што трэба зрабіць, каб хвост знік?" Дык ведаеце, што ён мне параіў? Ні за што не здагадаецеся! Ён кажа: "Жыві так, каб ён табе не замінаў". Вось і зразумей! Мой хвост мне не замінае толькі тады, калі я ніякай шкоды не раблю, ні ад кога не ўцякаю. Бегаю ў сваё задавальненне… Часам нейкае насенне знойдзецца, з'ем і добра. Ведаеце, мне ў гэткія моманты хвост дапамагае на задніх лапках стаяць, каб да нейкай сцяблінкі дацягнуцца. Я Матылю кажу: "Цяжка жыць, калі поўсць шэрая". А ён смяецца ў адказ: "Хіба яна ў цябе шэрая? Не! Яна ж у цябе на сонейку срэбраная. Паглядзіш, як зіхацець будзе". Здзівіўся я: "Дык чаму я цяпер такі?" А ён, ведаеце, што мне адказаў? "Ты, — кажа, — у цемры сядзіш, таму і шэры. Выйдзеш да святла і сам убачыш, як твой колер зменіцца!" Вось вам і сон…

Дык я ўсё думаю: патрэбна мне тое святло ці не? На сонца выйсці ці тут застацца?»

## ВУСЕНЬ І ЛІСТОТА

«Ды не турбуйцеся вы! Не піхайцеся! Усім месца хопіць! Чаго лемантуеце, хіба гэты лісцік апошні? Калегі! Каторы раз вас папярэджваю: прытрымлівайцеся правіл паводзін! Паважайце адно аднаго! Супакойцеся, калі ласка, інакш, усе разам звалімся ўніз! Што, усё адно? Застанецеся без ежы, будзе вам "усё адно"!

Ці варта паўзці ўсім у адным кірунку! Што? Я самы разумны? Дзякуй! Тады выходзіць, што вы не? А-а-а! І вы таксама? Калі так, дык азірніцеся: ежы хопіць на ўсіх, яшчэ і застанецца. Што? Не застанецца? Паглядзіце, на якім дрэве мы сядзім! Колькі на ім лістоты! Што? Не хопіць?

Супакойцеся! Каторы раз кажу… Есці моцна хочацца? Дык хто вам не дазваляе есці? Толькі не піхайцеся. Хіба вы адны на гэтым свеце? Што? На астатніх вам… Гэта дарэмна… Дарэмна, я вам кажу! Так нельга! Зараз звалімся ўсе! Што рабіць? Пацíху распаўзацца ў розныя бакі! Так, так! У розныя, кажу вам! Нельга цягнуцца ўсім разам. Мы ж толькі шкоду робім! Каму? Самім сабе! Азірніцеся і рухайцеся туды, куды кожнаму трэба. Яшчэ раз папярэджваю, не замінайце адно аднаму! Не трэба! Што? Паўсюль трэба? Не, даражэнькія. Так нельга. Інакш застанецеся зусім без ежы… Так, так! Зусім… Вы паглядзіце на мяне. Я перапаўзаю на другі лісцік.

Эй! А вы куды? Хіба я вас з сабою запрашаў? Не! Вы, калі ласка, спыніцеся, вам у іншым кірунку. Што? За мной лягчэй? Так нельга! Дзе ваш розум? Што? Няма калі ім карыстацца? Чаму? А-а… Есці трэба… Э-э-х! Я ж вам казаў…»

## ЧАЛАВЕК І САБАКА

**Чалавек**

«Зноў сядзіць… Ужо колькі дзён яго бачу! Збоку паглядзець — жывая гурбачка: зусім снегам занесла. Учора паклікаў, а ён нават не варухнуўся.

Цікавае стварэнне. Стварыў Бог сабаку і загадаў: служы! Так, мабыць, кажуць? Каму служы? Вядома каму — мне! Ча-ла-ве-ку! А што! Ён — сабака. Я — Чалавек! Усё як мае быць!

Але чаго ён тут сядзіць? Мо занадта злосны быў: пакусаў кагосьці, дык з дому прагналі? А можа, еў зашмат? Вялікі, паспрабуй пракармі! Тут самому… хаця б з голаду… Э-э-х! Жыццё!

Вочы ў яго нейкія… Не сумныя, не! Нават і не ведаю, як сказаць. Чалавечыя… Як глянуў у іх — дрыжыкі па спіне. Як у люстэрку сябе ўбачыў. Часам здаецца, сам сеў бы, як той Сабака, і паглядаў бы на людзей. Можа, і брахаў бы на іх часам. Кусаць то не… А можа, кагосьці і куснуў! Цікава… Ты сядзіш, а паўз цябе, быццам у кінастужцы: усе некуды бягуць. Усім чагосьці трэба. Вядома чаго, грошай! Чым больш грошай, тым больш свабоды! Хіба не так? Так! Без грошай сядзіш, быццам на ланцужку. Як зашмарганы цюцька. А з грашыма — ого-го! Лабрадор! Або як іх там… Ай, якая розніца! У каго яны ёсць, той і пароду мае!

Вось гэткае жыццё… Сабачае… Сабака, павінны мне, Чалавеку, прыслугоўваць. Я ўчора яму кавалак хлеба кінуў, а ён не ўзяў! Уздыхнуў толькі… Ну і дурань! Няхай сядзіць…»

**Сабака**

«Зноў ён тут прайшоў… Ужо які раз бачу! Колькі дзён усё ходзіць, ходзіць. Збоку паглядзець, не стары яшчэ, але ледзь ногі цягне. Напэўна, цяжка яму… Мо

хворы? Ды не, з выгляду нічога… Сёння спыніўся, усміхаецца, а ў самога вочы сумныя… Нічога не сказаў. Далей пайшоў…

Цікавае стварэнне — Ча-ла-век! Я, Сабака, павінны яму, Чалавеку, служыць… Чалавек — гаспадар, а я абавязаны ахоўваць яго і яго маёмасць. Навошта? Ад каго? Ад гэткіх жа, як ён? У тых на службе таксама павінны быць мы. А калі што не так? Нам, сабакам, тады што рабіць? Ведаю што: “Узяць! Кусі!” Ужо праходзілі… Больш не хачу!

Я Чалавеку сябрам быць хачу! Так! Сябрам… Калі адно аднаму ў вочы зірнеш і ўсё адразу зразумееш. Гэта ж, як дыхаць… Каб жыць і ведаць, што камусьці патрэбныя не толькі твае іклы, але і ты сам, нават без хваста…

Гэта ж шчасце, калі ў гэтым жыцці ты яшчэ камусьці патрэбны! Як сябра, як Сабака — Чалавеку. Я яму, а ён мне…

А ўчора ён мне кавалак хлеба кінуў… Гэтак есці хацелася! Жах! Я калі той кавалачак убачыў, задрыжаў, ледзь не здурнеў ад водару! Страўнік скруціла… Але не ўзяў! Калі б ён, Чалавек, хаця б не з рукі, а побач той хлеб паклаў… Дык не… Кінуў! Быццам я сэрца не маю… Я тую ежу ўжо даўно сам бы сабе знайшоў! Э-э-эх! Напэўна, я не Сабака, а дурань, што столькі часу сяджу і чакаю…»

**Чалавек**

«Сядзіць… Да гэтага часу сядзіць. Нават з месца не сышоў… Можа, чакае кагосьці? І столькі дзён! Схуднеў… Скура абвісла. Вунь той хлеб, што ўчора кінуў, так і ляжыць… Не ўзяў… Вочы ў яго вялікія, прыгожыя, толькі глядзець цяжка: сэрца шчыміць…

Я яго сёння паклікаў: “Гэй, Сабака? Чаго сядзіш?” Хвастом завіляў! Хіба зразумеў? Ды не! Голас ласкавы пачуў і ўзрадаваўся.

Усё, як у нас, людзей: калі хто прылашчыць, дык ужо і рады, ляціш, быццам шчанюк гарэзлівы, ног пад сабой не адчуваеш. Здаецца, сэрцам увесь свет абдымаеш! Потым цябе, як Сабаку, пасадзяць на ланцужок або вяровачку, або пад замочак і цю-цю… Цюцька! Сядзі і прыслугоўвай!

Э-э-х, жыццё чалавечае — жыццё сабачае… Паўсюль адны ланцужкі! Схавацца б туды, дзе іх няма! Ды дзе там! Не атрымліваецца! Лепей ужо самому той ланцужок у руцэ трымаць. Здаецца, некаторыя на сабе нават не заўважаюць. Мо на гэтага накінуць? Ці пойдзе?»

**Сабака**

«Зноў побач прайшоў. Сабакам назваў… Дзякуй. На самай справе ў мяне сваё імя ёсць. У яго, напэўна, таксама павінна быць… Цікава, як яго клічуць? Каб ён мяне па імені паклікаў… Напэўна, тады пабег бы за ім хоць на край свету! Але што ж, дзе тут…

Што нам, сабакам, трэба? Костку? Не! Гэта яны, людзі, так думаюць. Мы, сабакі, без гэтага абысціся можам! Самі знойдзем, калі трэба. Нам цёплыя рукі патрэбныя! Толькі хто пагладзіць, слова добрае скажа — сэрцам увесь свет абдымеш, ляціш, быццам шчанюк гарэзлівы! Дык не! Яны, людзі, усё пра ланцужок мараць… Хіба можа быць сябрам той, хто цябе на ланцужку трымае? Ніколі! На ланцужку трэба трымаць свае жаданні, а не тых, у каго сэрца ёсць! Яны, людзі, упэўнены, што мы, сабакі, іх хітрыкаў не бачым! Вунь учора адзін трох выгульваў! Дык сам заблытаўся ў сваіх ланцужках… А сабакі ад яго збеглі. Кожны па сваіх справах. Шкада яго…

А гэты Чалавек усё ў вочы мне глядзіць. У яго вочы вялікія…

Што значыць наша, сабачая, вернасць? Ісці па жыцці разам з Чалавекам! Але калі цябе не вядуць, а ты ідзеш сам, побач, без прымусу! Гэта ж свята сэрца! Ідзеш

і ведаеш, што пойдзеш са сваім сябрам па ўсім свеце. Не пытаючыся: ці ёсць у яго ў кішэні хлеб, ці лёгкае падарожжа, ці будзе цёплы прытулак? Не, ён не разумее…

Цёпла там, дзе ёсць любоў, а калі яе няма, там толькі холад. Цяпер таксама холадна стала… Цёмна… Пайду я… пагрэюся недзе. Не ведаю, ці вярнуся…»

**Чалавек**

«Няма… Столькі дзён сядзеў, а сёння няма! З самага ранку хацеў назваць яго па імені. Мне здаецца, я яго ведаю…

А я ж заўсёды марыў пра Сабаку! Чамусьці сёння сярод ночы прачнуўся і ўзгадаў сваё дзяцінства, нават тое імя, якое хацеў даць тады свайму Сабаку! Зазбіраўся было ноччу прыбегчы, а потым вырашыў: чаго турбавацца? Дарма… Куды ён падзеўся?

Калі маленькім быў, усё чакаў Карлсана. Каб той прынёс мне шчанюка. Колькі разоў за дзверы выглядваў у дзень нараджэння! Бацькоў прасіў… Казалі: “Нельга! Шмат поўсці!”

Здаецца, я ўсё пра сабак ведаю! Смешна сказаць! Хадзіў на курсы сабакаводаў! Куды ён сышоў?

Чаму я марыў пра сабаку? Чаму… Хацелася, каб побач быў верны сябра. Каб вяртацца дамоў і ведаць, што цябе там заўсёды чакаюць! Бачыць радасць у вачах толькі ад таго, што ты стаіш на парозе. Нават, калі ў кішэні нічога няма!

Штосьці я ўсё пра сябе. Вядома, кожны хоча быць шчаслівы. І Сабака таксама. Інакш, чаму ён без прымусу сядзіць тут? Ніхто нікому не павінны прыслугоўваць! Што мне трэба? Шчасце. Вось таму я і сыходзіў на гэтым прыпынку?

Шчасце — гэта калі адчуваеш, што мы патрэбныя адно аднаму. Усе, у каго сэрца ёсць, гэтага шукаюць. Ва ўсім свеце… Нельга нам адно без аднаго… А дзе тое шчасце можна набыць? Нідзе яго не купіш! Няма гэткіх грошай ва ўсім свеце! Шчасце на ланцужку побач з сабой не павядзеш! Яно, як паветра свежае, ёсць і ўсё, а калі яго не хапае — дыхаць цяжка.

Няма майго сябра… Нават слядоў на снезе не засталося… Некуды падаўся… Мо хто іншы яго да сябе забраў? Не… Гэты пойдзе толькі сам… Сабака ўпарты, яго і з ланцужком не забярэш.

Ланцужкі, ланцужкі… Усё жыццё баімся ланцужкоў, але звязваем сябе імі! Каму яны патрэбныя? Нікому! Нават Сабаку! Вось і ўсё!

Сышоў мой сябра… Стаміўся… Холадна… Хлеб мой есці не стаў. Яно, вядома, парода… Сяду вось тут, дзе ён быў… Буду чакаць… Можа, вернецца?»

## БЛІСКУЧЫ ЦВІК

«Э-э-х!», — зноў пачулася над старой дошкай…

Цвік падумаў і ціхенька падаўся ўверх. Узняў над дошкай сваю бліскучую галоўку, азірнуўся і пасунуўся крышачку яшчэ. Выцягнуўся, паглядзеў вакол сябе: «Цікава…»

— Вунь, глядзі, зноў вылез, — пачуў ён.

Побач незадаволена заварушыліся ў дошцы іншыя цвікі.

— Усё яму нешта трэба! — пакруціў іржавай галавой адзін з іх.

— Няхай лезе! Зноў атрымае тое ж, што столькі разоў атрымліваў… — з’едліва хіхікаючы, адказаў яму другі, што, скруціўшыся ўбок, ледзь трымаўся за самы ўскраек дошкі.

— Ці праўду я кажу? — запытаўся ён у гэткіх жа іржавых цвікоў, што невядома калі і дзеля якой патрэбы былі панабіваныя ў старое струхнелае дрэва.

— Так, так! — пачулася з розных бакоў.

Іншыя цвікі, што шчыльна сядзелі побач, стаміліся ад уласнай зайздрасці, пагля-

даючы на тое, як зіхаціць на сонцы іх сусед, і таму стрымацца таксама не здолелі:

— А ўчора ён гэтак пхнуўся, што ледзь мяне не зачапіў!

— Дык табе нічога, а на мяне ад яго цень падае!

— Што цень, ад яго бліскучай галавы-капялюшыка свая галава баліць!

— А я кажу, даражэнькія, добра, калі яго зноў гэтак жа, як раней, пачастуюць!

— Так, так! Праўду кажаце!

— Меней трэба блішчаць!

Цвікі бухцелі, скардзіліся на сваё іржавае жыццё, а іх бліскучы сусед з цікавасцю разглядаў тое, што бачылася з вышыні ягонага росту.

— Калі б мы ўсе гэтак павылазілі, хто б у дошцы застаўся? — пачуў ён чарговы папрок знізу.

Бліскучы Цвік паглядзеў у той бок і ласкава ўсміхнуўся:

— А нашто яна вам патрэбная?

Ад пачутага цвікі так захваляваліся, што некаторыя паспрабавалі ўзняць вышэй свае галовы.

— Як гэта навошта?!

— Вунь які разумнік знайшоўся!

— А як жа яна без нас?

— У нас, цвікоў, жыццё гэткае!

Колькі б яшчэ працягваліся нараканні цвікоў на іржавае жыццё ды бліскучасць суседа — невядома, але, калі насельнікі старой дошкі ўбачылі малаток — гэтак моцна ўціснуліся ў яе, што на тым месцы, дзе тырчалі іх галовы, з’явіліся дзіркі!

Малаток згледзеў бліскучы Цвік, уздыхнуў і спытаў:

— Зноў?

— Так!

— Навошта?

— Дык цікава ж! Не ўсё ж у дошцы сядзець, — азірнуўся навокал Цвік і прамовіў: — Я разумею. У цябе праца такая, але я з кожным разам нешта новае заўважаю. Ты прабач, я на месцы сядзець не ўмею!

— Трэба сядзець! Усё павінна быць раўнюткім.

Малаток уздыхнуў і ўжо ў які раз цюкнуў па бліскучай галоўцы.

— Дзякуй табе, — пачуў ён ужо знізу.

Малаток здзіўлена нахіліўся і спытаў:

— Гэта за што?

— За дапамогу.

Малаток ад нечаканасці ажно ўгнуўся:

— Якую дапамогу?

Бліскучы Цвік крышачку ўзняўся над дошкай і весела засмяяўся:

— Дзякуючы табе, бакі мае сталі гладкія.

Малаток падумаў і згадзіўся:

— Так!

— А таму мне вельмі зручна будзе высунуцца, калі ты зноў пойдзеш па сваіх справах!

— Дык я ж вярнуся! Сядзеў бы ўжо! — здзівіўся Малаток, азірнуўся навокал і ўбачыў насцярожаныя позіркі астатніх цвікоў, што дзе-нідзе пачалі таксама ўзнімацца над струхнелай старой дошкай. Ён пастаяў крышачку, падумаў, але нічога вартага ў яго галаву больш не прыйшло. — Колькі вас тут, а мне даглядай за ўсімі! — уздыхнуў і пашкандыбаў прэч.

Цвікі яшчэ доўга шэптам абмяркоўвалі, калі ж Малаток вернецца зноў? А бліскучы Цвік тым часам у каторы ўжо раз узняў сваю бліскучую галоўку…

«Э-э-х», — зноў пачулася над старой дошкай…

Яўген МАРТЫНОВІЧ

# ГАНУЛЯ



***Яўген Мартыновіч нарадзіўся 3 красавіка 1985 года ў Мінску. Скончыў БДПУ імя Максіма Танка і цяпер працуе ў школе настаўнікам па гітары. Галоўнае для яго — не зайздросціць чужому поспеху, умець слухаць людзей, бачыць прыгожае ў штодзённай мітусні.***

*Прысвячаецца жонцы і дачцэ*

**Дыханне**

Слухаю тваё дыханне па начах. Турбуюся з-за кожнага ўсхліпу і непачутага ўздыху. Але праз хвіліну ты глыбока і чутна ўздыхаеш, як быццам бы нечым занепакоена! А потым смешна дрыгаеш ножкай. Сэрца зноў пачынае біцца роўна, і я супакойваюся. Як жа гэта цудоўна! Цяпер для шчасця мне трэба толькі адно — чуць тваё дыханне.

**Першы месяц**

Прайшоў месяц пасля твайго нараджэння, а я ўжо і не памятаю тое бесклапотнае жыццё, што было да цябе. Разумееш тады, як часам дарэмна марнаваўся час! Цяпер яго не застаецца. На аніякія дурныя думкі, непатрэбныя рэфлексіі… Поўная «няволя». Але гэтая «няволя» і ёсць тое самае ГАЛОЎНАЕ, дзеля чаго я жыву. Дзеля цябе і тваёй прыгажуні-матулі.

**Анёл-ахоўнік**

Кожнаму чалавеку пры нараджэнні даецца Анёл-ахоўнік — маці. Але здараецца, што некуды гэты Анёл знікае (не вытрымлівае такой адказнасці). Мне пашчасціла сустрэць трох Анёлаў-ахоўнікаў у жыцці: маці, жонку і дачку. І толькі б не пакрыўдзіць іх словам ці ўчынкам. Толькі б не пакрыўдзіць сваіх Анёлаў!

**Адлюстраванне**

Шчасце, калі я бачу твае вочы і адлюстроўваюся ў іх. Шчасце, калі я бачу твае шчочкі-яблычкі, нібыта створаныя для пацалункаў. Шчасце, калі мы з тваёй матуляй кожны дзень знаходзім сябе ў табе.

**Бацькі**

Мы ёсць адно ў аднаго. І гэта ўжо нямала. Як жа прыемна быць бацькамі анёлка!

**Пытанне**

Маці пытаецца ў жонкі:

— Дык на каго ж больш падобна Ганулля?

— Яна пакуль яшчэ прыглядаецца да нас. Вырашае…

**Ласкавыя мянушкі**

Гануля, Ганначка, Дачушачка, Анёлачак, Вожык наш, Буба, Жэўжык… Няма такіх слоў, каб напоўніцу выказаць нашу пяшчоту да цябе. Таму мы будзем дыхаць табою… Так ціхенька, каб не прачнулася...

**Чысціня**

Прыйшла думка: а чаму менавіта дачка павінна быць падобна да нас? Чаму не мы да яе — нашай чыстай крынічкі.

**Разуменне**

Ты ўжо падоўгу глядзіш нам у вочы. І маё сэрца ахутвае цеплыня і спакой. Ты ўжо тры месяцы дыхаеш паветрам. Мы бачым, як ты хочаш нешта сказаць нам і плачаш, калі мы цябе не разумеем. Прабач нам. Мы толькі вучымся.

**Найлепшы настаўнік**

Ты шмат чаго нам даруеш. І мы вельмі ўдзячныя табе за гэта. Наша дачушка. Наш найлепшы настаўнік.

**Любімыя рэчы**

Што табе падабаецца:

Лямпы, ліхтары на вуліцы, карціна з лесам і возерам, магніты з выявамі гарадоў на лядоўні, кніжка з коцікам, фотакарткі, дрэвы, галубы, песенька пра «Зайчыка»… І мы разам з табою радуемся гэтым звыклым рэчам.

**Уменні**

Чаму ты ўжо навучылася ў свае чатыры месяцы? Усміхацца, пераварочвацца, «гуліць», засяроджана ўглядацца ў рэчы, трымаць упэўнена галаву, хапаць рукамі (і нагамі) свае любімыя кольцы і цацкі. Так шмат усяго! А чаму навучыўся я за гэтыя месяцы? На жаль, не магу пахваліцца тымі ж поспехамі. Таму — проста радуюся, гледзячы на цябе.

**Калумб**

Мы не перастаем здзіўляцца тваім адкрыццям, нават самым маленькім. Хаця, для нас (і для цябе) яны зусім не маленькія, наш любімы Калумб.

**Чым яшчэ здзівіць?**

Здараецца, надыходзяць такія моманты, калі я трошачкі пужаюся: чым жа яшчэ цябе можна здзівіць? Але яны праходзяць, калі я прыходжу з працы і бачу тваю ўсмешку. І мне не трэба большага для шчасця. Я дома.

**Самая галоўная справа**

Колькі ж хочацца прачытаць кніг! Яны глядзяць на мяне з палічак і чакаюць свайго часу. Я слышу іх шэпт:

«Вазьмі мяне першай!..» — «Не-не-не, мяне першай!», «А ну, у чаргу! Ён мяне ўжо як тры месяцы таму абяцаў прачытаць!»

Прабачце мне! Я абавязкова вас прачытаю. Але пакуль ёсць СПРАВА больш неадкладная. І гэтая СПРАВА зараз соладка пасапвае на ложку...

**Вершы**

Ты плачаш. І нашыя сэрцы не знаходзяць сабе месца. Каб супакоіць цябе, мы з маці чытаем вершы. У цябе нават склаўся «топ» любімых аўтараў: Барто, Вітка, Чукоўскі, Пазнякоў, Агняцвет, Маршак і шмат іншых… Ніколі ў жыцці я не ведаў на памяць столькі вершаў.

**25 ліпеня**

Ты з'явілася на свет цёплым ліпеньскім вечарам (а 19.15). Цяпер кожны месяц дваццаць пятага мы святкуем тваё нараджэнне ў цёплай сямейнай атмасферы і дорым маленечкія падарункі. Разумеем, што кожны пражыты месяц — такі вялікі крок у тваім жыцці! Таму і святкуем, як сапраўдныя дні нараджэння.

**Летуценні**

«Варожым» з жонкай, кім жа ты будзеш, калі станеш вялікай. Доктарам, настаўніцай, інжынерам ці музыкам… А ты глядзіш сваімі вялікімі вачыма, цягнеш свае ручкі да нас. І мы смяёмся са сваіх летуценняў. Ты ўжо ёсць. І гэтага дастаткова.

**Снег**

Бачым з жонкай, як маленькія дзеці збіраюць снег. Дапамагаюць дарослым. Напэўна, думаюць: «Якая цудоўная гульня: нехта раскідвае снег, а дарослыя вымаюць свае шуфлікі і прыбіраюць яго! А потым ідуць дадому піць салодкую какаву». І весела расчышчаюць сваю дзіцячую пляцоўку, пакуль нехта вялікі зноў не раскідае гэтую халодную пухнатую вату.

**Бацькі**

Чым больш мы знаходзімся побач з табою, тым больш разумеем сваіх бацькоў: іх турботы аб хлебе надзённым, адказнасць за кожны ўчынак, за фізічнае і духоўнае здароўе. Яны ва ўсіх адносінах сталі бліжэй да нас, твае дзядулі і бабулі.

**Цярпенне**

Бываюць моманты, калі здаецца, што яшчэ кропля, і не вытрымаеш напружання, сарвешся. І зрываешся! І тады вылазяць усе «пачвары», якія так доўга сядзелі ўнутры: ты крычыш, нервуешся, кажаш непрыемныя словы. Але потым становіцца так брыдка ад усяго гэтага. Застаецца толькі прасіць прабачэння. І табе прабачаюць…

**«Не хвалюйцеся»**

Напэўна, ідэальных бацькоў не існуе. Недалюбіш — блага, пералюбіш — таксама можна ўсё сапсаваць. Пытаеш у сваіх бацькоў, як правільна выхоўваць дзіця? Але яны таксама нічога не могуць адказаць. Бабуля прыслухоўваецца да нашай размовы і гаворыць: «Не хвалюйцеся! Усё будзе добра. Сэрца падкажа, як трэба. Галоўнае — не хвалюйцеся».



**«Цацкі»**

Хочам купіць табе ў краме цацку. Глядзім, а вакол такі выбар! Усё мігціць, пішчыць, некаторыя цацкі нават задаюць пытанні… Ажно галава разбалелася ад усяго гэтага «багацця». Выбраць немагчыма... На лецішчы ніякіх пытанняў — з чым табе пагуляць — не ўзнікае. Лепшыя «цацкі» і прыдумаць немагчыма: кабачок, кветкі, кот (паспрабуй дагані!), вожык… Нават і параўноўваць не хочацца!

**Кнігі**

Ты дакладна любіш кнігі! Сваіх табе ўжо не хапае. Бярэш мае. Пераварочваеш, пэцкаеш слінай ці якім-небудзь пюрэ старонкі і, задаволеная, паўзеш да маці. Як можна злавацца?

**Дзяцінства**

Бывае, ахопіць непакой: а ці так мы ўсё робім? Можа, трэба больш зарабляць і ўладкавацца яшчэ на адну працу? А ці хопіць часу «выбудаваць» сябе, бо яшчэ так шмат «паверхаў» недабудавана?! Ты глядзіш на мяне сваімі чыстымі вачыма, як быццам гаворыш: «Эх, дарослыя, як вы ўсё ўмееце ўскладняць. У цябе ж ёсць я, хадзем разам поўзаць!» І я з усмешкай спускаюся да цябе ў дзяцінства.

**Шчасце**

Думаю: якое вялікае шчасце — проста выспацца! Калі ў дачкі ўсё добра і яна не крычыць пасярод ночы (праз кожныя сорак-пяцьдзясят хвілін); як цудоўна, калі ідзеш на працу, а жонцы становіцца лягчэй, чым табе і можна пра нешта памарыць (і каб гэтыя мары ўвасобіліся ў жыцці). Бывае, хочацца ператварыцца ў дыванок і паляжаць месяц-другі, каб цябе ніхто не чапаў... Але разумееш недарэчнасць такой «мары» і крочыш на працу...

* * *

Пасля Ганулінай (і нашай) бяссоннай ночы:
«Што паспеў, тое і паспаў».

**Та-та**

Перад працай падыйшла да мяне дачка, абняла за нагу і ціхенька прамовіла «тата»... Я тата! Я ТАТА! Я ТА-ТА!!! Бываюць моманты, калі так востра адчуваеш сваё бацькоўства! І гэта самыя цудоўныя моманты ў жыцці!

**Дзед Мароз усё бачыць!**

Стаў сведкам такой размовы...

Маці, каб неяк прымусіць свайго гарэзлівага дзіцёнка слухацца, ушчувае яго:

— Дзед Мароз усё бачыць! Мне здаецца, што ты нічога ад яго не атрымаеш!

І (о ЦУД!!!) непаслухмянае дзіця адразу ж ператвараецца ў анёлка!

І я не здолеў стрымаць усмешкі ад гэтага маленькага спектакля...

**Кнігі з маленства**

У Ганулі ўжо склалася свая маленькая бібліятэчка! Напэўна, у ёй ужо больш за сто кніг!!! А яны ўсё аднекуль бяруцца і бяруцца. З лецішча прыязджаюць кнігі майго маленства, з вёскі — бацькоўскага. Усім дзіцячым кнігам мы знаходзім пачэснае месца ў хаце. Прыходзіцца маім «дарослым кнігам» саступаць ім месца. Але я раблю гэта з лёгкім сэрцам.

**Шчаслівы**

Спрабую ўзгадаць: якім я быў у дзяцінстве? Пытаюся ў бацькоў, дзядулі, цёткі, прыглядаюся да фотаздымкаў. Але агульны партрэт майго маленства неяк не складваецца. Мне здаецца, што я быў шчаслівым да гадоў шасці (пакуль не пайшоў у школу)... А, можа, і не... Але адно я ведаю дакладна: цяпер я настолькі шчаслівы, як ніколі яшчэ не быў у сваім жыцці.

*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ*

# МУЗЫКА СНОЎ



***Навум Гальпяровіч нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў Полацку. Дырэктар дырэкцыі міжнароднага вяшчання Белтэлерадыёкампаніі, аўтар кніг паэзіі і прозы, вядучы тэлепраекта «Дыя@блог» на канале «Беларусь 3».***

**РАЯЛЬ У КУСТАХ…**

*На адным са здымкаў*
*у інтэрнэце ўбачыў*
*выкінуты раяль*
*у дворыку музычнай школы…*

…Раяль закінуты за плот,
І клавішы бездапаможна
Застылі ў ім, бо лёс іх кожнай
Бязлітасна ідзе на звод.
А ён сабе ў кустах стаіць,
Нібы святое знікла нешта,
Нібы пазбавілі дарэшты
Яго ў музычнай зале жыць.
Ды музыка заўжды жыве
І светла над зямлёй лунае…
Насуперак, што ў той траве
Раяль пакрыўджаны трывае…

* * *

Каб лёс мой пачаўся нанова
І можна было б выбіраць,
Я б толькі Радзіму і мову
Не стаў бы ніколі мяняць.
Над выспаю дзвінскаю поўню,
Сланечнікі ў даўнім акне
І мудры спагадлівы Полацк,
Што лёсам падораны мне…

* * *

Азноб узвышаны ізноў,
Калі адчую прыналежнасць
Да велічных Сафійкі вежаў,
Да Ефрасіннеўскіх крыжоў.
Адкуль, скажы, такое ёсць.

У чым для гэтага прычына?
Прайшлі дзяцінства, маладосць,
Ды заставалася Айчына.
Бо гэта ціхая зямля
І сціплы полацкі падворак
Мне адкрывалі мройны шлях
Да думак і высокіх зорак.
Як гэта важка зразумець,
Як гэта важка ўсёй душою
Адчуць, што трэба ў сэрцы мець
Сваё адзінае, святое.
І прычасціцца назаўжды
Па вечнаму жыцця закону
Да дзвінскай цёмнае вады
І полацкіх лугоў зялёных.

* * *

Ад высокага неба
Кругам аж галава!..
Пахне мёдам і хлебам
Маладая трава.
І душа трапяткая
Адгукаецца зноў
Усяму, што спявае
Светлай музыкай сноў.
Спакваля прасыхае
Пад павекай сляза.
І зусім я не знаю,
Што ў той момант казаць.

* * *

Я пра каханне слоў не гаварыў.
Хаця радкоў і напісаў нямала.
А ўсё маўчаў, калі яна чакала,
Бо ў горле нібы выспяваў нарыў.
«Скажы кахаю», — некалі пачуў,
Я нешта мармытаў, бо словы стылі.
Казаць пра патаемнае не ў стылі
Маіх паводзін, лепей уваччу
Убачыць водгук светлага прызнання
І таямнічы свой адказ пасланць.
Я не казаў уголас пра каханне.
А можа, трэба ўсё ж было казаць?

* * *

Мне «дзякуй» казаць мусіць трэба,
Ды толькі не буду казаць
За ўзнос асалоды да неба,
За вуснаў спакусных пячаць.
Я «дзякуй» скажу за расстанне,
За тое збаўленне ад мук,
За сны, што прыходзяць пад ранне,
Ды ціхаму дому майму.
Забыцца б на тонкія пальцы,
На позірк халодных вачэй,
На ўсё, што бязлітасна паліць,
Віной патаемнай пячэ.

* * *

Куды, куды знікае прыгажосць?..
Гляджу на пажылых з самотнай думай,
Бо не ратуе модная парфума,
Бо гэта ўсё дарма, бо ёсць як ёсць.
Ды раптам позірк выблісне вачэй
На твары, нібы сонечны праменьчык,
І ўбачу зноў я малады агеньчык,
І сэрца зноў надзея апячэ.
І ўбачу: іх не старыць сівізна,
І ўжо хадою гордай і паважнай
Нібы плывуць. О, гэта прага ў нас
Быць маладымі робіцца заўважнай.
А значыць, прыгажосць заўсёды ёсць,
І кожны позірк яе бляск адчуе.
А значыць, не знікае маладосць,
Калі яна ў душы людской пануе.



# ЯК МАРЫЦЬ ХМАРА



***Хмары — вялікія, бэзавыя, чорныя альбо шэрыя. Што яны робяць там, увышыні? Чаму пакідаюць пасля сябе вясёлку над чыстымі, абмытымі землямі? Хмары лунаюць вышэй за людзей, таму іх далягляд значна большы за наш, чалавечы. Хмары выглядаюць змрочнымі, цяжкімі, набраклымі слязьмі. Але насамрэч гэта не слёзы, а мары. Сутнасць хмары — чужы вопыт, перажыты як свой. Сутнасць хмары — быць пасярод неба ўсім, чым ёсць зямля, несці думкі, пакуты, гісторыі іншых туды, дзе іх, можа, пачуюць. І плакаць ад цяжару, што на сябе ўзялі, марамі, якія даюць жыццё новым парасткам на зямлі.***

***Сяргей Мацін быў неверагоднай хмарай. Летуценны, узвышаны і, у адрозненне ад пустых легкадумных аблачын, вельмі абцяжараны чужым болем. Ён вандраваў па свеце, нібы хмара, збіраў гісторыі чужых людзей: іх праблемы, супярэчанні, пытанні, пакінутыя без адказу, іх адчай. Збіраў гэта ўсё, прапускаў праз сябе і спрабаваў данесці да астатніх ад свайго імя з пазнавальнымі падрабязнасцямі, магчыма, у спадзеве, што так лепш пачуюць — калі ты кажаш ад сябе, кожны чытач верыць, кожны чытач таксама прымярае аўтарскае «я».***

***Выключнасць Сяргея ў тым, што ён да сваіх дзевятнаццаці год лепш за шматлікіх дарослых і сталых спалучыў у сабе дзве здольнасці: бачыць здалёк і зблізу, быць паэтам і навукоўцам. Паэтычны імпэт узносіў яго ў вышыні, адкуль відаць панараму, а навуковы розум прымушаў прыглядацца да кожнай дробязі, да кожнага чалавека, да яго глыбока схаваных, ледзь заўважных, але такіх моцных экзістэнцыйных перажыванняў.***

***«Мары хмар» — паэтычны зборнік, складзены Сяргеем, але дапоўнены пасля яго смерці вершамі, якія ён не паспеў туды ўключыць. Ён хутка выйдзе ў друк і мусіць заняць сваё месца на небасхіле беларускай літаратуры. Мы кажам, што Багдановіч — наша зорка, што Сыс — боль Беларусі. А вось Сяргей Мацін, які сышоў яшчэ раней за іх трагічна і беспадстаўна, — нашая хмара. І ўся яго творчасць — жывільны дарунак хмаравых слёз, мар. І ў кожным яго творы паўстае не яго ўласная асоба, а жывыя людзі, розныя, чые расповеды Сяргей прымаў, выношваў і распавядаў як свае.***

*Надзвычайная вартасць твора «Андрэй Зайцаў. Паміж нараджэннямі» заключаецца ў тым, што частка яго, асабліва тое, што адбываецца напрыканцы, было сапраўды «кінута ў рукі» аўтару староннімі людзьмі. Сяргей з вялікай уважлівасцю ставіўся да тэматыкі выгнанства. Па словах ягонай маці, Святланы Генадзьеўны: «Сяргей намагаўся ўзняць статус беларускай мовы ў нашым грамадстве, асэнсоўваючы яе цяперашняе становішча праз прызму стаўлення да сексуальных меншасцей, роўна як змагаўся з усімі відамі прыгнечанасці (па мове, нацыянальнасці, веры, сексуальнай арыентацыі, палітычных поглядах), бо лічыў дыскрымінацыю праявай фашысцкай псіхалогіі». Гэта тэматыка чырвонай ніткай ішла праз усе ягоныя творы. Прачытайце гэта апавяданне — і вы пабачыце, як атачэнне робіць чалавека, як грамадства ўпэўнівае асобу ў тым, што быць сабой немагчыма і трэба змяніцца вонкава, каб цябе прынялі. «Чалавек у душы можа не адпавядаць уласнаму целу, але ён заўсёды застаецца чалавекам, вартым шчасця і паразумення», — гэта была думка Сяргея, лагічны вынік яго даследчай працы, аналізу папулярных форумаў бісексуалаў СНД, вывучэння дэвіянтных паводзін у жывёл, вандровак па розных краінах, а таксама наведвання беларускіх глыбінак ды ўдзелу ў дэбатах наконт моўнай праблемы Беларусі.*

*Аднак Сяргей спрабаваў знайсці станоўчае выйсце з кожнай сітуацыі, хай сабе часам футурыстычна-фантастычнае. А ў гэтым творы самі вырашыце, што.*

*Кася ГЛУХОЎСКАЯ*

*Сяргей МАЦІН*

# АНДРЭЙ ЗАЙЦАЎ. ПАМІЖ НАРАДЖЭННЯМІ

## АД СКЛАДАЛЬНІКА

**Прозвішчы і імёны тут значэння ня маюць (а калі і супадаюць час ад часу з імёнамі і прозвішчамі знаёмых мне людзей — выбачайце), бо сітуацыі тыповыя для Беларусі канца «нулявых» — пачатку 2010-х гадоў. І менавіта характар эпохі, на маю думку, тут і ўхоплены.**

**Андрэй Зайцаў, ад імя якога вядзецца гаворка — ліцэіст, бацька якога — рускі, а маці — украінка. Але ён лічыць сябе беларусам, бо чытае «Нашу Ніву» і «Народную волю». Увогуле, даволі супярэчлівы чалавек. Нават не вырашыў: будзе ён хімікам ці біёлагам.**

**Да таго ж, піша вершы (часам нядрэнныя) і вядзе дзённік (электронны і папяровы — «для ўсіх» і «для сябе» адпаведна).**

**Кім ён будзе?**

**Што з ім будзе?**

**Вось гэта вы і прачытаеце ніжэй, паважаныя. І тут — праўда, а не мана. Крыху глабалізаваная і прыбліжаная да сярэднестатыстычных паказчыкаў, але праўда.**

**Беларуская праўда, знойдзеная мной выпадкова.**

**Як я яе знайшоў?**

**Прачытаеце — будзеце ведаць...**

**Але на ўсялякі выпадак папярэджваю, што тут захаваны аўтарскі правапіс: «нармаванка» з паўсюдным напісаннем «ня» ў першым складзе перад націскам.**

**Відаць, Зайцаў меў на гэта свае прычыны...**

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ, АЛЬБО ЯК Я ПРЫЙШОЎ ДА БЕЛАРУСКАСЦІ

Нягледзячы на тое, што гэтыя нататкі я пішу для сабе, на некаторыя набалелыя пытанні я павінен адказаць перад тым, як пачаць пісаць філасофскія нарысы.

І галоўнае: «Як я дайшоў да такога? Як я, хто ня мае ні кроплі беларускай крыві ва ўласных жылах і звязаны з гэтай зямлёй толькі фактам свайго нараджэння на ёй, зрабіўся беларускамоўным?»

Дык вось, каб я не забыўся: адбылося гэта ў красавіку бягучага, 2009 года, пад уплывам адной кніжкі, што даў мне на вуліцы нейкі хлопец з БЧБ-стужкай, прышпіленай да грудзей. Адтуль я вынес галоўную думку: «Чаму я, грамадзянін гэтай краіны, не размаўляю на абедзвюх дзяржаўных мовах? Чаму рускай я карыстаюся дзе заўгодна, а беларускай — толькі на ўроках беларускай мовы і літаратуры, ды і то блага?»

Я вырашыў справай даць адказ на гэтае пытанне.

І спадзяюся, што адказ будзе дадзены. Рана ці позна.

## КАПІТАЛІЗМ

У гэтым свеце няма нічога бясплатнага: за ўсё ты павінен аддаваць нешта наўзамен.

Іншая справа, што гэты абмен бывае выгадным і нявыгадным.

Напрыклад, возьмем сацыялістычныя краіны кшталту Кубы ці КНДР. Дзяржава падмяняе сабою грамадства і ў выніку выдаткуе шмат грошай, каб гэты падман ня быў ніколі выкрыты. Адсюль — страшэнная беднасць насельніцтва.

Цяпер перанясёмся ў капіталістычную краіну — ЗША. Там кожны працуе выключна для сябе (ці сваёй сям'і) і плаціць падаткі. А з гэтых падаткаў дзяржава размяркоўвае грошы. Большасць — на войска (яно ж патрэбна, так бы мовіць, для «устрашения других государств»), а вось на сацыяльныя сферы (кшталту адукацыі і аховы здароўя) ідзе мізэрны працэнт. У выніку, бацькі вымушаны самі плаціць за адукацыю дзяцей і сачыць за ўласным здароўем. І барані Божа захварэць і ня мець страхоўкі!..

А што назіраем у нашай роднай Беларусі? Тут ёсць сферы амаль цалкам занятыя дзяржаўнымі прадпрыемствамі (ЖКГ, стацыянарная сувязь, энергетыка, нафтаперапрацоўка, машынабудаванне, сельская гаспадарка), ёсць — «серёдка на половинку» (банкаўская сфера, мабільная сувязь, транспарт і іншае), ёсць — амаль цалкам прыватніцкія сферы (гандаль, у асноўным). Цалкам прыватных сфер эканомікі ў нас пакуль няма, але з набліжэннем капіталізму будуць. Дарэчы, чым бліжэй да капіталізму, тым большы сярэдні заробак, беспрацоўе, кошты і амбіцыі дзяржавы. Менавіта ў такім парадку.

Што лепш? Радзіму не выбіраюць, але ёсць прыстасаванцы, што едуць у ЗША. І альтруісты (адзінкавыя!), што едуць на Кубу. І такія будуць існаваць да той пары, пакуль адна з эканамічных мадэлей не пераможа.

А тады — панаванне эксплуатацыі. Бо капіталісты вельмі ня хочуць страчваць свае грошы, а шмат якія сацыялісты жадаюць збагацець. Нават за кошт улады.

Бо інстынкты заўжды кіруюць чалавекам. Нават калі ён гэтага не ўсведамляе.

І выключэнняў у чалавечай гісторыі амаль не было.

І наўрад ці з'явяцца пры капіталізме ці сацыялізме.

Толькі на мяжы, кшталту нашай краіны.

Бо новае заўжды ўзнікае на мяжы двух старых.

## ДАЛЁКАЕ І БЛІЗКАЕ

Далёкае і блізкае...

Не заўсёды гэтыя паняцці залежаць ад фізічнай адлегласці.

Ці можна лічыць далёкім чалавека, яд якога цябе аддзяляе хвіліна на дастаўку SMS? І ці можна лічыць блізкім чалавека, які адмовіўся размаўляць з табою?

Нават калі першы — за дзве тысячы кіламетраў, а другі — за трыста метраў ад цябе?

Нават калі першая дзяўчына ведае цябе тыдзень, а другая — з 2006 года?

...Ёсць абставіны, пры якіх у першую чаргу маюць значэнне не фізічныя, а духоўныя параметры. І дадзены выпадак, на маю думку, уваходзіць у гэты шэраг.

## СПЁКА

Я не вар'ят і ня Пушкін, каб не любіць лета. Але гэтая спёка мне ўжо надакучыла.

Самі падумайце, што такое плюс трыццаць пяць градусаў? А калі твае вокны выходзяць на поўдзень? Немагчыма цярпець.

І галоўнае, што такая спёка выклікае жаданне нічога не рабіць. А гэтага мне ўжо досыць: і так адпачываю два месяцы.

Звярнуўся я з пытаннем: «Што рабіць у спёку?» да свайго сябра з Бразіліі. А ён:

— Ты мне адкажы: «Што рабіць у мароз?» У нас мінус дваццаць!

Што і казаць, антыподы. Яшчэ адзін доказ таго, што супрацьлегласці прыцягваюцца.

...Паглядзеў прагноз на тыдзень. Праз дэкаду днём будзе плюс дваццаць з дажджом. Амаль восень, і гэта ў жніўні!

Але я чакаю восень.

Бо прагну працягу ліцэйскага жыцця.

Без якога я не магу ўявіць сабе паўнавартаснае жыццё сапраўднага беларуса XXI стагоддзя. І няважна, ці ён даўно перажыў гэта, ці будзе ліцэістам, ці, як і я, навучаецца тут... Галоўнае — ліцэйскае братэрства і «дух свабоды», пра які пісаў яшчэ Пушкін.

Але я ня Пушкін. І не люблю паўтараць адно і тое ж.

Бо паўтор — бацька сну і суму.

Нават у спёку.

## СЛАБАЕ МЕСЦА

У кожнага з нас ёсць сваё слабае месца. І не адно.

Для мяне, напрыклад, гэта размовы пра музыку і кіно. Разбіраюся я ў гэтых справах як свіння ў апельсінах, а то і горш. Мае спробы сказаць штосьці разумнае на гэты конт заканчваюцца смехам.

Адна мая сяброўка вельмі ня любіць размоў на тэхнічныя тэмы, кшталту пабудовы АЭС на Беларусі ці нанатэхналогій. Заўжды блытаецца ў тэрміналогіі.

Але бываюць і іншыя заганы.

Пра фізіялагічныя ня будзем (ганебна смяяцца з хворых), а вось што да псіхалогіі...

Мая бабуля вельмі любіць грошы. Ледзь ня больш за людзей. І я не магу гэтага зразумець.

Я амаль вызначыўся са сваёй прафесіяй: буду выкладчыкам хіміі (чаму я вырашыў так зрабіць — тэма асобнага нарыса). Дык што ж? Угаворвае «не рабіць памылкі» (нібыта шэсцьсот тысяч рублёў штомесяц для маладога хлопца, які імкнецца не траціць грошы дарма, — замала!) і хоча зрабіць з мяне дыпламата (я ж не дурань, каб ня ведаць, што гэта аўтаматычна азначае супрацоўніцтва з КДБ і іншымі калявайсковымі структурамі нашай краіны! А калі я пачынаю даводзіць, што вайна і падрыхтоўка да яе, служба ў арміі — справа не для сумленнага чалавека, такое пачынаецца...).

Ня верыць яна (завуць Верай!), што чалавек можа імкнуцца ня толькі і ня столькі да грошай, як да карысці для іншых, для грамадства. А праца настаўніка часамі бывае працай, на якой ты павінен заўважаць «слабыя месцы» вучняў і знішчаць іх у зародку.

Бо гэта патрэбна ўсім. А не табе асабіста.

Бо ня кожны чалавек эгаіст.

Бо трэба быць карысным.

Для свайго народа.

Для свайго сумлення.

Для ўсіх, як бы высока гэта ні гучала.

Інакш ты ня маеш права называць сабе чалавекам.

## ЗДЗЯЙСНЕННЕ

У кожнага з нас ёсць мара.

Некаторыя з іх здзейсняюцца, а некаторыя — не.

І часам, калі твае мары здзяйсняюцца, ты разумееш, што марыў пра гэта дарма, бо здзяйсненне не прынесла аніякай асалоды.

Але тады ўжо позна.

Але навошта пра дрэннае?

Гэты верасень (2010) прынёс мне ня толькі новых сяброў і знаёмых.

Ён прынёс і сапраўднае шчасце.

Дакладней, прынясе заўтра.

І цяпер, у адрозненне ад канца мінулага года, я дакладна ведаю, што адбудзецца заўтра.

Заўтра, калі будзе пятнаццаць хвілін на першую, я прачытаю гэты нарыс услых.

Для Касі.

А ў канцы абавязкова адзначу, чаму ж гэты год (пакуль — толькі месяц!) ліцэйскага навучання такі шчаслівы.

*«Таму што менавіта ўвечары апошняга дня лета я сустрэўся з табою. І закахаўся ў цябе з першага погляду. Але не наважваўся сказаць пра гэта.*

*Да гэтага моманту».*

І абдыму яе.

Вось тады і будзе шчасце. І ня толькі для мяне.

## ЧАРГОВЫЯ ПОШУКІ

Усё ж такі сумны я чалавек.

Колькі разоў ужо памыляўся! Вось і ўчора...

І галоўнае, што сам жа казаў у нарысе: «сапраўднае шчасце». А яно — такое ж дэвальваванае, як і папярэднія.

Ад суму часам нават хочацца вершы пісаць.

А дні ідуць...
А дні ідуць бясконцай чарадой,
І кожны ранак зноўку неспакой
Прыносіць, бо цяпер бракуе часу...
Рабунак для свядомасці маёй!

Спыніцца немагчыма, і штомесяц
Кіроўцца — лёс — на чорнай дошцы месіць
Чаканні і жаданні, быццам масу
Аморфную. Разоў як быццам дзесяць

Кахаў я (не фізічна, а духоўна).
Але карціна зараз ёсць няпоўнай:
Хапае на зямлі дзяўчатак ласых,
Зашмат — таму знайсці сабе галоўнай,

Найлепшай — немагчыма. Застаецца
Блукаць, шукаць... І так здаўна вядзецца.

Вось я і блукаю па Ліцэі без сэнсу. Можа, нядаўна спампаванае анімэ дапаможа мне крыху заняць вольны час?..

**НЯ!**

Ня!
Усклік, падобны да кашачага «мяў». Прыстаўка, што нязменна стаіць перад націскам. Часціца, якая ня можа знікнуць нават у цяперашні перыяд панавання «нармаванкі». Эмоцыя, японская па паходжанні, але блізкая ўсім усходнім славянам у той ці іншай ступені. Бо прасцей усклікнуць «Ня!», чым «Як прыгожа!..» або «Як гэта замілавана!..» Ня!
Менавіта гэта ўсклікнула Маша ў маіх абдымках. І ў гэтым вокліку — глабалізацыя. У гэтым — сутнасць яднання беларускага хлопца і якуцкай дзяўчыны.
Ня!
Якіх толькі інтанацый гэтага слова я ня чуў, калі быў ва В'етнаме! І кожная інтанацыя мае сваё ўнікальнае значэнне. «Усход — справа тонкая...»
Ня!
Якое ж трапнае гэта слова!
Няма больш у беларускай мове такога:
лаканічнага і ўзнёслага,
шматзначнага,
простага,
вечнага!
Ніколі
такое
сціс-
лае
ня
бу-
дзе
паха-
ваным!
Ніколі!

## НЕПЕРАДАВАЛЬНАЕ ПАЧУЦЦЁ

Як жа цяжка апісаць тое, для чаго няма нават слова ў мове!

Пачуццё, што раптам узнікла ўначы ў маёй падсвядомасці і імгненна абудзіла, вымусіўшы пісаць гэтыя радкі, а палове на дванаццатую ночы.

Вельмі нязвыклае пачуццё.

Не, гэта не сапраўднае каханне: калі побач з табой няма каханай, то гэткае пачуццё толькі рэжа сэрца, як лязом, а не дае крылы.

Гэта і не радасць, бо радасць павінна мець нейкую знешнюю прычыну, а прычына, у сваю чаргу, павінна быць навідавоку. Ня мой выпадак.

Шчасцем таксама быць ня можа. Шчаслівым чалавек можа быць толькі аднойчы — перад смерцю, і тое ў выпадку, калі выканаў свае планы і дайшоў да прагназаваных мэт.

Дык што ж гэта?

Як першаадкрывальнік, даю назву таму дзіўнаму стану чалавечае свядомасці:

«Пачуццё ўласнай няшнасці».

Паспрабую растлумачыць дакладней...

Ёсць такі анімэ-серыял «Angel Beats». Сутнасць: калі ты памёр у маладым узросце, то павінен на тым свеце працягваць сваё навучанне і здаваць іспыты, пакуль аднойчы да цябе ня сыдзе азарэнне і ты не зразумееш, што самае галоўнае ты ня скончыў у сваім зямным жыцці. Знайсці мэту. І толькі пасля гэтага знікнуць, змяніць аблічча і забыцца на цяперашнюю асобу.

Але з гісторыі нам вядома, што былі людзі, якія апантана ішлі да ўласнае мэты і дабіваліся ў нейкай сферы жыцця неймаверных вынікаў.

Дык вось, яны наўпрост асэнсавалі ў адзін момант самае галоўнае. Але зрабілі гэта своечасова.

І адчулі найвялікшую палёгку і ўпэўненасць у сваім шляху.

У крыжы, які яны неслі на сабе ўсё астатняе жыццё.

Але гэты крыж быў не пакараннем, а ўзнагародай лёсу.

Таму што ён падчас узнікнення стварае ў душы чалавечай пачуццё, якое не зблытаеш ні з чым.

«Пачуццё ўласнай няшнасці».

Пачуццё, якое так цяжка перадаць словамі.

Бо па прыродзе сваёй яно невытлумачальнае.

Можна толькі самому ў яго занурыцца.

Але тады не захочацца асэнсоўваць непазнавальнае.

## ПРА СВЕТАПОГЛЯД І ЯГО ФАРМІРАВАННЕ, АЛЬБО ЧАМУ Я ВЫРАШЫЎ БЫЦЬ НАСТАЎНІКАМ

Нарэшце рукі дайшлі да гэтай справы.

Паўгода таму я замілавана глядзеў на анімэ.

Год таму — раздумваў пра «слабыя месцы» людзей. І паабяцаў самому сабе, што падрабязна раскрыю матывацыю, праз якую я і стаў студэнтам навукова-педагагічнага аддзялення хімфака БДУ.

У кожнага чалавека фарміруецца светапогляд пад уплывам знешніх фактараў (генетыка — другасная рэч). І ад асяроддзя больш залежыць, *якім* будзе чалавек.

Праблема палягае на тым, што асяроддзе апошняга шаснаццацігоддзя «добрым» назваць нельга ні ў якім выпадку: яно спрыяе чаму заўгодна, але толькі не фарміра-

ванню нармальнай свядомасці (прыкладаў прыводзіць ня буду — каб ня ўмешвацца ў палітыку). І толькі адзінкам удаецца вырасці больш-менш сумленнымі грамадзянамі. Да ліку апошніх (без хлуслівай сарамлівасці) адношу сябе і я.

Гэты вопыт трэба перадаваць іншым. Навошта гэта рабіць, сказаў я год таму, у 2010-м. А цяпер, у сярэдзіне жніўня дзве тысячы адзінаццатага года, у час, калі кошты канчаткова звар'яцелі, трэба проста рабіць сваю справу.

І навучыцца рабіць яе як мага хутчэй.

## ПЕРШАЯ ЛОМКА СВЯДОМАСЦІ

Учора, першага сакавіка дзве тысячы дванаццатага года, мне споўнілася васямнаццаць год.

З гэтай нагоды я вяртаюся да свайго «Філясофскага дзённіка». Бо, калі я не апішу падрабязна, што нарабіў учора, то не змагу спакойна спаць па начах.

Дык вось, учора я шмат выпіў.

Здавалася б, нармальна — паўналетні ж цяпер!

Але ўся справа ў тым, што адбылося пасля...

Нападпітку крочыў я па вуліцы Карла Маркса, бо ведаў, што ў такім стане ня пусцяць у метро. Дык чаму б не прайсціся па цэнтры, чаму б не дайсці ад хімфака да Камароўкі?..

Раптам на супрацьлеглым баку вуліцы я пабачыў незвычайнага чалавека. Гэта быў доўгавалосы хлопец ў парэпанай чорнай куртцы і такіх жа джынсах. У левай руцэ ён трымаў шпрыц, а ў правай — ліст паперы з прычэпленай да яго асадкай. Раптам вецер выхапіў паперку з ягонай рукі і кінуў мне пад ногі. Я падняў яе і паднёс бліжэй да ліхтара.

— Аддай паперку, хлопчык! — раптам пачуў я ціхі шэпт наркамана.

— Спачатку выкінь шпрыц! Як хімік табе кажу.

Шпрыц умомант быў кінуты на прыступкі філфака.

— Вось цяпер будзем размаўляць. Як цябе завуць, бадзяга?

— Ліза. Ліза Белкіна, — ціхім голасам адказаў хлапец.

— Ты гэта сур'ёзна?! Ды з такімі прызнаннямі табе даўно ў Навінкі пара!

— А я была там. Пяць гадоў таму. Не спадабалася, шчыра кажучы. Вольнай лепей быць.

— Чаму ты называеш сябе жаночым імем?

— Таму што я так і засталася той Лізай, якой нарадзілася ў 1982 годзе.

— Пачакай, дык ты змяняў... змяняла свой пол? Навошта?!

— Доўгая гісторыя. Калі распавяду — палічыш мяне вар'яткай. Дарэчы, ня ведаеш, як можна пазбавіцца амфетамінавай залежнасці?

— Як хімік, магу дапамагчы. Як з табой звязацца?

— Са мной лепш ня звязвацца.

— А я — хачу!

— Жадаеш? — з усмешкай у голасе сказала Ліза. — Тады паехалі да цябе дадому!

— З месца ў кар'ер? — жартам на жарт адказаў я. — Ты лепш скажы, куды і ў які час складваць вынікі маіх хімічных эксперыментаў, і праз год забудзеш пра сваю залежнасць.

(Я не хлусіў, дарэчы. Апошнім часам з лабараторных прац пяцікурснікаў атрымліваўся слабы наркотык. Праўда, пра гэта ведалі толькі некаторыя людзі. Я, як былы ліцэіст і добры знаёмы некаторых выкладчыкаў, меў магчымасць карыстацца гэтымі «вынікамі» па ўласным жаданні. І ня трэба рабіць круглыя вочы, чытач!)

— Добра... Я буду падыходзіць па чацвяргах, а восьмай вечара, у двары на Кірава. А ты прынось з хімфака свае «эксперыментальныя наркотыкі»! Дамовіліся?

— Дамовіліся, Ліза. Прыходзь восьмага!

— Добра. Куды ты цяпер... і як завуць цябе?

— Андрэй. Андрэй Зайцаў, — тым жа тонам, што і Ліза некалькі хвілін таму, адказаў я.

— Ну проста дзіва! Менавіта гэтым недарэчным спалучэннем літар мяне запісалі ў апошні дзень 2000 года...

— Цікава. А што яшчэ скажаш?

— Тут ня лепшае месца для размоў. Пойдзем у бок Камароўкі, спрабуючы абмінуць значныя для дзяржавы месцы Мінска?

— Пойдзем, і як мага хутчэй. Наперад, да рынка!

І мы пакрочылі разам па Карла Маркса: былы наркаман, што так і не згадзіўся са сваёй новай асобай, і студэнт, што адчуваў нейкую недарэчнасць апошнім часам...

...Вярнуўся я дахаты а першай. Ледзь паспеў на апошні аўтобус. І вось сяджу каля манітора і думаю: «А ці маю я права парушаць закон, нават калі гэта будзе карысна? Ці маю я права карыстацца няведаннем?»

«Маю! — даў я адказ сам сабе. — Інакш бы ня здолеў жыць».

**РОЗДУМ**

Увесь час я меў нейкую мэту. Пачынаў вучыцца ў школе — мэта была! Пачынаў вучыцца ў Ліцэі — мэта была! Пачынаў вучыцца на хімфаку — мэта была!..

А сёння я яе страціў. Бо для выканання пастаўленай цяпер мэты трэба наноў нарадзіцца. І гэта не жарт.

Сёння — першага кастрычніка. Сем месяцаў я знаёмы з Лізай. І паўмесяца я выкладаю хімію (пачалася практыка ў школе).

Дык вось, Ліза мяне ацэньвае. І гатова для мяне зрабіць усё.

А дзеці... Ніякіх станоўчых эпітэтаў яны не заслугоўваюць. Відаць, праўду кажуць «у інтэрнэтах» пра тое, што толькі пяць працэнтаў людзей здольны зразумець сапраўдныя пачуцці, такія як гонар, сумленне і іншыя. Астатнія — статак ці *быдла.*

І я выкладаў хімію ў такіх істот (бо людзьмі называць іх немагчыма) два тыдні.

Колькі б ні казаў, колькі б ні спрабаваў узрушыць аўдыторыю — эфект нулявы.

А Ліза за лета амаль пазбавілася ад наркатычнай залежнасці. Калі былі вакацыі, яна не спажывала наркотыкаў наогул. І цяпер не спажывае (адна пігулка на месяц — не лічыцца).

...Аднойчы ноччу, калі Ліза была побач (я не хачу апісваць, як адбылося тое, што яна трапіла да мяне дадому), да мяне прыйшло разуменне: мне трэба выправіць памылку Лізы!

А памылка ў чым? У тым, што, маючы хлапечаю фізіялогію, яна ня мае дзяўчыны, побач з якой можна было б зразумець сваю свядомасць. Зламаць яе канчаткова і перарабіць нанава. Дзяўчыны, якая зможа нарадзіць, дзякуючы сучасным тэхналогіям, што выкарыстоўваюцца ў Маскве ўжо некалькі месяцаў.

Якой і мушу стацца я.

...Дата аперацыі ўжо прызначана: трэцяга кастрычніка. Паслязаўтра. Пакуль мяне пачнуць шукаць у Мінску — такога чалавека, як Андрэй Зайцаў, існаваць больш ня будзе. Жорстка. Але адзіна правільна.

Бо інакш я мусіў бы памерці ад адсутнасці нармальнай мэты і дэвальвацыі папярэдніх мэт.

А так — проста знікну. Часова...

## НА БЕЛАРУСКІМ ВАКЗАЛЕ, АЛЬБО ДРУГАЯ (І АПОШНЯЯ) ЛОМКА СВЯДОМАСЦІ

Раніца серады, трэцяга кастрычніка дванаццатага года...

Я ў Маскве.

І хутка скажу, што мяне няма.

Масква ламае свядомасць кожнага чалавека. Па-свойму. І пасля Масквы свядомаму беларусу жыць нельга: пачуваешся як пасля ядзернага выбуху.

Нават я ў першы і апошні раз напісаў верш па-руску. Ім я і скончу гэты дзённік. А пасля пакладу яго ў пластыкавы пакет і аддам праваднiку цягніка «Варшава—Масква», каб выкінуў дзесьці на прыпынку...

Такі ўжо мне выпадае лёс!..

Для взлёта полоса уже готова,
А крыльев нет. Их неоткуда взять,
О неосуществимом же мечтать
Нет смысла, ведь потеряна основа

Возможности для счастья и любви —
Стабильная уверенность в удаче
Рождения мужчиной. Это значит,
Что злоба уничтожена в крови,

Что ненависть бессмысленною стала,
Что воспитаньем буду жить, не мучась,
Что лишний раз я думаю о Лизе...

Она давно все шансы потеряла
К возврату — должен я такую участь
Познать, преодолев душевный кризис...

P. S. І калі гэта чытае хтосьці з маіх мінскіх знаёмых — паспрабуйце зразумець мой учынак.

*Андрэй Зайцаў*
*(нар. 01.03.1994, змян. 03.10.2012)*
*Ліза Белкіна*
*(нар. 11.05.1982, змян. 31.12.2000, прын. 03.10.2012)*
*Андрэй Белкін*
*(нар. 04.10.2012 ва ўзросце 30 год)*
*Ліза Зайцава*
*(нар. 04.10.2012 ва ўзросце 18 год)*
*Аліна Белкіна*
*(нар. 19.09.2013, дачка вышэйзгаданых асоб)*

## ЭПІЛОГ

**23.04.2011 года я стаяў на платформе станцыі «Негарэлае». Раптам пабачыў, як адчыняецца акно цягніка, што ляцеў праз станцыю, і адтуль вылятае нейкі пакунак. Я падабраў яго, прачытаў, здзівіўся і апублікаваў амаль без змен. Шчыра кажучы, ня ведаю, адкуль тут з'явілася гэтае «прывітанне з будучыні», але так было ў арыгінале.**

Нанкіці НІІМІ

# ЛІСЯНЯ ГОН



***Нанкіці Ніімі — знакаміты японскі пісьменнік, паэт, перакладчык, педагог. Пісаць пачаў рана і ўжо ў 14 гадоў сам выдаваў літаратурны часопіс «Арыён». Нейкі час працаваў у роднай школе, падмяняючы настаўніка, пасля скончыў англійскае аддзяленне Такійскага дзяржаўнага інстытута замежных моў, служыў перакладчыкам у гандлёвай палаце. У 1943-м, маючы 29 гадоў, памёр ад сухот. Прызнанне атрымаў пасля смерці. Казка «Лісяня Гон» — самая вядомая і любімая ў Японіі.***

*Фота прадастаўлена музеем Нанкіці Ніімі Кінэнкан (Ханда, Японія). http://www.nankichi.gr.jp*

**1**

У дзяцінстве мне гэтую гісторыю распавядаў дзядуля Мохэй.

Даўней недалёка ад нашай вёскі ў невялікім замку жыў князь — гаспадар Накаяма, і наша паселішча назвалі ў яго гонар.

Каля замка на гары жыло лісяня Гон. Яно было адзінокае. Яго норка была ў лесе сярод густой папараці. І днём, і ноччу лісяня хадзіла ў вёску рабіць усякія паскудствы: раскопвала і раскідвала няспелыя клубні батату на гародзе, паліла сушаную шалупіну насення рапсу, крала востры перац, які вісеў за сялянскім домам.

Гэта было ўвосень. Два ці тры дні запар ішоў дождж. Гон сядзеў, нудзячыся ў сваёй норцы, нікуды не выходзячы.

Калі лівень скончыўся, ён вылез з нары. Неба было яснае, птушачкі-саракапуты звонка спявалі свае песні.

Гон пайшоў у вёску да плаціны. Каля ракі на высокіх травах яшчэ блішчэлі кропелькі дажджу. Звычайна ў рацэ было мала вады, але некалькі дзён ішоў дождж, і яна паднялася даволі высока. Кусты хагі, што раслі ўздоўж берага, і трава былі выкручаны з каранямі і несліся па мутных жоўтых хвалях. Гон залез у самы бруд.

Ён заўважыў у рацэ чалавека, які чымсьці займаўся. Ціхенька падабраўся бліжэй да прыбярэжных кустоў, каб незаўважна разгледзець яго. Гон пазнаў чалавека:

— Ага, гэта Хёдзю.

Мужчына, заправіўшы за пояс краі зношанага чорнага кімано, стаяў у вадзе і трос сетку-мярэжу. На яго галаве была павязаная хустка, а да шчакі, як вялікая радзімка, прыліп круглы лісток хагі.

Праз некаторы час Хёдзю выцягнуў сетку з вады. У ёй была трава, гнілыя сукі, кусты і іншае смецце, але на дне было і нешта іншае. Гэта былі карасі і тоўсты вугор. Хёдзю вытрас здабычу разам са смеццем у кошык для рыбы і кінуў сетку ў ваду.

Рыбак з кошыкам выйшаў на бераг, пакінуў яго на дамбе і, нешта шукаючы, хутка пайшоў уверх па плыні.

Калі Хёдзю адышоў, Гон выскачыў з зарасніку і падбег да кошыка. Яму захацелася пажартаваць. Ён хапаў рыбу з каша адну за адной і кідаў у раку. Рыбіны гучна пляскаліся і знікалі ў каламутнай вадзе.

У кошыку застаўся толькі тоўсты вугор, ён быў вельмі слізкі, і яго немагчыма было ўзяць лапамі. Гон занерваваўся, сунуў галаву ў кошык і акуратна схапіў зубамі за галаву вугра. Той піскнуў і абвіўся вакол шыі лісяняці. Раптам Хёдзю павярнуўся і закрычаў:

— Ай-яй-яй! Злодзей!

Лісяня ад нечаканасці падскочыла, хацела выкінуць вугра, але той не адпускаў лісяня. Гон з вугром на шыі панёсся так, што толькі пяткі зазіхацелі. Каля сваёй норкі, пад алешынай, лісяня павярнулася, але Хёдзю за ім не сачыў. Гон супакоіўся, разгрыз галаву вугра і, нарэшце, зняўшы з шыі тулава рыбы, паклаў яго на траву каля норкі.

**2**

Мінула дзён дзесяць. Гон праходзіў паўз дом селяніна Ясукэ і ўбачыў, што гаспадыня ў цені дрэва фарбавала свае зубы ў чорны колер. Жонка каваля Сімбэ ззаду свайго дома расчэсвала валасы.

— Ага, у вёсцы будзе нешта цікавае, — падумаў Гон. — Можа, нейкая свята. Але калі так, то чаму не чуваць барабан і флейту, і сцягоў перад храмам няма...

Думаючы пра гэта, лісяня не заўважыла, як апынулася перад домам Хёдзю, дзе стаяў чырвоны калодзеж. У маленькім, старым доміку сабралася шмат людзей. У двары жанчыны, апранутыя ў выхадныя кімано, заклаўшы ручнікі за паясы, запальвалі печ. У вялікім чыгунку нешта кіпела.

— Ага, пахаванне, — падумаў Гон. — Нехта ў доме Хёдзю памёр?

Пасля поўдня лісяня накіравалася на могілкі, дзе стаялі шэсць каменных ідалаў — дзідзо — і схавалася там. Было добрае надвор'е, удалечыні зіхацела чарапіца замка. На могілках, як вокам ахапіць, цвілі пунсовыя кветкі. У вёсцы зазвінеў набат — гэта знак пачатку пахавальнай працэсіі.

Паказаўся першы шэраг людзей, апранутых у белыя кімано, яны набліжаліся. Працэсія ўвайшла на могілкі, пратаптаўшы след у кветках. Гон прыўстаў на заднія лапы. Хёдзю быў апрануты ў рытуальнае кімано белага колеру і нёс у руках дошчачку з імем нябожчыка. Звычайна румяны, як чырвоны батат, яго твар сёння быў нейкім закарэлым.

— А-а, памерла яго маці, — зразумела лісяня, зноў схаваўшыся.

Увесь вечар Гон думаў у сваёй норцы:

— Напэўна, мама Хёдзю ляжала ў ложку і казала, што хацела б з'есці вугра, таму сын і ўзяў сетку. Але я пасваволіў, таму ён не змог ім пачаставаць маму. Так яна і памерла. Гэта дакладна. Яна падумала: «Ах, як хачу паесці вугра. Ах, хачу вугра», — і адышла з гэтага свету. Цьфу! Дарэмна я зрабіў такое глупства.

### 3

Каля чырвонай студні Хёдзю чысціў ячмень у вадзе.

Раней ён жыў з мамай хоць і бедна, але ўдваіх, а пасля яе смерці застаўся адзін.

— Ён таксама адзін, як і я, — думаў Гон, падглядваючы з каморы.

Лісяня адышло і раптам пачула голас прадаўца рыбы.

— Сардзіны, сардзіны! Каму сардзіна свежая?

Гон пабег на бадзёры голас. Жонка Ясукэ з дзвярэй свайго дома папрасіла:

— Дайце мне сардзін.

Прадавец, пакінуўшы на дарозе грузавую каляску з кошыкам рыбы, увайшоў у дом Ясукэ, трымаючы абедзвюма рукамі бліскучыя сардзіны. Скарыстаўшыся няўважлівасцю прадаўца, лісяня схапіла некалькі рыбак з каша і пабегла назад, кінула іх у дом Хёдзю праз чорны ўваход ды ўцякло. На схіле дарогі яно павярнулася. Удалечы было відаць, што Хёдзю яшчэ чысціў ячмень ля калодзежа.

Гон вырашыў, што ён кампенсаваў страту вугра і зрабіў хай нямнога, але нешта добрае.

На наступны дзень лісяня сабрала шмат каштанаў на гары і панесла да дома Хёдзю.

Гон зазірнуў праз чорны ўваход і ўбачыў, што ў час абеду гаспадар дома задумаўся, трымаючы ў руцэ міску. На яго шчацэ была свежая рана.

— Што б гэта значыла? — падумаў Гон. А Хёдзю прамовіў сам сабе:

— Цікава, хто падкінуў у мой дом сардзіну? Прадавец вырашыў, што рыбу скраў я, і мне прыйшлося дрэнна, — мармытаў ён.

Гон раскаяўся.

— Бедны Хёдзю! Прадавец раззлаваўся і пакінуў на яго шчацэ рану, — уздыхнула лісяня і ціхенька пракралася да ўвахода ў камору.

Штодзень Гон збіраў каштаны і пакідаў каля дома Хёдзю.

Часам лісяня прыносіла арэхі і грыбы — мацутакэ.

### 4

На вячэрнім небасхіле была поўня. Лісяня пайшло пагуляць. Яно прайшлося каля замка гаспадара Накаяма і заўважыла, што нехта набліжаецца па вузкай дарожцы. Скрозь стрекат цвыркуноў лісяня пачула размову.

Гон схаваўся каля дарожкі і стаіўся. Гутарка чулася ўсё бліжэй і бліжэй.

Гэта былі Хёдзю і яшчэ адзін селянін Касукэ.

— Слухай, Касукэ, — сказаў Хёдзю.

— А?

— У апошні час у мяне адбываецца нешта дзіўнае.

— Што?

— Пасля смерці мамы хтосьці кожны дзень прыносіць каштаны і грыбы.

— Да-а? А хто?

— Не ведаю. Прыносіць, калі мяне няма дома.

Гон сачыў за імі.

— Праўда?

— Так. Калі не верыш, то прыходзь да мяне дадому. Я табе пакажу гэтыя каштаны.

— Ого, бывае ж такі цуд!

Яны змоўклі і пайшлі далей.

Раптам Касукэ азірнуўся. Лісяня спалохалася і стаілася. Чалавек не заўважыў яго і пайшоў наперад хуткімі крокамі. Хёдзю і Касукэ дайшлі да дома селяніна Кіцібэ і зайшлі да яго. Чуўся гук драўлянага гонга. Скрозь папяровае акно пранікала месячнае святло, і на паперы гайдаўся вялікі цень галавы манаха.

— Будзе малітва на гадавіну, — думаў Гон, седзячы ля студні. Праз некаторы час у дом Кіцібэ зайшлі яшчэ тры чалавекі.

Людзі пачалі чытаць малітву.

**5**

Гон сядзеў і чакаў завяршэння рытуалу. Хёдзю і Касукэ разам пайшлі па дамах. Лісяня захацела падслухаць іх размову і пайшло за імі. Гон ішоў за ценем Хёдзю.

Калі яны дайшлі да замка, Касукэ загаварыў.

— Тое, пра што ты распавядаў, — гэта ўсё дзякуючы богу Камі.

— Няўжо? — Хёдзю здзівіўся і паглядзеў у вочы сябру.

— Падчас малітвы я думаў пра гэта. Здаецца, гэта не чалавек, а Бог. Ён спачувае, што ты застаўся адзін і дае табе розныя дары.

— Хіба?

— Павер мне. І лепш было б, калі б ты дзякаваў Богу кожны дзень.

— Добра, — адказаў Хёдзю.

Лісяня падумала:

— Ай, так нецікава. Каштаны і грыбы прыношу я, але Хёдзю будзе дзякаваць не мне, а Богу. Гэта несумленна!

**6**

На наступны дзень, зноў узяўшы каштаны, лісяня пайшло да Хёдзю. Гаспадар віў вяроўку ў каморы і Гон ціхенька ўвайшоў у дом праз чорны ўваход.

У гэты час Хёдзю выпадкова падняў галаву і заўважыў, як Гон увайшоў у дом. Гэта лісяня! Зусім нядаўна ён ужо скраў вугра! І цяпер зноў прыйшоў нашкодзіць.

«От, я табе!» — падумаў Хёдзю. Ён хутка ўстаў, узяў крамянёвую стрэльбу, якая вісела на сцяне каморы, і зарадзіў яе. Хёдзю ціха падкраўся і стрэліў у лісяня, якое выходзіла з дома.

Гон упаў.

Хёдзю падышоў да звярка. Зазірнуўшы ўнутр, гаспадар убачыў, што на кухні ляжала цэлая гара каштанаў.

— Як жа гэта? — Хёдзю здзівіўся і перавёў позірк на лісяня.

— Гон, гэта быў ты? Кожны дзень дарыў мне каштаны? — спытаў ён.

Лісяня бяссільна кіўнула галавой і заплюшчыла вочы.

Хёдзю выпусціў стрэльбу. Са ствала струменіўся бледны дымок.

***Пераклад з японскай Юйэ ТАЦУМІ***

*Жанна НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ*

# «Я ПЕСНЮ ПРЫСВЯЧАЮ ГЭТКАМУ НАРОДУ!»
## Ліра-эпічная спадчына Уладзіслава СЫРАКОМЛІ



У большасці даследаванняў, прысвечаных творчасці Уладзіслава Сыракомлі, напісаных як па-беларуску, так і па-польску, найперш падкрэсліваецца выключная папулярнасць яго сачыненняў. Пры гэтым польскія літаратуразнаўцы (як гэта найчасцей назіраецца менавіта ў іх працах, калі гаворка ідзе пра тых аўтараў, якія паходзілі з Беларусі) прыпадабняюць нашага паэта да кагосьці з «каронных» літаратараў. Вось выказанае каля ста гадоў таму меркаванне Караля Вайцяхоўскага: «Сыракомля, хоць і не быў такі таленавіты, як Поль[1], аднак карыстаўся вялізным прызнаннем і любоўю сярод чытачоў, дый мы сёння ахвотна чытаем ягоныя творы. Кранае нас шчырасць паэта, узрушвае самотная пачуццёвасць, падкупае заўсёды шляхетная думка ягоных твораў». Падобным чынам Юльян Кжыжаноўскі заўважаў, што Сыракомля «спаборнічаў у папулярнасці з Ленартовічам[2]». Тэзіс пра папулярнасць паэзіі Сыракомлі (хіба што толькі без матыву спаборніцтва) пранізвае чырвонай ніткай і працы беларускіх вучоных. «Гэты творца ў сярэдзіне XIX стагоддзя быў ці не самым вядомым у Беларусі», — сцвярджаюць Пятро Васючэнка, Лявон Баршчэўскі і Міхась Тычына ў сваёй кнізе «Беларуская літаратура і свет» (Мінск, 2006). Як мінімум тры свае артыкулы, прысвечаныя творчасці Сыракомлі, Кастусь Цвірка пачынае з канстатацыі, што імя паэта «ў сярэдзіне XIX стагоддзя было добра вядома ва ўсіх кутках Беларусі». Адам Мальдзіс падкрэсліваў, з аднаго боку, што Янка Купала назваў Сыракомлю адным з любімых паэтаў, з другога боку, пісаў пра трывалае месца, якое занялі творы паэта ў польскай дэмакратычнай літаратуры. Нарэшце, у артыкуле з акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры» (Мінск, 2007) Уладзімір Мархель прадставіў Сыракомлю як «вядомага ва ўсім славянскім свеце паэта».

Такая сугучнасць крытычных меркаванняў магла азначаць толькі адно: гаворка ідзе пра вялікага мастака слова, творчае аблічча якога было сапраўды шматгранным, здольным задаволіць самыя разнастайныя патрабаванні чытацкай публікі. Найлепшае сведчанне гэтай шматграннасці — вычарпальная характарыстыка пісьменніцкага дыяпазону Уладзіслава Сыракомлі, дадзеная У. Мархелем: «Ён пісаў лірычныя вершы і

[1] Вінцэнты Поль (1807—1872) — польскі паэт, які карыстаўся псеўданімам «Януш». Здабыў славу дзякуючы паэтычнаму цыклу «Песні Януша», які быў апублікаваны ў 1835 г. у Парыжы.

[2] Тэафіл Ленартовіч (1822—1893) — польскі лірык; пісаў вершы, стылізуючы іх пад польскія народныя песні, за што быў названы «лірнікам мазавецкім».

паэмы, гавэнды-гутаркі і песні, краязнаўчыя нарысы і дарожныя нататкі, гістарычна-літаратурныя даследаванні і рэцэнзіі на паэтычныя кнігі, мясцовыя агляды для газет і публіцыстычныя артыкулы, апавяданні і фалькларыстычныя працы, пераклады з лаціны, французскай, нямецкай, англійскай, іспанскай, рускай, украінскай моў». На першы погляд, адэкватнае ўяўленне пра жанравую і тэматычную разнастайнасць творчасці Сыракомлі фарміруе збор яго выбраных твораў, які выйшаў у 2011 годзе. Усе апублікаваныя тэксты згрупаваны па раздзелах: «Вершы», «Гавэнды, паэмы», «Проза», «Драматургія», «Публіцыстыка, крытыка». Аднак калі больш уважліва праналізаваць раздзел «Гавэнды, паэмы», то высвятліцца, што ў яго склад уваходзяць насамрэч адно гутаркі (гавэнды). Паэма «Ян з роду Дубарог»[1] прадстаўлена толькі сваёй экспазіцыйнай часткай — «Перадспевам для літоўскага чытача». Такім чынам атрымліваецца, што сённяшні беларускі чытач, які не ведае польскай мовы, не мае магчымасці пазнаёміцца з большасцю ліра-эпічных твораў Уладзіслава Сыракомлі.

Здаецца, няцяжка знайсці вытлумачэнне гэтаму прыкраму факту: паэмы Сыракомлі, напісаныя на польскай мове, не набылі такой папулярнасці (прынамсі сярод беларускіх чытачоў), як яго вершы. Сёння «візітная картка» Сыракомлі ў асветніцка-папулярным дыскурсе Беларусі — беларускамоўны верш «Добрыя весці», які здаецца празрыстым і добра зразумелым для літаратуразнаўчай інтэрпрэтацыі. Да таго ж з падачы двух іншых беларускіх паэтаў — Янкі Лучыны і Янкі Купалы (у творчай спадчыне абодвух ёсць верш пад назвай «Лірнік вясковы», прысвечаны Сыракомлю) — выраз «вясковы лірнік» замацаваўся за вялікім паэтам і абсалютна лагічна быў выбраны У. Мархелем для назвы манаграфіі. Пры ўжыванні ж гэтай метаніміі, на нашу думку, лагічны акцэнт рабіўся і робіцца на слове «вясковы», а не на слове «лірнік», якое, у сваю чаргу, выклікае асацыяцыі з лірычнай паэзіяй.

Аднак Алег Лойка, таленавіты паэт і назіральны даследчык, даў адэкватную трапалагічную інтэрпрэтацыю выразу «лірнік вясковы». «Лірнікам, — пісаў вучоны, — Сыракомлю сталі называць не таму, што ў паэзіі ён быў лірыкам, а якраз у сувязі з эпічнымі творамі паэта, якія Сыракомля на польскі лад называў гавэндамі, а ў фальклорна-беларускай традыцыі падобны жанр меў назву гутаркі». Разам з тым, хаця даследчык і прызнае, што першасным рэпрэзентантам творчасці паэта з’яўляецца яго паэтычны эпас, уласна паэмы ўсё ж такі адсоўваюцца Лойкам з прыярытэтных пазіцый на карысць гавэндаў-гутарак. Тым часам у польскім «сыракомлязнаўчым» дыскурсе назіраецца адэкватная жанравая расстаноўка акцэнтаў, пра што сведчыць сама структура выданняў яго сачыненняў: эпічныя творы звычайна змяшчаюцца ў першых тамах.

У. Казбярук, Г. Кісялёў і У. Мархель, вывучыўшы розныя спісы верша «Добрыя весці», прыйшлі да высновы, якая бачыцца сімвалічнай у кантэксце нашага артыкула: у 1861 годзе была перапрацавана ўступная частка твора, якая была напісана ў 1848 годзе і ўяўляла сабой завершаны дыяла-


URODZONY
JAN DĘBORÓG.
DZIEJE JEGO RODU, GŁOWY I SERCA,
PRZEZ NIEGO SAMEGO OPOWIADANE, A RYTMEM SPISANE
przez
WŁADYSŁAWA SYROKOMLĘ.
WYDANIE DRUGIE,
poprawne i powiększone.
WILNO.
Nakladem A. Assa.
1855.

[1] У перакладзе Кастуся Цвіркі — «Радавіты шляхціч Ян Дэмбарог».

гічны твор. Менавіта на працягу таго перыяду творчасці, які быццам бы «абрамляецца» беларускамоўным вершам «Добрыя весці» (1848—1861), Сыракомля выпрацоўваў сваю эстэтычную праграму. Менавіта ў 1850-х ён стварыў вялікія паэтычныя творы, і назва ідыліі «Вясковы лірнік», напісанай ў 1852-м, сведчыць пра выбар паэтам адпаведнай жанравай арыентацыі. Слушна даводзіў У. Мархель, што ў гэтай ідыліі Сыракомля «раскрыў сваё разуменне ўзаемаадносін песняра, паэзіі і свету», што тут ён «атаясамлівае сябе з рамантычным вандроўным лірнікам — гордым носьбітам народнай песні». Але ж лірнікі, бандурысты, гусляры (і на гэта звярнуў увагу Алег Лойка!) былі майстрамі сюжэтнага песенна-вершаванага аповеду, працягваючы традыцыі старажытнагрэчаскіх рапсодаў, балцкіх вайдэлотаў, кельцкіх бардаў і ўкраінскіх бандурыстаў. Адпаведна і Сыракомля паставіў перад сабой творчую задачу: стварыць новы тып ліра-эпічнага твора, засведчыўшы сябе песняром свайго народа і часу. Як і Мікалай Гусоўскі, толькі з паэзіяй ён звязваў свой *otium* — час душэўнага спачыну, сваё Боскае прызначэнне і магчымасць пакінуць след на зямлі. Таму ў чацвёртай частцы «Вясковага лірніка», звяртаючыся да ліры, паэт заяўляе:

Ліра мая ты спеўная з чараўнічага дрэва!
Пояць слязамі людзі
Песні мае, і ў часіну, калі навек я спачыну,
Ты маім помнікам будзеш

*(пер. К. Цвіркі).*

Расцытаваны па радках і строфах «Вясковы лірнік» большасцю даследчыкаў разглядаецца, фактычна, як асноўная дэкларацыя эстэтычнай праграмы яго аўтара. Між тым гэты твор, пры ўсёй шырыні яго праблемна-эстэтычнага дыяпазону, — не адзіны верш, у якім Сыракомля разважае над адвечнай праблемай прызначэння паэта. Тую ж тэму пясняр уздымае ў прасякнутым (сама-) іроніяй вершы «Роздумы паэта» (1845), а таксама ў вершах «Вясковы музыка» (1854), «Яшчэ лірнік» (1859), «Маўчанне паэта», «Пясняр» (1854). Верш «Пясняр», нягледзячы на яго лірычную прыроду, мае даволі выразны сюжэтны каркас. Песняра запрасілі ў палац караля, і за песню кароль прызначае ўзнагароду — залаты ланцуг. Пясняр, аднак, адмаўляецца ад золата, кажучы: «*Песня, што ліецца з грудзей, — сама сабе ўзнагарода*». Пасля гэтага пясняр папрасіў прынесці яму келіх віна, суправадзіўшы сваю просьбу мудрай заўвагай: «*Шчаслівыя тыя гасцінныя сцены, дзе пясняр набярэцца сілы*». Фактычна, гэтай апеляцыяй аўтар падкрэслівае аб'яднаўчую сілу мастацтва, якое можа прымірыць паміж сабою антаганістаў любога кшталту, найперш — прадстаўнікоў розных сацыяльных саслоўяў.

Наогул, у літаратуры XIX стагоддзя цяжка знайсці іншага паэта, які настолькі горача марыў пра знішчэнне ці, ва ўсякім разе, нівеліроўку любых сацыяльных межаў. Антон Луцкевіч слушна адносіў Сыракомлю да тых паноў, «якія бліжэй стаяць да народу, да вёскі, якія адчуваюць тое, што думае народ», лічачы, што менавіта гэта творца «ўдарае ў новы тон: тон прымірэння вёскі з дваром на новых асновах, як роўны з роўным». Тым больш дзіўна, наколькі ўпарта даследчыкі запісвалі Сыракомлю ў апалагеты то таго, то іншага саслоўя. Вялікі майстар паэтычнага слова, літаратурны кумір многіх сваіх суайчыннікаў, з пункту гледжання К. Вайцяхоўскага, «мог бы атрымаць прызванне песняра засцянковай брацці шляхцічаў-шарачкоў», а на думку К. Цвіркі, «абараняў інтарэсы запрыгоненага беларускага сялянства». Кожная з гэтых фармулёвак занадта вузка акрэслівае творчыя інтэнцыі Сыракомлі, літаратурная дзейнасць якога — не толькі мастацкая, але і навуковая, не толькі арыгінальная, але і перакладчыцкая — вызначаецца ідэйна-тэматычнай разнастайнасцю і багацейшым жанравым дыяпазонам.

Акцэнтаваўшы ў сваёй паэзіі постаць вясковага лірніка, Сыракомля тым самым пазіцыяніраваў сябе ў літаратурным полі як аўтара эпічных твораў, якія павінны захаваць у мастацкай форме памяць пра найвялікшыя падзеі ў жыцці народа, пра найвялікшых яе герояў, правадыроў і духоўных настаўнікаў. Неабходным інтэлектуальным грунтам, на якім узбуйнеў эпічны талент паэта, сталіся не толькі гады яго вучобы ў хатняга гувернёра, у нясвіжскіх айцоў-дамініканцаў (передусім у Шымана Чарніцкага, які выкладаў літаратуру), але і яго ўласнае шчырае захапленне гісторыяй і культурай вялікай Айчыны — Рэчы Паспалітай абедзвюх

дзяржаў[1], якая ўзгадавала ягоных продкаў і якая працягвала жыць у сэрцах патрыётаў нават ва ўмовах расійскай няволі.

Сыракомлева школа эпічнага версіфікатарства была надзвычай грунтоўнай. З многімі помнікамі эпічнай паэзіі ён пазнаёміўся ў працэсе ўласных літаратуразнаўчых даследаванняў. Так, у «Гісторыі літаратуры ў Польшчы» (т. 1, Вільня, 1850) Сыракомля даў высокую ацэнку «Прускай вайне» Яна Вісліцкага і «Раксаланіі» Себасцьяна Кляновіча, абсалютна дакладна вызначыўшы два асноўныя жанравыя вектары нашай лацінскай паэзіі — героіка-эпічны і элегічны. Надалей захапленне Сыракомлі эпасам спрычынілася да з'яўлення шэрагу перакладаў, прычым у першую чаргу помнікаў лацінскай паэзіі — твораў Клеменса Яніцкага, Яна Каханоўскага, Мацея Казіміра Сарбеўскага. Бадай, з найвялікшым натхненнем ён пераклаў згаданую вышэй «Раксаланію». У пазнейшыя гады Сыракомля пераклаў таксама паэму «Смерць Агі Ізмаіла Чынгіза» сербскага паэта Яна Мазураніча і «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі. Усё гэта дало паэту неабходную паэтычную (прынамсі эпічную) загартоўку і дазволіла стварыць шэраг уласных ліра-эпічных твораў.

У разуменні мастацкай прыроды паэмы Сыракомля пайшоў следам за Адамам Міцкевічам, які ажыццяўляў актыўныя жанравыя пошукі ў межах вялікай паэтычнай формы. Называючы «Гражыну» літоўскай аповесцю, «Конрада Валенрода» — гістарычнай аповесцю, шматразова дапрацоўваўчы і перапрацоўваючы «Дзядоў», Міцкевіч рабіў падступы да стварэння «эпапеі новага часу» (В. Брухнальскі) — «Пана Тадэвуша». Але і тут ён засведчыў сябе не столькі эпікам, колькі ліра-эпікам. У гэтых адносінах Міцкевіч быў прыкладам для Сыракомлі, які ў сваім «Кароткім даследаванні мовы і характару паэзіі русінаў Мінскай правінцыі» (1856) прыйшоў да высновы пра перавагу лірызму ў паэзіі беларускага народа — пры тым, што «эпас, г. зн. апавядальныя, гістарычныя, традыцыйныя песні нешматлікія і слабыя». Але, у адрозненне ад Міцкевіча, Сыракомля не толькі далей распрацоўвае традыцыйную разнавіднасць вялікай вершаванай формы — паэму, але надае рысы эпічнасці паэтычнай гутарцы (па-польску — *gawęda*), якая карысталася надзвычайнай папулярнасцю ў асяроддзі сярэдняй і дробнай шляхты.

Плёнам глыбокіх роздумаў паэта зрабіліся і змястоўныя прыярытэты яго паэм і гутарак. Рашучую настроенасць на наватарскі змест эпапеі Сыракомля сфармуляваў першапачаткова ў сатырычнай форме ў паэтычных фрагментах «Пра Пiлiпа з Канопляў», напісаных у 1854 годзе. Традыцыйны для класічнай эпапеі аргумент паэт вырашае ў палемічным рэчышчы (аналагічны прыём выкарыстаў у свой час аўтар гераічнай паэмы «Радзівіліяда» (1592) Ян Радван):

Няхай там пра сівыя траянскія падзеі
Гамер альбо Вергілій пішуць эпапею.
Няхай спявае Таса пра меч крыжакаў годны,
Мілтан рай прадставіць, а Бака — скон журботны[2].
На свой манер хай кожны сваё распавядае.
Мяне ж Піліп з Канопляў вабіць, захапляе
*(пер. аўтара артыкула).*

Парадыруючы далей наступныя неабходныя элементы ўступнай часткі *carmen heroicum* — інвакацыю і касмаграфію, — Сыракомля развітваецца з улюбёнай са школьных гадоў класічнай эпапеяй, напоўненай стракатай вобразнасцю і стылістыкай антычнай паэзіі. Цяпер ён бачыў неабходнасць у новых мастацкіх прыярытэтах для твораў вялікай эпічнай формы. Ва ўмовах палітычнага крывадушніцтва расійскіх улад і сацыяльнай апатыі многіх прадстаўнікоў айчыннай інтэлектуальнай эліты паэт выпрацоўвае

---

[1] Гэтым тэрмінам для пазначэння федэрацыі Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны мы карыстаемся следам за Уладзімірам Кароткім.

[2] Аўтар прыгадвае італьянскага паэта XVI ст. Тарквата Таса (аўтара гераічнай паэмы «Вызвалены Ерусалім»), англійскага паэта XVII ст. Джона Мілтана (аўтара паэмы «Страчаны рай»), а таксама польскага пісьменніка-езуіта XVIII ст. Юзафа Баку, аўтара вершаваных «Разваг пра неадступную смерць» (першае выданне — 1766). Цікава, што ў 1855 г. (тады ж, калі выйшла з друку першая паэма Сыракомлі «Маргер») у Вільні была надрукавана кніга «Адроджаны Бака» — пародыя Уладзіслава Сыракомлі на вышэй названы твор.

выразную маральна-дыдактычную парадыгму, арыентаваную ў першую чаргу на брацію-шляхту. Як і Міцкевіч, усведамляючы неабходнасць абуджэння гістарычнай памяці (так званай «ліцвінскасці») суайчыннікаў, Сыракомля звяртаецца найперш да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў паэме «Маргер». Але, у адрозненне ад Міцкевіча, ён бачыць сваё прызначэнне як песняра-эпіка не ў тым, каб клікаць да барацьбы, а ў тым, каб паказаць шляхі дасягнення грамадскага дабрабыту, разумеючы, што дзеля гэтага неабходна змяніць зацёртае ў вяках уяўленне пра шляхецкую годнасць, надаць яму новы змест і вызначыць новыя задачы ў справе духоўнага адраджэння народа, у справе злучэння арыстакратыі з людам.

На дапамогу паэту прыйшоў вядомы польскі гісторык XVI стагоддзя Марцін Кромер. Ягоны трактат у дзвюх кнігах пад назваю «Polonia sive De situ Poloniae et gente Polona» (*Польшча, або Пра палажэнне Польшчы і пра польскі народ*), які быў упершыню апублікаваны ў 1577 годзе, Сыракомля пераклаў на польскую мову і выдаў у 1853 годзе ў Вільні ў друкарні Юзафа Завадскага. Да таго ж, духоўна-сацыяльная атмасфера пачатку 1850-х вызначалася наступствамі «вясны народаў», і ў першую чаргу — нацыянальна-вызваленчым рухам ва Украіне. Выношваючы ў сваёй душы задумы стварэння вялікіх эпічных твораў, Сыракомля, магчыма, адштурхоўваўся ад творчага плёну Міцкевіча-эпіка, але адчуваў ужо недастатковую актуальнасць той героіка-ідылічнай выявы, якая была створана ў «Пане Тадэвушы». Паходзячы з асяроддзя дробнай шляхты, ён добра ведаў надзвычай складаную сістэму сацыяльнай іерархіі сярод тых, хто, паводле Кромера, «*in plebe numerantur*» («залічаюцца да простага люду») (пераклад Сыракомлі — «zalicza się do pospólstwa») і хто, здараецца, фігуруе ў сучасным навукова-публіцыстычным дыскурсе пад занадта агульным найменнем «сяляне». Пры гэтым, праецыруючы на гістарычную сітуацыю XIX стагоддзя школьныя адукацыйныя стэрэатыпы, чытачы і даследчыкі часта аўтаматычна і непадзельна злучаюць слова «селянін» з азначэннем «прыгонны». Паказальна ў гэтым сэнсе, што выдатны беларускі літаратуразнавец Уладзімір Калеснік, разважаючы пра творчасць Дуніна-Марцінкевіча, пісаў: «Жыццё ставіла яго перад выбарам: або застацца ў асяроддзі польскай дваранскай інтэлігенцыі, да якога ён належаў па праву нараджэння, адукацыі і нават па службовым становішчы, або цалкам звязаць свой лёс з прыгонным сялянствам, якое складала яшчэ толькі этнічны матэрыял беларускай нацыі...». З другой часткай гэтай тэзы хочацца паспрачацца: этнічны матэрыял беларускай нацыі складалі далёка не толькі прыгонныя сяляне. Увогуле, маёмасны і сацыяльны статус «паспалітага» чалавека (грамадзяніна) на землях былой Рэчы Паспалітай у складзе Расійскай імперыі ў XIX стагоддзі вызначаўся вялікай разнастайнасцю, якая сталася вынікам так званых разбораў шляхты. У катэгорыю «простых людзей» (па-лацінску *plebs*, па-польску *pospólstwo*) пасля падзелаў Рэчы Паспалітай магла трапіць і былая шляхта, якая не змагла пацвердзіць свайго шляхецтва ў адпаведнасці з расійскімі юрыдычнымі нормамі. У такім выпадку былыя шляхцічы пераходзілі ў іншае саслоўе: рабіліся вольнымі хлебаробамі, дзяржаўнымі сялянамі або мяшчанамі.

Разгалінаваная схема сацыяльнай іерархіі ў Рэчы Паспалітай, якая склалася прынамсі ў часы Марціна Кромера, хаця і адчула на сабе змяненні пад уплывам палітычнай і юрыдычнай сістэмы Расійскай імперыі, яшчэ «працавала» ў сярэдзіне XIX стагоддзя, а таму была добра зразумелая Сыракомлю. Адпаведны раздзел трактата Кромера, прысвечаны саслоўям, не выклікаў, відаць, вялікіх цяжкасцей у Сыракомлі-перакладчыка: ён даволі лёгка падбіраў патрэбныя эквіваленты ў польскай мове для перадачы ўжытых Кромерам лацінамоўных назваў разнастайных грамадскіх супольнасцей, бо з дзяцінства кантактаваў з імі ўсімі: «*Да простага люду адносіцца кожны, хто не шляхціч, незалежна ад таго, працуе ён на раллі, займаецца агародніцтвам, пчалярствам ці даглядае быдла, з'яўляецца ён рамеснікам, наёмным працаўніком, карчмаром, гандляром, вазнічым ці купцом, альбо, як ужо было сказана, жыве на вёсцы. Вёскі і прадмесці заселены земляробамі, пастухамі і пчалярамі, а карчмары, млынары, саматужнікі, вазнічыя і канаводы звычайна пражываюць як у гарадах, так і ў вёсках*». Але тым больш

складанай была задача для Сыракомлі-паэта, які меў на мэце паказаць усю гэтую разнастайнасць у сваіх творах, а да таго ж знайсці ў гэтай разнастайнасці нейкі аб'яднаўчы фактар. А. Лойка заўважыў, што паэт «цэнтральнымі героямі сваіх шматлікіх гавэндаў зрабіў беларускіх сялян», але ў прыведзеным даследчыкам пераліку (паштар, жаўнер на панскай службе Янка (Цвінтарнік), ляснік Улас, асочнік (потым пчаляр) Хадыка), які можна зрабіць нашмат даўжэйшым, ніводнае «амплуа» не паўтараецца, і ў гэтым — маштабнасць мастацкай задумы паэта.

Вяртаючыся да трактата Марціна Кромера, зазначым, што ўвагу Сыракомлі прыцягнула не толькі само сачыненне, але і асоба польскага гісторыка. Ва ўступным артыкуле, які папярэджвае тэкст, перакладчык у якасці эпіграфа прыводзіць разважанні аднаго з сучаснікаў Кромера: маўляў, невядома, ці меў польскі храніст адносіны да *nobilitas generis* — радавой арыстакратыі (а насамрэч Кромер паходзіў з мяшчан), але яму ў поўнай меры было ўласціва штосьці іншае: «*той арыстакратызм іншага кшталту, які збудаваў сабе жытло ў дабрачыннасці*». Сам Сыракомля, не атрымаўшы багатай спадчыны, па-першае, дабіўся поспеху толькі дзякуючы ўласным талентам і тытанічнай працаздольнасці, па-другое, ставіўся да простага люду без той арыстакратычнай пагарды, якой, магчыма, не пазбыўся яшчэ Міцкевіч. Надзвычай важнай для Сыракомлі была заўвага польскага пісьменніка XVI стагоддзя, што ў Рэчы Паспалітай абедзвюх дзяржаў ёсць дастаткова вялікая катэгорыя людзей, якія працуюць на зямлі і цалкам залежныя ад сваіх гаспадароў. Кромер нават ужывае іх лацінізаваную назву — *cmetones* (па-польску — *kmieci*) і заўважае: «*гаспадары маюць права распараджацца іх жыццём і асуджаць на смерць, за выключэннем тых, хто з дзіцячых гадоў прысвяціў сябе вывучэнню навук альбо святарскаму служэнню*». Менавіта адукацыя здаўна прадстаўляла шырокія магчымасці выхадцам з ніжэйшых саслоўяў у Рэчы Паспалітай. Да таго ж, у «Польшчы» Кромера, напісанай непасрэдна пасля заключэння Люблінскай дзяржаўнай уніі, прыводзіліся праўдзівыя і дакладныя звесткі пра *novas accessiones* — новыя набыткі, г. зн. навадалучаныя землі Вялікага Княства Літоўскага, сярод якіх польскі пісьменнік першым назваў дарагое сэрцу Сыракомлі Палессе. Менавіта да гэтага краю будзе звяртацца сам паэт на пачатку «вайсковай ідыліі» (так вызначыў жанр твора сам паэт) «Улас»:

Смутны краю Палессе! З маленства знаёмы.
Так і свецяць мне вобразы дялёў замглёных;
Прад вачамі снуюць, нібы сонныя мары,
Неаглядныя багнаў куп'істых абшары
*(пер. К. Цвіркі).*

Дастаткова шырока ўжываецца таксама назва «*Alba Russia*» (Белая Русь): Кромер паведамляе нават, што яе межы дасягаюць 57° паўночнай шырыні. Насамрэч, гэтая шырыня праходзіць па тэрыторыі Віцебскай вобласці. Трэба думаць, што на хвалі засвоенага ад Кромера захаплення даўняй гісторыяй Польшчы з асаблівым акцэнтам на Вялікім Княстве Літоўскім пачынае Сыракомля сваю працу над «Маргерам» — паэмай, якую пазней ён называў найлепшым з дзяцей свайго духа. У «Слоўцы ад аўтара» паэт зазначае, што ў якасці гістарычнай асновы ён узяў зафіксаванае ў літоўскіх і польскіх хроніках апісанне нападу крыжакаў у 1336 годзе на замак Пулен. Ліцвіны, жыхары замка, гераічна абараняліся пад кіраўніцтвам свайго князя Маргера. Аднак, церпячы паразу і не жадаючы трапіць жывымі ў рукі ворагаў, яны самі сябе прынеслі ў ахвяру сваім багам на вогненным стосе. Далей у прадмове аўтар палічыў неабходным расказаць пра фарміраванне яго творчай задумы. «Спачатку, — піша ён, — мы адступіліся назад, зважаючы на веліч задачы. Бракавала нам адвагі на стварэнне ўрачыстага эпасу, і, што найважней, на спробу ўвасаблення духу старажытнай Літвы: мы не валодаем яе мовай, а з гэтага вынікае, што не ведаем і грунту іх звычаяў». Адвяргаючы ў якасці літаратурнага аўтарытэта Гамера і не прымаючы таго шляху, які вызначыў у літаратуры «славуты пясняр Анафеляса» (г. зн. Юзаф Ігнацы Крашэўскі), Сыракомля аддае перавагу вергіліеўскай форме, «бо яе зграбныя контуры, якія найлепш пасуюць велічнаму эпасу, пазбаўляюць неабходнасці звяртаць увагу на марныя дробязі». А далей — начаканае прызнанне: «Не маючы надзеі зрабіць дакладнае апісанне Літвы і

ліцвінаў, на грунце гістарычных дадзеных мы апісвалі людзей наогул, імкнучыся, тым не менш, старанна ўлічваць умовы месца і часу». Напрыканцы прадмовы Сыракомля спачатку заяўляе пра адпаведнасць яго «вершаванай аповесці» канонам гераічнай паэмы («тут ёсць зварот (*invocatio*), адзінства дзеяння, дастатковая адлегласць часу, нават уплыў звышнатуральнай сілы (*deus ex machina*)»), а потым, жадаючы заінтрыгаваць чытача, дадае: «Урачыста сведчым, што гэтае следаванне правілам згаслага класіцызму адбылося цалкам выпадкова, бо мы ніколі не спакушаліся на стварэнне эпапеі, якую старажытнасць слушна лічыла найвышэйшым узроўнем паэзіі».

Канешне, падобная апеляцыя — спецыфічны мастацкі прыём, які па аналогіі з рэнесансным какецтвам (да якога прыбягаў, скажам, Мікалай Гусоўскі) можна назваць рамантычным какецтвам. Так, на пачатку «Маргера» сапраўды ёсць інвакацыя, але якая?

Дзе ж ты, Айчыны нашай даўніна святая?
Цябе багоў, герояў слава асвятляе,
Ды, як пяюць музыкі, дзеці твайго лона,
Ты прамінула ў свеце, як бы ў марах сонных.
Дык у якім кургане ці ў сутарэннях коўзкіх
Ты прыхавала арфу лірнікаў літоўскіх?[1]

У адрозненне ад паэтаў-эпікаў класічнай пары, аўтар «Маргера» звяртаецца не да апякунак паэзіі Музаў, а да айчыннай мінуўшчыны. Пры гэтым інвакацыя ў яго зліваецца з так званым аргументам (караткай фармулёўкай тэмы ў першых радках). Маргер — прапісаны ў класічных паэтыках *heros perfectus* (дасканалы герой) эпапеі. Але яго дасканаласць у дадзеным выпадку заключаецца найперш у еднасці са сваім народам, у адданасці роднай зямлі і непрымірымасці да ворага. Уласнай рукой Маргер забівае адзіную дачку Эгле, якую намагаецца ўратаваць ад смерці закаханы ў яе крыжак Раўсдорф Варнер.

Дзеля акцэнтавання галоўнай ідэі — нацыянальнай еднасці, еднасці саслоўнай і сямейнай — на першы план і ў аргуменце, і ў інвакацыі вылучаецца ніхто іншы як лірнік — той самы лірнік, пра якога была ўжо гаворка на пачатку гэтага артыкула. Лірнік прысутнічае ў «Маргеры» як рэальны мастацкі вобраз — пясняр Лютас. Але ўжо тая акалічнасць, што гэтае імя перакладаецца з літоўскай мовы як «леў», сведчыць пра тое, што вобраз лірніка дасягае ў паэме маштабаў мастацкай ідэі. Гэтая ідэя патрэбна аўтару для падсумавання найвялікшага духоўнага скарбу, які нашчадкі старажытных ліцвінаў павінны ўспадкаеміць: магчымасць поўнай субстанцыяльнай гармоніі паміж прыродай, уладай і простым народам. Вось якія продкі паўстаюць перад духоўнымі вачыма паэта з часоў сівой даўніны:

Народ, які сумлення здрадай не змарнуе,
Які багоў з князямі ды святароў шануе;
Багі ж, перад якімі ён падае з мальбамі, —
Простыя, суровыя дый добрыя, як самі;
Князі ж, якія маюць уладу над Літвою
Гатовы за дзяржаву ахвяраваць сабою,
Уласным жа падданым яны й душу пазычаць,
Падзеляцца з ім хлебам, славаю, здабычай,
Але й геройскай смерцю, каб прыдбаць свабоду...
Я песню прысвячаю гэткаму народу!

Адзінае, што можа не падпарадкоўвацца грамадзянскім абавязкам і ўладкаванням, — гэта пачуццё, якое само па сабе ёсць найвышэйшая гармонія. Сыракомля стварае ў «Маргеры» сваю апалогію красы:

Сам Бог — краса, і гэта — цуд найбольш Божы:
Дзівіцца нават неба, голаў схіляе кожны.

Як каханне, так і мастацтва (песня лірніка) выступаюць у «Маргеры» найвышэйшымі дарамі духа, якія вызначаюць чалавечую прыроду. Вось чаму Эгле і Лютас, якія, паводле прызнання самога аўтара, з’яўляюцца выдуманымі вобразамі, маюць значэнне наратыўных сімвалаў найвышэйшага рангу маральнага ўздзеяння. Раўсдорф, які ідзе да крыжакаў, каб пазней вярнуцца да ліцвінаў, клянецца не здрадзіць сваім вызваліцелям Маргеру, Лютасу і Эгле:

Здраду ўчыніць тут мог бы хіба што
шатан-зняверца,
Пакпіць з найвышэйшага ў свеце:
з хлеба, песні ды з сэрца!

[1] Тут і далей фрагменты з ліра-эпічных твораў Уладзіслава Сыракомлі прыводзяцца ў паэтычным перакладзе аўтара артыкула.

У «Маргеры» паслядоўна рэалізуецца сярэднявечны пастулат *historia magistra vitae* (гісторыя — настаўніца жыцця). Але ў Сыракомлі гісторыя народа — гэта адначасова і найвялікшы яго духоўны набытак. У эпілогу паэт распавядае, як пасля трагічных падзей у Пулене крыжакі яшчэ доўга намагаліся знайсці на папялішчы скарбы, што былі схаваны ў мурах замка. Падобным чынам Ян Баршчэўскі распавядаў у «Шляхціцы Завальні», як людзі шукалі схаваныя скарбы на тых месцах, дзе яны бачылі Плачку. І ў адным, і ў другім выпадку важная памяць сэрца, якую абуджае альбо сама Плачка, што з'яўляецца то там, то тут на месцах былых бітваў, альбо белая хусцінка Эгле, якая час ад часу з'яўляецца на хвалях Нёмана. Пры гэтым, разважаючы пра мінуўшчыну, наўрад ці хто зможа ўсталяваць «ісціну ў апошняй інстанцыі»:

А зрэшты, што пытацца? Былое невядома...
Яно з лацінскіх кніжак паўстане пакрыёма.
І, каб дазнацца праўды, спытай храністаў нашых,
Пра іншае хай сэрца, мары хай даскажуць.

Такім чынам, калі рэальнаму навучанню, адукацыі Сыракомля надае гнасеалагічную вартасць, то магчымасць чалавека *domarzyć* (дафантазіраваць) набывае значэнне выхаваўча-аксіялагічнае: толькі прапусціўшы гістарычнае паданне праз сэрца, ажыццявіўшы ўнутраную духоўную працу, чалавек можа здабыць сапраўдны духоўны скарб, спасцігнуць запавет продкаў. Асаблівую ролю ў гэтым спасціжэнні адыгрывае мастацтва. Лірнік жа становіцца важным пасрэднікам, які ажыццяўляе своеасаблівы герменеўтычны акт, аб'ядноўваючы мінуўшчыну з сучаснасцю.

Маральным узорам для сваіх падданых у паэме выступае князь Маргер, які добраахвотна падзяляе з сваім народам яго трагічны лёс. Самой сюжэтнай канвой «Маргера» Сыракомля падкрэслівае асаблівую адказнасць вышэйшага саслоўя ў справе дасягнення грамадскага дабрабыту. Гэтую ж праблему акцэнтуе Сыракомля ў паэме «Ян з роду Дубарог» (1855), якую ён пачаў пісаць яшчэ ў Вільні, а скончыў у Барэйкаўшчыне.

Поўная назва твора — «*Ян з роду Дубарог, гісторыя яго роду, галавы і сэрца, расказаныя ім самім і зарыфмаваныя*». У «Перадспеве да літоўскага чытача» зварот да Айчыны («*Святая Літва мая, край наш, айчына!..*», пер. К. Цвіркі) паэт дапаўняе развагамі пра сціпласць родных краявідаў, якая выяўляецца пры параўнанні іх з натуральнымі багаццямі іншых краін. Гэты прыём негатыўнага прыпадабнення, якім карыстаўся Ян Радван у «Радзівіліядзе» (1592), да якога пазней будуць звяртацца ўжо беларускамоўныя аўтары ў шэрагу сваіх твораў, дазволіў паэту праз вобраз-сімвал нібыта спакойнага Нёмана стварыць асаблівы настрой у чытача, заінтрыгаваць яго, абудзіць жаданне на халодным і спакойным твары жыхара айчыннага краю «*выявіць таямнічы адбітак гарачай думкі*». Такі мастацкі ход дапамагае аўтару падкрэсліць: беднасць, простасць і «закінутасць» як роднага краю, так і яго жыхароў — уяўныя; у душы беларуса прыхаваны вялізны творчы патэнцыял:

Тут у сэрцы мужчыны — адвага, не пыха,
Тут дзяўчына кахае аддана і ціха,
Тут на твары старога — яго лёс пакручасты...
З плугам, з крыжам, з мячом, але й з чаркай тут часта
То б'ючыся ў сутычках з суседам заўзята,
То ў сям'і патрыярхам дні праводзячы свята,
То ў малітве, то дома, то ў чужым асяродку
Жыў тутэйшы тубылец, як і ўсе яго продкі.

З фенаменальнай дакладнасцю ў межах аднаго радка («з плугам, з крыжам, з мячом, але й з чаркай») вызначыў Сыракомля найбольш істотныя элементы культурнага космасу беларусаў, якія знайшлі сваё ўвасабленне і ў айчынным прыгожым пісьменстве. Свая зямля, якая чакала ратая *з плугам*; свая вера, трымацца якой мусілі *з крыжам*; Айчына, свабоду якой сыны яе адстойвалі *з мячом*; няскораны, дасціпны, жартаўлівы дух народа, які праяўляўся *з чаркай*, — гэтыя чатыры складнікі фарміравалі спрадвеку нашу духоўную сутнасць, а таксама забяспечвалі «замкнёнасць абраду з уяўленнем пра вечную нязменнасць» (Ралан Барт) нашага прыгожага пісьменства. Той, хто можа напоўніць мастацкім зместам усе вышэй названыя сюжэтныя каркасы, — гэта лірнік, які цалкам лагічна з'яўляецца ў наступным фрагменце. Калі ў «Маргеры» постаць лірніка ўвасабляецца

ў вобразе Лютаса, то ў «Дубарогу» лірнік становіцца сімвалам-знакам, семіятычным цэнтрам мастацкай прасторы, ад якой разыходзяцца промні метанімічных асацыяцый, з ім звязаных. Лірнік, які зверне ўвагу на старадаўнія паданні беларусаў, будзе мець багатае жніво:

Пець пра крыжы, курганы, змрочных крыпт сутонні,
З далёкіх часоў Міндоўга ажно да сягоння,
Ад вежы ў Крэўскім замку, дзе Кейстут лёг гаротна
Аж да крыжа над Шчарай ці Прыпяццю шматводнай,
Што ў памяць па тапельцу пастаўлен простым людам,
І люд да сёння бае, што крыж той стаўся цудам.
Любы такі аповед для песняра цікавы,
Для люду ж ён — навука, плач альбо забава.

Адзін з такіх аповедаў бярэцца за аснову сюжэта паэмы, аднак сюжэт гэты шматслойны: тут і падрабязнае апісанне гадоў навучання Яна, і гісторыя яго кахання, і таямніца роду Дубарогаў, традыцыйна звязаная з памежным зямельным канфліктам. Ю. Кжыжаноўскі выказаў цікавае меркаванне, што Сыракомля ў паэме пра Яна Дубарога пераносіў ідэі «Пана Тадэвуша» на ўзровень, даступны жыхарам літоўскіх і беларускіх мястэчкаў ды засценкаў». Але стварэнне чарговай паэтычнай прэзентацыі журботна вядомага ў айчыннай гісторыі шляхецкага наезду і яго наступстваў — гэта не проста «сумысная арыентацыя на шэкспіраўскі канфлікт», як сцвярджаў У. Мархель; гэтая прэзентацыя лагічна ўплятаецца ў мастацкую звышзадачу аўтара — стварэнне новай праграмы шляхецкага выхавання.

Павел Дубарог паводле шляхецкага звычаю аддае свайго сына Яна на навуку да ксяндза дэфінітара. Святар ахвотна прымае юнака, абяцае навучыць яго ўсяму, што сам ведае, аднак папярэджвае бацьку:

Зваж, Вашамосць, — дадаў ён, — я, як і ўсе старыя,
Свае дзівацтвы маю. Ды шляхцючкі малыя
Прыходзяць часта з дому, а ў сэрцы — што за ліха! —
Смяротныя правіны: лянота іх ды пыха.
А мой хлеб — толькі з працы, цяжкай і нястомнай,
Засвоіць мае кожны, што ён з іншым роўны.
Хто з гербам, хто без герба, — паміж сабою братцы,
Жывуць яны ў хаціне, ці ў сваім палацы.
У Бога ўсе мы слугі перад Яго аблічам,
Праз гэта мы нікога панічам не клічам.
Са мною будзеш есці, і чэлядзь — з намі разам,
Дзядка-сакрыстыяніна[1], мо, падменіш часам...

Бацьку Яна такая перспектыва прыйшлася не да спадобы. Абгрунтоўваючы свой тэзіс, што шляхецкае дзіця павінна памятаць пра сваё паходжанне, ён прыгадаў гісторыю пра троцкага ваяводу, якога выратаваў ад смерці селянін Грыцько, выцягнуўшы пана за валасы з водаў глыбокага возера. Ваявода, абражаны тым, што «хамская рука» трымала яго за чупрыну, загадаў даць яму сотню бізуноў. Потым, крыху астыўшы, прыняў рашэнне вызваліць Грыцько ад паншчыны і даць яму валоку зямлі:

А што рукою хамскай мой чуб трымаў нахабна,
За гэта хай здабудзе сто бізуноў дакладна!

Сыракомля вуснамі ксяндза дэфінітара прызнае няслушнасць гэткага разумення шляхецкай годнасці: святар быў няўмольны, і старому Дубарогу прыйшлося пагадзіцца на ўмовы настаўніка. На нашу думку, падобны сюжэтны ход (ці не пад уплывам Уладзіслава Сыракомлі?) выкарыстаў у рамане «Каласы пад сярпом тваім...» Уладзімір Караткевіч, распавёўшы пра «дзядзькаванне» Алеся Загорскага.

Навука ксяндза дала свой плён: выхаваны ў дэмакратычным духу працалюбства і роўнасці Ян Дубарог здолеў вырашыць даўні канфлікт паміж двума шляхецкімі родамі, шчаслівай развязкай якога стаўся шлюб паміж Янам Дубарогам і Зосяй Брохвіч. У разгортванні прыгодніцкай гісторыі, у выніку якой Ян даведаўся пра таямніцу памежнага кургана, паэт выкарыстоўвае багаты арсенал рамантычных сродкаў: прывід прапрашчура Дубарогаў (ротмістра) з'яўляўся перад нашчадкамі, пазней у сне распавёў ксяндзу дэфінітару, як ён таемна перанёс зямельную мяжу, а потым спаліў маёмасныя паперы суседа, пана Брохвіча, што і сталася

[1] Сакрыстыянін — той, хто ў каталіцкім Касцёле служыць у сакрыстыі. Сакрыстыя — памяшканне ў бочнай частцы алтара, дзе захоўваюцца неабходныя для набажэнства рэчы.

грунтам канфлікту. Перад смерцю ротмістар загадаў зрабіць сваю магілу на месцы былой мяжы. «Redde quod debes» (*аддай тое, што вінен*), — паўтараў прывід. Гэты заклік, зразумела, павінен прачытвацца шматзначна. Аб'яднанне шляхецкіх родаў знішчыла былую спрэчную мяжу. Аб'яднанне шляхты з простым людам павінна скасаваць сацыяльныя межы. Старое пакаленне, якое не здолела захаваць дзяржаву (Рэч Паспалітую), не здолела абарніць сваё саслоўе (у выніку чаго многія шляхцічы зрабіліся простым людам), павінна аддаць усё лепшае сваім дзецям і ўнукам, якія пойдуць іншым — супольным з народам — шляхам. Што ж да старых шляхецкіх канфліктаў, то яны наогул прызнаюцца неактуальнымі: «*Не час думаць пра ўласную мяжу, калі межы Айчыны перакручаны*».

Параўноўваючы «Яна з роду Дубарог» з «Панам Тадэвушам», звернем увагу на тое, што падзагалоўкам Міцкевічавай паэмы з'яўляюцца словы «апошні наезд на Літве»: паэт з жалем развітваецца са старой шляхецкай Айчынай і ўсё ж такі спадзяецца на яе адраджэнне ў выніку барацьбы, высакародны гераізм якой павінен прыйсці на змену марнасці старашляхецкіх наездаў. Тым часам Сыракомля пашырае загаловак сваёй паэмы пра Яна Дубарога словамі «гісторыя яго роду, галавы і сэрца», вітаючы тым самым новае пакаленне айчынных арыстакратаў, якія, памятаючы гісторыю свайго роду, павінны розум і сэрцы скіраваць на патрэбы народа, забыўшыся на даўнія саслоўныя забабоны.

У эпілогу аўтар выказвае радасць з прычыны таго, што прагрэсіўныя задумы ажыццяўляюцца і сітуацыя змяняецца да лепшага:

А сёння шляхта на Літве — браты сваім
падданым,
Ад голаду і холаду бароняць іх аддана;
Няблага ў вёсках, кажуць, жыць: там зелле
не буяе,
І век наш дзевятнаццаты пышна расцвітае.

Падобныя заявы не варта лічыць вынікам занадта ідылічнага светаўспрыняцця аўтара. Пытанне пра неабходнасць адмены прыгону пачало актыўна абмяркоўвацца ў розных кутках Расійскай імперыі і залежнага ад яго Царства Польскага яшчэ ў 40-х гадах XIX стагоддзя. Так, беларускі паэт і фальклярыст Ігнат Храпавіцкі актыўна займаўся праблемамі эканамічнага жыцця вёскі, працуючы на грамадскай пасадзе наглядчыка сельскіх ссыпных магазінаў з 1843 года. А ў 1850 годзе ён разам са сваімі аднадумцамі распрацаваў праект скасавання прыгоннага права, які нават быў прыняты на губернскім з'ездзе шляхты Віцебшчыны. Сапраўды, пэўныя поспехі на гэтай глебе былі дасягнуты.

Уладзіслаў Сыракомля, аднак, добра разумеў, што насамрэч хаваецца за гэтай гульнёй у дэмакратызацыю з боку расійскіх улад (падрабязней пра гэта будзе сказана ў канцы артыкула). Таму словы радасці ў эпілогу паэмы «Ян з роду Дубарог» змяняюцца словамі перасцярогі маладому пакаленню:

Ад скону вашых продкаў да сённяшняга часу
Зважайце, што прыдбалі, што ўзрасцілі разам.
Хай вашую сучаснасць такі прагрэс абудзіць:
Каб поле мела кветкі, а цноты ў сэрцах —
людзі.

Як і ў мастацкай прозе Яна Баршчэўскага, у ліра-эпасе Уладзіслава Сыракомлі ўвасабляецца ідэя прыярытэту маральнага фактара перад фактарам эканамічным. Спачатку цнота, потым дабрабыт — толькі такі шлях можа забяспечыць рэальны пазітыўны зрух у сацыяльнай і эканамічнай сферы. Аднак, як і Ян Баршчэўскі, Уладзіслаў Сыракомля паказвае, што іншая жыццёвая пазіцыя — абагаўленне золата — вядзе да маральнага заняпаду і спрычыняецца да жыццёвай катастрофы. Гэтая ідэя ўвасоблена ў дзвюх наступных яго паэмах.

*Apropos* заўважым, што другая палова 50-х гадоў XIX стагоддзя была надзвычай плённай у развіцці ліра-эпічнай паэзіі на Беларусі. У 1855 годзе (у адным годзе з «Маргерам» і «Дубарогам») з'яўляюцца «Вечарніцы», у 1856 годзе — «Купала» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. У 1857-м выходзяць з друку дзве новыя паэмы Уладзіслава Сыракомлі: «Старыя вароты» і «Начлег гетмана». «Старыя вароты» аўтар прысвяціў Ігнату Ходзьку. У прадмове да гэтай паэмы паэт прызнаецца, што лічыць яе адным з лепшых сваіх твораў і распавядае, што Юзаф Ігнат Крашэўскі даслаў

яму альбом з малюнкамі, на адным з якіх была старая вясковая брама з надпісам «Poczciwe Stare Wrota» (*Шаноўныя старыя вароты*). Пісьменнік глыбока задумаўся над гэтай, як сам ён пісаў, «поўнай праўды выявай»; яму ўспомніўся славуты прапаведнік XVI стагоддзя Пётр Скарга і гісторыя пра ягонага вазніцу Яна Казіміра, якога Пётр Скарга забяспечыў пенсіяй (20 грошай на тыдзень) за сумленную службу. На грунце гэтай гісторыі Сыракомля пабудаваў сюжэт сваёй паэмы.

Калі аднойчы ксёндз Скарга прыехаў адведаць свайго былога вазніцу (паэт даў яму прозвішча Шаліга), той папрасіў яго забраць з сабой у сталіцу ягонага сына, каб малады чалавек мог зрабіць службовую кар'еру. Па прашэсці многіх гадоў, калі ўжо памерлі і ксёндз Скарга, і яго стары вазніца, малады Шаліга вырашыў пайсці на службу да Багуслава Радзівіла, перайшоўшы такім чынам на бок шведаў. Сыракомля ў духу «рэчыпаспалітаўскага» разумення дзяржаўнай гісторыі расцэньвае гэты ўчынак як здраду, падкрэсліваючы, што першаснай матывацыяй у дадзеным выпадку была прага грошай. Асаблівую завостранасць і драматычнае напружанне надае сюжэту тая акалічнасць, што Шаліга вяртаецца ў родны дом для таго, каб аднавіць радавое котлішча — задума быццам бы вартая ўхвалення. Але пры гэтым ён разважае наступным чынам:

Той, хто золата мае — ўсё мае ў свеце.
Хай выгнанцам мяне назавуць мае дзеці.
Здрадзіў Польшчы? Няхай! Ды, аднак, не загінуў:
Што ж, да шведаў паеду, у тую краіну.
Там куплю я маёнтак — хіба ж грошай прыдбаю,
Дый бацькоўскай сядзібы я не занядбаю.
Калі шведскі кароль зноў у сілу ўбярэцца,
Я прыеду сюды з родным домам сустрэцца
І вярну сабе ўсё — дайце годзік мне часу,
Пакараю ўсіх тых, кім быў гнаны, адразу.
Тут паўстане палац, а на ім — герб каштоўны...
І ўваскрэсне ізноў род Шалігаў шаноўны!

Аднак задумам Шалігі не было наканавана ажыццявіцца: брама бацькоўскай хаты абрушылася на ягоную брычку. Такім чынам споўніўся запавет ксяндза Скаргі:

А калі раптам пройдзе тут здраднік употай,
Хай спадуць на яго ўміг старыя вароты.

Тэму здрадніцтва развівае Сыракомля і ў паэме «Начлег гетмана» (1857), якую сам аўтар назваў «гутаркай на гістарычнай аснове». Дзеянне разгортваецца ў часы Лівонскай вайны; сюжэтна твор уяўляе сабой гісторыю жыцця Рыгора Сулімы. Гетман Ян Тарноўскі спыніўся на начлег са сваёй дружынай у хаце лесніка Сулімы, і той папрасіў гетмана ўзяць да сябе на службу сына. Дзякуючы пратэкцыі Тарноўскага, Рыгор робіць добрую вайсковую кар'еру. Аднак падчас нападу крыжакаў ён, спалохаўшыся, выдае ворагам сваіх аднавайскоўцаў. Гэты ўчынак стаў першапрычынай усіх яго далейшых няшчасцяў: гетман яго праганяе, памірае каханая Беата, адварочваюцца былыя паплечнікі. Сам ён, пераадолеўшы далёкі шлях, вяртаецца ў родны дом і бачыць, што трапіў акурат на вяселле свайго брата. Аднак, нават не ўвайшоўшы ў хату, толькі напіўся вады з бацькоўскай крыніцы і падаўся на Украіну да казакаў. Там ён і скончыў свой жыццёвы шлях, самотны і забыты ўсімі.

Цікава, што ў гэтым выпадку перад чытачом — зусім іншая гісторыя здрады. Калі Шаліга шанаваў свой родны кут і марыў пра адраджэнне радавога гнязда, то Суліма ставіцца да такіх рэчаў абыякава. У размове з рыцарам Дэршнякам, які навучаў яго вайсковаму майстэрству і спытаў, ці не сумуе малады ваяр па сваіх блізкіх, ён заяўляе:

А нашто ўспамінаць мне пра брата, пра матку?
Мо, шчэ ўспомніць галечу, на портках заплатку?
Што мне хата: я хату дзе хочаш прыдбаю,
Ды яшчэ й прыгажэйшыя хаты спазнаю.
Ат, наш край: невясёлы, лясны і пануры,
Хіба воўк зазірне толькі ў нашы кануры.
А вось тут, у абозе, мой дух уваскрэсне,
Да каня прывучуся, да зброі, да песні.

На пытанне Дэршняка, для чаго прызначана вайсковая служба, Суліма са смехам адказвае: зразумела, каб бараніць Айчыну. Тады рыцар задаў яму наступнае пытанне: «*А дзе ж твая Айчына, Вашамосць, калі ты не сумуеш па роднай хаце, калі марыш толькі пра марныя грошы, калі саромеешся беднасці свайго бацькі?*».

Прычыну здрадніцкага ўчынку свайго героя аўтар бачыць у тым, што гэты чалавек не быў народжаны для сапраўдных пачуццяў:

Ён любіў поле бітвы да гонар вайсковы,
Ён любіў сваю дзіду, каня варанога.
Ён усё ўпадабаў: матылінае сэрца
Да ўсяго, чаго хочаш, магло разгарэцца;
Ды не ўмеў ён, як рыцар, любіць беззаганна
Пана Бога, Айчыну і мілую панну.

«Матыльковасць», адсутнасць цвёрдага маральнага грунту, гатоўнасць за грошы зрачыся нават бацькоў і роднай хаты прывяла Суліму да асабістай трагедыі.

На змену двум Сыракомлевым героям-здраднікам прыходзіць высакародны герой-патрыёт Улас з аднайменнай паэмы, апублікаванай у 1858 годзе; аўтар даў ёй жанравае азначэнне «вайсковая ідылія». Дзеянне адбываецца ў час казацкіх войнаў. У дом лесніка Уласа завітала шляхецкая дружына, і яе правадыр пан Балтазар Капота папрасіў Уласа правесці іх праз балоты на Чортаў востраў, каб схавацца там ад казакаў. Улас не толькі выканаў просьбу брацці-шляхты, але і добраахвотна зрабіўся для іх пасыльным: перадаваў лісты для блізкіх, прыносіў харчаванне, зброю. Часам замест сябе ён выпраўляў на Чортаў востраў сваю дачку Аксану, якая пакахала аднаго з ваяроў, шляхціца Яна з Ачарэтава. Няцяжка зразумець, што праз адпаведныя дыспазіцыі дзейных асоб (шляхціч Капота — ляснік Улас, шляхціч Ян — леснікова дачка Аксана) Сыракомля актуалізуе тут сваю ўлюбёную тэму: яднанне шляхціча з мужыком. Абяцаючы пану правесці ягонае войска на востраў, Улас шчыра клянецца яму ў вернасці:

Пану ногі цалуе, плача шчыра, умільна...
Пан Уласа падняў — абдымае прыхільна,
Тут жа й іншая шляхта, што піла-гасцявала,
Да грудзей мужыка, як адзін, прыпадала.
І сляза мужыка ў тым расчуленым часе,
Са слязою шляхецкай у адную зліласся.
А ў слязе той (не верылі продкі, дарэчы)
Быў пачатак агульны для ўсіх — чалавечы.

Улас сапраўды застаўся верны сваім панам і не згадзіўся на прапанову габрэя-арандатара выдаць шляхецкі атрад казацкай дружыне за грошы. Такое высакародства мужыка адпаведным чынам уздзейнічала і на браццю-шляхту. Калі пан Капота, зважаючы на цяжкое становішча, прапанаваў адмовіцца ад супраціўлення, пан Ян з Ачарэтава адказаў яму на гэта:

Перацерпім мы голад, нястачу ліхую,
Калі Бог нам паплечнікаў гэткіх дарує.
Паглядзіце: для нас на што хочаш гатовы
Гэты лоўчы, рыбак, — мужычок наш вясковы!
Калі шанец шляхецкі для нас пахіснуўся,
Як жа люд наш з падтрымкай да нас
прыгарнуўся!

Фінал паэмы драматычны: Аксана, выпраўляючыся чарговы раз да свайго каханага, мімаволі паказала шлях на востраў казакам, у выніку чаго загінулі і яна сама, і яе каханы. Хутчэй ва «Уласе», а не ў «Дубарогу» можна насамрэч заўважыць адзначаную У. Мархелем сумысную арыентацыю на шэкспіраўскі канфлікт. Але гісторыя Яна і Аксаны сталася трагічным гімнам не толькі каханню, але і народнай еднасці.

Варта, аднак, звярнуць увагу на тое, што гэтую ідэю еднасці, ідэю прымірэння пана з мужыком Сыракомля выводзіць у сваёй творчасці на першы план, пачынаючы з 50-х гадоў XIX стагоддзя. Менавіта ў гэты час пэўныя ўрадавыя колы, жадаючы канчаткова задушыць польскі нацыянальны рух, пачалі выпрацоўваць і разгортваць асобую сацыяльную палітыку. Яна была накіравана на тое, каб на землях былой Рэчы Паспалітай зрабіць пана найгоршым ворагам для свайго падданага, хаця звонку адзін і другі быццам бы ўроўніваліся ў правах. Вось чаму многія расійскія дзяржаўныя дзеячы спрыялі лібералізацыі палітыкі ў адносінах да сялян, прычым асабліва на новазаваяваных землях імперыі. Ні пра які гуманізм у стаўленні да сялян тут, зразумела, не можа быць гаворкі. Пад прыкрыццём высакароднага лозунга разняволення сялянства расійскія чыноўнікі спадзяваліся вырашыць шэраг балючых нацыянальных праблем, і ў першую чаргу — назалелае з часоў Тадэвуша Касцюшкі «польскае пытанне».

Найбольшую руплівасць у гэтым сэнсе праявілі славянафілы. Так, Юрый Самарын, які ў 1845—1848 гадах быў членам спецыяльнай урадавай камісіі па даследаванні грамадскіх і нацыянальных адносін у захопленых Расіяй прыбалтыйскіх рэгіёнах, у сваіх «Лістах з Рыгі» сфармуляваў асноўныя палажэнні вялікадзяржаўнай ідэалогіі, якая была накіравана супраць правячай у гэтых землях арыстакратыі — нямецкіх землеўладальнікаў. Самарын абвінаваціў мясцовую адмі-

ністрацыю ў адмаўленні ад русіфікатарскай палітыкі, асудзіў яе за лаяльныя адносіны да немцаў і за поўную адсутнасць увагі да эстонскіх і латышскіх сялян, якіх эксплуатавалі нямецкія феадалы. Сяляне не выказвалі супраціву «анямечванню», і Самарын лічыў гэта недапушчальным. Пры тым, што нават імператар Аляксандр I асудзіў занадта радыкальныя падыходы Самарына, тым не менш, пасля апублікавання вышэй згаданых лістоў з'явілася мноства прыхільнікаў яго ідэй. Як нельга было дапусціць анямечвання прыбалтыйскіх сялян, так жыццёва важна было супрацьстаяць апалячванню сялян беларускіх. Гэта і была палітыка «абрусіцельства». Нават прадстаўнікам расійскай інтэлігенцыі было відавочна, што палітыка разняволення сялян на землях былой Рэчы Паспалітай мае іншыя мэты, чым у карэннай Расіі. Так, вядомы публіцыст і грамадскі дзеяч А. Кашалёў пісаў, што мерапрыемствы па скасаванні прыгону, якія праводзілася ў Царстве Польскім (а на беларускіх землях ужываліся тыя ж метады), «будзе не толькі апошнім ваенным сродкам для падаўлення хваляванняў <…>, але і пачаткам, а таксама крыніцай іншых мерапрыемстваў, што мелі на мэце прыцясненне і вынішчэнне шляхты».

У 1850-х загучалі заклікі Дзмітрыя Мілюціна, які хутка рабіў паспяховую ваенную кар'еру, надаць як мага больш самастойнасці сялянскай абшчыне і спрыяць яе самакіраванню. Погляды Мілюціна, як і пазіцыя Самарына, падлягалі актыўнай крытыцы ва ўрадавых колах Расійскай імперыі, аднак з улікам пошуку новых неардынарных метадаў барацьбы з нацыянальна-вызнваленчым рухам (які традыцыйна акрэсліваўся як «польскі», а фактычна быў «рэчыпаспалітаўскім» паводле свайго зместу) яго радыкальныя канцэпцыі набывалі новы сэнс. «Палітыка эканамічнага і палітычнага знішчэння шляхты, — пісаў вядомы польскі палітолаг Адам Міхнік, — а таксама паслядоўная барацьба з каталіцкім касцёлам пры адначасовым скасаванні прыгоннага права закліканы былі канчаткова пасварыць польскага селяніна з польскім шляхціцам. <...> Польскаму селяніну трэба было навучыцца выхваляць сваіх вызваліцеляў — рускіх чыноўнікаў». Кантэкст беларускага пісьменства другой паловы XIX ст. выразна сведчыць, што гэтая характарыстыка непасрэдным чынам датычыць не толькі тых сацыяльных працэсаў, што адбываліся на тэрыторыі Царства Польскага (г. зн. этнічнай Польшчы), але таксама — і, магчыма, нават у першую чаргу — тых змяненняў у грамадскім жыцці Беларусі, якія адбываліся пачынаючы з 1850-х. Гэтыя змяненні трывожна натуе ў сваёй малой прозе Плацыд Янкоўскі, у драматургіі (перадусім у «Пінскай шляхце») Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, шляхі выйсця з прыкрага становішча паказвае ў «Полацкай шляхце» Вайніслаў Савіч-Заблоцкі...

І ўсё ж эпас — найбольш адэкватная літаратурна-мастацкай форма для ўвасаблення любога лёсавызначальнага пералому ў жыцці народа. Ён, як слушна сцвярджае літоўскі літаратуразнавец Сігітас Нарбутас, «можа ўзнікнуць і атрымаць прызнанне толькі ў сваёй дзяржаве і толькі ў той час, калі, па розных прычынах, грамадства пачынае адчуваць неабходнасць у адраджальнай сіле гісторыі». Гэтая сіла, на думку вучонага, можа дапамагчы адшукаць неабходныя шляхі ў тых нестабільных умовах, якія бываюць уласцівыя перыядам сутыкнення дзвюх эпох. Найбольш паслядоўную, на нашу думку, і навукова абгрунтаваную праграму выжывання нацыі — прычым з апораю на беларускі культурны кантэкст — сфармуляваў Уладзіслаў Сыракомля ў сваім ліра-эпасе. На змену валенродаўска-сапліцаўскаму самаахвярнаму змагару Міцкевіча прыходзіць новы герой — такі, як адукаваны і высакародны Ян з роду Дубарог. Ён не апанаваны жаданнем ісці на бітву, але займае актыўную жыццёвую пазіцыю і (у многім дзякуючы намаганням ксяндза дэфінітара) аказваецца ўнутрана падрыхтаваным да штодзённай карпатлівай працы — як духоўнай, так і фізічнай. Гэты герой, незалежна ад свайго сацыяльнага статусу, шчыра адданы роднай зямлі і імкнецца быць карысным ёй, найбольш цэніць грамадзянскі дабрабыт і добрасуседскія адносіны суайчыннікаў, традыцыі продкаў і сямейныя каштоўнасці — усё тое, у чым вялікі паэт бачыў аснову самазахавання нацыі.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# АДАМ МАЛЬДЗІС: УКЛАД У ЭКАЛОГІЮ КУЛЬТУРЫ

***Мяркуючы па сабраным культуралагічным, асветніцкім багацці ў параўнанні з культурамі многіх народаў Еўропы, Азіі і нават Лацінскай Амерыкі, мы, беларусы, — не такія ўжо і багатыя. І няма чаго з гэтай нагоды спрачацца альбо ліць слёзы. Працай вызначаць далейшыя шляхі, ісці наперад, засвойваць новае, умацоўваць здабытае і асэнсаванае папярэднікамі. Няўжо, тысячу разоў перабольшваючы ці нават акрэсліваючы ўласныя здабыткі, мы станем багацейшымі?! Любіць сябе як нацыю, узвышаць сваю Айчыну — гэта яшчэ не значыць ствараць для сябе і свайго народа перспектывы развіцця і грандыёзнай будучыні. Важней — нястомна і бясконца працаваць. У гэтым — і асалода, і спадзяванне на тое, што нешта будзе засвоена, дасягнута, знойдзена, адкрыта... Іншымі словамі, рэалістычнае спадзяванне на будучы духоўны і асветніцкі набытак. Таму і патрэба сёння ў нашым беларускім грамадстве самая галоўная, як і на пачатку мінулага стагоддзя, — у руплівых працаўніках. Шкада, што толькі не шэрагі іх, не калоны, а адзінкі... Праўда, на вялікае беларускае шчасце, часам адзінкі вартыя і шэрагаў, і калон.***



Мальдзіс Адам Іосіфавіч — з такіх магутных духоўных асілкаў, чыя руплівасць і ўнікальная працаздольнасць, крынічная ініцыятыва і прыцягальная энергетыка дапамаглі беларускаму асветніцтву зрабіць крок наперад.



А пачатак быў нялёгкі, як і ва ўсіх, відаць, яго аднагодкаў. Нарадзіўся ў вёсцы Расолы — цяперашні Астравецкі раён. У школу пайшоў толькі ў 1945-м, маючы за плячыма 13 гадоў. Праўда, адразу ў 5 клас. Дагэтуль з дапамогай бацькі, селяніна Восіпа Людвікавіча, займаўся самаадукацыяй. Бацька быў з 1887 года. І гэтая акалічнасць — сталы ўзрост! — таксама мела сваё адценне. Лёс мог распарадзіцца так, што адзіным клопатам стаў бы догляд бацькоў. Жыццё на памежжы з Літвой, заходнебеларускае бытаванне пад Польшчай маглі і іншы шлях падрыхтаваць. Мо не меней паспяховы, але ж з іншымі прыярытэтамі. Закончыўшы ў 1951 годзе Астравецкую сярэднюю школу, Адам паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Спрыяла гэтаму яго актыўнае юнкарства — дасылаў вершы, допісы ў піянерскую, раённую, абласную газеты. Мела значэнне і актыўная грамадская работа. Жаданне знайсці нешта з таго, што аб'ядноўвае людзей, развівае грамадскую ініцыятыву, спрыяе развіццю творчых здольнасцей, выхоўвае разуменне важкасці камунікатыўных магчымасцей. З часам гэтая рыса паспрыяе Адаму Іосіфавічу ў рэалізацыі многіх творчых і асветніцкіх ініцыятыў.

Ужо ў часы студэнцтва Адам Мальдзіс пачаў выступаць з рэцэнзіямі. Вучоны пачаткам сваёй прафесійнай літаратурнай работы лічыць рэцэнзію на раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» — «Недахопы добрага твора», надрукаваную ў газеце «Літаратура і мастацтва» 1 верасня 1954 года. З тых, сярэдзіны 1950-х гадоў, першых публікацый і пачынаецца Мальдзіс як даследчык. Яго вабіць нязведанае і пакуль што неадкрытае. Ён шукае тую літаратуру, пра якую калі і гаварылі дагэтуль, то спехам. А недзе падспудна, у нетрах душы, расце разуменне, што на ўніверсітэцкіх лекцыях, у нямногіх хрэстаматыях ды рэдкіх па тым часе манаграфіях згадваецца ўсяго толькі паверхня айсберга. На справе ж у тоўшчы мінулых стагоддзяў прыхавана гэтулькі цікавага, што туды і павінна быць скіравана даследчыцкая ўвага.

Тры гады ў раённай газеце ў Радашковічах шмат новага прыўнеслі ў жыццё будучага вучонага. Па-першае, вопыт работы адказным сакратаром няхай сабе і ў невялікай газеце. Адолеўшы прыступку аднаго арганізацыйнага звяна, шматкроць лягчэй адольваць наступныя. Па-другое, працаваць жа выпала на Маладзечаншчыне, багатай на прагрэсіўныя заходнебеларускія традыцыі, на культуру і асветніцтва. Якое з маладзечанскіх паселішчаў ні вазьмі — паўсюль «культурныя гнёзды»!

Пасля — аспірантура Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук, тады — Акадэміі навук Беларусі. З 1963 года, у якім абараніў кандыдацкую дысертацыю, — навуковае карпенне ў акадэмічным інстытуце: малодшы, старшы навуковы супрацоўнік, загадчык сектара ўзаемасувязей літаратуры, з 1981-га — загадчык аддзела беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Доктарскую — па-руску яе назва гучыць наступным чынам:

«Закономерности развития белорусской литературы переходного периода (Вторая половина XVII—XVIII в.»)— абараніў у 1986 годзе. Магчыма, наперадзе павінна было б быць і членкарства, і чын акадэміка… Але на пачатку дарогі было відаць, што прыярытэты, абраныя навукоўцам, скіраваны ўбок іншых каштоўнасцей — Мальдзіс «збірае Беларусь».

Таму і прыйшоў да стварэння Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францыска Скарыны, таму і вёў па няпростай грамадскай, жыццёвай, навуковай плыні гэты «карабель спадзяванняў» ажно сем гадоў. Прыйшлі новыя, здавалася б, разумнейшыя, а карабель прыбіўся да берага. Але нягледзячы на гэта Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны запачаткаваў многія традыцыі і справы, паўплываў на пашырэнне цікаўнасці да беларускай культуры, літаратуры ў свеце. Установа доўгі час выдавала бюлетэнь «Кантакты і дыялогі», назва якога сведчыць пра клопаты ў збіранні ўсемагчымай інфармцыі пра беларусіку ў свеце. Вакол Цэнтра, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў пачалі групавацца нераўнадушныя да Беларусі даследчыкі, нашы суайчыннікі. Двума выданнямі пабачыў свет даведнік пра ўраджэнцаў Беларусі ў блізкім замежжы. Другое выданне («Сузор’е беларускага памежжа») — у 2014 годзе. Кіраўнік аўтарскага калектыву гэтага грунтоўнага энцыклапедычнага даведніка — Адам Іосіфавіч. Адзін гэты клопат можа быць варты асобнага жыцця ў навуцы.

…Ужо першая кніга Адама Мальдзіса — «Творчае пабрацімства: беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX стагоддзі» (Мінск, 1966 год) выклікала вялікую ўвагу. З’явіліся рэцэнзіі ў «Полымі», «Літаратуры і мастацтве», «Чырвонай змене», «Советском славяноведении», беластоцкай «Ніве»… І аўтары якія невыпадковыя — Уладзімір Казбярук, Мікола Прашковіч, Сцяпан Міско... І ўжо тады станавілася відавочным, што адных літаратуразнаўчых зацікаўленняў Адаму Мальдзісу мала. Вучоны ўважліва сочыць за ўсім, што звязана з вяртаннем спадчыны ўраджэнцаў Беларусі, удзельнічае ў адкрыцці забытых лёсаў нашых суайчыннікаў.

…1967 год. У «Полымі» выходзіць рэцэнзія на кнігу перакладаў з паэзіі Уладзіслава Сыракомлі на беларускую мову. На старонках «Маладосці» вучоны расказвае пра Ігната Дамейку. «Літаратура і мастацтва» змяшчае артыкул «Піянер беларускай фалькларыстыкі» — да 120-годдзя з дня смерці Яна Чачота. У той жа газеце — рэцэнзію на кнігу даследчыка Казахстана Адольфа Янушкевіча «Дневники и письма из путешествия по казахским степям», выдадзеную ў 1966 годзе ў Алма-Аце. Сёння шмат гаворыцца — і вучонымі, і палітыкамі — пра ролю гэтага даследчыка ў гісторыка-культурным паяднанні Беларусі і Казахстана, а быў час, калі Адам Мальдзіс першым выказаўся пра Адольфа Янушкевіча як пра вартага сына Айчыны, сейбіта зярнят сяброўства паміж народамі і краінамі.

Увага да лёсаў нашых суайчыннікаў праз некаторы час вылілася ў шматлікія публікацыі. З’явілася новая тэма — сведчанні, мемуарныя крыніцы пра нашу Айчыну з вуснаў падарожнікаў розных эпох. Так нарадзілася кніга «Шляхі вялі праз Беларусь», якую Адам Іосіфавіч напісаў у суаўтарстве з Валянцінам Пятровічам Грыцкевічам. Блізка да яе стаіць і выданне «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры». Дарэчы, хацеў бы зрабіць некаторае адступленне і заўважыць наступнае. З 1980 да 1990 года ўключна вучоны выдаў 8 кніг. І на гэты ж час прыпадае абарона доктарскай дысертацыі. Тады ж ініцыіруецца праца над шматтомным біябібліяграфічным даведнікам «Беларускія пісьменнікі» (шэсць яго тамоў пабачаць свет у 1992—1996 гады). Між іншым, увага Мальдзіса да беларускай бібліяграфіі — тэма асобнай гутаркі, якую ўжо даўно пара весці ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях. А што да краязнаўчай бібліяграфіі, то зробленае, знойдзенае, падказанае вучоным цягне яшчэ на адну доктарскую мантыю… Гэтыя мальдзісаўскія 1980-я мне бачацца самымі напружанымі. А разам з тым і паваротнымі. Матэрыял назапашваўся, вырастаў да тых памераў, калі маўчаць нельга. З’явіўся і велізарны вопыт у яго выкладанні. І кнігі, і артыкулы «выстралілі». Наступнае дзесяцігоддзе павінна было стаць болей энергічным і напружаным, і, адпаведна, — плённым. Але кніг паменела… Мальдзіс стаў арганізатарам у навуцы, у культуралагічных праектах, кіраўніком, ініцыятарам работы калектываў іншых рупліўцаў. І ў мяне, прызнацца, да такога выяўлення яго творчай біяграфіі дваякае стаўленне. З аднаго боку: выдатна, што так склалася. Бо і ў Скарынаўскім цэнтры, і ў камісіі Беларускага фонду культуры «Вяртанне», і ў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Іосіфавіч — асоба незаменная. Але ж уявіце, якіх высілкаў каштавалі ўсе гэтыя першыя ролі! Нават калі б там і рабілася без мальдзісавага імпэту, без яго грунтоўнасці і маштабаў… А гэта ж не так!..

Калі браўся за якую ініцыятыву, то абавязкова даводзіў да канца! Так, другі бок стаўлення ў мяне, прабачце, крытычны: Адам Іосіфавіч за гэтыя гады мог бы і не адну кнігу напісаць, папрацаваць на пашырэнне ўласнага творчага актыву… Ды, мусіць, у тым і выключнасць асобы, якая вызначае прыярытэты, робіць ацэнку зробленаму.

…Некалькі гадоў назад я прачытаў у Дзмітрыя Ліхачова: «Ёсць вялікая розніца паміж экалогіяй прыроды і экалогіяй культуры, і досыць прынцыповая».

Да вядомай мяжы страты ў прыродзе ўзнаўляюцца… Іначай складваецца справа з помнікамі культуры. Іх страта незваротная, бо помнікі культуры заўсёды індывідуальныя, звязаны з пэўнай эпохай. Кожны помнік разбураецца навечна…

Каб захаваць помнікі культуры, неабходныя для «маральнай аседласці» людзей, мала толькі платанічнай любові да сваёй краіны, любоў павінна быць дзейснай.

А для гэтага патрэбны веды, і не толькі краязнаўчыя, але і болей глыбокія, якія можна аб’яднаць у асаблівую навуковую дысцыпліну — «экалогію культуры». Вось і мне літаратуразнаўца Адам Іосіфавіч бачыцца сапраўдным «эколагам культуры». Яго праца па захаванні многіх помнікаў айчыннай культуры носіць унікальную шматабсяжнасць. Выступленні на пасяджэннях камісіі «Вяртанне» Беларускага фонду культуры, многія ініцыятывы, вылучаныя да міністэрстваў, урада краіны, фарміраванне грамадскай думкі ў гэтым кірунку, шматлікія выступленні ў друку, падрыхтоўка і выданне зборнікаў «Вяртанне» — усё гэта набытак, фундамент для рэальных здабыткаў. Пачынаючы з сярэдзіны 1980-х гадоў многія артыкулы Адама Мальдзіса скіраваны на вырашэнне гэтых клопатаў: у «Голасе Радзімы» — «Праграма камісіі «Вяртанне». У часопісе «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» — «Вяртанне», ва ўрадавай газеце «Рэспубліка» — «А што ў сховішчах Расіі?» (пра духоўныя і матэрыяльныя скарбы, якія знаходзяцца ў архівах, музеях і бібліятэках Расіі). І там жа — «Куды зніклі магілёўскія зборы?» (пра тое, што здарылася падчас Вялікай Айчыннай вайны з каштоўнасцямі, якія захоўваліся ў Магілёўскім абласным дзяржаўным гістарычным музеі). Зноў жа ў «Рэспубліцы» — «Скарбы мінскага музея. Дзе яны? Сляды вядуць у заходнім кірунку» (трагічны лёс збораў Мінскага гістарычна-мастацкага музея). Назва і падзагаловак аднаго з артыкулаў Адама Мальдзіса гавораць і пра пазіцыю аўтара ў складаным пытанні рэстытуцыі — «Страчана. Але ёсць надзея…» (Пра вяртанне і супольнае выкарыстанне духоўных матэрыяльных скарбаў, якія знаходзяцца ў нашых суседзяў). Вучоны не аднойчы агучваў сваю пазіцыю менавіта такім чынам — трэба ведаць, дзе што з беларускага знаходзіцца, калі нельга вярнуць, то варта хаця б увесці ва ўжытак беларускай культуры, гісторыі інфармацыйна, праз апісанне, капіраванне, каталогі і г.д. Ужо гэта дасць падставы да новых навуковых даследаванняў, падкажа шырэйшыя абсягі нацыянальнай культуры ў розныя гістарычныя адрэзкі часу.

…У гэтым, пэўна, і выяўляецца глыбіня навуковага таленту Адама Мальдзіса — яго бязмернае ўяўленне пра абсягі беларускай культуры, перакананне пра выключнасць нацыянальнага, неацэнную ролю ў стварэнні дзяржавы, фарміраванні духоўных прыярытэтаў. Фактычна, Мальдзіс працуе за цэлы інстытут. І гэта не толькі вобраз. Сёння цяжка пералічыць усіх тых навукоўцаў, журналістаў, літаратараў, хто не абыходзіўся і не абыдзецца без яго, шчодрага і багатага на парады кансультанта, дарадцы.

Не ўсе клопаты вучонага і пісьменніка я здолеў пералічыць, пішучы гэты артыкул. Адам Іосіфавіч ва ўсе гады сваёй руплівасці быў і застаецца Краязнаўцам. Родам з Астравеччыны, ён ніколі не забываў пра малую радзіму. У 1977 годзе асобным кніжным выданнем пабачыў свет нарыс «Астравеччына, край дарагі…» Кніга выклікала шырокі рэзананс. Не толькі на Гродзеншчыне. У «Літаратуры і мастацтве» рэцэнзіямі на выданне адгукнуліся такія няўрымслівыя падарожнікі па родным краі, як Генадзь Каханоўскі і Яўген Сахута. На фоне многіх кніг і кніжачак кшталту серыі гісторыка-эканамічных нарысаў пра гарады Беларусі «літаратурна-краязнаўчая вандроўка па Астравеччыне» сталася яскравым прыкладам, як знаёміць са старонкай, якія багацці можна адшукаць літаральна паўсюль. Пасля з’яўлення кнігі з году ў год Мальдзіс пашырае наша чытацкае ўяўленне пра Астравеччыну. Чытаем ў перыёдыцы: «Варнянскаму ансамблю — другое жыццё», «Літаратурная рунь Астравеччыны», «Астравецкі» верш Янкі Быліны», «Ці было на Астравеччыне землетрасенне?», «Старонкі гісторыі», «Вяртанне на радзіму паэта з Бараняў», «Мастак з Лошы»… Многія з «астравецкіх» адкрыццяў з’яўляюцца на старонках «Астравецкай праўды». Адтуль, з Астравеччыны, да Адама Іосіфавіча ідуць, пішуць, пастаянна звяртаюцца з пытаннямі.

Памежнай беларуска-літоўскай старонцы пашчасціла: у яе ёсць шчыры і клапатлівы летапісец, абаронца яе гістарычных, культурных адметнасцей. Пашчасціла і ўсёй Беларусі, бо ў яе ёсць настойлівы абаронца роднай культуры.

Адам Мальдзіс і сёння застаецца руплівым, дбайным да беларускай культуры і гісторыі журналістам, публіцыстам. Гэта відаць па шматлікіх публікацыях у газеце «Сб. Беларусь сегодня», штотыднёвіку «Голас Радзімы», у інтэрв'ю, без якіх не абыходзіцца ніводнае цікаўнае да беларускай культуры перыядычнае выданне. Творчай актыўнасці Адама Мальдзіса, які Прэзідэнтам краіны ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, хапае на многія добрыя справы і прыкметныя публікацыі.



***Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,***
***пісьменніца:***

— У кожным часе ёсць людзі, якія адначасова з'яўляюцца арыенцірам маральным і інтэлектуальным. Для нас такім стаў Адам Мальдзіс. Ён увасабляе сувязь паміж літаратурнымі пакаленнямі цэлай эпохі. Сябра Уладзіміра Караткевіча, які ўзгадваецца і ў дакументальных успамінах, і ў мастацкіх творах пісьменніка. Напрыклад, у рамане «Чорны замак Альшанскі» галоўны герой, гісторык Андрэй Космiч, распавядае пра свайго сябра Алеся Гудаса, што жыў насупраць, на першым паверсе, над Старажоўскім рынкам. Аднойчы гандляры пачаставалі Гудаса праз акно гарэлкай, што стала містычнай загадкай для яго жонкі. Насамрэч гэта рэальны эпізод, Алесь Гудас — гэта Адам Мальдзіс. Яны з Караткевічам жылі праз дарогу, і нават у вокны маглі пераглядвацца, знакі адзін аднаму падаваць. Для нашага і наступных пакаленняў Адам Мальдзіс выконвае функцыю Уладзіміра Караткевіча: дае нам матэрыял для твораў. Мальдзіс не проста аўтар унікальных навуковых артыкулаў, манаграфій, ён адораны як літаратар. Чытаючы, як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі, ты жыва гэта ўяўляеш. Я ўвесь час карысталася багаццем Мальдзіса, калі працавала над авантурна-прыгодніцкім раманам пра Пранціша Вырвіча, дзеянне ў якім адбываецца ў XVIII стагоддзі. Кнігі Адама Мальдзіса ляжалі ў мяне на стале, бо я нешта ўвесь час звярала. Калі пішу артыкулы дакументальныя, эсэ па беларускай гісторыі, таксама не забываюся зверыцца з тым, што пісаў Адам Іосіфавіч, а то і яго самога перапытаць. Я лічу, што нам проста пашанцавала мець такога сучасніка.



***Валерый КАЗАКОЎ,***
***пісьменнік:***

— З Адама Іосіфавіча пачалася адна са старонак майго шматбаковага і не зусім выкшталцонага жыцця, пачалася апантанасць вяртання на Радзіму таго, што калісьці было вывезена з нашых зямель, маёнткаў, музеяў. На жаль, не дзяржаўныя ўстановы, а сціплы і ціхі чалавек сталага ўзросту пачаў турзучыць гэту складаную і не зусім бяспечную тэму. Ён пачаў, але хутка з'явіліся паплечнікі гэтае справы, і яна скранулася з мёртвай кропкі. А «Голас Радзімы»? Я ж з уласнага вопыту ведаю, чым была гэта газета деля беларусаў замежжа, як яе чакалі. Можа, не столькі саму газету, колькі невялічкія, але яскравыя, поўныя цеплыні матэрыялы Адама Мальдзіса. А «Сузор'е беларускага памежжа»? Гэта акадэмічная праца — першы

крок у пераліку беларусаў замежжа, адданых сваёй Радзіме. І зноўку гэту працу зрабіў, ледзь не на калене, Адам Іосіфавіч!

Ведаеце, ёсць такія зацятыя патрыёты, якія рвуць свае глоткі на мітынгах, якім, як ні круці, усё не ў лыка. Яны толькі сябе лічаць змагарамі за будучыню нашай краіны, роднай мовы і равуць пра гэта так, што хоць святыя абразы з хаты вынось. Але хвала пану Богу, ёсць і іншыя, такія, як Мальдзіс: яны і без грантаў робяць Справу. Ды што там робяць — яны жывуць гэтай Справай, яны без яе дыхаць не змогуць. Р. Гарэцкі, Б. Кіт, Г. Запартыка, айцец А. Надсан, А. Мальдзіс — гэта і ёсць сапраўдныя патрыёты, за імі будычыня нашай супольнай Беларускай Справы. Беражы іх, Магутны Беларускі Божа.



***Ларыса ЯЗЫКОВІЧ,***
***галоўны рэдактар выдавецтва***
***«Беларуская энцыклапедыя»:***

— Адама Мальдзіса я ведала даўно, але асабіста сутыкнулася з ім, калі творчы калектыў, у склад якога уваходзілі навукоўцы, што вывучалі гісторыю беларускай дыяспары, пачаў працу па стварэнні даведніка «Хто ёсць хто сярод беларусаў свету». Гэта была вельмі цікавая праца. Тэма новая, не распрацаваная. Матэрыялаў не хапала. Але было вялікае жаданне зрабіць годную кнігу, паказаць той уклад, які зрабілі прадстаўнікі беларускага народа ў скарбонку сусветнай культуры. Працавалі напружана, досыць часта сустракаліся, абмяркоўвалі спрэчныя пытанні. Кіраўнік творчага калектыву Адам Іосіфавіч уразіў мяне сваёй прынцыповасцю, глыбокімі ведамі і шчырай адкрытасцю да кожнага чалавека — ад знакамітага доктара навук да малодшага навуковага супрацоўніка ці аспіранта. Кніга атрымалася, вытрымала два выданні. Мяне заўсёды ўражвалі творчыя і навуковыя кантакты Адама Мальдзіса. Здаецца, няма такога гісторыка, літаратуразнаўца ў Беларусі, а таксама ў замежжы, якога б Адам Іосіфавіч не ведаў асабіста, з якім бы не падтрымліваў ліставанне. У гэтага цудоўнага чалавека шмат творчых планаў. Ён часта пры сустрэчах распавядае пра тыя рукапісы, што ляжаць у шуфлядах яго пісьмовага стала і патрабуюць дапрацоўкі і выдання.



***Віктар КОРБУТ,***
***журналіст, краязнавец, аўтар кнігі***
***«Минск. Лучший вид на этот город»,***
***спецыяльны карэспандэнт аддзела***
***культуры газеты***
***«СБ. Беларусь сегодня»:***

— З Адамам Іосіфавічам мне пашчасціла пазнаёміцца ўлетку 1998 года. Тады я выпускаўся з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры. Спадар Мальдзіс быў старшынёй экзаменацыйнай камісіі і строга дапытваў мяне перад тым як паставіць подпіс у дыпломе аб заканчэнні ВНУ. Да таго неспадзяванага спаткання я ведаў шаноўнага прафесара толькі паводле кніг. Мала сказаць, захапляўся, лічыў жывой легендай. Як Караткевіча, Быкава. А тут — асабістае знаёмства.

Спадар Адам падарыў тады мне сваю кнігу «Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі».

А праз некалькі год мы сустрэліся ў калідоры рэдакцыі, дзе я працаваў і працую. Адам Іосіфавіч таксама пачаў публікавацца на старонках «СБ». Гэта для мяне было вялікай неспадзяванкай і прыемнасцю: раптам з паважаным вучоным, аўтарытэтным знаўцам нашай мінуўшчыны, які яшчэ нядаўна «дапытваў» мяне на ўніверсітэцкай лаве, мы зрабіліся калегамі! І тут я не змог не скарыстацца выпадкам: пры кожнай сустрэчы ўважліва слухаю шаноўнага пана прафесара, распытваю яго — пра старыя і новыя знаходкі, пра Караткевіча і звязаныя з ім рэальныя гісторыі і прыгоды, пра Вільню...

**Любіць сябе як нацыю, узвышаць сваю Айчыну — гэта яшчэ не значыць ствараць для сябе і свайго народа перспектывы развіцця і грандыёзнай будучыні**

Цяпер, складаючы даведнік па беларускіх мясцінах Вільні, я цешуся, што спадар Мальдзіс падтрымаў маю працу, сочыць за публікацыямі праекта «Vilnius — Вільня. Сталіца Літвы ў гісторыі Беларусі» на старонках «СБ», выказвае карысныя заўвагі і падказкі. І спадзяюся, Бог дасць яму, як кажуць палякі, «сто лят», каб паважаны навуковец паспеў ажыццявіць шмат сваіх задум і падтрымаць маладзейшых калег, да якіх я лічу за гонар належаць. Гэтаксама, як і ўважаць спадара Адама за аднаго са сваіх Настаўнікаў.

***Святлана ДЗЯНІСАВА,***
***галоўны рэдактар часопіса***
***«Маладосць»:***



— Ёсць людзі, чые імёны гучаць як брэнды. Імя Мальдзіса — брэнд. Я б так сказала і гэтым бы абмежавалася, калі б не адна акалічнасць: я вельмі шчаслівая, што магу хоць зрэдку далучыцца да яго бясконцых і такіх важкіх спраў.

Адам Іосіфавіч наўрад ці памятае, але я ніколі не забуду, як прыйшла да яго ў будынак «Вячэрняга Мінска» ўпершыню. Мне, на той час рэдактару глянцавага часопіса, які прысвячаў Радзівілам цэлы нумар, спатрэбілася меркаванне наконт паходжання прозвішчаў, што маюць адзін корань з «радзівілаўскім»: Радзівілаў, Радзівілка, Радзівіловіч... Мы і герояў адпаведных знайшлі: артыста, мастачку, рэжысёра — носьбітаў такіх прозвішчаў. Не хапала толькі кампетэнтнай думкі спецыяліста. Безумоўна, яе, па задуме, павінен быў выказаць прафесар Мальдзіс — доктар філалогіі, з аднаго боку, і чалавек, які ведае пра Радзівілаў ледзь не ўсё, з другога. Вось я і патэлефанавала Адаму Іосіфавічу. Дамовілася пра сустрэчу. Пайшла. Як заўсёды да вядомых і паважаных — на дрыжачых нагах і з мокрымі далонькамі. А ён падаўся вельмі простым чалавекам і даў даволі дасціпны каментарый да тэмы. А калі праз месяц выйшаў «радзівілаўскі» нумар і я патэлефанавала яму, каб пра гэта паведаміць, не менш дасціпна пракаменціраваў сваё раптоўнае і вельмі для яго нечаканае з'яўленне ў «глянцы». «Вось ужо гэтыя жанчыны», — падсумаваў ён.

Мальдзіс — цяпер я гэта добра ведаю — заўсёды такі: дасціпны і просты. Толькі ў адрозненне ад многіх, таксама простых, ён сваёй прастасцю не адымае ні каліўца велічы ад той справы, якой заняты ўсё сваё жыццё. Яго прастасць не змяншае значнасці.

***Фота Наталлі АСМОЛА***

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

# У БЛОНІ, ДЗЕ МЕСЦІЦЦА СЯДЗІБА РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ПАМЕШЧЫКАЎ...

**Калі будзеце ехаць па дарозе з Мар'інай Горкі да вёскі Пухавічы, то не абмінуць вам Блоні.**

Вёска вядома з даўніх часоў. У юрыдычных актах 1582 года згадваецца як сяло Балонне, ці Балонскае Мінскага павета і ваяводства Вялікага Княства Літоўскага. У 1745 годзе тут была Езуіцкая рэзідэнцыя і місія, якую ўзначальваў Юзэф Бака, асоба ў гісторыі і культуры Беларусі мала вывучаная, а ў дачыненні да літаратурнага краязнаўства Міншчыны, Пухавіччыны і ўвогуле забытая. Вядома, што нарадзіўся ён 18 сакавіка 1707 года на Міншчыне, а памёр 2 мая 1780 года. Акрамя таго, што славу меў як каталіцкі прапаведнік, вядомы ён і як польскі паэт. У 1740-х Юзэф Бака жыў у Мінску. Вёў місіянерскую дзейнасць у Навагрудку і Вільні. Аўтар напісанай у стылі барока паэтычнай кнігі «Заўвага аб непазбежнай смерці» (1766), у якой не толькі ўсхваляў звышнатуральныя сілы і асуджаў «марнасць быцця», але і крытыкаваў прыгоннікаў, якія здзекуюцца над сваімі сялянамі. Паэзія Бака была дастаткова папулярнай на Беларусі і ў Літве. Відавочна, рэзідэнцыя Езуіцкай місіі месцілася на сядзібе сённяшняй Блонскай школы, дзе яшчэ ў XIX стагоддзі быў каталіцкі касцёл.

Але ж цэнтральнае месца ў гісторыі Блоні займае сям'я Бонч-Асмалоўскіх. У сваіх успамінах Анатоль Іосіфавіч Бонч-Асмалоўскі піша: «Іншы раз падоўгу, іншы раз кароткі час гасцявалі ў нас у Блоні і многія іншыя рэвалюцыянеры і грамадскія дзеячы. Напрыклад, пісьменнік-народнік Рыгор Аляксандравіч Мачтэт, які пад канец жыцця перайшоў у лагер кадэтаў».



З Блонню паяднана і рэвалюцыянерка, публіцыст Кацярына Брэшка-Брэшкоўская (1844—1934). Асоба наўздзіў шматгранная, сам Керанскі на яе смерць адгукнуўся некралогам «Бабуля расійскай рэвалюцыі».

Не выключана, што ў Блонь прыязджаў і драматург, тэатральны рэжысёр Леапольд Сулержыцкі, пра якога таксама згадвае ў сваіх успамінах А. Бонч-Асмалоўскі. А рускі пісьменнік Яўген Чырыкаў па матывах падзей у Блоні на пачатку XX стагоддзя напісаў аповесць «Мяцежнікі». Шэраг даследчыкаў выказвае меркаванні, што ў Блоні гасцявала разам з хворым рэвалюцыянерам, сваім абраннікам, украінская паэтэса Леся Украінка. Дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пранові́ч перакананы ў гэтым. На жаль, дакладных крыніц, якія б пацвердзілі гэты факт знайсці не ўдалося.

Дарэчы, адзін з першых грунтоўных даследчыкаў жыццяпісу Бонч-Асмалоўскіх і рэвалюцыйнага руху ў Блоні — гісторык і публіцыст Барыс Клейн (нарадзіўся 1 лістапада 1928 года ў Віцебску), які цяпер жыве ў ЗША. Доктар гістарычных навук (1989), прафесар (1990). Скончыў Ленінградскі ўніверсітэт (1951). З 1955 года жыў у Гродна. Выкладаў на кафедры гісторыі КПСС у Гродзенскім медыцынскім інстытуце. У 2-й палове 1960-х выступіў з крытыкай палітычнага курса цэнтральнага кіраўніцтва, асудзіў увод войск Варшаўскага Дагавора ў Чэхаславакію. Быў пазбаўлены вучонай ступені і звання, вызвалены ад выкладчыцкай работы. У 1976 годзе рашэннем ЦК КПБ адноўлены ў КПСС. У 1979-м Клейну былі вернуты вучоныя ступень і званне. Працаваў на кафедры гісторыі СССР і БССР Гродзенскага ўніверсітэта. З 1992 года — у ЗША. Аўтар прац «Рэвалюцыйны рух у Вільнюскім краі ў 1920—1939 гг.» (Вільнюс, 1961), складальнік і аўтар каментарыяў да зборніка «Вільнюскае падполле» (1966), кніг «Найдено в архиве» (1968), «За дело правое: борьба КПЗБ с буржуазным террором (1920—1938 гг.)» (1986), «В годину испытаний» (1986), «Время выбора» (1987), «Взгляд из прошлого» (1989), «Недосказанное. Имена» (2008). У гістарычным нарысе «Са справы Бонч-Асмалоўскіх» Барыс Клейн расказаў і пра свой візіт у Блонь, і вобразна ўзнавіў атмасферу ў маёнтку канца XIX стагоддзя:



*«...Анатолию Осиповичу ностальгировать было некогда. Более десяти лет потребовалось, чтобы восстановить рентабельность имения. С середины 1890-х, когда был построен крахмальный завод, оно стало приносить солидный доход. В семье, кроме Ивана, подрастали еще сыновья Родион и Глеб, дочь Ирина. Дети жили дружно и, можно сказать, с пеленок усваивали то сокровенное, что таилось под покровом рутинного быта.*

*“Я был очень осторожен, — вспоминал отец, — и мне, как редко кому, служило счастье...”*

*В радикальных общественных кругах (не только Беларуси) репутация хозяев Блони определилась. В их руках имение было не только источником средств, но и местом совещаний, подпольных явок, складом литературы, а также “санаторием” для больных и, кто знает, чем еще.*

*Сами же владельцы увлекались работой среди местных крестьян. У них находи-*

*лись помощники из интеллигентов: в мемуарах упоминается учитель А. Е. Богданович, отец поэта Максима Богдановича.*

*Но надо было завоевать доверие мужиков. Как-то Антолий Осипович созвал крестьян и объявил, что передает им часть земли, а также необходимый инвентарь и оборотный капитал, он гарантировал и определенный заработок. Был разработан устав "социалистической артели" — вероятно, первой такого рода кооперации в Беларуси.*

*Культурничество, толстовство? Бесспорно, личное общение Анатолия Осиповича с Л. Н. Толстым не прошло бесследно. Но автор записок сделал оговорку, что полностью "никогда не мог согласиться с ним: во-первых, категорическое непротивление злу насилием не укладывалось в моей психике; во-вторых, слишком много было в его учении мистического и божественного".*

*В имении проведен был обыск, устав артели нашла полиция. В секретной полицейской справке читаем: "В 1883 г. имелось указание на намерение его устроить в своем имении Блонь хозяйство на социалистических началах".*

*В неурожайный год артель распалась. Потом снова ожила.*

*"Масса молодежи как учащейся, так и крестьянской, — вспоминала участница тех событий М. О. Лебедева (Шебалина), — и все живут одной семьей. Днем работали, а к вечеру юноши и девушки собирались на площадке перед домом и танцевали, веселились до поздней ночи. Старшие поддерживали эту атмосферу. Как радовались все, когда Варвара Ивановна садилась за рояль!"*

*Как бы не трактовать это теперь, осваивались новые формы хозяйственной и общественной жизни.*

*Проверка их практикой обходилась недешево.*

*"В 1898 г., — сказано в справке Департамента полиции, — он (Анатолий Осипович) был замечен в сношении с членами Минской социал-демократической группы и вернувшимся из ссылки бывшим государственным преступником Сергеем Коваликом".*

*Бонч-Осмоловскому и двенадцати крестьянам предъявили обвинение в организации в Блони тайного кружка саморазвития "Свобода и воля".*

*1902 год застал отца и сына Ивана в Часовой башне Бутырской тюрьмы...»*

Папрацаваўшы ў архівах, сустрэўшыся ў Маскве з сынам Анатоля Бонч-Асмалоўскага — Іванам Анатольевічам, у 1960-я Барыс Клейн наведаўся і ў Блонь, паспеў яшчэ



сустрэцца з сялянамі, якія асабіста былі знаёмы з сям'ёю Бонч-Асмалоўскіх.

У 2005 годзе гасцямі Блоні і Пухавіцкага раёна была група балгарскіх пісьменнікаў. Сярод іх — старшыня Саюза балгарскіх пісьменнікаў, літаратурны крытык і публіцыст Мікола Пецеў, а таксама дзіцячая пісьменніца, паэт Майя Длгчава. Літаратары пазнаёміліся з краязнаўчым музеем, асаблівую ўвагу звярнулі на расповеды літаратурнай гісторыі Пухавіцкага краю. Пакінулі свае запісы ў кнізе гасцей, якая, дарэчы, сама па сабе ўяўляе ўнікальную крыніцу інфармацыі пра міжнародныя стасункі раённага музея.

Крышачку раскажу пра Міколу Пецева. Нарадзіўся ён у 1951 годзе. Закончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Служыў у балгарскім войску. Затым працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Родная речь» (выданне, адпаведнае маскоўскаму штомесячніку «Литературная учеба»). Быў абраны сакратаром Саюза балгарскіх пісьменнікаў па працы з моладдзю і міжнародных пытаннях. Пасля ўзначаліў выдавецтва «Народная молодёжь» — гэта кшталту маскоўскай «Молодой гвардии» альбо колішняга мінскага «Юнацтва». Заснаваў прыватнае выдавецтва, працаваў у буйнейшым дзяржаўным выдавецтве «Христо Ботев», вярнуўся ў Саюз пісьменнікаў. У лістападзе 2002 года абраны старшынёю Саюза балгарскіх пісьменнікаў. Першая кніга Пецева пабачыла свет у Сафіі ў 1982 годзе. Адна з яго кніг — «Паэзія і пазіцыя» — перакладзена на рускую мову і выдадзена ў Маскве. Зборнік публіцыстычных артыкулаў балгарскага пісьменніка рыхтуецца да выдання ў Мінску ў перакладзе на беларускую мову. Пакідаючы Блонь, Пухавіччыну, Мікола Пецеў не раз заўважыў, што ўражаны той цікавасцю, якую праяўляюць да ўласнай літаратурнай гісторыі ў правінцыйным куточку Беларусі. На жаль, некаторы час назад Міколы Пецева не стала. Вельмі рана абарвалася жыццё добрага пісьменніка, шчырага сябра Беларусі і Расіі.

Майя Длгчава — дзіцячая пісьменніца, паэтэса, прыехала ў Беларусь, каб наладзіць стасункі з беларускімі літаратарамі, якія працуюць для дзяцей. (У 2007 годзе яна



наведала Беларусь для ўдзелу ў Міжнародным «круглым стале» «Мастацкі пераклад як шлях адзін да аднаго. Славянскі вектар», які праводзіла Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і РВУ «Літаратура і Мастацтва».) Сустракаючыся з балгарскай пісьменніцай, я не мог не пацікавіцца, што чытаюць балгарскія дзеці, цікавіць іх класічная літаратура, ці ёсць у далёкай ад Пухавіччыны старонцы альтэрнатыва Гары Потэру? І вось што пачуў у адказ:

— Трэба зазначыць, што менавіта ў апошнія 15—20 гадоў для дзяцей у нас пішуць не так і шмат. На дзіцячую літаратуру пазіраюць чамусьці як на лёгкую, забаўляльную, несур'ёзную… І мяне калегі пытаюць, чаму я не займаюся сур'ёзнай паэзіяй, а губляю час на дзіцячыя вершы. З такой псіхалогіяй, сумненнямі ў вартасцях напісанага з адрасным прыцэлам для дзяцей мы шмат згубім у справе выхавання. Таму я вельмі рада з'яўленню ў нашай літаратуры рамана маладой пісьменніцы Юліі Спірыдоновай «Любімы Папетча». Я кулачкі за яе поспех трымаю. Раман нічым не саступае «Гары Потэру», і я



*Марына Бонч-Асмалоўская.*

вельмі спадзяюся, што галоўны герой гэтага твора хутка стане любімым персанажам балгарскай дзятвы, а пасля і ўсіх юных чытачоў свету. Ён жа, Папетча, такі добры!.. Ці чытаюць балгарскія дзеці класіку?.. Відаць, толькі тое, што ёсць у школьнай праграме. Прабачце, але самы час ставіць пытанне болей абвострана: а ці чытаюць дзеці наогул? Так, нашы дзеці яшчэ памятаюць такіх герояў, як Айбаліт, Дзядзька Фёдар… Справа, відаць, у тым, што мы раслі на балгарскай і рускай дзіцячай літаратуры адначасова. У нашага пакалення дзеці — школьнікі. Таму яны адкрываюць кнігі з нашага пакалення, тое, што засталося ў хатніх бібліятэках бацькоў. Я асабіста чытала Барто, Міхалкова, Чукоўскага, «Беларускія народныя казкі»… І шкадую, што разам з забыццём гэтай літаратуры страчваецца чысціня, губляецца непасрэднасць успрыняцця жыцця, што дапамагала нам развівацца і ўваходзіць у свет рэалій… У маіх герояў галоўны клопат, няхай сабе і ў фантазійным свеце, — усталяванне дабрыні, спагады, чысціні, маральнасці…Такі і прыдуманы мною скрыпач Найшаноўны Шуралдзі. «Шурчо» на балгарскай мове — гэта скрыпач. Ёсць і адна цікавая цётка — цётка Мецандра (*меца* па-балгарску *мядзведзь*). Буду рада, калі маіх герояў адкрыюць і дзеці Беларусі, спадзяюся, што і на Пухавіччыне з’явяцца з часам чытачы маіх кніг!..

У розныя гады наведвальнікамі Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея ў Блоні, пачынаючы з сярэдзіны 1990-х, былі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, празаік і публіцыст Уладзімір Саламаха, паэт і бард Алесь Камоцкі, рускі белетрыст Станіслаў Сакалоў, паэт Ганад Чарказян (як літаратурна-мастацкі тапонім Блонь выведзена ў яго рамане «Горкі пах палыну»), паэты Навум Гальпяровіч, Анатоль Вярцінскі, краязнаўчы пісьменнік Віктар Хурсік і іншыя. Літаратурная экспазіцыя «вандруе» ў музеі па розных залах. Гэта звязана з пашырэннем прасторы. Па-першае, для коласаўскай тэмы знайшлося месца ў філіяле ў Мар’інай Горцы. Там жа — і мемарыяльны пакой Алеся Бачылы. Як спрактыкаваны музейшчык, дырэктар Аляксандр Пpaновіч выкарыстоўвае любую магчымасць для развіцця плошчаў. Па-другое, падштурхоўваюць яго да гэтага і новыя зборы. Музей папаўняецца фондамі. Сем’і пісьменнікаў, іх блізкія, знаёмыя перадаюць у музей кнігі з аўтографамі, рэчы, якія належалі літаратарам, розныя дакументы.

З апошніх набыткаў краязнаўчага музея ў Блоні — мэбля сям’і Бонч-Асмалоўскіх, якую з Санкт-Пецярбурга перадала праўнучка Анатоля Восіпавіча Марына Бонч-Асмалоўская. Між іншым, яна — вядомая руская пісьменніца. Нарадзілася ў Ленінградзе ў 1954 годзе. Закончыла Маскоўскі педагагічны інстытут. Працавала лагапедам. У 1992 годзе выехала ў Аўстралію, там пачала займацца літаратурнай працай. Пасля вярнулася ў Расію. У 1999 годзе ў Санкт-Пецярбургу выпусціла раман «Паўднёвы Крыж». У часопісе «Звезда» праз тры гады надрукавала аповесць «Дзень з жыцця старога на Беркендэйл, 42». Пра сваіх знакамітых прашчураў і іх повязь з Беларуссю напісала дакументальную кнігу. Не аднойчы за апошнія гады наведвала Блонь, Пухавіччыну.

Расказваючы пра літаратурную Блонь — знакамітую пухавіцкую вёску, нельга не ўзгадаць імя народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. Ён, калі працаваў старшынёю Беларускага Фонду культуры, не аднойчы наведваўся ў Пухавіцкі раён. І ў значнай ступені паспрыяў пераезду раённага краязнаўчага музея з Дукоры ў Блонь. Пазнаёміў з Блонню, Пухавіччынай многіх пісьменнікаў, мастакоў. І сёння ўдзячныя пухавіччане помняць Івана Чыгрынава, амаль штогод ладзяць у раёне адмысловыя Чыгрынаўскія літаратурна-краязнаўчыя чытанні.

***Фота Наталлі АСМОЛА***

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, НОВЫ ГОД!

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

**2.** Бывае высакосным, зорным, навучальным, трапічным і — новым. **5.** На святы звычайна ідуць ці едуць у ... **6.** Кажуць, калі дзьме халодны рэзкі марозны вецер. **7.** Кіславаты напітак, які заўсёды быў у хаце на стале ў першую посную куццю (6 студзеня). **9.** Калі на Новы год ..., будзе ў гумне цясна *(прык.).* **13.** З яго даўней вілі вяроўкі. **14.** ... мядзведзі ў адной бярлозе не жывуць *(прык.)* **15.** «І вітае ўвесь .../ Добры, мірны / Новы год» (з верша В. Лукшы). **16.** Каб паставіць іх на ногі, трэба спачатку зняць са сваёй шыі. **18.** Свята беларускага народнага календара, якое адзначалася 31 снежня. **21.** З яе вараць кашу, якую зусім не хочацца каштаваць. **23.** «Заяц шэры, / Заяц — зух / Да зімы пашыў / ...» (з верша Р. Барадуліна). **24.** Зімовая руская народная казка. **26.** Дрэва, ягадамі якога любяць зімой ласавацца снегіры. **28.** Дубільная кіслата па-навуковаму. **29.** Заўсёдная спадарожніца Дзеда Мароза. **30.** Масленіца па-італьянску. **31.** Дзе баліць — там ..., а дзе міла — там вочка *(прык.)*. **32.** Супер-повар.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

**1.** Зімовы від спорту. **3.** Лісце елкі, сасны. **4.** Мастацтва выцягваць грошы з чужой кішэні без крыміналу. **8.** Выпіска з чаго-небудзь. **10.** Дзень тыдня, калі трэба нічога не рабіць. **11.** Некаторыя 1 студзеня пад ёй прачынаюцца. **12.** Гульня, падчас якой «забіваюць казла». **17.** «Я ..., / Я ... / Сваім сэрцам растаплю» (з песні «Мяцеліца» на словы А. Дзеружынскага). **19.** «...А будзе йсці навука туга, / Падгоніць бацькава ...» (з паэмы «Новая зямля» Я. Коласа). **20.** Нажніцы для саду. **21.** «Мера» хлебабулачных вырабаў. **22.** Першы снег з марозам. **25.** Ні свет ні... . **27.** Тое, што і біяполе.



**АДКАЗЫ:**

**Па гарызанталі:** **2.** Год. **5.** Госці. **6.** Сіверна. **7.** Квас. **9.** Ясна. **13.** Луб. **14.** Два. **15.** Народ. **16.** Дзеці. **18.** Апанас. **21.** Бяроза. **23.** Кажух. **24.** «Марозка». **26.** Арабіна. **28.** Танін. **29.** Снягурка. **30.** Карнавал. **31.** Ручка **32.** Кулінар.

**Па вертыкалі:** **1.** Бабслей. **3.** Ігліца. **4.** Бізнес. **8.** Выбарка. **10.** Нядзеля. **11.** Ялінка. **12.** Даміно. **17.** Сняжыначкі. **19.** Папруга. **20.** Секатар. **21.** Буханка. **22.** Зазімак. **25.** Зара. **27.** Аўра

*Склаў Лявон ЦЕЛЕШ*

# «З ТЛУМАЧЭННЕМ ІХ ЗНАЧЭННЯ І ПАХОДЖАННЯ»

У 1853 годзе ў восьмым выпуску II тома Дадаткаў да Вестак Расійскай Акадэміі Навук аддзела рускай мовы і славеснасці наш выбітны пісьменнік і фалькларыст Павел Шпілеўскі друкуе «Беларускія прыказкі». Рэдактарам выдання з'яўляецца вядомы і аўтарытэтны акадэмік Ізмаіл Сразнеўскі. Яго цікавасць да публікацыі стала прычынай таго, што 6 кастрычніка таго ж года «Беларускія прыказкі» выходзяць асобным выданнем.

Трэба сказаць, што гэтая публікацыя была не выпадковай: яшчэ ў 1845-м Шпілеўскі склаў «Слоўнік беларускай гаворкі», «Кароткую граматыку беларускай гаворкі» і «Нататкі беларусца аб беларускай мове». Падчас працы над матэрыялам ён, вядома, не мог абысці сваёй увагай і прыказкі. Дарэчы, гэтыя рукапісныя працы так і не былі надрукаваны, але ў парадку заахвочвання аўтару выдалі 60 рублёў срэбрам — нядрэнныя на той час грошы.

Пачынаючы з 1846-га ў Дадатку да «Часопіса Міністэрства народнай адукацыі» друкаваліся «Беларускія народныя павер'і». Гэта, бадай, самая спрэчная праца Шпілеўскага, дзе ў алфавітным парадку пададзены апісанні 52 багоў, боства ў і духаў беларускай міфалогіі, а ў канцы кожнага артыкула — прыказкі аб гэтых персанажах. Большасць прыказак і боства ў прыдуманы былі самім Шпілеўскім. Мэты? Самыя высакародныя — ён хацеў паглыбіць гістарычную і міфалагічную памяць свайго народа, яго значнасць. І дзеля гэтага не цураўся пэўнай містыфікацыі.

У 1852-м свет убачыла праца Шпілеўскага «Народныя прыказкі з тлумачэннем іх значэння і паходжання», у прадмове да якой ён піша: *«Здаецца, не лішнім будзе ў наш час, час гісторыка-археалагічнага накірунку ў Расіі, пазнаёміць рускіх чытачоў з народнымі прыказкамі, большая частка якіх па сваім паходжанні адносіцца да вельмі глыбокай старажытнасці, нярэдка язычніцка-славянскай, а па якасці і значэнні ўяўляе тып самай трапнай і тонкай дасціпнасці.*

*Дагэтуль у нас не было сістэматычных тлумачэнняў родных прыказак, таму буду лічыць найвялікшым шчасцем для сябе, калі гэтай сваёй пасільнай працай зраблю добры пачатак і знайду ў аматараў роднай даўніны спагаду. Кажу "цяжкай", таму што многія прыказакі маюць паходжанне гістарычнае і алегарычнае і таму, каб, па магчымасці, растлумачыць іх дакладна, трэба быць знаёмым з лёсам, звычаямі, забабонамі і духам пэўнай мясцовасці.*

*На падставе гэтага падзелім прыказкі на два разрады. Да першага варта аднесці прыказкі гістарычныя, гэта значыць такія, пачатак якім даў які-небудзь старажытны звычай, незвычайная падзея, нават, часам, проста смешны выпадак. Да другога — алегарычныя, г. зн. такія, у якіх праз вобразы жывёл або розных рэчаў паказаны недахопы, слабасці і памылкі людзей ва ўсіх галінах іх хатняга і грамадскага побыту.*

*У прадстаўленых тут прыказках чытач знойдзе і першыя, і другія».*

На якія даследаванні абапіраўся Шпілеўскі? Першы друкаваны зборнік прыказак на Беларусі пад назвай «Польскія прыказкі», значную колькасць якіх складаюць беларускія, быў выдадзены ў 1618 годзе ў мястэчку Любча над Нёманам ураджэнцам Беларусі Саламонам Рысінскім. Аляксандр Рыпінскі ў сваёй кнізе «Беларусь», якая выйшла ў 1840 годзе ў Парыжы, змясціў 50 прыказак. Ян Чачот у апошнім, шостым томе «Песень вясковых з-над Нёмана, Дняпра і Днястра», які пабачыў свет у 1846 годзе, асобны раздзел прысвяціў «Крывіцкім прыказкам і прымаўкам». Яўстах Тышкевіч у «Апісанні Барысаўскага павета»

(1847) даследуе прыказкі і прымаўкі беларусаў. І, нарэшце, у 1852 годзе Іван Насовіч друкуе «Беларускія прыказкі і прымаўкі», якія потым тройчы перавыдаюцца і дапаўняюцца. Павел Міхайлавіч добра ведае гэтыя працы і не саромеецца запазычваць з іх не толькі асобныя прыказкі, але і каментарыі да іх.

Як я ўжо казаў, шэраг прыказак прысвечаны ўяўным боствам, таму калі вы, шаноўныя чытачы, сустрэнеце ў тэксце розных кумяльганаў,ваструх, яркуноў, злыдняў, лядашцыкаў і іншую нечысць, ведайце — гэта творчая фантазія.

Даволі значная колькасць прыказак носіць антырасійскі кірунак. Думаю, што гэта адлюстраванне пачуццяў нашага народа да Паўночнай вайны, крывавых паходаў Івана Жахлівага і трох падзелаў Рэчы Паспалітай, калі ваенная жорсткасць перавышала ўсе нормы хрысціянскай і чалавечай маралі. Што датычыцца класіфікацыі, то ў адрозненне ад Тышкевіча, які за аснову сваёй публікцыі ўзяў тэматычны падзел прыказак, Шпілеўскі проста размясціў іх у алфавітным парадку. І калі Насовіч у сваёй публікацыі абапіраўся на фальклорны матэрыял Магілёўшчыны, Тышкевіч — на запісы Барысаўскага павета, то Павел Міхайлавіч арыентаваўся на Мінскую губерню. Ён стараўся перадаць моўныя асаблівасці цэнтральнай часткі этнагістарычнай беларускай дыялектнай зоны.

Здзіўляе мяккасць нашай мовы: большасць зычных у тыя часы былі менавіта мяккімі. Трэба канстатаваць, што ўсе наступныя рэформы беларускай мовы змяншалі гэтую мяккасць. Можа, палітыкі і навукоўцы лічылі, што павелічэнне колькасці цвёрдых зычных будзе спрыяць загартаванасці беларускага характара? Хто ведае…

Каментарыі Шпілеўскага выдзелены курсівам, каментарыі аўтара змешчаны ў дужках.

***Аляксандр ВАШЧАНКА***

# БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

## *Зборнік П. Шпілеўскага**

Авечку стрыгуць, баран дрыжыць. *Калі аднаго з вінаватых караюць, другі спачувае яго гору.*

Адзін дасуж, да ня дуж.

Адзін і ў кашы ня спор. *Однаму цяжка працаваць.*

Адзін чорт, да ўмазаўшыся. *Непрыступны.*

Адной маткі не адны дзеткі.

Ад Бога грэх, і ад людзей смех.

Ад зямлі адарваўся і да неба не дастаўся. *Непастаянства.*

Ад каляд тры разы пяць, пастушкі ў поле ліцяць. *Гэта значыць: напачатку вясны (у красавіку) выганяюць скот на пашу.* (Ад каляд да першага выгана быдла на пашу — звычайна, на Юр’я, 6 мая — праходзіць каля пятнаццаці тыдняў.)

Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.

Ад маскаля палы ўрэж, да ўцякай.

Ад прыбытку га́лава не баліць.

Ад чорта адхры́сьціся, а ад маскаля не адмолісься.

Андрэй, ня дурэй, хвартух падзераш. *Кажуць хлопцу, калі ён заляцаецца да дзяўчыны з дрэннымі памкненнямі.*

---

* Сп. Шпілеўскі прытрымліваўся ў сваім зборніку не таго правапісу, што сп. Насовіч.

Асьцюк табе ў рот, дзяцюк. *Тое ж, што ціпун табе на язык.*

Атаўка прыбаўка, да не ўмеў скасіць Саўка. *Так кажуць лянівым, якія не паспяваюць скасіць траву другога ўкосу (атаву.)*

А ў Нясвіжы людзі хіжы: салому таўкуць, бліны пякуць; сена смажуць, бліны мажуць. *Кажуць аб спрыце нясвіжскіх сялян. Нясвіж — заштатны горад Мінскай губерні.*

Бабіных груш ня руш: свае трасі, бабе нясі. *Гаворыцца аб павазе да жанчын, асабліва старых, якія адыгрываюць важную ролю пры сватаўстве.*

Бабін дурэнь, *г. з. мамкін сынок, пястун.*

Бабскі лад.

Багаты дзі́віцца, як худы жы́віцца. *Кажуць пра сябе жабракі, калі багатыя не вераць іх беднасці.*

Багаты ці будзем, а галодныя ня будзем. *Кажуць гасцінныя гаспадары гасцям калі паставяць на стол шмат усялякіх страў.*

Багат Аўдзей, поўна хата дзяцей. *Кажуць пра бедныя шматдзетныя сем'і.*

Бадай цябе Кадук узяў. *Лаянка. Кадук — нячыстая сіла.* (Прыклад творчасці П. М. Шпілеўскага.)

Баржджэй да клецьніка, калі грошай німа. Калі трывога, тады да Бога. *Па беларускаму паданню Клецьнік — дух-ахоўнік скарбаў і клецяў.* (Другая частка прымаўкі традыцыйная, першую прыдумаў аўтар зборніка.)

Барысе, Барысе, сам бараніся. *Кажуць, калі нехта ўздумае пачаць жніво ў дзень Барыса і Глеба… Паданні сведчаць, што ў гэты дзень заўсёды бывае гром і маланкі менавіта таму, што жнейкі пачынаюць жніво.* (Барыс, Глеб, Хлеб — адзін з апекуноў земляробства. У гэты дзень, 6 жніўня, у полі не працавалі, засцерагаліся вятроў. У некаторых раёнах лічылася, што ад Барыса на працягу трох тыдняў павінна адбыцца «рабінавая ноч».)

Бачыць, як бы Вастраха. *Насмешка над тымі, якія строяць з сябе цнатлівых.* (Шпілеўскі пісаў, што Вастраха — тое ж, што і Астрэя, багіня праўды і цнатлівасці. І. І. Насовіч пярэчыў гэтаму. Ён лічыў, што Вастраха — гэта толькі: 1) жанчына з вострым, насмешлівым, калючым языком; 2) асака, якая рэжа пальцы, быццам серп. А гэта значыць, што беларуская Астрэя не больш, чым недарэчнасць і прыдумка Паўла Міхайлавіча.)

Баючыся воўка і ў лес ня йсьці. *Кажуць, калі хочуць падбухторыць некага на цяжкую справу.*

Без Бога — нічога.

Без паджогі дравам не гарэць.

Без працы ня есьці кала́чы.

Бі сароку і варону, даб'есься белага лебедзя. *Усяго можна дасягнуць цярпеннем.*

Біла жонка мужыка, рукі закасаўшы, а ён ёй пакланіўся, шапачку зняўшы. *Гэтая прымаўка адлюстроўвае залежнасць мужоў ад жонак…*

Бітаму сабацэ кія не паказывай… *Ня трэба пагражаць карай таму, хто да яе прывык.*

Благаслаўляю цябе, дзіцятка, на ўсё добрае, а на благое і сам дагадаесься. *Кажуць тым, хто схільны да ўсяго дрэннага.*

Благая пуга лычная, а без яе горэй.

Благія во́чы, благая рука.

Блізка зі́раць, ды далёка дыбаць. *Глаз бачыць, ды не пакаштуеш.*

Бог болей маець, як раздаў.

Бог высока, пан далёка.

Бог мілуець, свіньня ня з'есьць.

Бог сьцярог, што з сястрою ня лёг. *Кажуць, калі хочуць пазбегнуць падазрэння ці нароку, нагавору.* (Думаю, размова ідзе пра іншае. Для беларусаў кровазмяшэнне было страшэнным грахом. Шлюбы нават паміж стрыечнымі братамі і сёстрамі не дазваляліся ні пры якіх акалічнасцях. Славяне інстынктыўна налажылі табу на тое, што дазвалялася ў многіх царскіх дварах Еўропы, таму і гемафілія ў нас ніколі не сустракалася.)

Брусніца белабока, парабак не прыспіць сабе вока. *Летам работніку не да сну.*

Будзець калі кірмаш і на нашай вуліцы. *Прыдзе некалі і наша шчасце.*

Будзець кій, да не такій. *Шкадаванне аб згубленай рэчы.*

Будзець пара́, будзець і трава. *Суцяшэнне ў павольным поспеху якой-небудзь справы.*

Будзець чым дзела запхнуць. *Гавораць заможныя гаспадары наймаемым работнікам.*

Бу́дзька набудзецца, а хвалько́ нахваліцца.

Будзь-ка весел, як сват на вяселлі, здароў як вада, багат як зямля. *Пажаданне маладому за вясельным сталом.*

Бы ваўкалака шпырыць. *Беспрыютны ваўкалака — пярэварацень.*

Быў гдзе насы дзялілі. *Застаўся ні з чым.*

Быў колісь Яўхім, да цяпер чорт яго ўхапіў. *Насмешка над тым, хто прамантычыў багацце.*

Быў конь, да заездзіўся. *Аб змучаных працай і лёсам людзях.*

Бычок-трацячок. *Пястун параўноўваецца з бычком-трацячком.*

Бягучага воўка добра хоць за хвост хапіць. *Ад таго, хто не хоча аддаваць пазыку, добра хоць нешта забраць.*

Бяда па бядзе, як па нітцы ідзе.

Бяда як дуда, зачнець дуць, а́жна слёзы набягуць. *Параўнанне сумных гукаў дуды з горам, якое выклікае слёзы.*

Бедная тая дамо́ва, гдзе вала бадаець карова. *Няма дабра ў той хаце, дзе жонка кіруе мужам.*

Беднячка-целятка, гдзе твая родненькая матка?

Вадзіць дзе́ды, *г. з. драмаць за працай.*

Ваду́ гату́ючы, усё вада будзе. *Значыць, пераліваць з пустога ў парожняе.*

Варочаецца, як мядзведзь. *Непаваротлівы.*

Вялікага сабакі вялікі брэх. *Вялікаму караблю вялікае плаванне.*

Вялікая кабыла да худая. *Кажуць пра вялікі маёнтак, які прышоў у заняпад.*

Відзён сокал па палёце, а сава па воку.

Воліка з'ядуць, зайца заб'юць. *Гэтая прымаўка характырызуе шляхецкія паляванні, на якіх больш клапаціліся аб пачастунках, чым аб паляванні.*

Воўк блізка шкоды не робіць. *Дзіцё пад наглядам бацькоў не пойдзе па дрэнным шляху* .(На Віцебшчыне да гэтага часу існуе прыкмета, што драпежнік не зробіць шкоды хатнім жывёлам тых гаспадароў, бліз сядзібы якіх ён жыве.)

Воўк яму дарогу перабег. *Непрадбачанае шчасце.* (Гэта старажытная прыкмета. Ян Чачот у «Крывіцкіх прыказках і прымаўках» (1846), яе паходжанне тлумачыць так: «Людзі, якія займаліся паляваннем, лічылі за шчасце спаткаць ваўка, бо маглі яго забіць, і, наадварот, спаткаць зайца да няўдачы.)

Воўчая доля расьцець скора. *Кажуць аб дзяўчатах, якія становяцца нявестамі.*

Вы́веў воўка з лесу. *Пазбавіўся нагавору.*

Вы́салапілася як патароча. *Пра жанчын, якія любяць прыбірацца і бегаць па вечарынах.*

Вытрашчылася, як тая баба-яга касьцяная нага…

Ведаў Бог, што не даў свіньні рог, ба каб рогі мела, весь сьвет бы перарыла. *Кажуць аб немагчымасці нашкодзіць злым і нізкім людзям.*

Ведаў Бог, каму не даў рог.

Ведаць купцу да прадаўцу́.

Век зжыць не пальцам пераківаць. *Кажуць старыя пры аповедах аб сваіх былых прыгодах.*

Вялікая дзірка, да малая накрыўка.

Вялікая наўда! *Значная рэч.*

Гаварыў бы каток, да язык караток. *Аб ябедніках і пляткарах.*

Гадка з'есьці, шкода выкінуць. *Насмешка над нерашучымі людзьмі.* (Ян Чачот у «Крывіцкіх прыказках і прымаўках» (1846) пісаў, што гэтая прымаўка пра ваганні ў адносінах да чаго-небудзь.)

Гады́ ў рады́. *Кажуць пры сустрэчы са знаёмымі, якіх даўно не бачылі.*

Гаманіць не баліць. *Лаянка не выклікае болю.*

Гараваўшы, гараваўшы, умірай не скаштаваўшы. *Аб працавітых людзях, якія не атрымалі заслужанай узнагароды за сваю працу, а таксама аб бацьках, якія не дачакаліся шчасця сваіх дзяцей.*

Гдзе аратый плачэць, там жнея скачэць. *Калі спёка, тады жнейкі радуюцца, а аратыя сумуюць.*

Гдзе баліць, там ручкі; гдзе міла, там вочкі.

Гдзе балота, туды й чорт.

Гдзе капачы капалі, там і грошы прапалі.

Гдзе любяць — не ўчашчай, гдзе не любяць — не бывай.

Гдзе многа на куце сядзіць, там мусіць мыш быць го́ладна. *Адлюстроўвае хатнія сваркі.*

Гдзе толькі мужык за слаўцо́м, там за ім пуга з вузло́м. *Няўдалыя сваты.* (Як толькі мужык хацеў дабіцца праўды, па яго спіне гуляў бізун.)

Гдзе чорт не араў, там і сеяць ня будзе. *Вораг не можа моцна нашкодзіць. Бяссільны.*

Глядзіць як варона, а хіцёр, як чорт.

Голы як біч, востры як меч.

Голы разбою не баіцца.

Горш калі баісься: і ліха ня мінеш і надрыжысься. *Кажуць, калі ідуць на допыт.*

Госць рэдка бываець, да ўсё відзіць.

Госць у дом, Бог у дом. *Гэтая прымаўка найлепшым чынам характарызуе беларускую гасціннасць.*

Граза ў лес ня йдзе.

Грозен рак, да гдзе ў яго вочы. *Адказ на пагрозы таго, хто не мае сілы.*

Грош — круглы.

Гушча дзяцей не разганяець. *Пра густа звараныя стравы.*

Гэта не абаранак. *Адгаворка пры напаміне пра абяцанак.*

Гэта віламі пісана. *Кажуць, калі не давяраюць нечым абяцанкам.*

Гэта гнілы тавар. *Гнілым таварам называлі раней дзяўчат сапсутых да вяселля.*

Гэта не вокам маргнуць.

Гэта не з тваім носам. *Насмешка над тым, хто бярэцца за цяжкую працу.*

Гэта ўжо насьлінена. *Гавораць, што калі воўк параніць нейкую хатнюю жывёлу, то яна ўжо не пазбегне яго зубоў, не міне свайго лёсу.*

Гэта чуда! Карова чорная, малако белае. *Кажуць у насмешку, калі хто-небудзь здзіўляецца нечаму звычайнаму.*

Гэтага веташка́ (вясны), ко́жны з свайго гаршка. *Калі вясной мала хлеба, кожны дбае пра сябе, а не раздае ўсім жадаючым.*

Даганяючы не пацалавацца. *Сілай нельга дабіцца ўзаемнасці.*

Да Змітра́ дзеўка хітра. *Восень — час вяселляў.* (Зміцер — «хітры» дзень, які прыпадае на 8 лістапада, быў апошнім днём надзеі для дзяўчат выйсці замуж у гэтым годзе.)

Да Іллі просяць аб дажджы, а па Іллі баба і хвартухом нагоніць. (2 жніўня адзначаецца свята Іллі — апекуна земляробства і абаронцы ад нячыстай сілы. Гэта свята дажджоў і навальніц успрымалася як канец лета і пачатак восені.)

Дай Божа ў добры час гаварыць, у благі маўчаць. *Настаўленне гаварыць толькі дарэчы і па справе.*

Дай Божа ўсё ўмець, да ня ўсё рабіць: гэта на руках не ляжыць.

Дай зямлі, яна табе дасць. *Угноеная зямля дасць добры ўраджай.*

Да Міколы німа дабра ніколі. *Да Міколы ніколі не бывае добрага саннага шляху.* (Мікола Зімовы прыпадае на 19 снежня.)

Дапа́ў чорт згрэ́бла. *Кажуць аб жорсткай помсце. Згрэблам чысцяць коней і нярэдка так дзяруць іх скуры, што жывёлы не вытрымліваюць болю і брыкаюцца.*

Даць аблупленае яечка, да і ў рот улажыць.

Дзване́ц хлебу канец. *Дзванец — шкодная трава ў жыце.*

Дзень мой век, гадзіна — прыдатак.

Дзіця не плачэ, маці не дагадаецца. *Аб капрызных і сарамлівых.*

Дзеўка паднялася, а хлопец канцом стаіць. *Нявеста пагадзілася, а жаніх упарціцца.* (Жартаўлівая прыказка з эратычным адценнем.)

Дзень наш — век наш. *Настаўленне быць працавітым у маладыя гады.*

Дзедзя гарыць. *Грошы зарабляюцца цяжкай працай. Дзедзя — дух скарбаў.* (Шпілеўскі надзяляе Дзедзю функцыямі Кладніка — духа, які валодае скарбамі і ахоўвае незлічоныя багацці.)

Дзед за парог, а баба за пірог. *Пра распусную жонку ды пра сваркі паміж мужам і жонкай.*

Дзеткі падраслі, хатку растрасьлі. *Кажуць аб выдатках на вяселлі і пасагі дочак.*

Дзеўкі так любяць, што за кулакамі і свету Божага ня відаць.

Дзяцей як бобу.

Для п’яніцы і капелька до́рага.

Добра прыгаворка кажэ: ве́ліць пан, то скачы, ўра́жэ.

Добрае чуваць далёка, а благое яшчэ далей.

Добры чалавек! Што ўкусіць, то з’есьць. *Іранічна кажуць пра хітрых і вераломных людзей.*

Дома хоць не ўезьна, да ўлезьна.

Доля прымацкая — сабацкая. *Папрокі зяця, які трапіў у хату да злога цесця.*

Дуб вялікі да дуплаваты.

Дудар дудару дарма іграець. *Рука руку мые.*

Душа мая не крывая, яна ўсё прымае. *Адказ гаспадара з прабачэннем за сціплы пачастунак.*

Душа ў чалавека рагатая, без пары́ не выйдзець. *Так кажуць цярплівыя людзі, якія ніколі не губляюць прысутнасці духу.*

Ёсць зубы, да німа хлеба.

Ёсьцека Іван, да й той барабан. *Дурненькі.*

Ёсьцека макацёр, да мак ня спор. (Макацёр — гліняная пасудзіна, вузкая ўнізе і шырокая зверху, у якой звычайна цёрлі мак, ільняное, канаплянае семя.)

Ждзець як вол доўбні. *Кажуць, калі нехта ўпадае ў адчай.*

Жэўжык ты рудая барада! *Насмешка над маларосамі, якія маюць рудыя бароды.*

Жыдаву́ бі, да толькі заплаці.

Жыдоўскае — пачэкай.

Жыд брэшэ, як сабака ў лесе.

Жонку бяры далёка, кароўку купляй блізка.

Жонцэ ня вер: гэта плакуха-бабёр.

Жу́чку, жучку! Чаго ты лезеш пад кучку?

Жураўлі прыляцелі, дзеўкі ашалелі.

За гарэлку дзякуй — я не п’ю, а любіць ня магу. *Адказ свату, калі дзеўка не хоча выходзіць замуж.*

За грошы толькі бацькі і маткі ня купі́ць.

Загрыз жонку, як той Яркун. *Водгук аб раўнівых мужах.*

За дурной галавой спіна баліць, нагам непакой.

Зажыда́лася Яўгіня (Евгения) касніко́ў. *Кажуць, калі просяць нечага з-за капрызаў.* (Каснікі — стужкі, што ўплятаюцца ў косы.)

Зажыдалася, як кабыле воцту. *Тое ж самае.*

За маё дабро да мяне і набілі.

За морам валы́ дарам. (Добра там, дзе нас няма.)

За сваé грошы ўсюду харошы.

Заплата ў ката, хоць бы душа не была галаднá. *Так кажуць слугі і пасланцы, калі іх не пачастуюць тыя, каму яны служаць або тыя, да каго іх накіравалі.* (Ян Чачот у «Крывіцкіх прыказках і прымаўках» (1846), гэту прыказку тлумачыць так: «Якога чорта заплата! Каб толькі пакармілі».)

За сябе толькі ручай, а не за сваю кішэню.

Затакаваўся, як цецярук. *Насмешка над тымі балбатунамі, якія, загаварыўшыся, не чуюць, пра што ў іх пытаюць, а таксама над тымі, хто гаворыць павольна.*

Здáрылася чэрвяку на вяку. *Насмешка над хвалько, якому ўпершыню ўдалося зрабіць нешта добрае.*

Здáўся на прыкáзкі, як сабачая шкура на прывязкі.

Злыдзéнь ты гэтакі. *Лаянка.*

З брэхні́ не мруць, да ўжэ болей веры не ймуць.

З грашмі і Копшэ дагодзіш. *Копша — варожы магільны дух, які патрабуе, каб родныя памерлага клалі ў яго труну розныя пачастункі і грошы. За невыкананне гэтага патрабавання ён не дае супакою родным памерлага.*

З маскалём знайся, да толькі камень у пазусе дзяржы.

З чужога каня і ў балоце зсядаюць.

І чорта ня гняві. *Не раздражняй злых.*

І воўкі сыты, і козы цэлы. (Ян Чачот піша, што Апалінскі ў сатыры VII, кн. 5, 1650 г. гаворыць: «Каб і воўк сыты быў і авечка цэлая.)

І козы сыты, і сена цэла.

Ілля наробіць гнільля. *Пасля Іллі бываюць дажджы, ад якога гніе ўраджай і сена.*

І з Пракóпам і без Пракопа — усё роўна. *Так гавораць абыякавыя да сваіх родных людзі.*

Ішоў к нам, прышоў к вам. *Водгук аб непастаянных людзях.*

І сьцены маюць вушы.

І піць не хачу, і грошы не плачý. *Адказ бедняка, калі яго запрашаюць у карчму.*

Каб жэ я каму, калі, што-якóе, а то ніколі, нікому, нічóга. *Апраўданне: я не вінаваты.*

Каб на панскі рóзум, а не нашая хітрасць, прапалі б.

Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў залóце. *Гавораць пра тых, хто нашкодзіў сабе ў жыцці залішняй балбатлівасцю.*

Каб пáнам быў, у масле б плыў, сырамі паперхаўся.

Каб табе Падпéчка. *Каб табе прысніўся дамавы. Падпечка — дамавы.*

Каб чалавек ведаў сваё нясчасьце, гдзе павáлісься, — вялеў бы сесьці. (Калі б ведаў, дзе ўпадзеш, саломкі б падаслаў.)

Кабыла здыхае, а за траву хватае. *Гавораць аб закаранелых п'яніцах.* (Аналаг: збіраешся паміраць, а жыта сей.)

Каза воўку дáрма не скачэць. *Узаемная паслуга.*

Казаў пан, кажух дам, дай слова яго цёплае.

Калі Бог дасьць дзеткі, дасць і на дзеткі.

Калі васíна (асіна) чэрвенеець, дзяцюк шалеець. *Восенню пачынаюцца вяселлі.*

Калі вясной запяець удод, тагды сей боб. (Гэта ўжо прыкмета, а не прыказка.)

Калі гаспадар скачэць, пэўне, статак плачэць. *У лянівага гаспадара быдла без дагляду прападае.*

Калі гры́бна, то і хлéбна. *Калі бывае шмат грыбоў — тады вялікі ўраджай жыта.*

Калі есьць хлеб і вада, то не бяда.

Калі ж важыў на рыбу, трэба важыць і на юшку. *Трэба ўсім пакрысе дагаджаць.*

Калі любіш, дык жаніся, а не любіш, адчапіся. *Заляцанне не да месца — лішняя справа.*

Калі маеш грошы, то ня будзеш босы.

Калі маскаль кажэ суха, то паднімайся па вуха, ба ён брэшэ.

Калі нам жаніцца, тагды і ночка кароткая.

Калі не плачэш за сталом, будзеш плакаць за хлявом. *Так кажуць маладой, калі яна не*

*плача за вясельным сталом: яе плач у гэты час лічыцца неабходнасцю.* (Прывяду цытату з «Успамінаў» Адама Багдановіча: «Вот табе і вясельля! Сядзіць маладая, як пень прыбраны, і яшчо смяетца. Насмейся, міленькая, — патом выплачаш усе гэтыя смешкі!)

Калі не веруць, не бажыся, калі б'юць — не прасіся.

Калі ня кракала варона у гару́ летучы, то ўніз і пагатоўку. *Хто не набудзе нечага з маладосці, таму здабываць гэта ў старасці значна цяжэй.*

Калі не слухаеш бацько́ў, будзеш слухаць сабачэй шкуры (барабана). *Пагроза салдатчынай, рэкрутствам.*

Калі ро́біш у купе, не баліць у пупе. *Калектыўная праца рухаецца значна хутчэй.*

Калі трывога, уцека́й да Бога.

Калі худ, то ў кут. *Розніца чыноў і станаў.* (Трэба бачыць розніцу паміж чырвоным кутом — пад абразамі — для пачэсных гасцей і звычайным, ля печы, дзе садзілася бедната.)

Калі шанцуе, дык і Хвалімон́ танцуе. *Калі шчасціць, тады ўсялякі дзейнічае смялей.*

Каму па каму́, а мне два камы́. (Камы — камякі з тоўчанай бульбы. Маглі быць як поснымі, так і скаромнымі. Адна з самых любімых беларусамі страў.)

Кароўка па ўдою ня лічыцца.

Каўнер шырокі, а голыя пяты.

Квас дзеці паеў. *Хатні разлад.*

Квохчэ, як курыца. *Гавораць пра буркатлівых жанчын.*

Ке́пска, пане Грыго́ры, што далей то горый. *Значыць, справа дрэнь! Дрэнныя часы насталі.*

Кепска ў Мінску, пане Каранеўскі! *Тое ж. Гэтая прымаўка, хутчэй за ўсё, мае гістарычны пачатак.*

Клікун ты гэтакі! *Абразлівая лаянка. Клікун — гэта той, хто забівае сабак.* (У «Беларускіх народных павер'ях» Шпілеўскі піша, што Клікун — дарожны дух, грозны, але не злы. Яго ўяўлялі танклявым волатам у падраным балахоне з доўгімі рукамі, доўгавалосым. У адной руцэ ён трымаў пугу з конскага воласу, а ў другой — залаты рог. Незразумела, чаму Павел Міхайлавіч зрабіў Клікуна сабакаром.)

Козы не статак, дзеўкі не людзі. *Так папракаюць мужчыны жанчын вясной, калі да жніва яшчэ далёка, а ім рабіць няма чаго.* (Раскажу пра гэта «няма чаго рабіць». Жанчыне трэба было ўстаць да світання, выпаліць у печы, схадзіць па ваду, прыгатаваць сняданак, накарміць мужа, дзяцей і хатняе быдла, падаіць кароўку, памыць посуд і г. д. Ніводзін мужчына не пагадзіўся б памяняцца абавязкамі з жанчынай.)

Ко́ляды, то ён цяпер пан. *Размова пра розныя калядныя размовы.*

Крукам носа не дастаць. *Пра гордых і фанабэрыстых.*

Крук крука за чуб не бярэць. (Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе.)

Куды чорт не даступіцца, туды бабу пашлець.

Куды кінь, усюды клін. *Параўнанне беднасці з клопатамі краўца, калі ў яго не хапае тканіны на што-небудзь.*

Куку ў руку. *Пра хабарніцтва.*

Кумальга́н унадзіўся. *Кажуць пра падзеж жывёлы. Па паданні, Кумальган — злы дух у выглядзе чалавека і каня.*

Курну́ вядзець. *Наводзіць сум сваімі размовамі.*

Ласка паньская толькі да парога.

Ластачкамі душу выймаець. *Размова пра хітрага чалавека, які ўмее выпрасіць для сябе ўсё, чаго пажадае.*

Лепей з добрым згубіць, як з благім знайсці. *Небяспечна весці справы з дрэннымі людзьмі.*

Літвін, як лінь.

Лыкам чалаве́ка ня мер. *Не глядзі, што ў іншага лыкавыя лапці, нікім не грэбуй.*

Лы́сае жэрэбя́ ўрадзілася, лысым і здохнець. *Гарбатага магіла выправіць.*

Любі жонку, як душу, а трасі, як грушу. *Аб падпарадкаванні жонкі мужу.*

Любіў добрае, палюбі ж і злое.

Людзей слухай, свой разум мей.

Лядашчыкава вока. *Нядобры погляд. Лядашчык — дух, які шкодзіць людзям.*

Лядашчык пераляцеў яму́. *Над ім пралецеў лядашчык, г. з. — ён вар'ят.*

Мае́ лапці лазовыя пераносюць твае боты казловыя.

Маёй пугай да па маёй жэ і кабыле.

Май — вало́м сена дай, а сам на печ уцекай. *І ў маі бывае холадна.*

Майстар з міра, што цяў, то дзіра. *Мір — мястэчка Мінскай губерні, Навагрудскага павета, дзе было шмат розных фабрык.*

Маладое піва — выхадзіцца. (Малады пасталее.)

Маракаваў на цецю, а трафіў на псецю. *Разлічваў на прыгажуню, а трапіў на пачвару.* (Цёця — персанаж беларускай міфалогіі, багіня лета, жонка Перуна. Беларусы ўяўлялі яе вельмі прывабнай, поўнай і мажнай жанчынай з упрыгожанай спелым калоссем галавой ды з пладамі ў руках.)

Марцінава гусь на вадзе. *На калядныя святы зімой іншы раз бывае вада і не замярзаюць рэкі.*

Маскаль не вялікі пан, да ў яго барабан.

Маўчу, дык пэўне замуж хачу́. *Кажуць сваты нявесце, калі тая маўчыць, калі да яе сватаюцца.*

Мая душа не крывая, усё прымае.

Мелець языком, як цяля хвастом. *Балбатун.*

Мікола — правая зіма і правае лета.

Мой мілы пако́ю, добра мне з табою.

Моц Божая! Я ад плоту, а яна да плоту. *Нязгода паміж мужам і жонкай.*

Мужык дурень: як умее, так і п'е.

Мужык піець, як у леечку ліець, а як прыдзецца плаціць, то як дурэнь маўчыць. *Так гавораць пра закаранелых п'яніц.*

Муціць у вадзе, як маскаль у сяле.

Мы з табою, як рыбка з вадою, ты ў воду, а я над табою. *Адлюстраванне дружбы.*

Мысль за гарамі, смерць за плячамі. *Кажуць, калі нехта ў старасці распачынае нейкую складаную справу.*

Мей сына да Міколы (г. з. летняга), не бойся зімы ніколі.

Меў чорт урадзіцца, да певень запеў. *Пра непрыдатных людзей.* (Беларусы верылі, што першы спеў пеўня разганяе нячыстую сілу.)

Мядзьведзь скачэ, цыган грошы бярэ. *Адзін працуе, а другі за гэта грошы атрымлівае.* (У Смаргоні некалі існавала так званая «мядзведжая акадэмія», дзе займаліся дрэсіроўкай гэтых жывёл. Цыгане вадзілі мядзведзяў па вёсках і паказвалі сялянам невялікія спектаклі, зарабляючы на гэтым грошы, таму казалі: «Мядзведзь што скочыць, то цыган грошы валочыць».)

На благога чалавека хлебам кідай. *Ворагу не помсці, а змякчай яго варожасць ласкай.* (Прымаўка мае хрысціянскае адценне.)

На воўка намоўка.

Навярнуўся на мяне, як на ліхую шапку. *Гаворыцца аб ганеннях.*

На гэты гнеў не роблены хлеў: няма гдзе заганяць. *Так гавораць, калі не звяртаюць увагі на нечы гнеў.*

Над сіратою Бог з калітою.

На Іллю поўну печку хлеба нальлю. *На Іллю пачынаецца жніво і ў кожнага дастаткова хлеба.*

На ката́ пацягушкі, а на дзеці растушкі.

На кель узяў. *Заўпарціўся.*

На ком скру́ціцца, на ком змелецца. *Хто вінаваты, а хто трывае.*

Накрыўся, як лісіца хвастом.

На Мацьвея зіма пацее. *У лютым маразы пачынаюць слабець.* (Мацей у каталіцкіх раёнах Беларусі прыходзіўся на 24 лютага.)

На пахілае дзерэва і козы скачуць. (На слабога і нямоглага ўсе напасці.)

Насіў воўк, паняслі воўка. (Да пары збан ваду носіць.)

Настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі. (Панятоўскія — дзяржаўныя дзеячы Рэчы Паспалітай. З гэтага роду быў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.)

На талаку я табе паскачу́. *Талака — абрад дажынак.*

На чужы лоб сягаючы, трэба і свой падстаўляць.

На чыём вазку еду, таму і песеньку сьпяваю. *Бяда прымушае дагаджаць кожнаму.*

Нашаму цяляці ўдалося воўка паняці.

Нашто нам гэтыя пісталеты, калі страляць не ўмеем. *Кажуць пра рэчы, без якіх можна абысціся.*

Нашы дзяды не зналі бяды, але ж унукі набраліся му́кі.

На Юр'я корму і ў дурня.

Не біўшы ку́ма — не піць піва. *Так прыгаворваюць, калі караюць дзяцей або слуг.*

Не вялікі пан, пералезеш і сам. *Заўвага аб распешчаных лянцяях.*

Не гавеўшы дару схваціў.

Не гэта паны, што грошы маюць, а́ле што Бога знаюць.

Не да пугаўя, а з пугаўя. *Кажуць аб збяднелым чалавеку.*

Не да солі, калі іграюць на басолі. *Гэта прымаўка атрымала свой пачатак ад наступнага анекдота. Маці паслала сына па соль. Ён купіў солі і на адваротнай дарозе зайшоў у карчму. Там было ігрышча, і ён пачаў танчыць. Падчас скокаў з яго кішэняў сыпалася соль, але калі яму пра гэта паведаміла дзяўчына, якая з ім танчыла, ён махнуў рукой і сказаў: «Не да солі, калі іграюць на басолі». Выраз азначае перавагу забаў над важнымі справамі.* (Басоль, басэтля — вялікі струнны музычны інструмент падобны на кантрабас. Прымаўка і яе тлумачэнне запазычаны з «Прыказак жыхароў з ваколіц Бярэзіны» Яўстаха Тышкевіча.)

Не даясі, і калёсы прадасі. *Калі настане голад, прыдзецца прадаць апошнія калёсы.*

Не за тое сталелі, што соладка елі, а так Бог даў.

Не за тое маскаля б'юць, што крадзець, а за тое, штоб умеў схаваць.

Не кажы гоп, калі не пераскочыў. *Не хваліся наперад.*

Некалі я ў цябе брухам стол адсунуў. (Добра паеў.)

Не карміўшы буракамі, не пасылаюць за быкамі. *Пастуху трэба заўсёды дагаджаць, каб ён добра глядзеў за скацінай.*

Няма роду без выроду.

Няма той хаткі, штоб не было звадкі.

Не мей сто коп, мей сто дру́гаў.

Не піў — не мог, а выпіў — ні рук, ні ног.

Не пла́ціць багаты, пла́ціць вінаваты. *Пра беднага даўжніка.*

Не плюй вясьне ў рот, прыдзе другая ў год. *Кажуць даўжнікам, якія, аддаючы доўг, папракаюць ліхвяроў за вялікія працэнты.* (Я. Тышкевіч тлумачыць гэтую прыказку так: «Вясною бяднейшыя пазычаюць у багатых; восенню, разлічыўшыся з даўгамі, забываюць аб зробленай для іх дабраце. Тады багаты нагадвае беднаму гэту прыказку».)

Не плюй на крывога, будзеш сам гарбаты. *Не смейся над чужымі заганамі.*

Не плюй у воду, часам трэба будзе напіцца.

Не пры табе пісана, не пры мне казана.

Не радзіў мак, перабудзем так. *Суцяшэнне ў беднасці.*

Не слаўна хата вугламі, да пірагамі.

Не стрыжана, а голена.

Не сын спраўляў, не бацька едзець.

Не там траціць, гдзе прадаваць, а там, гдзе купляць.

Не так дакучна ад паноў, як ад панят (*эканомаў, стараст, войтаў*).

Не таргуй ката ў ворку, дзевак з сэрца не хвалі, жыда хоць хочэ — не бі.

Не ўдалося бабе забіць лося.

Не ўзяў за руку, не кажы — злодзей. *Трэба быць асцярожным у меркаванні пра людзей.*

Не ўтаіш шыла ў ворку.

Не ўсе старыя птушкі высока лятаюць.

Не ўсе старыя шчукі карасёў хватаюць.

Не хвігуруй, Грышачка! *Насмешка над хвалькамі.* (І. Насовіч у «Зборніку беларускіх прыказак» паходжанне прыказкі звязвае з імем Грыгоркі Загорскага, полацкага ўніяцкага архібіскупа, які дабіваўся ўніяцкага першапрыстолля ў Полацку. Ян Чачот каменціруе гэту прыказку так: «Адзін шляхціц з Наваградскага павета меў фурмана, які любіў пад'язджаць шумна пад ганак; гэтымі словамі гаспадар стрымліваў яго азарт».)

Не я б'ю, верба б'е, за тыдзень — вялікдзень. *Так кажуць, б'ючы вярбой у вербную нядзелю.* (Звычай, звязаны з пажаданнем здароўя.)

Не я пла́чу, бяда пла́чэць.

Ні вала́, ні кала́. *Галеча.*

Ні куецца, ні плешчэцца. *Бяда за бядой.*

Ні к Богу, ні к людзям. (Звычайна кажуць: не Богу, не людзям.)

Ні рыба ні мяса горэй дурня Апанаса.

Ні сюды, ні туды, мае мілыя дуды! *Аб непаваротлівых, мехаватых, як дуда.*

Ні ў кола, ні ў мела. *Нікуды не годны.*

Ні ў пяць, ні ў дзевяць.

Ніхто не ведае, як хто абедае. *Па вонкавым бляску нельга зрабіць выснову пра шчасце чалавека.*

Ні чытаць, ні пісаць, на ўрад вядуць.

Ні чытаць, ні пісаць, толькі з гаршкоў хапаць.

Ногі дзярэ, а боты на кію нясе. *Насмешка мужыка над засцянковым шляхціцам, які голы, але горды.*

Ня ве́даньня, — ня грэшаньня.

Нядзьведзю дай толькі лапу палажыць.

Ня кіем, а палкаю. *Ці не ўсё роўна?*

Ня ўвесь свет у вакне. *Так кажуць, калі не атрымліваецца адна з задумак.*

Пабудзе ў вадзе, а мокры нігдзе. *Абачлівы.*

Паво́лі едзеш, далёка будзеш.

Павер жыду́ на сваю бяду.

Паддзямідзіў Кузьма Дзяміда. *Адзін аднаго абхітрыў.*

Пад чорным лесам спаткаўся чорт з бесам.

Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку́. *Прымаўка матак, якія ганарацца прыгажосцю сваіх дочак.* (Андарак — саматканая паласатая або ў клетку спадніца. Звычайнае адзенне сялянскіх жанчын і дзяўчат.)

Пайшоў к нам, прышоў к вам.

Пайшоў упрочкі, астаўся без сарочкі.

Пайшоў сабакам сена касіць. *Пра бабылёў, якія швэндаюцца без справы.*

Пакінь стрэльбу і воду, то і я ў цябе буду. *Так звяртаюцца да таго, хто захапляецца паляваннем і рыбалоўствам, але забывае пра земляробства.*

Пакланіся ку́сту, а ён дасьць хлеба лусту. *Аб высечцы непатрэбнага кустоўя для стварэння новага поля.*

Пакуль за праўду, а перш за грэх.

Пакуль цэп, датуль хлеб.

Палаве́ц-акуне́ц.

Палажыць зубы на паліцу. *Кажуць, калі ў доме няма хлеба.*

Паляндра учэмерылася. *Мор, павальная смерць прыйшла. Паляндра па паданні беларускага язычніцтва — багіня смерці.*

Памаўчанка ня пушыць, усё ліха патушыць. *Маўчаннем можна ўсё перамагчы.*

Па́нскае вока каня тучыць.

Панства іх з канапелькамі перабудзем.

Пан з панам пазнаюцца, а мы ўсё-такі ў бядзе.

Пан па́нам будзець. *Лісліваць падчас просьбы.*

Папаўся наш жучку ў панскую ручку.

Пасаліўшы ясі.

Патрэбна, як пятае калясо волу.

Патуль пій жа еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і кало́м не ўвапрэш. *Куй жалеза гарачым.*

Пацеха, як ражон.

Пашоў у камыш. *Спужаўся.*

На што, воўчэ, ідзеш? *На апошняе.*

Перад Богам усе мы роўныя.

Перад невадам рыбы не лаві.

Пераз сілу і конь не скачэць.

Пераначуем, болей пачуем.

Першага торгу не мінай. *Кажуць сваты дзяўчат.*

Першыя шчаняты за плот. (Лічылася, што першыя шчаняты часта хварэюць шаленствам.)

Пірог з'ясі, чым абойдзеш.

Плачэ як у дзевіч-вечар. *Так гавораць, калі дзяўчына плача з-за таго, што яе гонюць на ўсялякую цяжкую працу.)*

Плесьці кашэлі з лапцямі. *Гарадзіць розную трасу.*

Прапаў мех, і — на роднага бацьку грэх.

Прасіў пан на талаку, ня прыдзеш, кажэ — за́-лаб павалаку. (Панская просьба, загад.)

Прыгожая як ляля. *Прыгажуня.* (Ляля — багіня вясны. Яе ўяўлялі юнай, стройнай, прыгожай дзяўчынай.)

Прыдзе каза да воза, папросіць сена, да не дадуць.

Пры згато́вай калодзе лягчэй агонь раскладаць.

Пры мілам госьцю і гаспадар пажывіцца. *Калі бываюць госці, тады і стравы гатуюцца больш смачныя.*

Прыпомніла баба дзевіч-вечар, і зачала плакаць.

Прышоў Баўтрамей, жыта на зіму сей. (Баўтрамей — 7 верасня — час сяўбы азімых.)

Прышоў месяц лізун. *Гавораць пра той узрост дзяўчат, калі яны стараюцца падабацца.*

Прышоў Пятрок (Пятроў пост), апаў лісток, прышоў Ілля, апала два. (Пятро — 12 ліпеня, Ілля — 2 жніўня. Лічылася, што пасля Пятра лета ідзе на спад.)

Прышоў Спас, усяму час. *У Спасаў пост на палях і агародах усё даспявае.*

Прышыў кабыле хвост, а ў кабылы свой ёсць.

Проста з моста. *Кажуць з дакорам, калі нехта неасцярожна распавядае пра чужое гора.*

Пытайся не ў старога, а ў быва́лага.

Раз украў, на цэлы век дарогу сабе замараў. (Прыказка адлюстроўвае адну з маральных нормаў беларускіх сялян, якая каранямі сыходзіць да запаветаў Майсея.)

Распусьціўся, як дзедаўская пуга. *Той, хто дазваляе сабе гаварыць дзёрзкасці старэйшым.*

Ро́дам куры хахлатыя, да не ўсе касматыя.

Рыбак рыбака відзіць здалека. *Людзі аднолькавых захапленняў хутка зближаюцца.*

Ры́нуў прымаўкаю, як гразьзю ў вочы. (Цікавае сведчанне моцы ўздзеяння прыказкі як сродка выхавання.)

Рынуў слаўцом, як пярцо́м.

Сава не ўродзіць сакала. *Які бацька, такі сын.*

Саломенным вало́м не араць, сеяным канём не ваяваць.

Са шва́грам і на зайца ня йдзі.

Са шчасьцем добра і ў грыбы хадзіць.

Свая ручка не ліхадзейка.

Свая ха́тка як родная матка.

Свой пан і пакараець і пажалеець.

Свой свайго пазнаў і на по́чэстку пазна́ў. (Варыянт: свой свайго пазнаў і на піва пазваў. Пад «сваім» разумеўся чорт.)

Сівізна ў бараду, чорт у ногі. *Кажуць пра старых дрэнных паводзін.*

Свет вялікі, да дзецца німа гдзе.

Святая Варвара ночы ўварва́ла. *З 4 снежня ночы памяншаюцца.* (Шпілеўскі, вядома, меў на ўвазе юліянскі каляндар, але і тут ён трошкі памыляецца, бо ночы памяншаюцца, а дзень павялічваецца толькі пасля зімовага сонцастаяння, якое прыпадае на 21 снежня.)

Сем сёл, адзін вол. *Пра бедную вёску.*

Скрывіўся, як серада на пятніцу. *Так гавораць пра нуднаватага чалавека.*

Смяецца як з гары ідучы.

Спрыкрыўся як ваўкалака.

Старай бабе і на печы ўхаба́. *Кажуць пра непаваротлівых мешкаватых людзей.*

Схавай тры грошы на зязю́льку. *Прымаўка гэта пайшла ад звычая звінець грашыма, калі першы раз пачуеш голас зязюлі.* (Па старажытнай прыкмеце лічылася, што той, хто першы раз вясною пачуе зязюльку і мае пры сабе грошы, будзе мець іх цэлы год.)

Старцу сяло́ не наклад. *Існуе паданне, што некалі жабракі хадзілі па сёлах і знаходзілі сабе часовы прытулак у багатых мужыкоў. Яны былі зняможанымі старымі, а не бадзягамі.* (Шпілеўскі загладжвае рэальнасць: жабракі існавалі ва ўсе часы. Больш падрабязна можна пачытаць у М. Я. Нікіфароўскага ў нарысе «Старцы». А сэнс прымаўкі такі: жабраку не складае вялікай працы зайсці яшчэ ў адну вёску.)

Сыты галоднаму не спагадаець.

Сядзіць, як заец у жыце. *Гавораць пра таго, хто любіць жыць за лік чужога.*

Сядзіць, як цыць, а з носа капаіць.

Сеяць у свіньня́чы голас. *Гэта значыць амаль восенню, калі кабаны, не знаходзячы на палях пашы, з віскатам бегаюць па дварах, шукаючы ў хлявах корм.* (Раней свіней паслі, была нават такая прафесія — свінапас. Ад вольнага выпасу мяса свіней было больш смачным і спажыўным.)

Сядзем на калодзе, пагаворым а прыгодзе.

Там табе вароты пірагамі заткнуты. *Калі нехта пакідае адну службу і шукае другую, быццам бы лепшую.*

Та́ннае мяса сабакі не ядуць. *Таннае ды гнілое.*

Та́ту! Та́ту! Лезе чорт у хату! — Дарма́, абы́ не маскаль.

Таўкач аблізаў. *Адмова жаніху.*

Толькі ў цябе праўды, колькі ў рэшаце вады.

То не почэстка, калі без прынукі. (Адным з прынцыпаў беларускай гасціннасці было ўгаворванне гасцей да ежы і піцця. Калі гэтага не было за сталом, лічылі, што свята не ўдалося.)

Трапіў чорт на пага́нага.

Трапляецца крачку́ малому улавіць рыбку скарэй, як старо́му.

Трасца табе, клікуну́. *Лаянка.*

Трэба жыць, як набжыжыць.

Трэба жыць, як з калодзезя твайго пабжыжыць. *Парада пераносіць жыццёвыя цяжкасці без асаблівых нараканняў.*

Трудна проціў ветру ды́хаць.

Трудна стаць па́нам, а ўсё по́йдзе дарам.

Ты з варот, а ён чэраз плот.

У анучцэ грошы вядуцца. *Кажуць аб уяўным жабраку, у якога водзяцца грошы.*

Убяры пень, і пень харош.

У валá язык доўгі, да гаварыць не даюць.

У голад намруцца, у вайну налгуцца.

Узяла погань моц. *Пра жыдоў.*

Узяў дзіця за руку, матку за сэрца. *Калі з прыязнасцю адносішся да дзяцей, то гэдак жа да цябе будуць адносіцца іх бацькі.*

У кабылы бальшáя галава, нехай сабе енá думаець.

Улез у нерат, ні ў зад, ні ў перад.

У пужлівага купца ні грошай, ні тавару.

У скупóга чорт шáфарам.

Усюды добра, а дома лепей.

Усе бабры дабры, адна выдра ліхая.

Усе чэрці адной шэрсцьці.

У тры секачы сякуць, аднаго рака пякуць. *Калі некалькі чалавек гавораць пра адно і тое ж.*

У яго з адной губы і горача і сьцюдзёна.

У хворага пытаюцца, а здароваму даюць. *Адказ госця на пытанне гаспадара: «Можа, хочаце чаго-нібудзь паесці?*

Хаваецца, як сабака ад мух. *Пра тых, хто хаваецца ад працы.*

Хацела б душа ў рай, да грахі не пускаюць. *Хто з моладу не падрыхтаваўся да якога-небудзь занятку, таму цяжка гэта зрабіць у старасці.*

Хітра мудра — недарагім коштам. *Калі за бесцань удаецца набыць нешта каштоўнае.*

Хлеб з лапаты сапхнуў. *Не змог скарыстацца абставінамі або шчаслівым выпадкам.* (Хлеб для выпякання саджалі ў печ на спецыяльнай драўлянай лапаце.)

Хоць бяда, да гоц.

Хоць за вала, абы дома не былá. *Кажуць бацькі пра дачку.* (Калі ў сялянскай сям’і было некалькі дачок іх, вядома, стараліся хутчэй выдаць замуж, калі ж дачка была адна, то да яе стараліся ўзяць прымака, каб яны маглі даглядаць бацькоў у старасці.)

Хоць запалі, дык ня трэсьце. *Немагчыма дасягнуць чаго-небудзь у беднасці.*

Хоць кум, да сабака. *Недавер да родных.*

Хоць ты яму кол на галаве чашы. *Дурны, бязглузды.*

Хоць у латаным, абы не ў хватаным.

Хочэш з лаўкі зваліцца і не разбіцца.

Хто апáрыцца на малацэ, той і на ваду дмухаець.

Хто багат, той мне брат. *Папрок бедных багатым, якія забываюць пра сваіх родных.*

Хто б пра дзятла ведаў, каб не яго доўгі нос. *Балбатун.*

Хто з календара сеець, той мала вéець. (Земляробствам трэба займацца, назіраючы за прыродай, надвор’ем, а не гледзячы на каляндар.)

Хто каго любіць, той таго чубіць.

Хто любіць гарбуз, а я Кацярыну. *У кожнага свой густ.*

Хто мала маець, мала дбаець.

Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.

Хто перабірае, у таго хамут гуляе.

Хто ціха ходзіць, той густа месіць. *У ціхім віры чэрці водзяцца.*

Хто часнаку ня еў, таго душа не ваняець. *У каго чыстае сумленне, той смела гаворыць з любым.*

Цаца-ляля, Пятрусь. *Насмешка над пестунамі.*

Ці даў я табе, бабка, шэлег? Даў, пане! *Гавораць таму, хто нагадвае пра свае нязначныя добрыя ўчынкі.*

Цьвіце, як макаўка. *Шчаслівая жонка.*

Цярпён — спасён.

Цябе толькі па смерць пасылаць.

Чаго б сляпы плакаў, каб сьцежку бачыў.

Чаго, чорце, у балоце сядзіш? Ба прывык. *Заўвага старой жанчыне, якая другі раз выйшла замуж.*

Чалавек так, а Бог інак. (Яшчэ кажуць: «Не агучвай сваіх планаў, каб Бог над імі не пасмяяўся».)

Час плаціць, час траціць.

Чым галей, тым смялей.

Чым чорт ня араў, тым і сеяць ня будзе.

Чые бычкі, абы мае цяляткі былі.

Чорт адну бяду перабудзець: адна мінець, другая будзець.

Чорт без балота ня будзець, а балота без чорта.

Чорт сем пар лапцей стаптаў, чым такую пару дабраў.

Чорт яго ў жлу́кце высядзеў. *Пра дрэннага чалавека.*

Чужая болька людзям сьмех.

Чужымі дзеткамі не загадываць.

Чужымі слязамі не запаможэсься.

Шавеліцца, як верабей у веніку. *Пра гордых, фанабэрыстых людзей.*

Шлакочэцца бы русалка. (Лічылася, што русалкі могуць заказытаць чалавека да смерці.)

Шмаруй мужыка салам, а ён дзёгцем смярдзіць. *Мужыка ласкай не ўгаворыш.* (Мужык і ў панскай вопратцы застаецца мужыком.)

Што будзе, то будзе, а Грышка на куце не будзе. *Пагроза.*

Што было, на мора паплыло.

Што б галава, а жолудзі будуць.

Што б цябе змарнявало. Прападай ты! (Праклён.)

Што летам ножкаю коп, то зімою ручкаю хоп.

Што надта, таго і свіньні не ядуць. *Кажуць маладым хлопцам, якія хваляцца пры старых.* (Палякі казалі: «Што занадта, то не здровэ».)

Што то за торг, калі не ў шапцэ.

Шчабечэ, як сарока. *Балбатуння.*

Шчасьця як трасца: каго зхочэ, на таго пападзе.

Шчыра сказана, як звязана.

Еду па жонку пятую, судзі, Божа, на дзясятую. *Так гавораць жонкі сваім мужам, якія не клапоцяцца пра іх здароўе.*

Еш, дурню: з макам. *Пануканне дзяцей есці.*

Юр’я сказаў: жыта ўраджу; Мікола адказаў: пачакай — пагляджу.

Яго там і печкі і лаўкі. *Хатні сябра.*

Які б гэта крук, штоб выпусьціў з рук. *Пра злодзеяў.*

Які сакавік, такі красавік. *Па якасці бярозавіка робяць выснову аб добрым выспяванні жыта.*

Як баба да дзеда, так дзед да бабы.

Як быў Сас, было хлеба з нас. (Існаваў яшчэ такі варыянт: «Як быў Сас, было хлеба з нас, настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі».)

Як воўк вільнуў хвастом. *Папрок тым, хто прыходзіць у госці на вельмі кароткі час.*

Як глянуў, так і грануў. *Сказаў, не падумаўшы.*

Як курыца сакочэ. *Балбатуння.*

Як мы да Бога, так Бог да нас.

Як паедзеш у аб’езд, будзеш на абед; а як на прасьцень, будзеш к вячэры. *Пра людзей, якія не шукаюць у жыцці простых дарог.*

Як п’ян — капітан, а прасьпіцца — сьвіньні баіцца.

# Змест часопіса «Маладосць» за 2014 год

## ПАЭЗІЯ

## ПРОЗА

## ПЕРАКЛАДЫ



## КРЫТЫКА

## У СПЕЦПРАЕКЦЕ «ЗАЧАРАВАНЫЯ МАКСАМ»:



## ПУБЛІЦЫСТЫКА

## CATHEDRA



## ГІСТФАКТ



## СПЕЦНУМАР «БРАМАМАР» (№ 2)



## ПРОЗА:



## КРЫТЫКА:



## ПЕРАКЛАД:



## ДРАМАТУРГІЯ:

# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА БЯРОЗКА» ЗА 2014 ГОД

## ВЕРАСОК

**Дар'я ВЕЛЕСЕВІЧ, Ілья БЛІЗНЮК, Вікторыя ЗАХАРЭВІЧ, Лізавета КЛІМКОВІЧ, Надзея ГАЙДУК, Іна ЗЕЛЯНКЕВІЧ, Паліна ШЫБЕКА. № 1.**

**Ілья БЛІЗНЮК, Марыя ЛІТВІНЕНКА, Ліза КЛІМКОВІЧ, Ліза САЕВІЧ, Аляксандра НОВІК, Алена КАРП, Дар'я САЛАНІНКА, Анастасія ЧЭПІК, Віялета МЯДЗЕЛЬСКАЯ. № 2.**

**Валерыя ГАСПАДАРЫК, Надзея ГАЙДУК, Марыя ТУГАЙ, Ганна ТКАЧЭНКА. № 3.**

**Марыя ТУГАЙ, Кацярына МЯЗЬКО, Дзяніс ГАНЧАР, Надзея ГАЙДУК. № 4.**

**Кірыл ЛАПАЦІН, Аліна КУРУНТУ, Аляксей МАСЮК, Іна ЗЕЛЯНКЕВІЧ, Паліна ЕЎЛАШЭЎСКАЯ, Таццяна НАУМОВІЧ. № 5.**

**Лізавета САЕВІЧ, Валерыя КАЛАМІЕЦ, Руслан МАЛЧАНКОЎ, Аляксандр РАДЗІХОЎСКІ. № 6.**

**Дар'я САЛАНІНКА, Руслан МАЛЧАНКОЎ, Кацярына МЯЗЬКО, Платон САЕВІЧ, Паліна ЮРЧАНКА. № 7.**

**Таісія ЖВІРБЛЯ, Анастасія ЧЭПІК, Анастасія САЙЧЫК, Яніна АСІПЦОВА, Юлія КАВАЛЕВІЧ, Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ. № 8, ПІЛОТ.**

**Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ, Аляксандра НОВІК. № 9.**

**Крысціна ВАЛЫНЕЦ, Аляксандра НОВІК, Дар'я САЛАНІНКА. № 10.**

**Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ, Мікіта ЦЕЎ, Ірына КУЛІНІЧ, Алена ШМІДАВА, Елізавета САЕВІЧ. № 11.**

**Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ, Елізавета САЕВІЧ, Ігар Гапееў, Галіна МАКУШКІНА, Алена ШМІДАВА, Карына і Крысціна ДАЛМАТОВІЧ. № 12.**

## БрамаМар

*Школьная паэзія.* **Кацярына ШАРАЧЭНКА, Анастасія АЎХІМОВІЧ.** *Школьная проза.* **Ксенія ПЕТРАШКЕВІЧ, Аліна СМЯТАНКА, Валянцін ГІРАЕЎСКІ.** *Дзіцячая літаратура.* **Зарына КУДЗЁЛКА, Крысціна БАНДУРЫНА. № 2.**

*Школьная проза.* **Марыя ДЗЕРБІЧАВА, Марыя СУХАДОЛЬСКАЯ. № 3.**

## КАЗКІ ШКОЛЬНАГА РАНЦА

**Лізавета МІХНЁНАК, Крысціна БЕЛАЗОР, Платон САЕВІЧ, Яўген ГРЫНКЕВІЧ. № 1.**

**Марына ШКАДУН, Раман ШАГУН, Кацярына ЛЕАНАВЕЦ, Ганна СІМАНОВІЧ. № 2.**

**Марына РОГАВА, Вікторыя ПЛЯСКАЧ, Карына ЧУЕС, Іна ЗЕЛЯНКЕВІЧ, Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ. № 3.**

**Надзея ГАЙДУК, Ілья СЯНЬКОЎ, Уладзімір САЕВІЧ, Анастасія РАБЕЦКАЯ, Захар СЕРЫ. № 4.**

**Дзяніс БУТОРЫН, Сяргей БЕНЮШ, Ліза БАБРЫКОВІЧ, Ліза РАБЯНОК. № 5.**

**Дзмітрый ПРАСНЯКОЎ, Валерыя КАЛАМІЕЦ, Валерыя ПУЛЬКІНА, Марыя ГУД, Дзяніс МАСЛЯКОЎ, Настасся ФЕДАРЭЦ. № 6.**

**Юлія АДАМОВІЧ, Вера ГУТАР, Андрэй ШЧАРБІЦКІ, Алёна БУРАЯ, Кірыл САВІК, Вольга ЯСЬКОВА. № 7.**

**Таццяна МАЦЕЙКА, Лізавета МІХАЛАП, Аліна ТАРАСЕВІЧ, Вольга ТАРАСЕВІЧ. № 8, ПІЛОТ.**

**Ліза ПЕРАВОЗЧЫКАВА, Аляксандра БЕЛАЯ, Даніла ЛАТОШ, Віка ЦЯРЛЕЦКАЯ, Настасся ФЕДАРЭЦ, Андрэй ЖУКАВЕЦ. № 9.**

## ЛІТАРАТУРНЫЯ СТАРОНКІ

*Атлас свету.* Як воіны спатолілі смагу думкамі пра слівовы лес. ***Пераклад з кітайскай Алеся КАРЛЮКЕВІЧА і Веранікі КАРЛЮКЕВІЧ.*** **№ 3.**

**Генадзь АЎЛАСЕНКА.** Плата за сяброўства. **№ 3.**

**Генадзь АЎЛАСЕНКА.** Запрашэнне на Ушаччыну (*Букет санетаў*). **№ 8.**

**Святлана БЫКАВА.** Мне даражэй няма на свеце… (*Вершы*). **№ 5.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.** Што Шубуршуну прыснілася?.. **№ 1.**

**Алена МАСЛА.** Жахліва-вясёлыя гісторыі, або Прыгоды легендарнага Цмока. **№№ 9—12.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ.** Тры апавяданні. **№ 8.**

**Уладзімір СІТУХА.** Пра сакрэты і прыкметы ДЗІВАСВЕТУ (*Вершы*). **№ 10.**

**Міхайла СЛАБАШПІЦКІ.** Ці далёка да Афрыкі? (*Казка*). ***Пераклад з украінскай Алеся КАРЛЮКЕВІЧА.*** **№ 9.**

**Васіль ТКАЧОЎ.** Вынаходнікі. **№ 4.**

**Кацярына ШЧАСНАЯ.** Кароль і туз. **№ 7.**

# Бярозка

№ 12/2014(1039)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





● **Верасок**

# Усё астатняе зробіцца цудам



## Перадсвяточная замалёўка

Позняя марозная раніца. Белыя пагоркі снегу сыходзяць кудысьці ўніз, варта толькі наступіць на іх. Сыход гэты суправаджаецца прыглушаным скрыпам і прыемным «хрумканнем», а калі штурхнуць каго ў гэты «пагорак», то яшчэ і радасна-здзіўлена-вясёлым віскам. Выдатна!

Па небе, яшчэ нядаўна такім блакітным, зноў пачынаюць плыць шэрыя аблокі, якія плануюць зацягнуць усё мяккай, халоднай ватай. Вецер прыносіць аднекуль першыя прыгожыя сняжынкі — хутка зноў пойдзе снег.

Час набліжаецца да абеду. Па вуліцах сюды-туды ходзяць падобныя адно да аднаго людзі, якія нагадваюць усхваляваных мурашак. Кудысьці бягуць, пра нешта размаўляюць, штосьці нясуць, хуткім крокам пераходзяць вуліцу. Вось адзін з мінакоў, заняты думкамі пра тое, колькі ўсяго яшчэ не зроблена, сутыкаецца з кімсьці і ўжо збіраецца распачаць сварку. Але ўздымае вочы і бачыць усмешлівы твар, які, дарэчы, не так проста разгледзець з-за велізарнай «пірамiды» з рознакаляровых бліскучых каробак з падарункамі, што невядома як змяшчаецца ў руках і дзіўным чынам не выпала пры сутыкненні.

«Твар» усміхаецца яшчэ шырэй і прамаўляе:

— Прабач, дружа, не заўважыў! З надыходзячым!

— І цябе таксама! — міжволі вырываецца ў мінака, які зусім нядаўна хацеў учыніць скандал.

А вось з-за вугла крамы, упрыгожанай яркімі гірляндамі, выходзіць натоўп хлопчыкаў і дзяўчынак. Рознага ўзросту — ад малых, гадоў чатырох-пяці, да амаль дарослых. Весяляцца, крычаць, смяюцца, жартуюць, а самага маленькага вязуць на санках. Вось яны пачынаюць гуляць у снежкі, хоць снег зусім не лепіцца, а аднаго з кампаніі знянацку адправілі ў гурбу… і нічога, нават не пакрыўдзіўся! Ім весела, а сёння весяліцца не проста можна — трэба!..

У адной са шматпавярховак насцеж расчыняецца акно.

— З Новым годам! — крычаць адтуль і выстрэльваюць у паветра яркім канфеці з хлапушкі…

 

Жанчына ў гадах выгульвае сабачку, якая бегае вакол гаспадыні і залівіста брэша. Жанчына ўсміхаецца і, ні на што не гледзячы, адвязвае ланцужок. Сабачка — маленькі белы шчанюк з чорным кончыкам хваста — адразу ж ныраe ў снежны сумёт і самазабыўна пачынае капаць, мабыць, хоча дакапацца да бліжэйшага метро. А сама гаспадыня разглядае лёгкія сняжынкі, якія ў святле ліхтара падобны да маленькіх белых матылькоў, падымае галаву і з усмешкай глядзіць на зоркі — зімой рана цямнее.

Напярэдадні Новага года час ляціць так непрыкметна...

Праз пятнаццаць хвілін яна вернецца ў цёплую кватэру, дзе стаіць святочны стол. Распрануўшыся, дапаможа нявестцы з апошнімі падрыхтоўкамі. Праз нейкі час сям'я сядзе за стол. Роўна апоўначы ўзнімуцца келіхі з шампанскім і ліманадам, загучаць пажаданні шчасця. Яшчэ хвілін праз сорак усе разам, цёпла апрануўшыся, пойдуць да Галоўнай Ёлкі, і там адразу ж змяшаюцца з вясёлым натоўпам.

Дахаты вернуцца не хутка. Уклаўшы стомленых і шчаслівых унукаў спаць, жанчына дапаможа сыну з нявесткай прыбраць са стала. Затым з задавальненнем сядзе ў мяккае крэсла і, гледзячы на яркія агні, пачне марыць. І тыя жаданні, якія яна загадае, гледзячы на вялікі чырвоны шар, абавязкова спраўдзяцца.

Кожны ў гэту ноч, напэўна, загадвае жаданне. Простае ці складанае, сціплае ці ўзвышанае — яно абавязкова здейсніцца, трэба толькі дакласці крыху намаганняў. Усё астатняе зробіцца цудам і магіяй самай чароўнай ночы на зямлі...

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,*
*11 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён*

## Новы год на заячай палянцы

Была зіма. З неба падалі сняжынкі. Скакалі зайцы на лясной палянцы, у сняжкі гулялі. А потым прыляцела сарока-паштальён і абвесціла на ўвесь лес:

— Хутка Новы год! Прыедзе Дзядуля Мароз з падарункамі! Зайцы, хутчэй ёлку ўпрыгожвайце!

Знайшлі зайцы самую прыгожую ёлку. Павесілі на яе каралі з мерзлых рабінак, размаляваныя шышкі, жалуды, сухія грыбы, а на верхавіне, замест зорачкі, снегіра папрасілі пасядзець.

І столькі звяроў і птушак да гэтай ёлкі сабралася. На галінках суседніх дрэў паселі вароны, галкі, сінічкі, вераб'і ды іншыя лясныя птушкі. Дарослыя вавёркі таксама засталіся на галінках, а дзетак сваіх адпусцілі да зайцаў на палянку.

Пачалі маленькія зайчыкі ды вавёрачкі карагод вадзіць. Раптам нешта застукала, зазвінела, заіржала. Спужаліся зайцы і вавёркі, разбегліся хто куды, пахаваліся. А гэта коні Дзядулю Мароза ў санях прывезлі.

Стукнуў дзед Мароз тры разы сваім чарадзейным кіем і запаліліся на ёлцы агні рознакаляровыя. Зноў сабраліся звяры і птушкі на лясной палянцы. Пачалі карагод вадзіць, песні спяваць, вершы расказваць. Дзед Мароз даў зайцам шмат морквы і капусты, вавёркам — арэхаў, птушкам — зярнятак. А сам паехаў віншаваць дзікіх парсючкоў, зуброў ды аленяў.

Зайцы, вавёркі і птушкі так радаваліся падарункам, так шумелі, што гэта пачула лісіца. Абсыпалася яна снегам, прычапіла да галавы дзве заснежаныя

сасновыя галінкі, паглядзела на сябе ў замерзлую лужу і вырашыла, што цяпер яе ад зайца ніхто не адрозніць. І пабегла на свята. Затаілася за дрэвам каля снежнай горкі, стала цікаваць за самым вялікім зайцам. Сядзіць і аблізваецца: «Вось зараз я зайчацінкай паласуюся...» А хвост ад радасці круціцца, верціцца сюды-туды, сюды-туды... Так яна і не заўважыла, як сама з сябе хвастом увесь снег змяла.

Першай убачыла лісіцу старая варона і як закрычыць:

— Лісіца! Лісіца! Зайцы, ратуйцеся!

Падхапілі трывогу галкі. Запішчалі і іншыя птушкі. Узняўся такі шум, што прачнуўся мядзведзь, які спаў у берлагу непадалёк.

— Ах, бессаромная, — зароў мядзведзь на лісіцу. — Ты гэта нашто зайцам і вавёркам свята сапсавала?! Нашто мяне пабудзіла?! Вось я цябе зараз правучу!

Спужалася лісіца, далёка ў лес збегла. І больш да зайцаў на свята не хадзіла. А вавёркі мядзведзю за дапамогу маліны сушанай прынеслі, арэхамі пачаставалі. Узрадваўся касалапы, вылез з берлагу і пачаў разам з зайцамі і белкамі на палянцы карагоды вадзіць, песні спяваць ды танцы танцаваць.

Вясёлае свята атрымалася!

***Елізавета САЕВІЧ,***
***6 клас, гімназія № 29, Мінск***



## Прыход зімы

Прыйшла зіма халодная,
Чаканая і доўгая,
З завеямі і сцюжамі,
З марозамі і гурбамі.
Прыйшла, зачаравала,
І ўсім прапанавала
Чароўныя ўзоры
На ўсёй зямной прасторы.

***Ігар ГАПЕЕЎ, выпускнік***
***Сакалоўскай СШ, Чэрыкаўскі раён***

## Зіма

Сонца свеціць вельмі ярка,
А мароз пячэ, трашчыць.
Быццам зорачка, бярозка
Срэбрам-шэранню блішчыць.

Лес прыціх, яму нялёгка,
І нябачна ў небе хмар...
Дым слупамі...
Гэта вёска
Выпускае ў неба жар.

***Галіна МАКУШКІНА, 11 клас,***
***Сакалоўская СШ, Чэрыкаўскі раён***



## Жыццё цудоўна, як не разумець!



Жыццё цудоўна, як не разумець
Што жыць з усімі і прасцей і лепей?
І мужнасць сапраўды патрэбна мець,
Каб заставацца ўсюды чалавекам.

Мінулае губляюць назаўжды,
Мінулага ты сёння ўжо не вернеш...
Навошта крыўды ў сэрцы берагчы?
Прабач усім і ў шчасце зноў паверыш.

Навошта скардзіцца на тое, што прайшло?
Прабач усім, жыццё не перайначыць...
Каб цябе шчасце зноў у жыцці знайшло
Прабач усіх і ўсе цябе прабачаць!

*Алена ШМІДАВА,*
*10 клас, гімназія № 12, Мінск*

## Першы снег

Першы снег! Якая радасць!
Час ляпіць снегавікоў,
Лыжы браць — і ў лес з сябрамі,
З горкі з'ехаць зноў і зноў!
У сняжкі згуляць з сяброўкай,
Пракрычаць: «Зіма прыйшла!»
Зладзіць хуценька сталоўку,
Каб сінічка корм знайшла.

*Карына ДАЛМАТОВІЧ,*
*Крысціна ДАЛМАТОВІЧ,*
*9 клас, Вялічкавіцкая СШ,*
*Салігорскі раён*

**СПАТРЭБІЦЦА!**

*Адрас беларускага Дзеда Мароза:*
*225063, Брэсцкая вобласць Камянецкі раён,*
*пашт. аддзяленне Камянюкі, «Белавежская пушча.*
*Дзеду Марозу»*
*(альбо «Рэзідэнцыя Дзеда Мароза. Дзеду Марозу»).*

# Прывіды над Аржаніцай

***Ліст журналісткі-вандроўніцы да шляхціца Завальні, знакамітага аматара цікавых гісторый.***

Добры дзень, паважаны спадар Завальня! Пішу Вам з мястэчка Глыбокае, што ў ціхай віцебскай старонцы — краі азёр ды вялікіх і малых рэчак. Адна з апошніх, пад назваю Аржаніца, цячэ побач з месцам, дзе я спынілася. На яе берагах знайшліся сляды адной цікавай гісторыі. Ведаючы цікаўнасць Вашу да ўсяго незвычайнага, загадкавага і нават містычнага, яе Вам і пераказваю — так, як распавядаюць мясцовыя жыхары.

У даўнія часы на стромкім рачным беразе стаяў маёнтак пана. Жонка яго рана пайшла да Бога, таму ўсю сваю ласку ўладар навакольных зямель пера-



носіў на дачку. Мела дзяўчына багатыя ўборы, каштоўнасці і ўсялякія выгоды. Ды толькі лёсам ёй было наканавана пакахаць не радавітага паніча, а сялянскага хлопца, што на бацькавай стайні працаваў.

Вядома, стары пан не мог даць сваю згоду на няроўны шлюб, закаханыя ведалі гэта, таму вырашылі ўцячы з маёнтка, каб разам шукаць лепшай долі ў другой старонцы. Падгадалі цёмную ноч, калі стары месяц ужо памёр, а новы яшчэ не нарадзіўся, узялі крыху грошай, пару коней... Ды толькі знайшоўся, відаць, нейкі здраднік, бо як толькі падышоў хлопец да варот стайні, каб адкрыць іх, як накінуліся на яго панскія служкі. Жорстка помсціў пан за абразу свайго саслоўнага гонару, не зразумеў шчасця дачкі.

Дарма старалася дзяўчына вызваліць каханага ад раз'юшанага натоўпу. Адчай ахапіў яе душу. І тады скіравала паненка спуджаных коней са стромкага берага, навечна знайшла сабе прытулак у спакойных водах рэчкі Аржаніцы.

Так скончылася, добры пане, гэта сумная і прыгожая гісторыя. Знік даўно панскі маёнтак, разбурылася стайня, зарасло вербалозам і асакой тое памятнае месца. Ды толькі кажуць людзі, што ў цёмныя ночы праязджае па месцы, дзе стайня была, туманная дзяўчына на кані. Нічога не бачыць, ні на што не зважае — толькі і адчуе выпадковы сведка дотык паветра, быццам птушка крылом махне.

Хацелася мне, Пане Завальня, самой пабачыць той цуд, але не змог ніхто дакладна сказаць, калі прывід у дарогу выпраўляецца, а прырода наша, як Вам вядома, багатая на цёмныя ночы!

***Рагнеда* ЮРГЕЛЬ**

**ЦІКАВА!**

*Самая дарагая навагодняя ёлка*
*была ўстаноўлена ў 2010 годзе ў Арабскіх Эміратах.*
*Яна была ўпрыгожана шарамі з чыстага золата і серабра.*

**● Жыццёвае**

# Вы размаўляеце па-беларуску?



## Смачнае прыгожае эсэ

Ці складана размаўляць па-беларуску, калі мовы не ведаеш зусім? Цяжка, бо мову трэба адчуваць! Трэба вар'яцець ад прыгожых беларускіх слоў. Распавяду, як закахалася ў беларускамоўнага хлопчыка і пачала вучыць мову. Безумоўна, дзеля таго, каб добра размаўляць з ім, без памылак, дасылаць пытанні і паведамленні, спрабаваць жартаваць. Было складана, бо я нарадзілася ў Расіі і шмат гадоў жыла там. Упершыню беларускую мову пачула ў пятым класе, мяне гэта ўразіла. Нават верш пра коўзанку з'явіўся. Дзе ён цяпер? Нават не ведаю.

Але ведаю, чаму нельга крэсла называць стулам, а шыкоўны фатэль — выгодным крэслам, чаму на канапе мякка, а дыван вісіць на сцяне, чаму на Новы год мы набываем ёлку, а не елку.

Нядзеля — гэта адзін дзень, а тыдзень — сем. Шэры сабака, белая гусь, залаты медаль, актавая зала — нельга блытаць род! Калумб адкрыў Амерыку, Антось расплюшчыў вочы, Кастусь адчыніў акно, каб птушак паслухаць, а Міхась адамкнуў замок, які замкнуў. Мы часта робім памылкі, калі ўжываем толькі слова «адкрыць». Масла можна намазаць на хлеб, аліўкавы алей вельмі карысны, а ліва для аўто павінна быць якаснай! П'ем шыкоўную гарбату і каву з печывам і слуцкім цукрам ды цукеркамі, або з каўбасой, а воцатам гасім соду і калдуны смажым на тлушчы.

Заўтра абяцалі пагоду, а сёння надвор'е кепскае. Пагода заўсёды файная, бо надвор'е можа быць благім. Нельга, каб хлопчык стаў падабцаснікам, а дзяўчаткам вельмі пасуюць абцасы. Кожны ведае, якога ён веку, з якога стагоддзя.

Часопіс «Бярозка» запрашае школьнікаў і настаўнікаў
дзяліцца сваімі разважаннямі пра што заўгодна
на старонках новага самастойнага выдання,
якім «Бярозка» робіцца ўжо з наступнага месяца.
Працы дасылайце на vdsd@tut.by і bjarozka@mail.ru,
падпіску афармляйце праз індэкс 74822
на свой дамашні адрас.

Каб паслухаць музыку, трэба націснуць на гузік, але гузікі ёсць і на вопратцы. Тата стаіць у заторы, а маці не можа дастаць корак (адкаркаваць пляшку). Мне вельмі падабаецца слова хмарачос, бо яно смешнае, але такое роднае, здаецца, і не адразу можна зразумець і ўявіць, як чэша хмарачос хмары. Без жырандолі ў пакоі цёмна будзе, а без люстра ці люстэрка не намалюе дзяўчо чырвоныя вусны. Шкада, што не магу быць за стырном, але хутка навучуся і буду кіраваць аўтамабілем!

Каб пафарбаваць столь, трэба залезці на стол. Можна пайсці на рыбу, у грыбы, у ягады — улетку без гэтага ніяк. Сёння збіралася на спатканне і надзела панчохі, боты, шалік, сукенку, завушніцы. А ўчора ўзяла торбу, каб пайсці ў краму, дзе хацела набыць матылёк і дзягу сябру.

Эпохі сыходзяць, змяняюцца словы, замест чала — лоб, замест рамёнаў — плечы, замест лемантара — буквар, замест ядваба — шоўк, замест адродкаў — нашчадкі. Не разумею вось гэтых змен: напой — напітак, печыва — пячэнне, раней студэнты сыходзілі на вакацыі, а цяпер — на канікулы, раней быў рабунак, цяпер — грабёж, іспыты змяніліся на экзамены. Але лёс не тыповы, словы вяртаюцца, гэта добра для мовы. А я зраблю кавы і буду піць яе з аўсяным печывам. Смачна есці, даражэнькія. Не сумуйце і вучыце родную мову.

*Анастасія ЖУХАРАВА,*
*студэнтка 2 курса Інстытута журналістыкі БДУ*

**ЦІКАВА!**

*Першыя шкляныя ёлачныя цацкі з'явіліся ў Швецыі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Першыя навагоднія (дакладней, калядныя) паштоўкі — у гэты ж час у Англіі, упершыню ў 1843 годзе. Ляпіць са снегу істот з вядром на галаве, мяцёлкай і носам-морквінай таксама пачалі толькі з XIX стагоддзя.*



● **Практыкум**

# Надзвычай проста

Дружа!

На гэтым месцы павінен быў быць артыкул пра тое, якія бываюць рыфмы, як іх лягчэй падбіраць, а таксама пра вершы без рыфмы (бываюць і такія).

Я хацеў напісаць, што апроч дакладных сугуччаў ёсць мілагучныя асанансныя рыфмы, каранёвыя (каралі — караты), дысанансныя (кніга — многа), што паэты XX стагоддзя любілі пантавацца сваімі рыфмамі, а паэты XXI стагоддзя карыстаюцца тымі, якія лепей пасуюць да верша.

Я хацеў распавесці, што калі мне не прыдумляецца рыфма, я выпісваю недзе збоку канчатак і па чарзе прыстаўляю да яго злева ўсе літары алфавіта.

Я хацеў паведаміць, што існуе белы верш, у якім ёсць трывалы вершаваны памер (памятаеш: ямб, харэй і гэтак далей), але няма рыфмы; што існуе верлібр, у якім няма нават вершаванага памеру, але ёсць нейкі загадкавы «ўнутраны рытм» (не ведаю, што то за звер!); што існуюць вершы ў прозе, якія нават на радкі не разбіваюцца.

Але лёс склаўся так, што замест гэтага артыкула я пішу іншы — пра школьныя сачыненні.

Справа ў тым, што «Бярозка» абвяшчае новы конкурс! «Вялікі конкурс школьных сачыненняў»! Кожны месяц мы будзем выбіраць адно з дасланых нам у рэдакцыю школьных сачыненняў, самае выдатнае, і публікаваць яго ў часопісе. Хочаш паўдзельнічаць? Па вачах тваіх бачу, што хочаш.

Школьнае сачыненне напісаць надзвычай проста. Бярэш і пішаш свае думкі (лепей, калі менавіта свае, а не спісаныя ў некага). Адзіная складанасць — трэба іх неяк лагічна пабудаваць, інакш, замест сачынення атрымаецца незразумелая каша з літарак. Ёсць такія макаронныя вырабы, спрабаваў? Дык вось. Перад напісаннем бярэш маленькі аркуш і вельмі сцісла занатоўваеш думкі, якія жадаеш выкласці ў сачыненні. Напрыклад, сачыненне пра сэнс жыцця, і ты хочаш напісаць пра свайго сябра Макса — на аркушыку пішаш слова «Макс».

Потым вызначаеш, якую думку лепей агучыць першай, якую другой, якую трэцяй (калі ў цябе шмат думак, давядзецца доўга вызначаць). Нумаруеш думкі і паводле гэтай шпаргалкі робіш сваё сачыненне. А ў канцы звычайна пішуць, што з тых думак вынікае, але калі ты не можаш вызначыцца, што дакладна з іх вынікае, то так і напішы, прапануй зрабіць выснову чытачу твайго сачынення.

Гэта толькі некалькі першых парад. Далей у рубрыцы «Практыкум» мы будзем вучыць цябе дэталям. І чакаць твае сачыненні!

 

● **Табе навука**



# Бясконцасць сваімі рукамі

***Неяк адна юная лэдзі сказала мне, што паміж матэматыкай і паэзіяй няма нічога агульнага. Для яе і для тых, хто думае як яна, — гэтыя нататкі.***

Пра паэзію ў матэматыцы я магу разважаць доўга, таму што ў самой матэматыцы шмат раздзелаў і ў кожным — свая паэзія. Сёння я распавяду, якія бываюць бясконцасці.

Ты скажаш: бясконцасць — яна і ёсць бясконцасць, вельмі вялікі лік. Але насамрэч нашая бясконцасць самая маленькая!

Таму што з яе можна атрымаць куды большыя бясконцасці.

Зараз распавяду, як гэта зрабіць.

Няхай у нас ёсць пяць кубікаў: чырвоны, жоўты, белы, чорны і зялёны. Колькі можна скласці камбінацый з гэтых кубікаў? Чырвоны і жоўты, чырвоны і белы, чырвоны-жоўты-белы, чырвоны-белы-зялёны, белы-жоўты-зялёны... Відавочна, не пяць, а значна больш, так? Так.

Няхай у нас цяпер ёсць тысяча кубікаў. Колькі можна скласці камбінацый з тысячы? Відавочна, больш за тысячу.

Ужо здагадаўся, куды я хілю?

Ты правільна здагадаўся. Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя даказалі, што гэтае правіла дзейнічае і для бясконцых мностваў! То бок, калі ў нас бясконцае мноства кубікаў, то спалучэнняў з гэтых кубікаў можна скласці болей, чым бясконцасць!

А цяпер глядзі, што я зраблю. Я вазьму столькі кубікаў, колькі атрымалася спалучэнняў з бясконцага мноства (у матэматыцы гэта мажліва!). І прараблю тое самае — зноў палічу, колькі будзе камбінацый з новай бясконцасці кубікаў!

Такім чынам, у нас ужо тры бясконцасці: першая — наша бясконцасць кубікаў, другая — спалучэнні кубікаў, а трэцяя — спалучэнні новых кубікаў. І — адна большая за другую. Вельмі простае дзеянне — узяць кубікі, паглядзець, колькі з іх камбінацый утвараецца, і ўзяць наступным разам болей кубікаў.

Але ж мы можам паўтараць гэтае дзеянне і далей, прычым, колькі заўгодна разоў — хоць бясконцасць! Атрымоўваецца, што бясконцых лікаў — бясконцае мноства!

Калі я гэта зразумеў, мне стала бясконца цікава. Мяркую, што і цябе трохі зацікавіў.

Наступным разам пагаворым пра рэчы больш зямныя. Напрыклад, пра... заставайся на сувязі.

*Віктар ЛУПАСІН*




● Зубронак

***У № 9 быў аб'яўлены конкурс перакладчыкаў песень са спеўніка «Зубронка». Змяшчаем пераклады першай удзельніцы конкурсу, нашай аўтаркі Ірыны Радзіхоўскай. Яна пераклала дзве песні на словы А. Янкоўскага — «Здравствуй, "Зубрёнок"» и «Спокойной ночи, "Зубрёнок"».***

## Прывітанне, «Зубронак»

Шлях няблізкі ўжо мінулі,
Прывітанне, лагер мой!
Хваляваліся крыху мы,
Як спаткаемся з табой.

Прыпеў.
Дзень добры, «Зубронак», і лес зялёны,
Возера Нарач, шэпт хваляў малых!
Тут і для хлопчыкаў, і для дзяўчынак
Казачны горад з промняў залатых.

З Мінска я, ты з Брэста, дружа —
Тут зусім няма бяды:
Будзе нам цікава дужа,
Пасябруем назаўжды.
Прыпеў.

Хоць мы вернемся з «Зубронка»
Да сябе, у гарады,
Ды «Зубронка» голас звонкі
Мы запомнім назаўжды!

Прыпеў.

## Дабранач, «Зубронак»

Заснула Нарач, і сонца на нач
Знікае, толькі цяпло дае.
А лес рахманы, як закаханы,
Ціхенька песню сваю пяе.

Прыпеў
«Зубронак», сябра, дабранач, мілы!
Дабранач, дружа, чароўных сноў!
Гарністаў песня пад небасхілам
Цябе назаўтра пабудзіць зноў.

І песцяць хвалі лазурны бераг,
І сосны поўню трымаюць зноў.
Ціхенька вецер блукае ў дрэвах,
Каб не парушыць дзіцячых сноў.

Прыпеў.

А заўтра зранку ізноў за справы!
Сігнал пабудкі гарніст дае
І мы ў паходы пакрочым жвава,
І будзем песні спяваць свае!

Прыпеў.

*Пераклад з рускай*
***Ірыны РАДЗІХОЎСКАЙ,***
***11 клас, Дворнасельская СШ,***
***Міёрскі раён***

*Самай вялікай навагодняй ёлкай лічыцца ёлка ў Мехіка 2009 года. Яе вышыня дасягала 110 метраў (як 40-павярховы будынак або трэць Эйфелевай вежы). Агульная вага цацак на гэтай ёлцы перавысіла 300 тон.*

**● Літаратурныя старонкі**

*Алена МАСЛА*

# Жахліва-вясёлыя гісторыі, або Прыгоды легендарнага Цмока*

## Гісторыя, у якой Цмок мусіць уцякаць, а Цётухна дорыць яму свой камп'ютар



Перш, чым вызірнуць на вуліцу, Цётухна нахілілася і падняла з падлогі паперку, згубленую ў спешцы будаўнікамі. Паперка аказалася пасведчаннем, што Саша і Сярожа — зусім не верхалазы, і зусім не Саша і Сярожа, а Жорж і Алекс, супрацоўнікі Замежнай Службы Вышуку Цмокаў.

Цётухна ўважліва прачытала пасведчанне, зірнула праз акно на натоўп у двары і сказала гасцям:

— Хвілінку ўвагі! Пан Цмок, як вы ставіцеся да нечаканых перамен абставін? Як высветлілася, нашыя госці Саша і Сярожа — зусім не тыя, за каго сябе выдавалі. Толькі для адводу вачэй яны рамантавалі дом, а насамрэч — шукалі Цмока, то бок, вас, шаноўны. Шум і гвалт пад вокнамі — ад натоўпу людзей, якіх, відаць, нашы госцейкі і сабралі.

— Навошта? — узрушыўся Цмок. — Я ж кепскага нічога не рабіў, я ў Лошыцу кіраваў выключна з турыстычнымі намерамі!

— Цяпер давядзецца ўсё гэта даводзіць шматлікім службам, прадстаўнікоў якіх я бачу сярод натоўпу, і — што таксама верагодна — удзельнічаць у доследах і эксперыментах, якія, я мяркую, будуць прапанаваны вам!

— Не хачу я доследаў і эксперыментаў! — абурыўся Цмок. — Я хачу жыць, дзе захачу, і лётаць, куды мне надумаецца! А доследы і эксперыменты няхай на жабах ставяць, іх вунь поўна ў балотах. А я павінен унікаць сумніўных стасункаў з навукай і грамадскасцю. Мне зберагчыся трэба! Мне свой досвед нашчадкам трэба перадаць! — лямантаваў разгублены Цмок.

— Ціха, ціха, не трэба нервавацца! — падала голас бабуля Ружа. — А вам, пані, трэба быць больш абачлівай з выпадковымі знаёмымі, — упікнула яна




---

* Заканчэнне. Пачатак у № 9, 10, 11 за 2014 год.

Цётухну. — Навошта было будаўнікоў, што пад вокнамі ў люльцы боўтаюцца, у хату пускаць!

— А не трэба было патэльняй грукаць у дзверы так, што пан Цмок напалохаўся, у акно скокаць сабраўся і выдаў сябе! — узрушылася Цётухна.

— Мілыя жанчынкі, не трэба сварыцца! — азваўся Тата. — Тое, што ў чалавека на галаве будаўнічая каска — бачна ўсім. Але нікому не вядома, што пад гэтай каскай, у галаве, робіцца. А менавіта яно, тое таемнае, і вызначае, кім ёсць чалавек.

— Як высветлілася, гэтыя былі шпегамі! — захліпаў Цмок. — Казалі мне і татусь, і дзед, і прадзед — няможна верыць людзям! А кабетам — і пагатоў! — дакорліва паківаў Цмок у бок Цётухны. — Трэба было мне сядзець у гэтай кватэры, чакаць прыгодаў на сваю галаву?! Трэба было каву піць і есці булачкі з цынамонам?! Трэба было ў лазенцы мыцца?! Ляцець трэба было адразу, уцякаць, хавацца! Купіўся на прыязнасць і дабрыню — прападай цяпер і нікому ж не паскардзішся!

Так гараваў бедны Цмок, а Цётухна, бабуля Ружа, Тата, Мама, Старэйшы Брат і Хлопчык засмучана глядзелі на яго.

Але раптам Хлопчык адумаўся.

— Даражэнькі Цмок! — сказаў ён. — Дык хіба цяпер позна ляцець куды падалей ад усіх цікаўных? Акно адчыніць няцяжка, а лётаць жа вы не развучыліся? Дык ратуйцеся!

— Не, трэба ж, якія разумныя гэтыя дзеці! — радасна ўскрыкнуў Цмок, і слёзы імгненна высахлі на вачах усіх яго трох галоў. — Праўда твая, Хлопчык! Пакуль не напялі за акном якую сетку, каб злавіць мяне, трэба ляцець! — і Цмок рашуча пакіраваў да акна.

Уся кампанія рынулася следам. На тварах прысутных былі адначасова і радасць, і смутак. Радасць ад таго, што выйсце знойдзена, і не давядзецца ні ў чым не вінаватаму Цмоку тлумачыцца ні перад міліцыяй, ні перад Міністэрствам надзвычайных сітуацый, ні перад Службай барацьбы з галюцынацыямі... А смуткавалі таму, што так хутка абрывалася такое цікавае знаёмства. І распытаць госця ні пра што не паспелі!

Відаць, тыя ж думкі займалі і Цмока. Перш чым узлезці на падаконне і ратавацца ўцёкамі, ён павярнуўся да сваіх новых знаёмых і зноў пацалаваў ручку Цётухне, бабулі і Маме, а хлопцам і Тату паціснуў рукі.

— Кароткім было наша знаёмства, але надзвычай прыемным! — сказаў ён. — Пасля таго, як вы мне падказалі шлях да ратавання, а не сталі здаваць натоўпу цікаўных разявак, я пераканаўся, што вам можна давяраць. Шкада толькі — пагаварыць не давялося. Зноў загразну ў сваёй пячоры на балотнай выспе, зноў толькі кікімараў ды вадзянікоў слухаць давядзецца. І ніякай чалавечай гаворкі. Абрыдла! Нават камп'ютара ў мяне няма, а то хацця б ліставаліся!

— Пан Цмок! — адгукнулася Цётухна. — Дык бярыце мой! Я сабе новы набуду! Толькі як вы на сувязь выходзіць будзеце? Хіба балотная выспа да сеціва далучана? А на бярозах ды елках інтэрнэт не расце!

— Ну што вы, хіба гэта праблема! — узрадваўся Цмок. — Цяпер розных тэхнічных прыстасаванняў хоць гаць гаці! Можна ў чыстым полі сесці і да сеціва далучыцца. Цяпер тэхнічныя дзівосы — і не цуд зусім. Куды радзей можна добрых людзей сустрэць. А вы — добрыя людзі! Я буду шчаслівы ліставацца з вамі! Цяпер жа — дзякуй за ўсё! Мне трэба спяшацца! — сказаў Цмок, убачыўшы,



што за акном зноў з'явілася люлька, з якой тырчалі галовы Алекса і Жоржа, якія выдавалі сябе за Сашу і Сярожу, бяскрыўдных будаўнікоў-верхалазаў.

— У, падлючыя! — хукнуў у іх бок агнём Цмок, скокнуў з падаконня, залапатаў крыламі і паляцеў некуды за хмары, моцна трымаючы ў лапах торбу з ноўтбукам Цётухны.

Алекса і Жоржа, чые галовы былі прыкрытыя будаўнічымі каскамі, агонь не падсмажыў, а толькі трошкі апёк. Цмок, давер якога яны збіраліся заваяваць, паляцеў у невядомым кірунку. Цётухна, бабуля Ружа, Тата, Старэйшы Брат і Хлопчык моўчкі стаялі ля акна і махалі хто рукой, хто хусцінкай у хмарнае неба. Ніводзін з іх не пажадаў размаўляць з Алексам і Жоржам.

Шпегам ЗСВЦ нічога не заставалася, як спусціцца на зямлю і паведаміць свайму начальству, што аб'ект вышуку яны ўпусцілі.

## Невялічкі роздум пра шкоду падману, а таксама пра яго выратавальную сілу

Такім чынам, Цётухна, бабуля Ружа, Мама, Тата, Старэйшы Брат і Хлопчык засталіся стаяць ля акна і махаць хто рукой, хто хустай у неба, шчыльна зацягнутае хмарамі.

Пачынаў імжэць дождж і іншым разам, магчыма, яны шкадавалі б, што няма добрага надвор'я, каб пайсці прагуляцца па вуліцы. Іншым разам, але не цяпер. Менавіта дзякуючы хмарам, якія нізка навіслі над домам, Цмоку ўдалося беспераШкодна і незаўважна знікнуць. І можна было ўсім службам, якія па чарзе завітвалі ў кватэру Цётухны, казаць, што яны толькі дарма марнуюць свой каштоўны час, шукаючы тое, што прымроілася бабулькам на лавачках. Вось з імі няхай і працуе Служба барацьбы з галюцынацыямі, пры чым тут шчырыя сямейнікі!

Зазначым, мае харошыя, што ілгаць — звычка кепская. Але ж зразумела, чаму даводзілася казаць няпраўду, калі датычыла Цмока — гэта была выратавальная няпраўда. Жартачкі, калі б уся кампанія цікаўных, што табуном хадзіла вакол дома, упэўнілася ў яго існаванні! Досыць беднаму Цмоку і таго, што падступныя Алекс і Жорж, пераапранутыя ў будаўнікоў Сашу і Сярожу, бачылі яго на свае вочы.

О, як карцела ім, маладым таленавітым шпегам, закратаваць Цмока, каб начальства выказала ім падзяку за службу! Але пакуль хлопцы даведаліся толькі, з якой моцай можа іхняе начальства крычаць у слухаўку і якімі непрыгожымі словамі ўзнагароджвае ў адказ на паведамленне, што Цмок знік! Алекс і Жорж тут жа пакляліся зноў адшукаць рэдкую жывёліну, якую зямная супольнасць ужо і рэдкай не лічыла, а мела за вымерлую. Клятву сваю шпегі замацавалі, з'еўшы па жмені зямлі з падворка хмарачоса, у якім ім пашчасціла Цмока пабачыць і не атрымалася схапіць.



(Ой, дарэмна яны гэта рабілі! Зямля каля таго хмарачоса была такая ж, як і шмат дзе ў вялікіх гарадах — затаптаная нагамі і памечаная сабакамі, якіх несумленныя гаспадары лянуюцца выгульваць на спецыяльных пляцоўках. Нездарма шпегі тыдзень жыватамі пакутавалі! Будзе ім навука!)

Дык вось давялося Цётухне, бабулі Ружы, Маме, Тату, Старэйшаму Брату і Хлопчыку казаць няпраўду прадстаўнікам усіх службаў, інакш — і гэта цалкам верагодна — жыццё іх новага сябра зрабілася б невыносным, ці, горш за тое, апынулася б пад пагрозай. Агледзеўшы кватэру і ўпэніўшыся, што нікога незвычайнага ў ёй няма, ім паверылі, а цікаўным бабулькам прапанавалі карысныя вітамінкі, ад якіх зданкі павінны знікнуць.

Бабулькі абразіліся, пачалі было ўпірацца і не браць вітаміны. Але праз камп'ютар адзін строгі міліцыянер зайшоў у базу дадзеных і даведаўся, што сама Цётухна і яе родныя — прыстойныя, ні ў чым падазроным не заўважаныя людзі. А вось што датычыць сведкаў з вуліцы, дык адна з тых бабулек, якія тэлефанавалі паведаміць пра анамальную з'яву, цягам апошняга тыдня пяць разоў выклікала хуткую дапамогу. Сама ж, як высвятлялася, не хварэла, проста сумавала ад адзіноты і хацела паразмаўляць з медыкамі. Другая бабулька, таксама самотная, за той жа час напісала пяць скаргаў у розныя ўстановы. Скаргі гэтыя, высветлілася, таксама былі беспадстаўнымі — бабульцы не хапала ўвагі. І хаця іншыя сведкі не былі заспетыя ні за пісаннем скаргаў, ні за фальшывымі стратамі прытомнасці, з-за дзвюх бабулек не паверылі і ўсім астатнім (вось, браткі мае, што значыць адзін раз падмануць — страціць давер надоўга, калі не назаўжды). Таму бабулькам настойліва параілі ўзяць вітамінкі і тут жа іх выпіць, пакуль міліцыя замест вітамінаў не дала ім штраф за ілжывыя сведчанні.

Бабулькі так напалохаліся, што хуценька праглынулі вітамінкі. А каб засведчыць сваю надзейнасць, яшчэ і дабаўкі папрасілі. І сталі ўгаворваць медыкаў, каб зрабілі ім прышчэпкі на ўсялякі выпадак, каб зданкі да іх не вярталіся.

Медыкі з задавальненнем палекавалі бабулек і паехалі далей, па выкліках.

За імі, нікога не арыштаваўшы, не ратаваўшы, не зняўшы на камеру, не сфатаграфаваўшы ў газету, але з пачуццём спраўджанага абавязку выправіліся ад хмарачоса:

міліцыя;

Міністэрства надзвычайных сітуацый;

Служба барацьбы з галюцынацыямі;

радыёрэпарцёры;

супрацоўнікі заапарку;

прадстаўнікі Таварыства аховы птушак;

карэспандэнты з газеты і тэлебачання.

Такім чынам, падворак вакол хмарачоса хутка апусцеў. Нават бабулькі не пайшлі на лавачкі, а паразбрыдаліся па сваіх кватэрах. Адны — добра падумаць пра тое, чаму яны сталі сведкамі і пра што не мелі магчымасці сведчыць. Іншыя — хуценька легчы ў ложак і заснуць, каб усё, што яны бачылі, падалося неверагодным сном. Анягож! Калі міліцыя лічыць, што ўбачанае — зданкі, значыць, так яно і ёсць!

Кампанія шчырых сваякоў, якім пашчасціла пазнаёміцца з Цмокам, моўчкі піла гарбатку ў кватэры на апошнім паверсе самага высокага хмарачоса ў горадзе. Кожны думаў пра тое, што не паспеў распытаць у Цмока ні пра што. А бабуля Ружа нават выцірала насовачкай вочы, з якіх здрадліва капалі слёзы — жартачкі, такога суразмоўцу страціць!

І ўсе разам яны цешыліся, што Цётухна скеміла падараваць Цмоку камп'ютар, і спадзяваліся на хуткую сувязь з ім!



# «Крыклівы» гульняслоў

**Упішыце, калі ласка, адгаданыя словы ў пустыя клеткі зверху ўніз.**




**Адказы:**
1. Гром
2. Малайчына
3. Увага
4. Агарод
5. Дом
6. Супер
7. Рэпа
8. Авал
9. Снег
10. Гняздо
11. Ого
12. Кукарэку
13. Ура
14. Пас
15. Сок
16. Каша
17. Крос
18. Стоп

1. Звычайна ён грыміць.
2. Пачуўшы гэтае слова ад настаўніка, вучні пачынаюць свяціцца ад шчасця.
3. Просьба, загад засяродзіцца, выслухаць.
4. Участак зямлі, на якім расце бульба, морква, капуста і іншая агародніна.
5. У ім жывуць людзі, размяшчаюцца ўстановы і арганізацыі.
6. Гэтым англійскім словам выказваюць добрую ацэнку чаму-небудзь.
7. Яе «грызе» той, хто бойка, без запінкі чытае і гаворыць.
8. Геаметрычная фігура, падобная на яйка.
9. Зімовы «пух».
10. Жыллё, зробленае птушкамі з галінак, гліны, пер'я і іншага.
11. Вокліч, які выказвае здзіўленне, захапленне.
12. Стандартная мелодыя вясковага «будзільніка».
13. «Баявое» слова, што крычаць у час атакі.
14. Перадача мяча ці шайбы каму-небудзь з ігракоў сваёй каманды ў спартыўнай гульні.
15. Гэтую вадкасць вясною спускаюць з дрэў.
16. Страва з круп, якую дзеці часам не любяць есці (асабліва, калі яна манная).
17. Яго бягуць на ўроку фізкультуры.
18. Назва сігналу для прыпынку транспарту.

***Склала Ганна КІСЛУШЧАНКА***




## Шаноўныя хлопчыкі і дзяўчынкі!

Вы, відаць, чулі пра часопіс сатыры і гумару «Вожык» — самае вясёлае выданне ў Беларусі? «Вожык» друкуе на сваіх старонках шмат гумарэсак, баек, вершаў, жартаў, карыкатур, коміксаў, шаржаў, анекдотаў, галаваломак і шмат чаго іншага, цікавага і жартоўнага. Пачытайце — і пераканайцеся ў гэтым самі.

«Вожык» з радасцю віншуе вас з Калядамі і Новым годам і жадае, каб у наступным годзе вы атрымлівалі больш дзясятак, былі здаровымі і моцнымі, у добрым настроі. Няхай Дзед Мароз спраўдзіць усе вашы мары!

Усміхайцеся часцей! А калі раптам засумуецеся, запрашайце ў госці «Вожык».

*Галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія ЗАРЭЦКАЯ*

# Крыжаванка «Новы год»

**Калі ты правільна адгадаеш прапушчаныя словы і запішаш іх па вертыкалі, то ў выдзеленых гарызантальных клетках прачытаеш назву фрукта, які абавязкова прысутнічае на навагоднім стале.**

1. Пара года, калі людзі сустракаюць Новы год.
2. Дрэва, якое ўпрыгожваюць на навагоднія святы.
3. Белыя «зорачкі», што сыплюцца зімой з неба.
4. Слова, якое кажуць ветлівыя людзі пасля таго, як атрымаюць падарунак.
5. Рознакаляровыя папяровыя кружочкі, якімі абсыпаюць адзін аднаго на маскарадах і карнавалах.
6. Яна заўсёды прыходзіць разам з Дзедам Марозам.
7. Звярок з іголкамі, што спіць усю зіму.
8. Яго шукаюць пад навагодняй ёлкай.




— Прывітанне.
Што робіш?
— Прэс качаю.
— Навошта?
— Карысна для фігуры
і для здароўя!
— Дай спасылку,
я таксама скачаю…
DOWNLOAD
51%


— Ну, сынок,
як поспехі ў школе?
— Выдатна!
Кантракт
з пятым класам
працягнуты
яшчэ на год!
Бізнес-план


ЭКЗАМЕН


Тут быў Коля
Тут будзе Вася


Тата! Да нас дзядуля
ў госці прыехаў!..


Я — Калабок!
А ты?
А я, у натуры,
крутое яйка!
BOSS
Птушкаферма
Пік! Пік! Пік!






Экзамен па англійскай мове.
— Take a ticket, please. What is your number?
— Намбэ... гэта... нам бы чацвёрачку...



З сачынення:
«Мы з Паўлікам блізняты! Толькі імя маё чамусьці Грыша...»



З сачынення: «Вось вырасту, зараблю грошай, куплю сабе вя-я-я-лікае марожанае і буду яго цэлы год лізаць!..»



— Ёсць дзве рэчы, якія я лічу самымі важнымі, — сказаў настаўнік першаму класу. — Першае — гэта чысціня. Вы ўсе выцерлі ногі аб дыванок перад дзвярамі?

— Так, канешне! — хорам закрычаў увесь клас.

— Добра. А другое — гэта праўдзівасць. Перад дзвярамі няма ніякага дыванка!





У школе раздалі табелі з адзнакамі за год. Хлопчык вяртаецца дадому і, зазірнуўшы бацьку ў вочы, кажа:

— Галоўнае, што мы ўсе здаровыя, праўда, тата?



У школе:

— Сёння ў нас будзе кантрольная.

— А калькулятарам карыстацца можна?

— Так, можна.

— А транспарцірам?

— Транспарцірам таксама можна. Запісвайце тэму кантрольнай: «Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага».



— На школьных спаборніцтвах я нядаўна прабег два кіламетры за адну хвіліну!

— Хлусіш! Гэта ж лепш за сусветны рэкорд!

— Так, але я ведаю кароткі шлях!

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 70 300 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 28 600 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 89 000 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 20 200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
При передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 04.12.2014. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,57. Тыраж 2058 экз. Заказ Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**